# Змітрок Бядуля

## ЗБОР ТВОРАЎ У ПЯЦІ ТАМАХ

Рэдакцыйная калегія:

В. В. Барысенка, Ул. В. Гніламёдаў, В. А. Каваленка, М. І. Мушынскі, І. Я. Навуменка, Ю. С. Пшыркоў

Рэдактары тома:

Ю. С. Пшыркоў, В. А. Каваленка

Падрыхтоўка тэкстаў і каментарыі
А. Д. Атаевай і В. Ю. Дэконскай

# Змітрок Бядуля

## ЗБОР ТВОРАЎ У ПЯЦІ ТАМАХ

ТОМ
ПЕРШЫ



ВЕРШЫ
ПАЭМЫ

МІНСК
«МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА»
1985

## *АД РЭДАКЦЫІ*

Збор твораў класіка беларускай літаратуры Змітрака Бядулі ў пяці тамах — найбольш поўнае выданне яго творчай спадчыны.

У аснову размяшчэння твораў пакладзены жанрава-храналагічны прынцып:

першы том — вершы і паэмы;

другі том — апавяданні;

трэці том — аповесці;

чацвёрты том — раман «Язэп Крушынскі»;

пяты том — «Сярэбраная табакерка», публіцыстычныя і крытычныя артыкулы, летапіс жыцця і творчасці Змітрака Бядулі.

За асноўны тэкст твораў узяты тэкст іх апошніх прыжыццёвых аўтарызаваных выданняў. Некаторыя творы друкуюцца па перыядычных выданнях.

Па свайму тыпу дадзены Збор твораў з'яўляецца навукова-масавым выданнем. Тэксты твораў зверany з усімі друкаванымі і вядомымі рукапіснымі крыніцамі.

У раздзеле «Каментарыі» прыводзяцца звесткі аб крыніцах асноўнага тэксту, крыніцах першадруку, аб даце напісання твора, змяшчаюцца некаторыя найбольш значныя ў ідэйна-мастацкіх адносінах варыянты і розначытанні.

Збор твораў Змітрака Бядулі падрыхтаваны ордэна Дружбы народаў Інстытутам літаратуры імя Янкі Купалы АН БССР.

# ШЧАСЦЕ — СЛУЖЫЦЬ НАРОДУ

23 красавіка 1886 г. у мястэчку Пасадзец (цяпер Лагойскі раён Мінскай вобласці) у беднай яўрэйскай сям'і нарадзіўся Самуіл Яфімавіч Плаўнік, будучы выдатны беларускі пісьменнік Змітрок Бядуля, чыё імя па праву стаіць побач з імёнамі буйнейшых майстроў беларускага мастацкага слова — Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча, Максіма Гарэцкага.

Яшчэ Максім Багдановіч у 1913 годзе пісаў у крытычным аглядзе беларускай літаратуры, што ў асобе Змітрака Бядулі выступае «пісьменнік з душой чулай і паэтычнай». Акадэмік Я. Ф. Карскі ўжо ў савецкі час адзначыў высокую мастацкую культуру ў творах Змітрака Бядулі. Яго цаніў як пісьменніка і чалавека Якуб Колас, усё жыццё любіў Янка Купала.

Сына Самуіла Плаўнікі паслалі вучыцца ў хедар — пачатковую яўрэйскую школу,— калі яму споўнілася сем гадоў. Ён быў кволым хлопчыкам, таму пайшоў у школу на год пазней, чым гэта было прынята тады ў яўрэяў.

Пасля хедара Самуіл вучыўся ў ешыботе — яўрэйскай духоўнай семінарыі. Але не скончыў яе. Правучыўшыся тры гады, ён уцёк з семінарыі і вярнуўся дамоў.

Жывучы ў Пасадцы, Змітрок Бядуля спрабуе зарабіць сабе на пражыццё: вучыць местачковых дзяцей чытаць і пісаць, выконвае розную дробную і выпадковую работу.

У гэты час хлопец шмат чытае і шмат думае, вучыцца па завочных лекцыях Макеева з Масквы. Адным словам, яго спасцігае лёс вельмі многіх людзей таго часу — лёс самавучкі. Ён чытае ўсё цікавае без выбару і плана. Пазней Змітрок Бядуля пісаў пра сябе: «Выгадаваны ў самоце, у вясковай глушы, займаючыся самаадукацыяй, бо сродкаў на вучобу ў бацькоў не было, я марыў аб ведах наогул, як галодны марыць аб хлебе» [1]. Такі ж быў лёс большасці беларускіх дарэвалюцыйных пісьменнікаў.

---

[1] З. Бядуля. Аддадзім любімай радзіме ўсе сілы нашых талентаў.— «Літаратура і мастацтва», 1935, № 57.

У 1909 годзе на вочы Змітраку Бядулю трапіла беларуская газета «Наша ніва». Сам факт, што газета выдавалася на беларускай мове, якую ён добра ведаў, да якой прывык з дзяцінства, надзвычай уразіў маладога паэта. «Наша ніва» ўсхвалявала яго таксама сваім кірункам, баявой пазіцыяй у абароне інтарэсаў беларускага народа. Ён пачаў у ёй супрацоўнічаць.

Творчасць Змітрака Бядулі шырока вядома беларускаму чытачу са школьных гадоў. Яна заняла трывалае месца ў падручніках і хрэстаматыях, вучыць чалавека жыць, фармуе ў ім гуманіста, грамадзяніна і патрыёта. Яна жывая і сёння. Вялікія тыражы яго кніг хутка разыходзяцца, бо не могуць не захапляць выказаная ў іх шчырая любоў да радзімы, глыбока ўнутраная еднасць з душой народа, страсны заклік да абнаўлення жыцця, пачуццё вялікай радасці вызвалення працоўнага народа з-пад векавога прыгнёту эксплуататарскага ладу. Празаічныя мініяцюры, апавяданні, вершы і паэмы, раман, аповесці, артыкулы нясуць у сабе выразную адзнаку вялікай душэўнай і разумовай працы, духоўных магчымасцей селяніна, адзнаку страсных пошукаў дарогі ў будучыню таго краю, дзе пісьменнік нарадзіўся і рос і якому служыў самаадданa, бескарысліва, цярпліва і мужна.

Ідуць гады. Беларуская літаратура ўзнялася на новы эстэтычны ўзровень. Яна развілася ў літаратуру, пра якую чутна ва ўсім свеце. На фоне яе сучасных дасягненняў яшчэ больш велічна бачацца фігуры пісьменнікаў, якія некалі стаялі ля яе ранніх вытокаў. Без вялікай адукацыі, жывучы на грашы, не маючы амаль ніякай матэрыяльнай узнагароды за сваю працу, трымаючыся на велізарным асабістым энтузіязме і любві, яны стварылі на беларускай мове мастацкія рэчы, якія набылі вялікае значэнне ў гісторыі нацыянальнай літаратуры і надоўга прадвызначылі яе галоўныя шляхі. Шырокую плынь сённяшняй беларускай літаратуры таксама багата жывіць і зырка падсвечвае з глыбіні празрысты прамень творчасці Змітрака Бядулі.

Змяняюцца адно за адным дзесяцігоддзі. І чым вышэй падымаецца беларуская літаратура ў сваім развіцці, тым мацней адчуваецца патрэба ў глыбейшым асэнсаванні таго месца, якое займае ў гісторыі культуры беларускага народа спадчына пісьменніка, які гэтак шчыра, з сапраўдным сардэчным болем «бедаваў» пра народны лёс.

Яго багатая літаратурная спадчына, пачынаючы ад ранніх лірычных мініяцюр у прозе і аж да апошняга твора — казкі «Сярэбраная табакерка», пазначана яркай арыгінальнасцю таленту, выразным наватарствам, тонкім і дакладным адчуваннем самых надзённых задач, якія ўзнікалі на кожным новым этапе перад грамадствам і літаратурай.

У першым друкаваным творы Змітрака Бядулі — абразку «Пяюць начлежнікі» (1910) — услаўляецца народная песня як выяўленне духоўнай сілы народа. Не, яшчэ не спяваў беларускі селянін у літаратуры такіх песень — такіх закацістых, поўнагалосных, зычных, думных, чутных не толькі зямлі, але і небу і зоркам. Гэта было паэтычнае сцвярджэнне права вясковага працаўніка на актыўнае ўнутранае жыццё, на далучэнне яго да ўсяго свету.

У апавяданні «Над сажалкай» са зборніка «Абразкі», які выйшаў у свет у 1913 г. у Пецярбургу, вясковая дзяўчына глядзіцца ў ваду, як у люстэрка, і бачыць там анёла з распушчанымі шаўковымі косамі. Не здагадваецца дзяўчына, каго яна ўбачыла ў вадзяным люстры. Гэта нібы сама Беларусь глядзіць на сябе. І хоць яна не пазнае яшчэ сябе самую, але дужа важна, што ў яе душы ўжо прачнулася імкненне да самапазнання. Хутка пазнае ўжо Беларусь, хто яна ёсць, хутка пазнае...

Селянін у «Абразках» — у нечым ужо новы селянін у параўнанні з вобразам селяніна, які меўся дасюль у беларускай літаратуры. Заняты працай на полі і дома, ён думае не толькі пра сваё беднае жыццё. Яго займаюць і «высокія матэрыі», ён адчувае душой прыгажосць роднага краю і некуды імкнецца ўсёй сваёй істотай. Яму цесна, нудна ў межах спрадвечнага сялянскага побыту, і ён ірвецца сэрцам на прасторы іншага жыцця, дзе павінны панаваць справядлівасць і актыўная дзейнасць духу. «Не адным хлебам чалавек жыў будзе»,— сказаў Змітрок Бядуля ў артыкуле «Не адным хлебам» (1913). Таму ў абразку «Сіняя кветка» ён асуджае селяніна, які, аручы сваю ніву, не заўважыў на мяжы сінюю кветку і растаптаў яе. Гэтая сіняя кветка ў абразку Бядулі падобна на «сінюю кветку» з рамана «Генрых фон Афтэрдзінген» Наваліса, прадстаўніка ранняга нямецкага рамантызму, бо і яна сімвалізуе ідэальны свет чалавека. Тым самым сцвярджаецца думка, што бяскрылы практыцызм жыцця, нават калі ён выкліканы вымушанай галечай, з'яўляецца перашкодай у жыцці людзей.

Адначасова Змітрок Бядуля ўсведамляе небяспеку абстрактнай ідэальнасці, якая не звязана з унутраным абуджэннем чалавечай асобы. Ідэальны свет прыгожага, які адарваны ад народнага жыцця, можа ператварыцца ў шкодную дэкадэнцкую выдумку і павесці за фальшывымі ідэаламі. «Не бяжы за кветкай сіненькай, што на дрыгве расце»,— папярэджваў пісьменнік усіх легкаверных у абразку «Не бяжы за кветкай», накіроўваючы імкненні маладых сіл беларускага народа да працы, творчасці і змагання.

Заслуга аўтара «Абразкоў» перад сваім часам і перад буду-

чыняй беларускай літаратуры перш за ўсё ў тым, што ён смела ўводзіў рамантычную вобразнасць, значна паглыбіў датуль даволі слабую і недастаткова выразную лірычную плынь, надзяляў унутранае жыццё селяніна ўсясветнымі страсцямі. Лірычны герой «Абразкоў» спеліць у сваёй душы буру і пратэст, ён поўны парывання к святлу і свабодзе.

Паступова гэтае парыванне ператвараецца ў рэальнае імкненне служыць людзям канкрэтнай справай, быць прыкладам у штодзённым жыцці. У апавяданні «Буслы» (1914) выключнасць герояў, іх непадобнасць на іншых людзей ужо не выключае іх з грамады, а, наадварот, збліжае з яе штодзённымі інтарэсамі.

У дакастрычніцкіх апавяданнях Змітрака Бядулі, высокамастацкіх творах, арыгінальных і дасканалых па форме, глыбокіх па сацыяльнаму зместу, беларуская дарэвалюцыйная рэчаіснасць паказана ў яе тыповых праявах. Аднак спагада і дабрата ў некаторых апавяданнях выглядае на першы погляд нейкім дзівацтвам у характары чалавека. Ну, хто гэта з небагатых вясковых людзей, злавіўшы на сваім полі злодзея, яшчэ паддасць на плечы мяшок з накрадзеным жытам і адпусціць мірна, як гэта зрабіў Кастусь з апавядання «Злодзей» (1912)? І ўсё ж паводзіны Кастуся псіхалагічна апраўданыя. Верыцца ў праўду апісанага здарэння. Верыцца — бо сам пісьменнік верыў у багацце народнай душы, верыў у тое, што самыя дзікія формы беднасці не забіваюць канчаткова ў чалавеку чалавека, верыў, што беларускі селянін здольны да духоўнага адраджэння і гістарычнай творчасці.

І яму, гэтаму народу,— праводзіў думку Змітрок Бядуля,— каб вызваліцца з-пад прыгнёту, няма ніадкуль чэрпаць сілы, як толькі з уласнага асяроддзя, з уласнага быцця, з уласных магчымасцей. Народ — клопат пісьменніка, але ён жа і яго надзея. Праўда, Змітрок Бядуля не ідэалізуе народ. Селянін Сымон, неўсвядомлена пратэстуючы супраць невыносных умоў жыцця, п'е гарэлку і злосць спаганяе на жонцы, б'е яе, заганяе ў магілу («Сымон», 1913). Але той жа Сымон і спахопліваецца, каецца, плача душой над тым, што зрабілася па яго віне. Для такога чалавека, як Сымон, гэта ўжо нямала — ён на парозе ўнутранага прасвятлення.

Сувязі з людзьмі, з народам у чалавека могуць быць мацнейшыя і больш надзейныя, чым нават сувязі крэўныя. Стары Габрусь з апавядання «Умарыўся» (1913), выгнаны з дому ўласнымі дзецьмі, ідзе жабраваць, ідзе «ў людзі», спадзеючыся знайсці сярод іх спагаду, падтрымку і ратунак.

У некаторых вершах Змітрака Бядулі, напісаных у дакастрычніцкі час, увасоблена рэвалюцыйная ідэя барацьбы з існуючым

грамадскім ладам. У вершы «Прыйдзіце» (1914) ёсць адкрыты заклік рашуча перайначыць людское жыццё:

Прыйдзіце вы, добрыя... Вечна кахаючы,
Шчасце вы свету даруйце!
І гора-нуду і праклянце ахвяраю
Вашай руйнуйце...
...Прыйдзіце вы, моцныя, бурамі званыя...
Ворагам гібель грыміце!
І з нашай дарогі зыдуць злыя шкоднікі...
Хутка прыйдзіце!

Мара Змітрака Бядулі пра лепшую будычыню народа — пераўтваральная, дзейсная, сацыяльна змястоўная. Многія яго творы глыбокія на падтэкст, сімвалы і алегорыі. Народ для пісьменніка — магутны Светагор, волат, які прачынаецца ад сну і хутка скіне з сябе ланцугі няволі.

Нават у некаторых яго апавяданнях ёсць рамантычна завостраныя бытавыя сітуацыі, якія маюць алегарычны сэнс і з'яўляюцца абагульненнем вялікіх ісцін агульнанароднага значэння. Без уліку гэтай акалічнасці не заўсёды можна правільна зразумець змест многіх твораў Змітрака Бядулі.

Бадай, самыя зацятыя і напружаныя спрэчкі сярод літаратуразнаўцаў выклікала апавяданне «Ашчаслівіла» (1913). Апавяданне гэтае пра тое, як бедная жанчына, жабрачка з вёскі Жаброўшчына, хочучы, каб дачка была ўдачлівай жабрачкай, выколвае ёй вочы, бо сляпому ці так якому калеку не адмовяць у кавалку хлеба. За апавяданне «Ашчаслівіла» пісьменнік вінаваціўся ў натуралізме, у неразуменні псіхалогіі чалавека з народа, у празмерным перабольшанні хваравітых рыс чалавечай натуры. Між тым, змест апавядання «Ашчаслівіла» хутчэй алегарычны, чым побытавы. Побыт у гэтым творы асаблівы. Кожная побытавая рэалія, тым больш сітуацыя — алегарычны знак, сімвал. У дзеяннях гераіні таксама ёсць алегарычны сэнс. І ён, гэты сэнс, прачытваецца не так і цяжка, калі суаднесці змест апавядання з агульнымі духоўнымі і ідэйнымі пошукамі ўсёй тагачаснай беларускай літаратуры, з творамі Я. Коласа, М. Гарэцкага і іншых пісьменнікаў.

Адной з самых важных творчых задач перадавой, рэвалюцыйна-дэмакратычнай літаратуры пачатку XX ст. было асуджэнне бездухоўнасці сялянскага жыцця, сацыяльнай індыферэнтнасці чалавека, яго пагоні за практычнымі мэтамі жыцця, урэшце, асуджэнне звычайнай непатрабавальнасці, з якой лёгка звыкнуцца. Беларускія пісьменнікі, паказваючы галечу селяніна, вінавацячы за яе існуючы эксплуататарскі лад, ваюючы за дабрабыт для ўся-

го народа, разам з тым папярэджвалі, каб дабрабыт не разумеўся вузка — толькі як магчымасць наесціся, каб барацьба за кавалак хлеба ўзвышала чалавека, паглыбляла яго ўнутраны свет, шырыла ў душы чалавечае. Хіба няма гэтай ідэі ў паэме Я. Коласа «Новая зямля», калі паэт звяртаецца да чытачоў з напамінкам аб сэнсе жыцця якраз у той момант, калі яго героі збіраюцца набыць зямлю і пабагацець?

Я не зайздрошчу тым з вас, брацці,
Каго спрадвечныя закляцці
Не парушалі, не тамілі
І цяжкім каменем не былі
І для каго ўвесь гэты свет
Ёсць аднае цялежкі след,
Пытанні толькі дабрабыту,
Дзе ўсё прыводзіцца к карыту.
І гэта ёсць адна дарога,
Апроч яе няма нічога.

У апавяданні Змітрака Бядулі «Ашчаслівіла» — тая ж ідэя асуджэння практыцызму, матэрыяльнай выгоды, хоць маленькай, што засланяюць чалавеку вялікі свет. І тое ж папярэджанне — не прыстасоўвацца да ўмоў жыцця, а перамагаць іх. Маці з вёскі Жаброўшчына — ці не абагулены гэта вобраз усёй Беларусі, якая непазбежна пазбавіць сваіх дзяцей відушчасці, гэта значыць — пазбавіць сябе будучыні, калі будзе гнацца за дробненькай выгадай, за мізэрным выйгрышам і гэтым самым змірыцца з жабрацкай доляй?

Як відаць, ідэя апавядання «Ашчаслівіла» — не пераходная, не вузкая, тым больш не прыземленая. Яна выказана на вякі і не страціла свайго грамадзянскага напаўнення і сёння. Бядулеўскае «сляпому не ўбачыць дарогі» гучыць гэтак жа важка, пафасна і надзённа, як і горкаўскае «рожденный ползать — летать не может».

Змітрок Бядуля, як і Я. Купала, Я. Колас, М. Багдановіч, М. Гарэцкі, быў не толькі пісьменнікам, паэтам, мастаком слова. У той час кожны, хто ў нейкай ступені прылучаўся сваёй працай да стварэння літаратуры на беларускай мове, непазбежна станавіўся яшчэ культурным, грамадскім дзеячам, барацьбітом за справу, якой ён павінен быў прысвяціць усё сваё жыццё без астатку.

Паказальна, што ў першых допісах у газету «Наша ніва» з Пасадца і Крамянца, якія друкаваліся ў 1911 годзе, Змітрок Бядуля адразу пачынае выступаць як змагар супраць вясковай цемры і забабонаў, выразна ўсведамляючы сваю асветніцкую місію, якая была ў той час місіяй актыўнай грамадскай дзейнасці.

Адтуль, з вясковай, балотнай глушы ён падбадзёрвае ўсіх, хто стаў на шлях змагання за вызваленне народа, пішучы ў карэспандэнцыі: «А мы, углядаючыся на гэта змаганне з далёкіх, глухіх куткоў, кажам: «Не вечна цёмныя тулягі будуць скрываць перад намі сонца! Не вечна крыўдзе панаваць над праўдай! Працуйце, браты, з верай, што мы вам спагадаем і, чым сіл, паможам дзеля лепшай долі ўсіх нас!» Гэтыя словы пачынаючага яшчэ пісьменніка сведчылі, што ад самага пачатку яго літаратурнай дзейнасці яму хапала шырыні разумення задач, якія стаялі перад ім асабіста і перад усёй беларускай літаратурай. І, акрамя ўсяго іншага, хапала сілы пераканання і пачуцця.

Паступова думкі маладога беларускага пісьменніка пра развіццё роднага краю, пра яго будучыню яшчэ больш сталеюць, набываюць выразныя адзнакі канцэптуальнасці, трывалага светапогляду. У шматлікіх публіцыстычных артыкулах ён заклікае інтэлігенцыю да збліжэння з народам, да канкрэтнай працы на яго карысць. У артыкуле «Падмогі» (1914) ён пісаў, маючы на ўвазе селяніна: «Трэба даць справу, рух і новае жыццё яго мазгам і душы... Трэба прыйсці яму на падмогу... Трэба, каб народная інтэлігенцыя ўзялася цяпер за справу... Цяпер рука аб руку з народам!»

Не, пісьменнік не ўпадаў у пустую рыторыку ці ў ружовы аптымізм. Патрэбу ў працы для народа ён адчуваў як гістарычную неабходнасць, як патрэбу самога жыцця. «Кожная новая ідэя, кожная новая думка,— нагадвае ён у артыкуле «К жыццю» (1914),— родзіцца заўсёды самім жыццём». Змітрок Бядуля ўсведамляе цяжкасці ўсталявання новых жыццёвых прынцыпаў, бо ад слова да справы — адлегласць вялікая. Але ён хацеў бы нецярпліва прыспешыць прагрэс, бо вельмі ж марудна пранікае ў жыццё ўсё новае. Таму ён рашуча асуджае эвалюцыйную паступовасць: «І зноў тая самая чарапаш'я хада! — абураецца ён з нецярпеннем чалавека, які прагне справы і хуткіх перамен, а таксама спрыяльнай магчымасці перайсці «ад Слова да Дзела». Ён верыць у рэвалюцыйны прагрэс, у народ, у яго здаровыя маральныя сілы.

Дзівіць і захапляе майстэрства Змітрака Бядулі-публіцыста. Яго публіцыстычныя артыкулы дарэвалюцыйнай пары — цікавая, але малавядомая старонка ў гісторыі беларускай літаратуры. Змітрок Бядуля безумоўна належыў да лепшых публіцыстаў газеты «Наша ніва». Ён умеў пісаць вобразна, паэтычна, глыбока і ў той жа час даступна. Часам здаецца, што ён, Змітрок, побач з намі, у сённяшнім нашым дні, гатовы заўсёды параіць, падказаць, вымавіць запамінальнае, крылатае слоўца. Вось як пачынаецца артыкул «Вучыцца» (1914) з цыкла артыкулаў «З праўды жыцця»:

«Звычайна, людзям, каторыя мала думаюць, здаецца, што яны ўсё ведаюць. Толькі свядомыя людзі знаюць, што ў веданні жыцця няма ніякіх граніц... Жыццё — гэта такая вялікая кніга, каторую людзі чытаюць-чытаюць і ніяк не могуць дабрацца да апошняй страніцы. ...Жыццё — гэта такое глыбокае мора, каторае не мае дна». Якая дасканалая зладжанасць публіцыстычнай фразы! Як паэтычна гучаць гэтыя быццам бы празаічныя радкі!

Змітрок Бядуля некалькі гадоў жыў у Вільні, якую палюбіў і якой прысвяціў нямала вершаў. Гэтыя вершы знаходзяцца ля вытокаў беларускай урбаністычнай паэзіі. У час, калі лірычны герой многіх беларускіх паэтаў таго часу недалюбліваў горада, не давяраў яму і нават баяўся, Змітрок Бядуля разам з М. Багдановічам захапляўся творчай энергіяй чалавека, увасобленай у абліччы горада. Верш «Касцёл св. Ганны» — гэта гімн генію чалавека — будаўніка і мастака.

Спіць Вільня. Адзін паглядаю
На цудны касцёл святой Ганны —
Красуецца контур прыгожы
У гладзі блакітнага неба.

Узор, барэльеф і арнамент —
Малюнак да казкі-царэўны.
Гатычныя конусы, башні
У высі шыбаюць да зорак.

Але не быў бы Змітрок Бядуля беларускім паэтам па настроенасці, па светапогляду, паэтам, блізкім да сялянскага жыцця, калі б захапленне прыгажосцю горада не вяртала яго думак да вёскі, дзе пакутуе ў паняверцы бедны селянін:

А мяне кліча месяц за горад.
Між лясоў там ратаі жывуць.
На ўзгорку ціхуткі магільнік
І вежа-каплічка стаіць.
...А побач бярозка крывая...
Пад ёю блішчаць мухаморы...
Расіцай акроплены мох,
І душой я бліжэй да каплічкі
Убогіх, гаротных людзей...

*(«У чарах»)*

Жахі імперыялістычнай вайны, закрыццё «Нашай нівы» ў сувязі з набліжэннем фронту, вымушаны ад'езд з Вільні — усё гэта адмоўна паўплывала на светаадчуванне пісьменніка. У яго творах,

асабліва ў вершах, узмацняюцца матывы адчаю, усё часцей з'яўляюцца вобразы апакаліпсічнага руйнавання.

Магчыма, па гэтай прычыне Лютаўскую рэвалюцыю 1917 года Змітрок Бядуля сустрэў як збавенне і надзею, славіў яе заўзята, спадзеючыся, што менавіта ў сувязі з ёй хутка зменіцца лёс яго роднага краю. Неспрактыкаваны ў палітычнай барацьбе, недастаткова глыбока разбіраючыся ў ідэалагічных страсцях таго складанага часу, ён аддаў услаўленню Лютаўскай рэвалюцыі шмат душэўнага парывання і спачатку няправільна ўспрыняў падзеі Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі. Прынамсі, нейкі час ён не верыў у яе народную сілу і моц, не зразумеў яе мэт і задач. Спатрэбіліся павучальныя ўрокі грамадзянскай вайны, цяжкія гады нямецкай і белапольскай акупацыі, каб Змітрок Бядуля прыняў устанаўленне Савецкай улады на Беларусі як сваю, асабістую кроўную справу.

«Паноў у нас болей не будзе!» — радуецца ён у артыкуле, змешчаным у 1920 годзе ў газеце «Работніцка-сялянская Беларусь» адразу пасля выгнання акупантаў з Мінска. Трэба сказаць, што гэта быў шчыры ўсклік душы пісьменніка, бо і ў той час, калі ён прытрымліваўся няправільных палітычных поглядаў, нянавісць яго да паноў не затухла. У апавяданнях «Смерць пані» (1919) і «Бондар» (1920), напісаных і надрукаваных пры акупацыйным рэжыме, ён рэзка асуджае панства як антынародную сілу, якая сыходзіць і павінна сысці з гістарычнай арэны. Гэтае сталае, непераходнае пачуццё непрымірымасці да эксплуататараў з'явілася адной з важнейшых перадумоў успрыняцця пісьменнікам пралетарскай ідэалогіі.

Пасля выгнання акупантаў Змітрок Бядуля адразу ўключаецца ў культурнае будаўніцтва, цалкам аддаецца клопатам па наладжванню нармальных умоў існавання культурна-асветных устаноў. Яго цікавіць работа дзіцячых дамоў і школ, стварэнне нацыянальнага тэатра і балета, гурткоў мастацкай самадзейнасці, падпіска на газеты і часопісы. Ён піша карэспандэнцыі з паездак у дзіцячыя дамы і піянерскія лагеры, рэцэнзуе выстаўкі карцін, рэдагуе дзіцячы часопіс «Зоркі», а пасля краязнаўчы часопіс «Наш край». І, вядома, друкуе вершы, апавяданні, артыкулы.

Праўда, у першым зборніку вершаў савецкага часу «Пад родным небам», выдадзеным у 1922 годзе, яшчэ адчуваюцца старыя сумненні і трывогі паэта адносна правільных шляхоў народа. Змітрок Бядуля трывожыцца, каб у новым паходзе не страціліся духоўныя набыткі мінулых стагоддзяў. Ён нагадвае пра гэта маладым паэтам:

Ідзеце, пяўцы, грамадою
З жалейкаю, з лірай, з дудою!
Вазьміце і гуслі старыя,
Баяна сыны маладыя!
З далечы забытага краю
Вас Белая Русь запрашае!

*(«У белі», 1921)*

Вопыт сацыялістычнага будаўніцтва ў краіне, правільная нацыянальная палітыка партыі ўсё мацней уздзейнічалі на светаадчуванне паэта, у выніку чаго нікнулі яго страхі, знікалі трывогі, узрастала пачуццё радасці і аптымізму. Ужо ў тым жа зборніку «Пад родным небам» ёсць і такія радкі:

А даль аж слепіць зрок,— даль яснатой багата,
А неба над зямлёй празрыста, як крышталь.

*(«Бездарожжа», 1922)*

У вершах, змешчаных у зборніку «Пад родным небам», З. Бядуля выступае як паэт высокага мастацкага майстэрства. Глыбокае адчуванне духу роднай зямлі, тонкая настраёвасць, пранікнёнасць пачуцця і шчырая лірычная ўзрушанасць вызначыць змест шматлікіх пейзажных малюнкаў.

Сіні цень, сіні цень ледзь паўзе
Пад цымбалы галін, пад трымценне.
А бяроза на белай назе,
Нібы ўскочыла раптам з пасцелі.

Плыве спеў, плыве спеў і далячынь
Праз шацёры пякучых прысадаў.
Ён палоніць святлом уначы,
Ён палоніць нязнаным загадам.

*(«Зіхаціць, зіхаціць срэбны тур»)*

Прырода ў вершах паэта поўная рамантычнай незвычайнасці. Яна жыве па сваіх спрадвечных патаемных законах. Але яе страсці, усплёскі зямной, нутраной сілы, магутнай і чыста страшнай, злой, адпавядаюць душэўнаму адчуванню лірычнага героя, выспяванню яго ўнутранай гатоўнасці выйсці на змаганне з усімі цёмнымі страшыдламі свету. Змена пораў года часам бачыцца паэтам у міфалагічных славянскіх вобразах. Прыход вясны — гэта калектыўнае кліканне прыгажуні з мэтай абудзіць яе ад сну («Зімовая казка»).

Пейзаж у паэзіі З. Бядулі псіхалагізаваны, але не ў такой ступені, каб малюнкі прыроды пераходзілі ў абстракцыю. З поля яго паэтычнага зроку не знікае вёска, побыт селяніна:

Пасвятлела на паляне.
А на траўках — роскі.
Пахне раніца снядапнем
І дымком над вёскай.

(*«Грала, грэлася заранка»*)

Неўзабаве Змітрок Бядуля пачынае пафасна, са шчодрай аддачай душы ўслаўляць новую рэчаіснасць, канкрэтныя дасягпенні ў працоўнай дзейнасці народа. Калі змест верша «Беларусь» (1921) яшчэ моцна павернуты да ідэалізаванага гістарычнага мінулага народа, то паэма «Беларусь» (1923) — гэта ўжо гімн радасці з нагоды новага аблічча роднага краю:

Наш край цяпер чытае рупна кнігу.
Варожаць слух казанні лектароў;
Гарбар, шавец і гарапашнік з нівы,
Жанчыны — усе бяруцца за пяро.

...А Беларусь магутнай будаўніцай
Куе свой лёс, будуе новы быт.
Усюль кіпяць бурлівыя крыніцы,
Ніводны кут у краі не забыт.

Значнай вехай у ідэйна-творчым развіцці Змітрака Бядулі як савецкага паэта і пісьменніка стала паэма «Чырвона-чорная жалоба» (1924), якой ён адгукнуўся на смерць У. І. Леніна. У паэме з мастацкай глыбінёй і пераканаўчасцю створаны абагулены вобраз правадыра ўсіх працоўных свету, з горкім, прачула шчымлівым жалем выказана душэўная жалоба ў сувязі з весткай пра смерць У. І. Леніна. У паэме выявілася ўнутраная сталасць паэтычнага пачуцця аўтара:

Ён сам — з паэм паэма.
Не ў пергамінах,
Не ў фаліянтах,
Не ў маршах жалобных,
Не ў статуях,
Не ў фарбах,—
У жыцці.

Услед за апавяданнямі на тэму грамадзянскай вайны («Панскі дух», 1922, «На балоце», 1923) адзін за адным з'яўляюцца зборнік вершаў «Буралом» (1925), зборнікі апавяданняў пра вялікія рэвалюцыйныя змены ў жыцці вёскі «Апавяданні» (1926), «Дэлегатка» (1928).

Асноўны пафас творчасці Змітрака Бядулі 20-х гадоў гучыць па-маладому бадзёра, узнёсла, рамантычна. Магчыма, па той прычыне, што ў яго дарэвалюцыйнай творчасці багатыя рамантычныя традыцыі, у 20-я гады, калі зноў узнялася хваля рамантычнай літаратуры, ён адчуваў сябе вельмі ўпэўнена ў новым літаратурным плаванні. Відаць, на гэтай аснове адбылося яго зближэнне з маладымі паэтамі, якія прыйшлі ў літаратуру пасля рэвалюцыі і групаваліся вакол часопіса «Маладняк». Змітрок Бядуля з ліку нямногіх старэйшых пісьменнікаў быў нават прыняты ў члены літаратурнага аб'яднання «Маладняк», бо сапраўды яго паэзія па вобразна-стылявых сродках была падобна да творчасці «маладнякоўцаў».

Разам з тым творчасць Змітрака Бядулі савецкага часу, асабліва проза, развівалася згодна з асноўным накірункам усёй тагачаснай літаратуры, імкнулася да сацыяльнай глыбіні і псіхалагічнай дакладнасці. У шмат якіх апавяданнях 20-х і 30-х гадоў наглядаецца здольнасць пісьменніка адчуць дух новага часу, улавіць надзённыя праблемы грамадскага жыцця.

Адной з галоўных задач тагачаснай савецкай літаратуры з'яўляўся паказ складаных унутрана-псіхалагічных і светапоглядных перамен, якія рабілі чалавека новым чалавекам. Пра гэта аповесці Я. Коласа «Адшчапенец» і «Дрыгва», аповесці К. Чорнага «Зямля» і «Вясна». Бясспрэчныя дасягненні ў распрацоўцы гэтай надзённай грамадскай праблематыкі маюцца і ў Змітрака Бядулі.

Аўгіння з апавядання «Дэлегатка», звычайная вясковая жанчына, не хоча больш цярпець прыніжэння і здзеку над сабой, якія былі дзікім побытавым законам вёскі. Новае, прынесенае Савецкай уладай, усё мацней і мацней захоплівае яе жывую натуру. Прычым пісьменнік не спрашчае шляху сваёй гераіні да новых жыццёвых рубяжоў. «Аўгіння пацела над літарамі. Аркуш паперы здаваўся ёй велізарным жытнім полем, якога яна не здолее зжаць. Але гэта было толькі першымі днямі. Пасля яна звыклася і навучылася так-сяк пісаць і чытаць».

Аповесць «Салавей» (1927) Змітрака Бядулі — надзвычай цікавая з'ява ў беларускай літаратуры 20-х гадоў. Сёння здаецца, што гэты твор у нейкай ступені загадкавы як у творчай біяграфіі пісьменніка, так і ў літаратурным жыцці таго часу. Пра аповесць адразу загаварыла прыхільна крытыка. Маецца даволі багатая крытычная літаратура, прысвечаная разгляду аповесці. Гэты твор, як адзначала крытыка, хоць і вельмі аддалены тэматычна ад сучаснасці і напісаны ў гады, калі гістарычная тэма не вельмі заахвочвалася, аднак сваім унутраным, ідэйным сэнсам зместу надзвычай моцна звязаны з тымі праблемамі, якія хвалявалі мастацтва ў канцы 20-х гадоў. Аповесць нават стылёва нагадвае аб-

лічча прозы маладых пісьменнікаў той пары. А. Адамовіч правільна заўважыў, што сваю радаслоўную герой аповесці «Салавей» вядзе «не толькі ад фальклору, але і ад таго «юнага змаганца», якога рамантызавала паэзія і проза «Маладняка»[1].

Тэма аповесці «Салавей» — прыгонны панскі тэатр у далёкім мінулым і жыццё яго паднявольных артыстаў. Гэтая аповесць пра тое, як не паддаецца жорсткаму прымусу сапраўднае, звязанае з глыбокімі народнымі каранямі мастацтва. Новыя прынцыпы сацыялістычнай літаратуры, якія складваліся ў 20-я гады, асабліва чула і мэтаімкнёна былі накіраваны да глыбокіх народных крыніц мастацтва. Вернасць жыццёвым ідэалам працоўнага чалавека — асноўны пафас усёй маладой савецкай літаратуры. З. Бядуля ў аповесці «Салавей» пранікліва і тонка, з рамантычнай прыўзнятасцю раскрыў канфлікт свядомых парыванняў таленавітых прадстаўнікоў працоўных мас выявіць праз мастацтва вольную думу народа і ганебнага, прагнага жадання адной асобы, якая валодае бязмежнай уладай і багаццем, скарыць, прыгнесці непасрэдны голас мастакоўскай душы, падначаліць яго карыслівым, пацяшальным ці прэстыжным патрэбам. Пісьменнік страсна асуджае намеры пана Вашамірскага кіраваць мастацтвам з разлікам на ўласную выгаду, паказвае амаральнасць, бесчалавечнасць і марнасць падобных намераў. Само мастацтва жорстка помсціць за здзек над сабой. У канцы твора Сымон, былы артыст прыгоннага тэатра, карае пана Вашамірскага за ўсе яго злачынныя справы. Эпілог аповесці сімвалічны і глыбока змястоўны.

Разам з цэлым шэрагам аповесцей пра сучаснасць («Год за годам» — 1927, «Тры пальцы» — 1927, «Таварыш Мінкін» — 1930) і апавяданняў («Рунь» — 1929, «Дзве ночы» — 1930, «У тыя дні» — 1930) Змітрок Бядуля піша раман «Язэп Крушынскі», першая кніга якога выйшла ў 1929 г.

Аб ідэйнай значнасці зместу рамана, аб чуйнасці пісьменніка да важнейшых праблем часу сведчыць той факт, што ён блізкі ў шмат якіх момантах да рамана «Узнятая цаліна» М. Шолахава і рамана «Адзіноцтва» М. Вірты, хоць і пачаў друкавацца раней, чым гэтыя вядомыя творы.

У першай кнізе рамана «Язэп Крушынскі» на высокім ідэйна-мастацкім узроўні раскрыты многія тыповыя сацыяльна-псіхалагічныя працэсы, якія былі характэрны для жыцця беларускай вёскі пасля рэвалюцыі і напярэдадні калектывізацыі. Гэта твор пра рост свядомасці сялянскай масы, абуджанай сацыялістычнай рэвалюцыяй, пра нялёгкую перамогу народных, глыбока чалавеч-

---

[1] Адамовіч А. М. Культура творчасці: Літаратурна-крытычныя артыкулы. Мн., 1959, с. 132.

ных інтарэсаў у вясковым жыцці насуперак уласніцтву, індывідуалізму, прыкрытай і непрыкрытай прагнасці, насуперак прыстасавальніцтву і перараджэнству. Гэта твор пра небяспеку сацыяльнай мімікрыі варожых рэвалюцыі сіл, якія прыстасаваліся да новага дзеля эгаістычнай выгады, падаўляючы адначасова ўсё сумленнае, бескарыслівае, шчырае ў служэнні народу. Раман не страціў сваёй цікавасці і сёння.

Першая кніга рамана «Язэп Крушынскі» вольная ад сацыялагічных спрашчэнняў, якія былі асабліва распаўсюджаны ў літаратуры 30-х гадоў і ад якіх пісьменнік не здолеў уберагчыся ў другой кнізе рамана. У першай жа кнізе — характары людзей жывыя, рэалістычна праўдзівыя, малюнкі сацыяльнага жыцця пераканальныя.

Перад самай вайной Змітрок Бядуля закончыў алегарычную казку «Сярэбраная табакерка» (1940). Гэта апошні твор пісьменніка. Па жанравых асаблівасцях «Сярэбраная табакерка» — літаратурная казка. Яе традыцыі бяруць пачатак у беларускай літаратуры XIX ст., калі жанр літаратурнай казкі быў «філасофскім» жанрам, служыў сродкам вобразнага асэнсавання важных грамадскіх працэсаў і буйных падзей у гістарычным лёсе народа.

«Сярэбраная табакерка» мае складаны філасофскі змест. Пісьменнік імкнецца ў алегарычнай форме раскрыць гістарычны сэнс барацьбы працоўных мас за шчасце і волю, паказвае складанасць шляхоў змагання з адвечнымі сіламі цемры і зла. Падзеі і ўчынкі герояў, як і ва ўсякай казцы, пададзены па-за часам, аднак яны валодаюць такой канкрэтнай сюжэтна-мастацкай выразнасцю, якая дазваляе распазнаць і час дзеяння, і грамадскія сілы, што супрацьстаяць адны другім у зацятай барацьбе дабра і зла. Ідэйны пафас гэтага твора — у сцвярджэнні народных імкненняў да справядлівасці і шчасця.

У 1939 г. Змітрок Бядуля за заслугі ў развіцці савецкай літаратуры быў узнагароджаны ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга. Гэтая надзея была адзначана грамадскасцю рэспублікі як свята беларускай літаратуры.

Памёр Змітрок Бядуля на першым годзе вайны і пахаваны ў г. Уральску.

Роднай зямлі ён аддаў усе свае сілы і ўсю цеплыню свайго сэрца, і над ёю заўсёды будзе лунаць яго неспакойны творчы дух.

Ён заслужыў павагу, пашану і любоў беларускага народа.

ВІКТАР КАВАЛЕНКА

# I

## СІЛУЭТЫ

* * *

На горне душы першы верш я каваў,
Мне молатам гора служыла;
Зык песні паўночнай у сэрцы хаваў,
І сэрца свой боль гаварыла...

На струнах душы першы верш я зайграў,
Імчаліся рэхі далёка.
Ратай пры іх шнур свой глыбей заараў,
І слёзы туманілі вока...

### НА БАЛОЦЕ

Вея слепіць абшар на шырокім балоце.
Нібы парусы ў моры, бялеюць стагі.
Пушча стогне, звініць у трывожнай самоце.
І едуць на рум вазакі.

Гурба скача, як конь, лезе злосным
мядзведзем,
Гурба валіцца, ляжа, як п'яны ўначы.
Уздагон вазакам нехта весела едзе,—
То купчык на санках імчыць.

Адзінока стаю і чакаю пад хвояй:
Можа, снежная вея раптоўна засне.
Хвоя лапай дрыжыць над маёй галавою,
Наводзіць тугу на мяне.

* * *

Гарацъ сняжынкі кволыя
І гаснуць на зямлі.
Хвіліны невясёлыя
У сэрцы заплылі.

Вільготнаю лучынаю
Дымяць мае гады.
А дзверы ўсе зачынены,
Куды ісці, куды?

Пад гурбамі-заховамі
Жыву і не жыву.
Хачу чагосьці новага —
Парву ланцуг, парву.

* * *

Хоць ты разарвіся —
Не ідзе рукой.
Прырасла нядоля
Хвойнаю смалой.

Дзень за днём праходзіць
Зграяй чорных дум.
Злы смяецца швагер
І багаты кум.

Дзе набыў,— не знаю,—
Свой паганы лёс.
Заяц пераскочыў
Сцежку праз авёс?

Можа, ад гультайства
Маю многа мук?
Праца не выходзіць
З гарапашных рук.

Дзень за днём мінае,
Маю шмат турбот.
На абшарах панскіх
Лью салёны пот.

Аб усім аб гэтым
Думаў разоў сто.
Хто тут вінаваты?
Вінаваты хто?

Вып'ю ў манапольцы
Шкалік і другі —
І прапала гора,
І няма тугі.

Засвярбелі рукі,
Зарыпела косць.
Самі лезуць словы,
Лезе з сэрца злосць.

Уцякай ты, жонка,
Дзеці,— хто куды,
Бо вярнуся п'яны,
Будзе шмат бяды.

Кругам пойдзе хата,
Пойдзе хадыром.
Зазвіню я шыбай,
Застучу гаршком.

* * *

Ці хто забывае цябе, небарака? —
Хто хоча — па карку задасць кулаком.
А ёсць і такія на свеце спявакі,
Што вучаць, як гнуцца пад цяжкім ярмом.

Мацнейшы стаптаў у шаленстве у дзікім
Дачок тваіх гонар у гразь па зямлі.
Ад вечнай бяды, ад нядолі вялікай
Аж вочы туманам, крывёй заплылі.

А праца твая — на раскошы зладзеям,
А сам ты на свеце — няпрошаны госць,
Табе, як сабаку, даюцца памыі,
З агідай кідаюць галоднаму косць.

Вось бедны рабочы — скалечан машынай,
Пры ёй здабываў ён крывавы пятак.
Яму дабрадзеі капейкі адзінай
Цяпер не даюць, хоць канчайся, бядак.

Хтось часам пра лёс твой застогне паціху,
Ён хутка забудзе, бо часу няма.
Туды і сюды ён — не ведае ліха.
Табе ж на спатканне прыходзіць турма.

А потым вяроўку намыляць на шыі,
Старанна зацягнуць вужаку-пятлю.
Пасля у мяшок у дзіравы зашыюць.
Вось гэта ты маеш за працу сваю.

## РАДАСЦЬ

Ад заранкі ружавеюць вокны.
На дварэ гудзе-злуе мяцеліца.
Шум у хаце — Лёлік ажна гойкнуў:
«Карова наша целіцца!»

У хляве наш бацька — акушэрам.
Дзеці ўсе задалі матцы загадку:
— Ці «яна» — цялушка — будзе шэрай,
Ці ў журавінках-ягадках?

У хляве і лямпка нумар пяты,
Адзінокая са шклом закураным.
Па падлозе дзеці вострацць пяткі
І спацыруюць з курамі.

Маці дровы шчэпіць папацёмку,
Нібы злосна кажа:— Чэрці, годзе вам!
Калі не, сягоння дам лупцоўку,
А заўтра дам малодзіва...

Бацька йдзе, і нешта ў кажуронку
Гладзіць ён рукою закарэлаю.
— Вось вам, дзеці, новага дзіцёнка,
Цялушку, ды яшчэ белую.

Барада у рабіна такая,—
Бацька з радасцю дадаў, жартуючы.
Нецярпліва маці папраўляе:
— Казаў бы: «Не раўнуючы!»

Мы «гу-га» на хату ўсю падняలі
І давай знаёміцца з цялушкаю.
За акенцам пасівелі далі.
Далёкі лес — істужкаю.

* * *

На раніцу з неба пакралі ўсе зоркі
І ноч пабляднела ў цяплыні.
Пад грэбляю кончылі жабы гаворкі,
Шпакі не крычалі над млынам.

Згубіла зарніца чырвоную хустку
На ночным вясёлым гулянні.
Паветра было так пахуча і густа,
Расу вышывала паляна.

І хаты і гумны ў тумане патоплі,
У вэлюмы іх абгарнулі.
На лісцях кляноў запаліліся кроплі,
Расло кукаванне зязюлі.

Прытульна, бы ў хаце, было пад туманам.
Дымілі азімы ля гаю.
Заснула ля крушні пад мшалым парканам
Пастушка — бабуля старая.

Бы корч пажаўцелы — крывы і кароткі —
Тут выкалупалі лапаткай.
У твар калі глянеш — няйначай стагодка,
А з росту — малое дзіцятка.

І нюхала камень худая цялушка.
Дзяўблі гнілы корч гусяняты.
Над дзічкай звінела маленькая птушка,
І пахла дымком гаркаватым.

## У ЗІМОВЫ ДЗЕНЬ

На гародзіку сасонка
Крэхча, стогне, нібы дзед.
Праз марознае аконка
Я гляджу на белы свет.

А мяцеліца ад злосці
Белай грываю трасе.
Каля млына плача хтосьці,
Вея з бору сум нясе.

У Пасадцы так бязлюдна,
Вёска быццам ува сне.
У каморцы маёй нудна,
Што рабіць? дзе дзецца мне?..

А па небу плывуць хмары,
Шэра, хоць ты памірай.
Нібы чары, злыя чары
Апаганілі ўвесь край...

* * *

Начлежнікі пяюць. Над вогнішчам туман.
А спеў — вясёлы сум. А галасы — рачулкі.
Плывуць адтуль з кустоў, з асрэбраных палян
Частушкі — як званкі, частушкі — як бразгулкі.

Начлежнікі пяюць. У словах глуш лясоў,
І дзікай птушкі крык на зыбістым балоце,
І чулы летні шэпт расістых каласоў,
І човен рыбака, і клёны ў пазалоце.

Начлежнікі пяюць. Лунаюць уначы
Да зорак галасы жамчужна-гучнай веяй.
Спявайце галасней! Ты, песня, не маўчы!
Мо выскачыць з вачэй, бы з крэмня, іскраў веер.

Начлежнікі пяюць. Кіруйце спеў туды,
Дзе ў сэрцы, у грудзях так горача і цесна.
Вы знойдзеце шмат слоў агнёвых — і тады...
У полымя-пажар разгневаецца песня.

## УСПАМІНЫ

### I

Ноч у кажуху туманным.
Ані месяца, ні зорак.
Каля рэчкі дуб зламаны,
Круглы ўзгорак.

Днём відаць быў хвойны грэбень,
А за рэчкаю — стажарні.
Хтосьці войкнуў: «трэба! трэба!
Жарні! Жарні!»

Днём была тут касавіца.
Граў на косах поўдзень яркі.
Два браты пайшлі дзяліцца:
Бойкі. Сваркі.

Ноч маўчыць маўклівей смерці.
Я пры вогнішчы. Вакола
Цемень гойдаецца-ўецца
Цёмным колам.

Будзе досыць бавіць бавы,
Трэба ў мглу ісці густую:
Лес купецкі тут пры сплаве
Я вартую.

Аніводнай блізка вёскі...
Што за прыкрыя тут ночы...
Дзве мільгнулі папяроскі —
Воўчы вочы.

### II

Раніца. Не гуслі — гэта раніца.
Агні гараць над рэчкаю — агні.
Грайніца — жаўранкавая грайніца,
Звіні, сыр-бор! Вяршынямі звіні!

Сонейка. Зірні на поле, сонейка,
Па шкле нябёс, праменнем бі па шкле!
Гонейка, ты скінь цямравасць, гонейка.
У ймгле ты начавала, ува ймгле.

Грывамі махаюць коні — грывамі:
З начы імчаць начлежнікі, з начы.
Дзівамі, хваіны граюць дзівамі.
Крычы, абшар, ад радасці крычы!

III

Замест неба — бляха.
Дрэмле, спіць абшар.
Сонца стала страхам:
Ні дажджу, ні хмар.

Млеюць траўкі, кветкі,
Ледзь гудзіць пчала.
Высахлі палеткі,
На сасне — смала.

Стома ад спякоты.
Дзецца няма дзе.
Пастушок турботны —
Рыбкаю ў вадзе.

Непакоіць стада
Злосны авадзень.
Проста няма рады —
Эх, паганы дзень!

IV

Прыйдзі, віхор, ты прошаны госць,
Хай крывавяцца маланкі.
Прыйдзі, віхор (зямля, нібы косць),
Прыйдзі з дажджом-гулянкай.

Хай сыпне дождж з нябесных крыніц.
Бор адкажа гучным крэхтам.
Хай кроплі цвітуць з сінявых імгліц,
Як залатыя арэхі!

V

А вось і воблачка — далонь.
Расце далонь над касагорам млосным.
Не воблачка, а сіні слонь.
І неба стала злосным.

Патухла сонца ў дзёгці хмар.
Затроссяя бор, ад сонца абамлелы.
І пасінеў увесь абшар.
Балота пасінела.

Плыві ж у грудзі, халадок.
Цяпер так мілы мне, прыемны цені.
Штось раптам асляпіла зрок —
Маланкі замігцелі.

Штось раптам аглушыла слух:
Пярун ідзе па небе гулкім крокам,
Над борам безліч сініх мух —
То сыпнуў дождж з аблокаў.

## VI

Праімчала бура на шасцёрцы,
Дзынкнуў дождж у гучныя бразгулкі.
Быў вясёлы вадапой.
Цвёрды карак памякчэў на горцы,
Заскакалі дробныя рачулкі,
Зазвінелі пад гарой.

Зноў зайграла сонейка пад вечар,
Лужа кожная была люстэркам,
Кропля ў кроплю — сяміцвет.
Селянін тугу сваю залечыў,
З радасці ён выпіў паўбутэлькі.
Постаць, вочы — цэлы свет...

## VII

Пайду дзівіцца я на летні вечар.
Над пушчай грае зборышча зарніц.
У рэчку ўтапілася іх веча
І гарыць.

Пайду дзівіцца я на цень самотны.
Смуглеюць там бярозы ува сне.
Зашэпча, скалыхнецца дуб вільготны
І засне.

Пайду дзівіцца я на спеў начлежны,
Дзе коні путамі жалезнымі звіняць,
Дзе зоркі запаліліся ў бязбрэжжы
І дрыжаць.

## VIII

А вось і ноч. Я зноў адзін ля рэчкі.
Тут за пяскамі блізка хутарок.
Вунь канапля, а на пагорку грэчка.
І пахне так запознены дымок.

Звон камара цянюткі, нібы волас.
Кароткі крык гармоніка і — смех.
Урыўкі слоў. Дзявочы гучны голас.
Эх...

* * *

Тры маладыя бярозкі — бярозавы снег.
Вогнішча я запаліў тут, наладзіў начлег.
Цень да сырой галавешкі спіною прынік.
Дзед да гаршка прыхіліўся — стары вартаўнік.
— Лезь пад кажух, мой ты родны, прыляж ды засні.
Хай гэтых купчыкаў трасца! Няхай іх агні!
Хай сабе з рэчкі расцягнуць той прускі тавар.
Нам тое самае будзе, смалі іх пажар!
Я да агню прытуліўся. Заснуў на пяць хвіль.
Снілася: ймчуся далёка да сотні на міль.
Вунь гарады... Я іх бачу... Хачу я туды...
Жыць, можа, буду з бядою, а мо без бяды.
Цяжка там выбіцца ў людзі, а тут яшчэ горш,
Што мне работа пры сплаве — аддам хоць за грош.
Раптам зямля задрыжэла — канчаецца свет.
Хутка прачнуўся — бабухнуў стары пісталет.
Дзед так старанна і рупна дзьмух-дзьмух у курок.
«З рэчкі крадуць! Эх, і сорам! Такі абібок!»
Водгалас гулкі пачуўся з сабачым выццём.
«Эх, і жыццё! Дай жа веры, сабачча жыццё!»
Вогнішча дай мы прытушым во зараз, во тут.
Бо мужыкі так злуюцца. Нам будзе капут.

Хай той купец гэтак дрыхне, каб каменем лёг!
Пойдзем, мой родны, схавацца вунь блізка пад стог.
Бор гаманіў неяк грозна ў паўночнай цішы.
Стала маркотна, няёмка ў балотнай глушы...

## ПАСТУШКА

Адзін на балоце. Сягоння нядзеля.
На раніцу птушкі звіняць, як званкі.
Туман нада мною ваўнянай кудзеляй.
Нікога пры сплаве няма ля ракі.

Касцёр зараз згасне. Трашчаць галавешкі.
Закашляла хрыпла ў імбрычку вада.
Спяклася і бульба — малыя арэшкі.
Я чую з туману :«Рабуля, задам!»

Ці голас дзіцячы? Ці голас дзявочы?
Тут пасвіцца стада ў вільготных кустах.
Ідзе хтось з туману. Бліскучыя вочы.
— Дазвольце пагрэцца...— У голасе страх.

Пастушка малая. А гразь па калена.
А торбачка збоку. Дубец — як вужак.
Худая дзяўчынка... А зубы — як пена.
Ад холаду рукі і губы дрыжаць.

Вось бусел спусціўся. Пачаў свае гульбы:
Стаіць недалёка на тонкай назе.
— Пагрэйся, дзяўчынка, гарачаю бульбай!
Не знае пастушка, дзе рукі падзець.

І бусел узняўся. Шырокія крыллі
Гарэлі у небе сваёй белізной.
Дзяўчынка пад'ела.— Завуся Марыляй.
— Кажы, як жывецца? Не бойся, я свой!

— Дык наша хацінка маленькаю будкай
Адна на паляне, як той вартаўнік.
На прызбе шырокай растуць незабудкі.
Дубок, як падпора, да сценкі прынік.

Дык там мухаморы глядзяць у канаўку,
А воддаль бабуляй шапоча сасна.
Насустрач — даліна, мурожная траўка.
За лугам — магільнік, хмызняк і багна.

Хоць раз ці была я ў матулі пястушкай,
Хоць раз ці карміла матуля як след.
Служу я ў фальварку, тут блізка, пастушкай.
Служу нізавошта ўжо некалькі лет.

На раніцу статак пускаю на выган,
Адтуль па балоце — на панскі барок.
На могілках страхам нязведаным вее,
Апрыкрыла грэбля, крыжы і пясок.

Хоць ёсць абарона пры самай дарозе —
Нябожчыка бацькі бугорчык зямлі.
Я вочы зажмуру, бягом у трывозе
І плачу пры гэтым у тры ручаі.

Я помню, татуля быў вечна за працай,
Ён парабкам цёнгля служыў у двары.
Тады, як і зараз, быў голад у хаце,
Аж нейкая жаласць за сэрца бярэ...

І скардзіўся тата на пана благога:
«Працуеш-працуеш — аднолька бяда.
Ану яго к чорту! Ану яго к богу!
Надыдзе часіна, ой перцу задам!»

Аднойчы уночы — гу-га-а ў двары там,
Агонь аж да неба падняў галаву.
І быў той халодны маёнтак сагрэты,
І лоўка сваволіў чырвоны пявун.

Бярэ мяне радасць — на небе вясёлка,
А людзі — туп-туп і туды і сюды.
Святлютка-святлютка, хоць нітку ткні ў голку!
Завылі сабакі ад нейкай жуды.

Пляваўся, грымеў у пажарышчы бровар,
А дым, нібы хмара, а нейкі смурод.
Іржалі там коні, рыкалі каровы,
З ваколіцы блізкай збіраўся народ.

Тады як да бацькі прычэпіцца пан той:
«Твая гэта справа! Кажы ды кажы!»
І бацьку звязалі. Ад бочкі ды крантам
Яго калацілі на панскай мяжы...

Памёр ён праз месяц. Вунь там пахавалі.
А маці гаворыць: «Ён — богу душой».
Балююць паны, як раней балявалі,
А маці — ўдавою, а я — сіратой.

Дзень кожны я з стадам — сюды на балота.
А грэзнуць каровы у гэтай багне.
Дык вось нападае чамусьці маркота,
Хоць кожная купка знаёма тут мне...

А думкі наводзяць на злосць і на смутак,
Хоць птушкі пяюць ад зары да зары.
Ніхто не раскажа — не знаю, чаму так...
Такое жыццё — хоць агнём ты згары!..

## ВЕЧАР

Нібы мяккія валокны,
Нібы цень густых кустоў,
Змрокі цэдзяцца праз вокны
На мой стол.

Бацька мой сядзіць пануры,
На спіне турбот гара.
Вось пад печ палезлі куры —
Спаць пара.

Цэбар пойла для каровы
Я занёс у гразкі хлеў.
Дзень сягоння хмурыў бровы
Ў хмурнай мгле.

Плача дождж па шыбах нудна,
На падворку многа луж.
І паўзе так час марудна,
Нібы вуж.

Бацька вохкае і квохча,
Богу лаянку задаў:
Гніе сена на балоце.
Вось бяда!

Як той шыбенік, на сценцы
Вісіць скрыпка на цвіку.
Сядзіць Лёлік ля акенца
На мяшку.

Стыдзіў бацька абадранца —
Струну — «рымку» сын парваў:
Як на скрыпцы буду граць я?
Галава!

І жалобу хлопчык водзіць,
Вочы трэ ён кулачком.
Ноч крадзецца, нібы злодзей,
За акном.

А на прыпечку пад змрокам
На трыножцы чыгунок.
Залатым чаруе зрокам
Аганёк.

Трэба ліць у лямпу газы.
Ноч, як цёмны парасон.
Зараз скажа маці сказ свой
Нам на сон.

Пры вячэры прыкрым слоўкам
Маці часта нас кляне.
Тут знаходзіць і адмоўку:
Слова «не».

«Лыжак сем — нішто цымбалы!
Каб вас д'ябал не качаў!
Каб халера вас не брала!
Саранча!»

«Саранча» пішчыць, як мышы,
Перад сном вядзе гульню.
Маці Сонечку калыша:
«А-лю-лю...»

У вясёлым гэтым хоры
Павячэраўшых гуляк
Бацька сам з сабой гавора,
Кажа так:

«Эх, каб заўтра раніцою
Ды яскравая зара».
Ён ківае галавою.
Спаць пара.

* * *

Плача птушка ў пустыры.
Каля плота дзед завохаў.
А на рэчцы — кроў зары.
Галіной ківае вольха.

У дайніцу — цырк і цырк,
То карову доіць цётка.
А суседка — злы язык —
Ей пры гэтым пляце плёткі:

«Ой, Агату біў мужык,
Як прыйшоў дахаты п'яны».
Ноч вільготная ў імжы,
Сцелем сцелюцца туманы.

«Ой, Марыя ўкрала серп,
А папалася — вот сорам!»
А паляна у расе.
Цень расце пад касагорам.

Буду ноч усю пісаць,
Як ніколі, як ні разу,
Пакуль бацька крыкне: «Спаць!
Кінь ты глупства, шкода газы!»

## МАРЫ ПАЭТА

З хаціны курнай выйду. Над зямліцай
Наладжу арфу я з зарніцы.

Нацягну струны я з праменняў сонца,
З яго агністых валаконцаў.

У зоркі-ноты я ўглядацца буду,
Паймкнецца з сэрца спеў да люду.

І на пажар рубінавага ўсходу
Пра лепшы лёс спяю народу.

Мне будзе месяц медна-гучнай глебай,
Я апрану блакіты неба.

А пада мною хмары стануць полем,
І буду гімны пець аб волі.

Я сэрца вырву, запалю паходняй —
І запануе дзень удодні.

Я вызаву маланкі з навальніцай,
Віхор зайграе па зямліцы.

* * *

Вячэрнія гаснуць зарніцы
Палоскаю бледнай над лесам.
Мой бацька іграе на скрыпцы
Хасідскую сумную песню.

Ён цягне смычком так дакучна,
У шафу ўтаропіўся зрокам.
У шыбах пабітых — анучы,
Праз шыбы працэджаны змрокі.

Малыя ў чаканні заціркі
Палезлі гурмой на пяколак.
— Цішэй вы там! — бацька як крыкне.—
Ты што вырабляешся, Лёлік?

А маці, як быццам з пячэры,
Крычыць з-за кутка маніфест свой:
— Яшчэ не гатова вячэра,
Сядзіце вы, чэрці, на месцы!

Падлогу з'еў грыб аж дашчэнту,
І тупаць па ёй так няёмка,
Сягоння няма атрамэнту.
Пісаць буду вершы алоўкам.

* * *

Ці ведаеш зямлю арлоў-людзей магутных?
Ці ведаеш ты дні віхораў і агня?
Ці ведаеш ты сказ аб волатах пакутных?
Ці ведаеш ты спеў аб вечным ззянні дня?

Ці чуў ты часам быль аб сэрцах аб мяцежных?
Ці чуў ты гімнаў кліч аб шчасці на зямлі?
Ці чуў ты гул грымот аб гордасці бязмежнай?
Ці чуў ты пра байцоў, што за цябе ляглі?

## ПРЫЙДЗІЦЕ

Прыйдзіце вы, добрыя... Вокам праніклівым
Кіньце на нашу нядолю!
Вас люд наш чакае, зняволены працаю —
Босы і голы...

Прыйдзіце вы, светлыя... Дзень ярка-сонечны
Кіньце, вы кіньце, як хлеб нам!
І цені вільготныя ветрамі згоніце
З роднае глебы.

Прыйдзіце вы, шчырыя, сэрцам адкрытыя...
Шчырасць хай служыць вам мэтай!
І гніль векавая і хітрасць сусветная
Счэзнуць са свету.

Прыйдзіце вы, моцныя, бурамі званыя,
З яснай прыйдзіце зарніцай!
З дарог-пуцявінаў вы згоніце ворага,
Хутка прыйдзіце!..

## ПЕСНЯ

Як бы плача хто ў лагчыне!
Як бы жаласна пяе,—
То маладую дзяўчыну
Бацька замуж выдае.

Муж багат, але нямілы:
Ён калека і стары.
Дзеўка плача, траціць сілы
Без карысці, без пары.

А саколік, а Міхалка
Хоць бядак, але прыгож.
Сэрца рвецца на кавалкі,
Вочы мутныя ад слёз.

А тым часам родны бацька
На дачку, як воўк, глядзіць.
«Мая воля, каб це качка!
Пойдзеш, гадзіна!» — крычыць.

А муж гладзіць плех бліскучы
З відам: «я вам не прастак»,
Лічыць золата у кучы,
Доўга кашляе ў кулак.

А дзяцюк ад буйнай злосці
Непрытомны, аж дрыжыць.
«Я раздраблю гаду косці!
З ёй стары не будзе жыць!»

Сціснуў ён кулак дубовы,
Загарэўся, як агонь;
Лыпіць вочы, хмурыць бровы.
Ой, задумаў штосьці ён!

## ПАН

Чым за адным сталом засесці з панам есці,
Дык лепш павесь замок на губы.
Фальшывы панскі хлеб не будзе ў горла лезці.
Бо жарсцвяком паломіш зубы.

Замест віна твой коўш напоўніць панскай кпінай,
Як скажа: «еш!», дык знай: «давіся!»
Ён «братам» назаве, падумае: «дубіна».
Не шчыры ён. Ты сцеражыся!

Абыме ён цябе. Падумае: «смярдзючы».
У словах — мёд, нутро вужакі.
І купіць задармо ён карак твой балючы.
Удвойчы станеш небаракай.

Не вер, не вер яму — і не прасі падмогі,
Бо хлусіць ён — не вер ніколі!
Да сонца, да святла загарадзіў дарогу.
Ты пана бі і вырві волю!

## ТЫ...

Перад ліхам і нядоляй
Гнеш свой карак.
Вечна з жонкаю гатовы
Ты да сварак.

Як той конь сляпы, адразу
Бух у яму.
Гнешся ўдвойчы, гнешся ўтройчы
Перад панам.

Бела — чорным называеш,
Палынь — мёдам.
Строіш кпіны ты з свайго жа
Брата, рода.

На адно адвагу маеш —
Піць сівуху.
На пахмелле — толькі жонку
Біць па вуху.

А дарэчы ты не скажаш
Нават слова.
Толькі бэкаць па-дурному
Ты гатовы.

А прап'ешся — лыпіш вочы,
Як цялушка.
Над табою ўецца гора
Шэрай птушкай.

## НЕ ЎГОДЗІШ

Красе пакланюся —
«Нявольнік».
Пра волю скажу я —
«Разбойнік».

Старое адкіну —
«Распуснік».
Пра шчасце спяваю —
«Пакуснік».

На песню кахання —
«Нялюбы».
На шчырую думку —
«Ты грубы».



Заліў быдлячы лой валоў і тваё грудзі —
Бяздумна ты жывеш, без сэрца, без вачэй.
Не трэба нам такіх — няхай такіх не будзе!
Дык згінь, шальмец, як цень захмураных начэй!

Аблічына твая ад сытасці так брыдка,
А плечы, карак твой — бярэмя гнілых дроў.
Напоўнены слязьмі твой скарб, твае здабыткі,
А золата-шаўкі іржавіць-пляміць кроў.

Паганіш ты сабой абшар зямлі і неба,
Як дзікі, люты звер, калечыш ты жыццё.
У жвір-пясок такіх аддаць магіле трэба,
З сонечнай зямлі спіхнуўшы ў забыццё.

## МОЖА БЫЦЬ...

Можа быць, што пятлю мне
Надзене мой тата.
Можа быць — мая маці
Заменіць мне ката.

Можа быць — хутка вып'юць
Апошнія сілы.
Можа быць — родна хата
Мне стане магілай.

Можа быць — без хаўтураў
Засыплюць зямлёю.
Нада мной толькі дрэва
Кіўне галіною.

Можа быць — толькі птушкі
Пачнуць там гаворкі,
Будуць часам кружыцца
Над жоўтым пагоркам.

## ГУСЛЯР

А Змітра старога
Не трэба прасіці
На гутаркі-сходы.
Прыходзіць ён першым,
Выходзіць апошнім.
Ён добра ўсё знае:
Як рэчка спявае,
Як стогнуць сыр-боры,
Як зоркі мільгаюць,
Як родзіцца траўка,
Як неба ў пажары

Мяцеж апранае,
Як плача дзяўчынка
Па хлопцу па любым,
Як тужыць сіротка
Па матцы радзімай,
Як скачуць вяселле,
Спяваюць на полі,
Як гора-нядолю
Ратай спатыкае,
Як парабак горбіць
Спіну ў панскім жыце.
І любіць без конца
Гусляр гарапашных.
І струны на гуслях,
І струны ў сэрцы,
Як воклічы ў пушчы,
Завуць і варожаць.
На кожнае гора,
На кожную радасць
Знаходзіцца водгук
У сэрцы гуслярскім.
У словах у шчырых,
У словах гарачых,
У думках трывожных,
У думках бунтарскіх —
Крыніца пакуты,
Крыніца надзеі.
Бо сэрца народу —
Мазольнага люду —
Ў грудзях яго б'ецца
Арліхаю вольнай.
Не мае убогі
Ні хлеба — да хлеба,
Дык мае ён сытасць
У песнях гуслярскіх.
Не мае убогі
Ні радасці-шчасця,
Дык песні гукаюць
Да смелых учынкаў.
. . . . . . . . . . .
А Змітра старога
Не трэба прасіці,
Каб музыкай цешыў,—
Не йграць ён не можа,

Як жыць без паветра.
Ён струн не купляе
У краме за грошы —
Пад небам, пад сонцам
Іх многа, іх многа.
Іх ветрык у жыце
Наладзіць, настроіць,
Жаўронкі на крыллях
Нясуць яму струны.
Азёры і рэчкі
Даюць падарунак.
Начлежнік прыносіць
Паўночныя струны,
І парабак панскі
Іх тчэ ў сваім сэрцы.
Іх мыюць расіцы,
Заранкі фарбуюць,
Салоўкі іх туляць
Да вуснаў дзявочых,
Мяцеліцы ўзімку
Іх грэюць у пушчах.
Працягнуты струны
Ад хвойкі да хвойкі,
Ад рэчкі да рэчкі,
Ад поля да поля.
Жывуць у грымотах,
Маланках і бурах,
З пакутнага сэрца
Агонь высякаюць.

* * *

Курыць люльку вадзянік,
Туліць рэчку дым-туман.
Да бярозкі дуб прынік,
А ля дуба спіць курган.

Срэбны месяц на лугі
Сее зёрны з серабра.
Кіньце, хвоі, снеў тугі —
Запалілася зара.

Пад курганам спяць дзяды,
Там разбітыя гаршкі.
Замест святасці бяды
Хай растуць тут каласкі.

Эх, замнога курганоў,
Ды замала добрых хат.
Эх, замнога старых сноў,
А жыццё не йдзе назад...

## ВОЎК

Сіва-сіняя поўнач паўстала,
Глядзіць з-пад карчышчаў
На зоркі — на макавы цветы
Нябёснага пазагумення.
Хвоі ў белых хвастах з гарнастаю
Між снежных замчышчаў
Зацішна стаяць, як макеты.
На снезе шкляное імгненне.

Невідочны хтось даль аздабляе
Блакітам яскравым.
На кволых пушыстых абшарах
Ткуць лёгкія полагі цені.
Цішыня лёгкім кровам гуляе
Па дрэвах кудравых
І сее вакол з-пад імшары
Пшаніцы бурштынавай жмені.

Ціха туліцца рэчка да бору.
Над борам — папаха.
Кашулю сталёвую з лёду
Накінула рэчка на плечы.
Прыйшлі ўдзень рыбакі з касагору
Праз снежныя гмахі,
Прысталі, як пчолы да мёду,
Прысталі, як воі да сечы.

І давай лёд калоць зубам-ломам,
Рубаці сякерай,
Акулай-пілой пілаваці,—
Аж пот акрапляў ім бароды.

Вада бухала ўверх з хлюпам-стогнам,
Кіпела без меры,
Пачала вакол аглядацца,
Адвыкла даўно ад народу.

Непакоілі прорубы-раны
На карку балючым.
Глыбокія раны на целе
Зрасліся да цёмнае ночы.
Выйшаў воўк на лясную паляну.
Ён крокам бягучым
Да рэчкі дыбаў. І мігцелі
Самотныя воўчыя вочы.

На лёд кінуўся шэрай стралою
З абрыву імпэтна;
І жудкая доля сустрэла
Маркотнага сына гушчару;
Ценькі лёд ён прабіў пад сабою,
Папаў непрыкметна
У прорубь ледзь-ледзь зледзянелы.
Ён здаўся пакорнай ахвярай.

Раз паспеў ён з вады паказацца,
«Вой-во-о-ой» — старым звонам,
І згінуў пад лёдам навекі
Так шпарка, аж пошчакі з бору
Не здолелі яшчэ расплывацца
Па белых загонах.
І лямант, бы сведка злых здзекаў,
Самлеў у марозным прасторы.

Ты прыпомні маленькае стада
Улетку на полі.
Да сіўца ты прыпаў і тульгаўся,
Як шкоднік гарэзны.
Цвіло сонца. Былі гэтак рады
Палеткі раздоллю.
Да ахвяры злым катам прырваўся.
Авечку панёс і зарэзаў.

Ты прыпомні начлег ля сцяжарні.
Людзей сілуэты.
Сіпела вужом галавешка.
Туман быў ваўняны і шызы.

Коні путамі гулка бразджалі.
Ты нюхаў паветра.
Зірнуў на аблокаў мярэжку
І гіцлем накінуўся з хмызы.

Ты прыпомні дзень летні на полі.
Дзіцё на іржышчы.
Жняя гнула спіну над жытам,
І пахла жывіцай сасонка.

Ценем краўся ты, лез, як нядоля,
У паўдзённым зацішшы.
Дзіўны спрыт быў табою ўжыты —
Ты горла прагрыз парабчонку.

Ты прыпомні адно паляванне,
Стральцоў, злое неба.
Чырвонага вельмі баяўся,
Свае вочы, як брытву, загойстрыў.
У ражок на трывогу спявалі.
Бабухалі стрэльбы.
На снезе крывавыя кляксы,
Сляды ад братоў тваіх, сёстраў.

Ты тады ўцалеў недарэчы.
І вось такім самым
Астаўся. Падлез пад свінушнік.
Многа знішчыў, хоць быў вельмі сыты.
Вось нарэшце... Ты схадзіў у Зарэчча
Па свежае сала...
Адмарозіў сягоння ты вушы,
Змачыў жа сягоння вусы ты...

След зладзейскі застаўся ў нізіне
Пячаткамі здзеку.
Мудры бор гладзіў кудлы сівыя
Шурпатаю лапай-далонню:
«Агідны драпежнік загінуў,
Загінуў навекі».
І зорак у небе завея
Рубіны губляла ў бяздонне.

## ДРЫВАСЕК

Я сякеру вазьму,
Натачу, навастру,
І пайду у сыр-бор
На зарніцу-зару.

Буду лысіць сыр-бор,
Пойдзе грук, пойдзе стук.
Стары лес задрыжыць
Ад магутных ад рук.

Я пілой павяду
І туды і сюды —
Буду пляжыць гніццё
За вякі, за гады.

І закрэхча, як дзед,
Нездаровы сасняк,
І застанецца жыць
Толькі гай-маладняк.

Пачну песціць яго,
Як дзіцё, гадаваць.
Будуць птушкі у ім
Вечна песні спяваць.

Стане сонейка грэць
Племя юных барын.
Закрасуе жыццё
Ад зары да зары.

* * *

Звініць струна сталёвая.
Спяваюць у бары.
Зайгралі гуслі новыя —
І ты загавары!

Зарніцай цені раняцца,
То новы дзень расце.
Гудуць вятры на раніцу
У залатым трысце.

Звіняць званы сякерныя
У тлуме баравым.
Ужо сюды не вернецца
Ні плач, ні смех савы.

Вязуць бярвенні гонкія
У вёску вазакі.
Спалохана завойкалі
Апошнія ваўкі.

Буяе радасць клопатаў —
Расце за зрубам зруб.
І прападзе тут пропадам
Апошні душагуб.

## СТАРАРЭЧЫШЧА

Нядаўна плыла старая рака,
Снавалі вужы па плыні вады.
Шумеў ачарот, трава-асака,
Цяпер там лаза маўчыць ад нуды.

А рэчка адтуль звярнула набок,
Прабіў новы шлях вясновы імпэт;
Расце ў вышыню зялёны дубок,
Ля рэчкі старой — хваіна-шкілет.

Ля рэчкі старой засохла жыццё,
Адцяў востры склют сям'ю вербалоз.
Над ёю труной — вісіць забыццё —
Аджылае ўсё спаткне такі лёс.

# II

## НАСТРОІ

* * *

Зарніцы над рэчкай гарэлі сягоння —
І чырвань кідалі ў бяздонне, ў бяздонне.

Зарніцы квітнелі ў мігценні, ў мгненні —
І з кожнаю хвіляй бляднелі, бляднелі.

Зарніцы пагаслі, сінявілі змрокі —
І зоркі пусціліся ў скокі, у скокі.

Засрэбрыў жар-месяц самотныя далі —
Імшалыя ўзгоркі маўчалі-маўчалі.

Дрыжэлі барыны, сівелі туманы —
І ціха лунaлі кажаны-кажаны.

* * *

Вунь бярэзнік на пагорку.
Ён на сонцы беліць шоўкі.
І кудзерцамі ў расе,
Нібы хлопчык, ён трасе.

Вунь ручай звініць дукатам,
Сустракаецца ён з братам —
З ручайком пяе другім
Небу, сонейку свой гімн.

Вунь на полі рунь рунявіць.
А над полем ветрык жвавы.
Ад мяжы і да мяжы
Ветрык конікам бяжыць.

Вунь, глядзі, пасецца цёлка.
Хлопчык выразаў свісцёлку.
Да бярозкі ён прынік,
П'е салодкі сакавік.

* * *

Рэчка зыбіць сваю зыбку
Між абоймаў цёмных вольх.
Хтосьці ўночы кінуў рыбкам
З неба срэбраны гарох.

Граюць зоркі ў водным люстры
І мільгаюць так і сяк.
Кажа рыбкам ветрык шустры:
— Рыбкі, пробуйце на смак.

Вось гарох ды цукраваны,
Еш, маленькі дабрадзей!
Залатой нябеснай маннай
Сытна кормяць і людзей...

## ДЗЕНЬ ДОБРЫ!

Над сажалкай сіняй зара начавала,
Было там і зорак нямала.

У сажалку зоркі праменні кідалі,
Свяціліся блізі і далі.

І грала зара свам крыллем агнёвым,
Адсвеццем на лісцях дубовых.

— Няма нада мною,— сказала зарніца,—
Святлейшай на свеце сястрыцы.

— Няма тут над намі,— сказалі і зоркі,—
Ярчэйшай палянкі, узгорка.

Спяваў у арэшніку шэры салоўка,
Хваліў іх і спрытна і лоўка.

Тут ветрык прачнуўся на яснае ранне,
Пачаў між лістоў сваё гранне.

І сонца з-за гаю зірнула харобра:
— Дзень добры! дзень добры! дзень добры!

І зоркі патухлі, патухла зарніца,
І змоўк салавей на галінцы.

## ВОСЕНЬ

### I

Пад асенняй віхурай над хатаю
Ноч мільгае вялізнаю рыбай,
Адарванай галінаю кратае
Цёмна-сінюю мокрую шыбу.

Па траве дождж шапоча і шастае,
Пад страхою шукае прыпынку;
Гнецца-корчыцца дрэва кудластае —
Не дае злы віхор адпачынку.

Гой-гой...— гойкаюць грозна і весела
Па страсе ашалелыя ветры:
З адзічэлага бору занесены,
З-пад хаванкаў балоцістых нетраў.

Ім забаўна між хат запалоханых,
Ім па комінах граць вельмі цесна:
Паміж хвояў, дажджамі заплёханых,
Прывальней, прастарней і пачэсней.

На балоце рудаўка багністая
Рассыпаецца ў плачу і квоху:
— Гэй, брыдзіце ка мне, ветры мглістыя,
Па сцяжынках пуховага моху!

— Гэй, брыдзіце ка мне! Гнёзды людныя
Не шануюць, не любяць віхораў.
Там маўклівыя людзі і нудныя
Без жыцця, без размаху-прастору!

II

Топ-топ-топ! Капытам бразь
Конь мой па каменнях.
Плюх-плюх-плюх... Вада і ґразь,
Цвёрдае карэнне.

Ноч. Віхура рып і рып.
Скрыгат па дарогах.
Дрэвы ў лесе скрып і скрып.
Цемра па разлогах.

Трах-трах-трах!.. Зламаўся дуб.
Пошчак страляніны.
У рудаўку — у жуду
Зараз конь мой рыне...

Конь храпе, на корч палез,
Чуе воўчы пах ён.
Ноч насунула на лес
Чорную папаху.

Шу-шу-шу!.. Шапоча гай,
Строгі ён і хмуры.
Смела, конь мой, цьму глытай,
Мчыся разам з бурай!

## ЗІМОВАЯ РАНІЦА

На галаву дзеда-хвойніка
З неба віно палілося —
З ярка-чырвонай ракі.
Выплыла сонейка.
Нізка над вёскай
Млелі дымкі.

Пушча сівая дзівілася.
Сон свой тлумачыла рані,
Сон без страхоцця, без хмар.
Шыр залацілася,
Ззянне і гранне.
Светлы абшар...

Свежая, новая раніца...
Вострыя стрэлы-праменні...
Шызы над вёскаю дым...
Эх (ці так станецца),
Знішчы ўсе цені,
Дзень малады!

Далі, бы вокны празрыстыя,
Сонейка шыбы прыгрэла,
Водыр сняжысты з палёў.
Дахі іскрыстыя
Слухалі смелы
Хор вераб'ёў.

Зычна званіла, крынічыла
Блізка крынічка за горкай;
Не змаразіў злы мароз,
Хоць невялічкая,
Нібы то вока —
Рогат да слёз...

Эх, каб і сэрцы каб нашыя
Так не баяліся гора,
Грозных жыцця непагод,—
Шмат назапасілі б
Сіл у прасторы
З году ды ў год!..

* * *

Вецер доіць малако са стрэх:
Лужы ў снезе пад страхою,
Нібы п'яўка, вецер смокча снег,
Ходзіць-бродзіць з цеплынёю.

У туманнай у вільготнай мгле
Разгубіліся ўсе зоркі.
Песня гулка звоніць на сяле,
Гул бразгулак за пагоркам.

Серабра палоскі ад акон
Прыляглі да частакола.
І дрыжыць раздзеты смуглы клён,
Мокнуць гурбы навакола.

Свіст і рогат. Гурт хлапцоў, дзяўчат,
А наперадзе гармонік.
Хтосьці скача, хтось пускае жарт.
Гэтак весела сягоння.

## ЗІМОВАЯ КАЗКА

Вісіць снежная ноч, вісіць лютая ноч
Сівай футрай над пушчай кашлатаю.
Белым пер'ем снягі, белым сырам снягі,
Долы-горы пад снежнымі шатамі.

Ў адзічэлым бары, непрабудным бары
Жывуць людзі маўклівыя, злосныя.
У хароме шкляным, на пасцелі шкляной
Дрэмле дзеўчына сонцавалосая.

Вы завіце яе, вы будзіце яе —
І закрэхча хваіна высокая,
І заплача віхор, і застогне віхор,
Загалосіць зіма белавокая.

І ад страху зіма, ад спалоху зіма
У шаленстве марозным заменіцца.
Некілзаным канём, сіва-белым агнём
Пойдзе дуба сляпая мяцеліца.

І дзяўчына ўздыхне, цяжкі сон перарве,
Пальцам бровы ачысціць ад шэрані.
І зірне навакол, непрытульна вакол,
Выюць сумна ў бары ваўкі шэрыя.

Вы будзіце яе — і надыдзе вясна,
Засвяткуюць жаўронкі над нівамі.
Крыкне лёд на рацэ, пойдуць крыгі ракой,
Зіму змыюць паводкі гуллівыя.

* * *

Лезе ў вочы ззянне месяца.
Месяц яркі, як пажар.
Мне здаецца, стаіць лесвіца
З азярода аж да хмар.

А па лесвіцы па срэбранай
Нехта лазіць угару.
І кашуля на ім зрэбная,
І глядзіць ён на зару...

А зара яшчэ ледзь сцелецца,
Грае міскаю нябёс,
Сыпле іскры на аселіцу,
На вяршаліны бяроз.

А туман дыміць над грэбляю.
Млын, бы човен упачы.
Вецер носіць вільгаць глебную.
Птушка крыкне, замаўчыць.

* * *

Грала, грэлася заранка.
Мэкала цялушка.
Пелі срэбныя вяснянкі
Над бярозкай птушкі.

Закружыла ў рэчцы кругі
Плойма шустрых плотак.
А туман вісеў над лугам,
Над каравым плотам.

Пасвятлела на паляне.
А на траўках — роскі.
Пахне раніца сняданнем
І дымком над вёскай.

Ля пагорка ў сонцаззянні
Нехта месіць гліну.
О, калі настане ранне
Для усёй краіны?

## СПЯКОТА

Наша поле — дзірван. І пячэ, і пячэ...
І жыве дзе-нідзе толькі грэчка.
Просіць піць сухі луг, просіць піць сухі шнур,
І патрэскана дно сухой рэчкі.

Саранчой авадні. Проста жыць не даюць.
І кусаюць так злосна, балюча.
Ёсць пацеха адна — урадзіўся палын,
На гародзе аж цэлыя кучы.

Стогне блізкі сусед: «Голад пойдзе тут граць!
А цымбалы ў мяне — лыжак восем.
Эх, каб дождж на тры дні... Гэта ж ліпень у нас,
А жаўцеюць лісты — проста восень...»

* * *

Вісіць серп залаты над спалоханым борам.
Жне вяршаліны хвой гэты серп залаты.
На нізінах туман, бы кудзельнае мора.
У тумане папіклі платы і кусты.

Каля млына вада «кап» і «кап» з чорнай скрыні.
Кропля кожная — стрэл а паўночнай цішы.
Чулы аір дрыжыць, як птушыныя крыллі.
Стаіць дуб-вартаўнік на расістай мяжы.

* * *

Абліта ззяннем зорак росная паляна.
Застыў пад мгненне ценяў чулы зарасняк.
З-за шыза-дымнай хмары круглы месяц глянуў,
У рэчку кінуў-сыпнуў бірузовы мак.

У блізкай вёсцы ўсхліпнуў, заспяваў гармонік;
Ён рэзаў, бы касою, цішыню начы.
Затроссе лісцем свежым малады альхоўнік,
Ты, сэрца, адпачні тут, сэрца, замаўчы.

* * *

Яшчэ бялелі касагоры,
Ад снежных плямаў пара йшла,
Звінелі жаўранкі над борам,
Кідалі ўніз кавалкі шкла.

Рачулкі моршчыліся ў пене,
І крыгі сінія плылі.
Вятры зайгралі і запелі,
Як гітарысты, па зямлі.

Пад сонцам грэліся бярозы
У белым тонкім палатне.
І зелянелі вербалозы,
І за гарой папар чарнеў.

* * *

Лугам-лугам зялёненькім
Пайду-пайду каля гаю.
Дзе саколік мой міленькі,
Я касцоў там запытаю.

Жытам-жытам залацістым
Палячу я матылёчкам.
Песняй-песняй серабрыстай
Буду клікаць галубочка.

Шляхам-шляхам бесканечным
Я пушчуся з усёй сілы.
Там устрэчны-папярэчны
Мне раскажа, дзе мой мілы.

Рэчкай-рэчкай паплыву я
За далёкі акіяны.
Сваё шчасце там знайду я,
Я знайду, дзе мой каханы.

## ДАЗВОЛЬ...

Дазволь цябе любіць, як кветачку на полі,
Як явар малады, што над ракой стаіць,
Як залатую птушку, што жыве на волі,
Дазволь цябе любіць.

Дазволь цябе любіць за песню, што я чую,
За срэбны гучны смех, што чыстатой звініць,
За вочы ясныя, за душу маладую
Дазволь цябе любіць.

Дазволь цябе любіць за светлыя часіны,
Якія ты даеш мне ў шчасці перажыць,
За шчырае натхненне, мілая дзяўчына,
Дазволь цябе любіць.

* * *

Я пайшоў у сыр-бор,
Дзе гняздзяцца арлы,
Аб дзяўчыне маёй
Каб не слухаць хвалы,

Каб для сэрца знайсці
Адпачын-супакой
Сярод пушчы нямой,
Сярод гушчы глухой.

Там забуду ўначы,
У лясной цішыні
Аб дзявочай красе,
Аб сардэчным агні.

Я пайшоў у сыр-бор
Гаіць раны душы
Пад мяцеліцай зор,
Пад віхурай цішы.

Наумысне сыр-бор
Мне аб ёй гаманіў,
Аб ёй шпалы курган
Казкі дзіўныя спіў.

Сярод пушчы нямой,
Сярод пушчы глухой
Дзве хваіны стаяць
І гавораць аб ёй.

* * *

Свеціць месяц. Б'ецца сэрца.
Янка стук і грук у дзверцы:
— Адчыні, мая дзяўчына,
Будзе радасць уначы нам!

— Маці злосная аблае.
Маці кажа: я малая.

Свеціць месяц. Ён праз вокны
Сцеліць срэбныя валокны.
Янка торгае за клямку:
— Адчыні, мая Маланка!

— Як жа выйду я на росы —
Ножкі дробныя ўжо босы.

Месяц свеціць. Лезе ў вочы.
Трачу розум свой дзявочы.
— Мне сабака рукі ліжа,
Адчыні жа, адчыні жа!

— Я ўжо косы расчасала.
Дай сабаку лустку сала.

Месяц свеціць. Зорка з зоркай
Пачынаюць шэпт-гаворку.
За сцяною чую шолах:
— Адчыні — я друг, не вораг.

Ціха дзверцы адчыніла.
— Дзе ты, Янка? Дзе ты, мілы?

Месяц свеціць. У мігценні
На палыні граюць цені.
Спіць сабака ў цёплай будцы,
Кветкі яблыні трасуцца.

Па расе слядоў не бачу,
Сніла сон такі, няйначай.

## ЛЯ СРЭБНАЙ ЗАТОКІ

Ля срэбнай затокі, ля рэчкі на лузе
Дубок прытаіўся і рос.
На ім салавейка спяваў свае песні,
І траўкі блішчэлі ад рос.

І слухалі кветкі, расліны малыя
Званочкі яго веснавыя.
А хмарка, як лебедзь, над лесам ляцела,
А зорка, як вока, мігцела.
Дзівіўся чарот залаты,
І плоткі глядзелі з вады.

Удзень тут хлапчына туліўся маленькі
І жаласна ў дудку свістаў.
І дзынкалі пчолкі, мятлічкі лясныя,
І ветрык на вуха шаптаў.

Тады ля барыны буяла сон-кветка
Пад сонечнай яснай паветкай.
Хмяліла чаромха на вольным абшары...
Дрыжэла і млела імшара.
Раса прылягла да зямлі,
І гутаркі хвоі вялі.

Пад хмарай затока, і моршчыцца рэчка
Ад цёмных разгойданых хваль.
Вясна праляцела, прамчалася лета,
Бы конік у смуглую даль.

І высах, загінуў лужок зеляненькі,
І ссеклі дубок маладзенькі,
І песня салоўкі зусім анямела,
У рэчцы вада памутнела.
Чарот шмат зрабіўся радзей...
І плоткі залезлі глыбей...

Лес лісці губляе — пажоўклыя лісці,
Іх носіць па лужах віхор.
І неба ў шэрую світку адзета,
Там сумна, бы хтосьці памёр...

І плача і енча хваіна на полі.
І вецер асенні скаголіць.
Дождж сыплецца буйны у самыя вочы,
Балота пад лапцем так квохча.
І млее душа у нудзе —
Прытулку не знойдзеш нідзе...

* * *

Палумесяц арэ залатыя барозны.
Над рачулкаю вольха ківае пагрозна.
Млее хвоя, дрыжыць ува сне.
Ой, чаму я згубіў супакой свой раптоўна?
Ой, чаму гэтак вочы гараць непрытомна?
Ой, чаму стала сумна так мне?
І баліць, вакол шыі вяроўка пляцецца.
Нешта кажа мне сэрца.
Над лагчынай туман шэра-дымнай кудзеляй.
Сіне-росную гафту даліны адзелі.
Будзіць далі трывожны трызвон.
Гулам-гудам злосць-гнеў ён разносіць па краі.
Ой, чаму мне здаецца, што нехта канае?
Ой, чаму чую стрыманы стогн?
Ці да шчасця зачынены дзверы і дзверцы?
Нешта кажа мне сэрца.

Птушкай лезе ўспамін з абяздоленай вёскі.
Там замёрлі жыцця галасы, адгалоскі.
Людзі сталі маўклівы, як пні.
Пазадушана ўсё пад цяжарам магілы.
Чорным крыллем бяда нават сонца займгліла.
І прапалі, патухлі агні.
Цішыня. Анямеласць галечы і смерці.
Нешта кажа мне сэрца.

## ДОЧ МЕСЯЦА

Па сцежцы праменняў у ззяпні агнёвым
Спусцілася месяца доч на зямлю;
Дубок на паляне знайшла на шаўковай,
Прыпала, казала: «Браточак, люблю!»
І доўга лісцінкі яго цалавала,
І доўга галінкі яго мілавала,
І грэла ад холаду роснай зямлі
Густою касой і грудзьмі.

На рэчку дзівіўся жар-месяц чырвоны.
У пушчы шукаў ён лятуху-дачку:
Мо дзесьці завабіў узгорак зялёны,
Мо недзе збірае грыбкоў у ляску.
І дзетак маленькіх — ружовенькіх зорак —
Паслаў ён на ціхі ля рэчкі ўзгорак.
Гукалі-шукалі — нідзе не знайшлі,
Вярнуліся з чым і пайшлі...

Да раніцы месяца доч загуляла,
Звінелі і песні і казкі яе.
Агніца-зарніца даўно запалала...
«Пусці... палячу, бо татуля прыб'е...»
І просіць дубок: «Пачакай, залатая...»
Лісцінкі у коскі яе уплятае.
Дубок не пускае. «Пусці, дарагі...
Жар-месяц глядзіць на лугі...

Вунь, бачыш, ад злосці бляднее жар-месяц,
Пусці, мой хлапчынка, дахаты пара,
Бо хмаркі угледзяць, бо зоркі прыкмецяць...
Пажарыць над гаем сястрыца-зара.

Вунь крыляцца качкі над росным чаротам,
Вунь птушкі звіняць над туманным балотам,
Пусці ж, дубок, узляцець угару,
Бо тут у цябе я памру...»

Дубок не пускае, цясней прыгартае,
Галінкамі моцна красуню абняў,
Доч месяца млее, доч месяца тае,
Доч месяца ціха сканала да дня...
Блішчаць на дубовых лістках не расінкі,
А буйныя, светлыя кропкі-слязінкі.
То плача ад жалю, ад гора-бяды
Зялёны дубок малады...

## ЗАЗІМАК І АДЛІГА

Кінуўся з лесу зазімак,
Белы па дахах брыдзе;
Сыпле мукою на ранак,
Квохае ў мутнай вадзе.
Вербы фарбуе сівізнай,
Вые ваўком між муроў;
Гойкае, кліча на трызну
Стромкіх слупоў — звапароў.
Пробуе водгукі дротаў,
Быццам гуллівы гусляр;
Паліць між гмахаў з ахвотай
Снежны, пушысты пажар.
Плача адліга ў тумане,
Вільгаць збірае ў палёх:
«Вострыш, зазімак, зарана
Соткі марозлівых ног.
Плюхну на карак балотам,
Вочы гразёй заплюю.
Скончыш, зазімак, пад потам
Дзікае веча — гульню.
Бразну дажджом з сваёй сіты,
Лакам пакрыю дамы.
Будзеш, зазімак, пабіты
Аж да мяцельнай зімы».



Б'ецца восень халодная ў рэчную шыбу.
Безупынку трасе адзінокай вярбой.
Я далёкі вандроўца. Хачу да сялібы.
Па калена ў гразі на дарозе глухой.

Вунь стагі, нібы волаты, спяць на балоце.
Вунь узняў многа рук ясянёвы шкілет.
Дождж лупцуе па шыі, цапамі малоціць,
Мне здаецца, хаджу многа зім, многа лет.

А за мной непрытульнасці ў полі імглістым,
І крычыць воранне, як на нейкі пажар.
Ногі лезуць у цеста, у квохат багністы.
О, задушыцца дзень пад дзяругамі хмар.

## З ПЕСЕНЬ ЗІМЫ

Мароз сунуў голаў у вецце,
А грудзі ў абшары ўпякаў.
Як п'яўка, паветра ссе вецер,
Як смаглая п'яўка.

Завея так слепіць гушчары
З нязнанай заядлаю злосцю.
Бы косці кідае ў абшары,
Зарыпалі косці.

І трэ сук аб сук сухастойка,
Галінамі дзынкае, грае.
Няма ёй прытулку, утойкі,
Ратунку няма ёй.

У хвойным шурпацістым шуме
Вандруе жалоба спрадвечна.
Аб нечым лес кажа ў задуме,
Спеў-шэпты аб нечым:

«Вунь слепіцца-ўецца дым снежны,
Вунь гурба ля рэчкі, як мамант.
Злы лямант напоўніў бязбрэжжа,
Мяцеліцы лямант,

А потым ад вешняй залевы
Тут крыгі памчаць карагодам.
Ад мёду захмеляцца дрэвы
І неба ад мёду.

І зноў тое самае сонца,
Зямлі векавечны гадзіннік.
Так дзівіць штогод, як дазорца,
Штогод гэтак дзівіць.

Балота заціснута ў жмені,
Вякоў карагоды абрыдлі.
Бі рыдлем па трухлых карэннях,
Завея, бі рыдлем!

Навошта нам вёсны і леты,
Дакучны нам восені, зімы.
Стаім мы далёка ад свету,
На месцы стаім мы.

А далі — празрыстыя нетры —
Нас вабяць, як сінія вочы.
Мы хочам брысці з вольным ветрам,
На волю мы хочам».

## ГАНУЛЬКА

То не жаўранак над гаем,
То Ганулепька спявае,
Каля рэчкі-весялушкі
Пяе песні, нібы птушка:

«Набяру я збан вадзіцы,
Буду мыцца, весяліцца.
Расплятаці буду косы,
Басаножкаю — на росы.

Як рассеюцца туманы,
У люстэрка-рэчку гляну
На свой белы твар дзявочы,
На васількавыя вочы.

Назбяру шмат кветак белых,
Назбяру шмат ягад спелых
І пайду я пуцявінай
Па зялёнай па лагчыне.

І пайду цяністым борам,
Сонцаграйным касагорам.
Там схаваюся далёка
Ад зайздроснага ад вока.

Там на пасеках мядовых,
Там у пушчах у хваёвых
Прыпаду да мшыстай горкі,
Там сустрэнуся з Ягоркам».

Так Гануленька спявае
І на кладачку ступае.
Кладка крэхча ля парэчкі.
Бух — Ганулька ўпала ў рэчку.

Застагнаў чарот зялёны,
Закружыўся вір шалёны,
Кружаць кругі, зыбяць зыбкі,
Устрывожыліся рыбкі.

Праз дзён колькі пад ракітай
Знайшлі людзі збан разбіты.
Хоць шукалі многа часу,
А дзяўчына не знайшлася.

Каля рэчкі стаў Ягорка.
Хлопцу сумна, хлопцу горка.
Ён на чулых гуслях грае
І з грамадай размаўляе:

«Не тапчыце дробнай роскі,
Дробна роска — яе слёзкі.
Вы не рвіце незабудкаў,
Незабудкі — яе грудкі.

Не чапайце тут парэчкі,
Васількоў ля гэтай рэчкі:
Куст парэчкі — стан дзявочы,
Васількі — Ганулькі вочы.

Не касіце кволай траўкі,
Не чапайце птушкі-грайкі:
Квола траўка — яе волас,
Спевы птушкі — яе голас».

## ВЯСНОЙ

То не снег — то чаромха цвіце:
Падарунак вясны-дабрадзейкі,
То не снег — то бярозка расце,
То не снег — матылёчкаў сямейка.

То не шоўк — гэта рунь пад гарой,
То вясны маладой арнаменты,
То не скарб дарагі над зямлёй —
То праменняў бліщчаць дыяменты.

То не водгукі струн залатых,—
То жаўронак чаруе ратаяў;
Ён у спевах вясновых у тых
Харaство ніў-палёў усхваляе.

І, здаецца, не ў першы разок
Гэта шчасце вясна прынасіла.
Але вабіць вясновы дзянёк,
І насыціцца вока не ў сіле...

Мая радасць імчыць да нябёс,
Да бязмежных у далі паветак,
І раблюся я братам бяроз,
Ручаёў, матылькоў, кволых кветак.

Запалонен я песняй зямлі,
Загубіўся у ёй, як пясчынка.
Не магу ад яе адысці,
Як ад дуба малая галінка.

* * *

Кажа вецер-віхор: хвойкі, елі зламлю,
Загудзе на мяжы дуб магутны;
Падмяту гнілы ліст, я прастор аднаўлю,
Зажурчу рэчкай шэрай і мутнай.

На падмогу мароз затрашчыць паміж стрэх,
Па лугах і лясах загуляе;
Як кужэльны абрус, замігціць яркі снег,
І заслепіцца неба над гаем.

І карэнні раслін да зялёнай вясны
Хай ляжаць у зямлі пада мною,
Калі моцны яны, калі свежы яны —
На вясну закрасуюць красою.

Гэй, не бойся віхроў, маразоў і снягоў,
Хто адважны, трывалы, упарты!
А хто слаб — прападзе між балотных лугоў,
А хто слаб — таму бура не жарты...

## СНЕГ

Снег...
Падае,
Падае,
Падае.
Ткуць абрусы па зямлі
Рупна ткачыхі сівыя.
Лёгкай вясёлай грамадаю
Лыжнікі лес аплялі,
Мчацца удаль, як завея.

Снег...
Сеецца,
Сеецца,
Сеецца
На расцяробы, лугі
Праз невядомыя сіты.
Пожні, паляны, аселіцы,
Дрэвы, кусты і стагі
Раптам убраліся ў світы.

Снег...
Сцелецца,
Сцелецца,
Сцелецца
Па далячынях пасцель
На незлічоныя мілі.
Лыжнікі ловяць мяцеліцу,
Бег так імпэтна расце,
Быццам прычэплены крыллі.

Снег...
Кружыцца,
Кружыцца,
Кружыцца.
Свежасцю пахне абшар,
Свеціць пасрэбраны ельнік.
Скінулі лыжы і дужацца.
Вочы гараць, як пажар.
Кожны па вопратцы — мельнік.

Снег...
Носяцца,
Носяцца,
Носяцца
Лыжнікі ў мармурны дзень
Па мармуровым прастору.
Сціхла мяцеліца-злосніца.
— Хлопцы! разгон, як нідзе!
Хлопцы! Раз-два з касагору!

## СНЯЖЫНКІ

Сняжыначкі-пушыначкі
Ляцелі матылькамі.
Над хмызамі над шызымі
Дыміліся дымкамі.

Зіхцеліся, мігцеліся
У розныя калёры.
Драбнюткія, пякнюткія,
Як зoранькі, як зоры.

Насіліся, кружыліся
Над ціхімі палямі,
Даліначкі сняжыначкі
Пакрылі дыванамі.

Над ёлкамі, над хвойкамі
Спявалі спевы-баі:
«Мы хатачкі-палатачкі
Будуем тут у гаі.

Маленькія, міленькія
Дзіцяткі-птушаняткі,
Ляціце вы, скачыце вы
У светленькія хаткі!

Вушастыя, пушыстыя,
З драцінкамі-вусамі
Вы, зайчыкі-малойчыкі,
У хаткі к нам таксама!»

Сняжыначкі-пушыначкі
Спявалі песні-баі:
«Мы хатачкі-палатачкі
Будуем тут у гаі».

* * *

Зіхаціць, зіхаціць срэбны тур.
Гэта месяц цвіце на хваіне.
Ён укінуў у рэчку каптур.
Сее жэмчуг па роснай даліне.

Сіні цень, сіні цень ледзь паўзе
Пад цымбалы галін, пад трымценне.
А бяроза на белай назе,
Нібы ўскочыла раптам з пасцелі.

Плыве спеў, плыве спеў з далячынь
Праз шацёры пахучых прысадаў.
Ён палоніць святлом уначы,
Ён палоніць нязнаным загадам.

Як віно, як віно, хмеліць ён,
Кліча ў светлы жаўронкавы ранак.
У ім — былі старой ціхі стогн,
У ім — радасці новых вяснянак.

І на кліч, і на кліч я іду.
Спеў расце — усё бліжай і бліжай.
Агняцвет, самацвет шчырых дум
Я на нітку мелодыі ніжу.

* * *

Ад плачу птушкі невядомай
Я прачнуўся раніцой...
Гушчар драмаў на мшалай горцы
Пад туманістай імглой.

Вятрак пісаў крылом па небе
Сонцаграйны сказ вясны;
Сляпілі неба руні хмарак,
Нібы спозненыя сны.

Спяваў асвір над старай студняй
Роем з'юшаных пчалін,
Бярозка шастала ў аконца
Сотняй пальцаў рук-галін.

Жабрачкай дрэва выстаўляла
Чорны сук на стары плот.
Здаецца, во скранецца з месца
На жабрачы свой абход.

А птушка плача, на абшары
Кліча сонечны прамень.
Стаіць цяплынь, і пахне мёдам
Новы, ціхі, вешні дзень.



Апранута ў лісцях мядзяных,
Гучыць і шуміць на палянах,
Бушуе і бухае бура.
Прытуліцца шчыльна да дрэва,
Засвісне разгойданым гневам,
Аж бровы ад гневу зажмурыць.

Пад шызым плашчом-балахонам
З натугі закрэхча, застогне.
Ваюе з застоенай сілай.
З пагрозным і страшным імкненнем
Карчы вырывае з карэннем,
Бы казачны смелы асілак.

І пройдзе па рэчцы сталёвай,
Каб знішчыць старыя заховы
Ля дзікага гразкага броду.
Замеліць пясок, запытлюе,
Заглушыць выццё-алялюя:
Малітвы далёкага роду.

А хмары — сінь-чорныя хмары,—
Як дымныя ў небе пажары,
Задумалі грозную думу;
Пад небам вісяць, як абрус той,
Іх многа над полем, іх густа,
Аж прыкра ад іхняга тлуму.

Маланка пляце агнявіцы:
Па небу значкі-бліскавіцы
Пайшлі мігацець, сляпіць вочы;
А гэтыя бліскі без меры,
Як пісаны верш на паперы,
Чытае пярун і рагоча.

Любуецца рытмам і складам,
Любуецца музыкай, ладам,
«Трах-трах», раз і два — проста люба!
Ляскочыць, малоціць цапамі,
Агнёвымі сыпле снапамі,
Прыносіць камусьці загубу.

А хмары цямнеюцца болей
Над дзікім балотам, над полем,
Бы ноч над гушчарам імглістым.
І плача і жаліцца неба:
Лупцуе слязамі па глебе,
Лупцуе патопам дажджыстым.

І змеіцца рэчка жывая,
Паводка лугі залівае
У новай вясёлай гамонцы.
І мые, змывае абшары,
Балоты, загоны, выгары
Пад яркім, пад радасным сонцам.

* * *

Між бору, між балот, сярод лугоў, далінаў
Захлюпаны ляжыць стары абрыдлы шлях;
Кульгае жабраком удоўж гняздоў-хацінаў,
Паўзе, як слізкі вуж, па стоптаных палях.

А спіну яго ўсю паранілі калюгі,
Каменне, гразь на ім — паклажаю жуды.
Ішлі па ім вякі і людзі і звяругі,
Тут — косці, чарапы, драпежныя сляды.

Пад ціскам кол і ног, пад цёпканнем марудным
Балюча крэхча шлях, плюе крывёй-гразёй;
І заглушаюць боль лясныя перагуды,
І восень мчыць па ім з дажджыстай бараной.

Няхай ужо скарэй на хлюпкія абшары
Пасцягвае зіма свой ільдзяны граніт.
Няхай ужо скарэй маразам запажарыць,
На чорны шрам зямлі паложыць снежны бінт.

А за зімой услед паводка веснавая
Няхай прымчыць, як госць, на сонцавых санях,
Хай крыгі зазвіняць, хай рэчка загуляе,
Хай змые бруд зямлі і выкупае шлях.

Хай тысячы людзей вязуць сюды каменне,
На многа вёрст вакол хай пойдзе грук і стук.
Лапаты заблішчаць пад гранне светаценяў,
Адзене шлях стары магутны гулкі брук.

Абапал ля канаў зялёныя прысады
Хай лічаць тут вярсты па сто, па сто, па сто.
На радасць для людзей тут пойдуць доўгім радам
На мякка-пругкіх шынах срэбныя аўто.



О, хочацца скарэй забыць сляды стагоддзяў,
Пад спевы яркіх дзён забыць жуду гразі.
Хай новы кліча шлях ў адноўленай прыродзе,
Бы ў яркі сакавік зялёны кліч азім.

## ЗІМНІК

**(пейзаж)**

Па зімніку проста
Ідзеш да ракі.
Сівеюць усюды
Карчы і сукі.

Завалены снегам
Абшары балот.
На белых разлогах
Лаза, нібы дрот.

Альшэўнік без лісцяў
Задумны такі;
Галіны, як жылы,
Плятуцца ў кручкі.

Блішчыць палітура
Па гладзі зямлі.
І гурбы-мядзведзі
Шыр-даль аблеглі.

Замёрзла зыбуха,
Застыгла дрыгва.
Прытоптаны к нізу
Чарот і трава.

Сярод азярынаў
На коўдрах снягоў
Пралажаны трэлі
Да белых стагоў.

І трэлі плятуцца
Туды і сюды,
І хочуць схавацца
Ад белай жуды.

Няма дзе схавацца,
Мароз аж пячэ.
Ён голаў аб хвоі,
Бы камень, таўчэ.

І снег на галінах,
Як сала, як сыр.
Ідзе ў пуць-дарогу
Асілак-пастыр.

Ідзе ён, ідзе ён —
На месцы стаіць,
Лес, стоячы, дрэмле,
І дрэмлюць стагі.

А ціш... Сваё сэрца
Ты чуеш у ёй.
А птушак нідзе тут
Над снежнай зямлёй.

Пад лёдам празрыстым
У зычнай труне
Ляжаць таямніцы
У рэчцы на дне.

А рэчка пад лёдам
Свая — не свая.
Чужыя ёй хвоі,
Чужая зямля.

Плынь рэчкі не кіне
Імпэтна цябе,—
Ідзі, як па мосце,
Па гладзі яе.

Направа, налева
Таўчэцца крышталь.
Нябёсы з зямлёю
Сшывае шыр-даль.

Туманяцца далі,
Іскравіцца дол,
І круціць і верціць
Віхура вакол.

У шэрай спадніцы
Імглы ільдзяной
Галосіць, скаголіць
Галоднай ганнёй.

На хвоях высокіх
Кудзелю прадзе,
А хтосьці мяцёлкай
Паляны мяце.

І пыліць, і трусіць,
І сее муку,
Качаецца, стогне,
Ляжыць на баку.

На сумных пустэчах
Пякуць пірагі,—
Вялізныя булкі —
У горы-стагі.

І кашляе пушча,
Ад сцюжы хрыпіць,
І дрэва па дрэве
Іграе, скрыпіць.

І звон нейкі звоніць,
Гудзіць нейкі гул;
На снежным прытуле
Брыдзе непрытул.

Штось мелецца ў лесе
Між жорнаў на мак;
Малоціцца нешта,
Дрыгочыць таптак.

А бліскі сняжынак
Варожаць абшар,
Бы кветкі, шчакочуць
І вочы і твар.

## ПАВОДКА

Над нябеснымі загонамі
Нехта буйна забуяніўся —
Барадаты, залаты.
А паводка гучна-звонная
Пеніць рэчкі бурна-грайныя,
Ліжа бурыя кусты.

Ззяе-грае сіва-сіняя,
Поле, пушчу вабіць вабамі,
Сыпле пэрлам жмут у жмут;
Пад аскобленай асінаю
Карагодзіць хмельнай бабаю,
Люстрам бразне ў кожны кут.

Вербы нізка нахіляюцца.
На галінах соскі кволыя
Сонца смаглае сасе.
Крыга кручай разбіваецца,
Льецца ў полі песня вольная
На вясновай паласе.

Красавік смяецца сонейку
Пад жаўронкамі — пад граннямі
Лёгкакрылых балаўніц.
А паводка йдзе к сасонніку,
Аздаблёна вырнай раніцай,
Гэфтай зорных зараніц.

Хай ачысціцца зямеліца
Для сяўбы і для рунявасці,
Хай сплыве вада з гары.
Хто адважыцца-асмеліцца
Затрымаць паводкі жвавасці —
Той апыніцца ў віры.

## НАПРАДВЕСНІ

Аздобіў сакавік у златаблеск даліны.
Быў чысты, нібы шкло, абшар-прастор нябёс.
Сінь-даль адзела туль з сярэбранай тканіны,
Здалёку цёмны бор вяршалінамі трос.

Крыхтаў лядок — па ім брылі ласі паціху,
Сляды іх ног ляглі па зімніку старым.
Над імі граў прамень агнёваю арліхай,
І жаўранкаў званкі бразгулілі з гары.

Тут брыў сабе гусляр — вясёлы ветрык гулкі —
І пальцам, як струну, ён пробаваў дубок.
А воддаль на лужку свяцілася рачулка,
Ляжаў на ёй акном бурштынавы лядок.

Ля зімніка карчы цямнелі, як мурыны,
Як нейкая гання няведамых звяроў.
Блішчэлі, як крышталь, пад лёдам азярыны,
Туманілася ціш над каркам пустыроў.

Сцяжарні тут і там на ўзгорках лугавінаў,
Як дзіды, тырк і тырк у ціхі карагод.
Па лёдзе, па зямлі пякліся журавіны,
Бы кропелькі крыві на чыстым люстры вод.

Увосені да іх пад невады туману
Багністы страх балот не дапушчаў дзяўчат.
Ад воч і рук людскіх былі яны схаваны.
Па роўнядзі імхоў расло іх тутка шмат.

Празрысты быў лядок, як з павуціны сетка,
Як шыбіна ў расе — пад сонцам ён спацеў.
Пад жылістай лазой, дзе вадзяныя кветкі,
Углыбіні Вясна знайшла сабе пасцель.

Мяцеліцы Вясну надоўга пакаралі,—
Каб не трывожыла, накінулі дрыму.
Чырвоныя з брусніц былі на ёй каралі
І на жывых грудзях жылі усю зіму.

Разрэзаным грыбком разявіліся губы,
Усмешка расцвіла на твары ува сне.
Як брызгі малака, бялелі яе зубы,
Во зараз між расніц сінявы зрок блісне.

З-пад вадзяных лілей пажоўклых і дрыжучых
Чуваць быў лёгкі шэпт, дрымотны подых-гук.
З-пад залатой лускі, з-пад бурбалкаў бліскучых
Прыкметны былі ледзь абрысы ног і рук.

Яна прарвала сон, прабіла лёд рукою
І рассяваць пайшла пралескі па зямлі,
І зацвіла вясна ў праменнях над ракою,
І выраем удаль вяснянкі паплылі.

*

Так паляшук стары, жыхар глухой мясціны,
Казаў мне пра вясну і браўся за дуду.
«Не верыш — сам схадзі на тыя лугавіны!»
І жмурыў вока ён і гладзіў бараду.

## ЛЕТНІК

**(пейзаж)**

Па летніку грэбля
Вядзе да ракі.
Мільгаюць абапал
Сямейкі-кусткі.

Тут ветрык, як хлопчык,
Ківае, трасе
Бярозку крывую
У дробнай расе.

На купіце зыбкай
Тырчыць мухамор,
На шапцы чырвонай
Шмат беленькіх зор.

На ножцы бусловай
Сабачы грыбок
Уверх падымае
Свой жоўты чубок.

А порхаўка млее
Пучочкам-канцом
На моху ў гняздочку
Птушыным яйцом.

А яшчарка-цнотка
З агнём у вачах
У хованкі з жабай
Гуляе ў карчах.

Во зніклі-прапалі,
Няма іх нідзе:
Адна — паміж травак,
Другая — ў вадзе.

А вожык здалёку
Паўзе з-пад кустоў,
І яшчарку й жабу
Ён зглымзаць гатоў.

А з вожыкам жарты,—
Дык жарты з агнём,
У дужкі бярэцца
Ён нават з вужом.

А грэбля крывая,
Як той паясок,
То зверне направа,
То зверне набок.

І цягнецца цягам,
І жэрдкі — квах-квах!..
І сук часам шлёпне
Цябе па нагах.

І грэбля да броду
Цябе давядзе
І кіне ля рэчкі
Ў вялікай бядзе.

У рэчцы па пояс
Абхопіць вада;
Няма тут парома,
О, гора-бяда;

Пясок залацісты
Хрусціць паміж ног,
А рыбка мільгае,
Як месяца рог.

Тут кветкі, як зоркі,
Травіца, як пух,
А колькі пстрыкатых,
Крылатых пяюх!..

А далі якія —
Дымяцца, як дым...
Вунь хмарка харомам
Блішчыць залатым.

Вунь комін хацінкі
Ў аблокаў ланцуг
Уткнуўся, як шпілька,
Ў бавэльны фартух.

А далей смуткуе
Стагодні сыр-бор;
Густой барадою
Ён лезе ў прастор.

А дрэвы стуль вабяць
Дзесяткамі рук,
Па імені кліча
Няведамы гук.

І дуб табе — братам,
І хвойка — сястрой,
І цёткай — бярозка,
І ёлка — кумой.

* * *

Ні хмаркі адной. Гарачы дзень вясны.
Стаіць стромкі бор высокім шчытным тынам.
Жывіца-смала па зморшчынах сасны
Плыве ручайком — растопленым бурштынам.

Прайшоў тут сякач, з сякерай пагуляў,
Параніў на жарт красуню-баравіну;
І сок, як алей, цячэ аж да камля,
На верас цячэ з-пад самай сэрцавіны.

І хмеліць смала гарачы яркі дзень,
І радасць бярэ, што пахне так жывіца.
І над галавой жаўронак спеў вядзе.
І блізка чуваць дзіцячы смех крыніцы.

* * *

Гэй, на золак рана ўстаньце,
У полі трубіць гучны рог.
На зялёнай на палянцы
След расісты нейчых ног.

Зараз, зараз брызне сонца,
Вунь з-за рэчкі к нам плыве.
Чуем сонца на сасонцы,
Над травою ды ў траве.

У спяванні птушкі малай,
У журчанні ручаін,
У казанні хвойкі мшалай,
У ружовасці далін.

# III

## ВАЙНА 1914—1917

### МЯЦЕЖНІК

Смерць...
Бура...
Трывога...
Не йдзі...
Ой, не йдзі ты,
Асілак-юнача!
Бо перад табою
Страшная дарога,
Пагінеш...
Пагінеш...
Няйначай...
Пад небам імчацца чырвоныя коні,
Пярун з навальніцай
Рагочуць на гонях.
І страх
І дрыготы
Абшар абвілі,
Віхорыцца ўсё на зямлі...
І кроў...
І руіны...
Ой, горкая будзе, дзяцюк, твая доля! —
Смерць зрэжа касою,
Бы кветку-расліну,
Груган знясе косці па полі...

. . . . . . . . . . . . .

Пайду я!
Злавацца!
Хмялець!
Загарэцца!
Ўсім светам магу кіраваць я, здаецца!
Як пушчаны некім,
Імпэтнай стралой

Памчуся ўгару!
Над зямлёй!
Мне полымя!
Крыллі!
Я —
Сокалам вольным у тыя абшары,
Дзе громы ў высотах пуціну прарылі!
Сусветнасць
Я кіну ў пажары...
Хай граюць,
Буяюць
Віхровыя хвалі!
Хай плачуць,
Хай скачуць —
Ім вольніцу далі.
А мора мяцежнае —
Маткаю мне.
А бура —
Ў грудзях у мяне.
Я — гнеўны паўстанец!
Я — вольны мяцежнік!
Я — славай кірую!
Я — сонечны воін!
Я — гром-зоратканец!
Я — з цемрай вячыстай ваюю!
Я — волю ■ жалезных клыкоў вырываю!
Я — гнеў гарапашных!
Я — злосць агнявая!
Я — помста
За здзекі,
За кроў,
За шмат слёз!
Мне — крок
Ад зямлі да нябёс!
. . . . . . . . . . .
Памчаўся
Далёка...
Прапаў...
І не вернецца смелы
Ніколі!..
Яго не ўбача ўжо матчына вока...
І грудзі парвуцца ад болю.
Яму за адвагу
Пахвалы не трэба.

Яму шлях бунтарскі —
Зарніца у небе.
Ён —
Шчасце,
Ён —
Мара
Адважных людзей.
Ён — песня
Старых і дзяцей.

## АД КРЫВІ ЧЫРВОНАЙ

Ад крыві чырвонай фарбаваўся Нёман.
Гаціліся гаці з трупаў па вадзе.
Дзікі свіст і бразгат. І выццё і гоман.
Бітва, як ніколі... бітва, як нідзе...

Людзі, коні разам гойдаліся ў сечы,
Малаціў галовы алавяны град...
Вочы непрытомны. Крык нечалавечы.
Смерць прымала строга жудасны парад.

Затуманіў неба шыза-дымны порах.
Жорлішчы гарматаў кархалі агнём.
Ціхія сялібы нішчыў «свой» і «вораг».
Працу, пот гаротных панясло віхром.

У зямлі глыбока рыліся шрапнелі,
Над зямлёй высока віўся самалёт,
Чорным шумным стадам груганы ляцелі, —
На крывавым полі ладзілі свой злёт.

Груганню спажыва вельмі ўжо багата.
Трунак хмельны льецца хмельнаю ракой.
Ой, крыві залішне. Ой, крыві занадта,
Ажна ахмялелі, патанулі ў ёй...

## НЕ МЫ...

Не мы выпівакі
На гэтым на балі,
Не мы граем вальсы
На жудкіх цымбалах,
Не мы захацелі
Крывавай забавы,—
А дзікая зграя.
Аднекуль з вяршалін
Пачуўся шэпт-шолах,
Аднекуль заслепіў
Паганы дым-порах
Над краем.
Не мы вінаваты,
Што кроў пацякла.
Не мы вінаваты,
Што гібель прыйшла.
Не мы...

## ВАЙНА

Ад людскіх ад трупаў нівы пасыцеюць;
Буйны град з жалеза хлыне на зямлю.
Ад крыві гарачай скалы памякчэюць.
Смерць пачне ігрышча, дзікую гульню.

Пойдзе вой на воя, пойдзе брат на брата;
Так удзень да ночы, уначы да дня.
Будуць, як ніколі, пошасці багаты,
Будзе, як ніколі, дзікая разня.

Ад разрыўнай кулі бацька з крыкам ляжа,
Апаганяць жонку, возьмуць у палон.
А далей што будзе, час сляпы не кажа,
Пакуль што на свеце толькі плач і стогн.

* * *

І будзе на палях трывожная работа.
І будзе працы шмат на гонях, на шнурах.
І не паможа тут гультайства, неахвота,
І не паможа страх.

Спякота або дождж, пагода — непагода,—
Ты вырваны карэнь з радзімай стараны.
Ты вырваны з гнязда — не трэба тваёй згоды —
Пагналі бізуны.

Давай зямлю араць гранатамі тым часам,
А тысячамі куль пасля баранаваць,
Гнаіць крывёй людской і дымным цёплым мясам,
Штыхамі растрасаць.

І пойдзе так сяўба — жалеза і патроны,
І буйны колас-смерць пад сонцам зашуміць.
Пагібель будуць жаць — і пошасці і стогны,
Пакуту малаціць.

І дзень і ноч працуй — о, дзе спачын пасцелі?
З вачэй тваіх зірне шаленства каламуць.
Кашуля пагніе на адзічалым целе,
І чэрві загрызуць.

Зайграе на гумне агнёвае вяселле,
Замест вясновых руж захмеліць пах гнілля.
Над яблыняй вясной гарматная капела
Заменіць салаўя.

У яме будзеш жыць на многа міль ад хаткі,
І нават твой пясок разбурыць лётагуб.
А голад, як той воўк, у грудзі роднай маткі
Запусціць востры зуб.

## БРАТЫ

Два браты пайшлі ўначы
Цікаваць, дзе вораг.
Сцерагліся, ціха шлі,
Каб не чуўся шолах.

Два браты далей-далей
Сыпалі паволі.
Шалясцелі дзераўцы,
Цёмна было ў полі.

Два браты пачулі шэпт:
«Вораг нейкім чынам...»
І прыпалі да зямлі,
І прыпалі шчыльна.

Два браты сустрэлі тут
Ворага разведку.
І са стрэльбаў раз і два
Выпалілі метка.

Два браты стралялі так
На чужым загоне,
Аднаму пачуўся стогн:
«Гэта брат мой стогне...»

Два браты — давай назад.
Гора, а не надта:
Брат паранены ляжыць
На плячах у брата.

Брату ўпоцемках лягчэй
Вырвацца з бядоты.
На плячах цяжар жывы
Дадае ахвоты.

Брата брат нясе далей;
Млеюць ногі, рукі.
Трэба роднага свайго
Ратаваць ад мукі.

Брат пацее і нясе.
Кроў ільецца з потам.
Трэба брата данясці —
Палягчэе потым.

Брату цяжка. Зараз вось
Будзе адпачынак.
Да акопаў да сваіх
Прывалок хлапчыну.

Павіднела навакол.
«Што гэта за дзіва?» —
Родны брат астаўся там,
А на ім — праціўнік...

## АРЛІХІ

І луналі ў бяскраі
Сталёвыя дзве
Самалёткі-арліхі.
То былі не палёты, —
А ліха.
І —
Скрыгаты,
Рогаты,
Рыпаты,
Хрыпаты
У лёце.
То былі не палёты —
Страхоцце.
Бы гулі
Плоймы гулкіх
Вялізных чмялёў.
Аж аглохнуць маглі бы.
То былі не палёты —
Пагібель.
Яны
Бомбы кідалі
З гары —
З вышыні
Сотняў метраў.
Аж дрыжэла зямля
І паветра.
Грух і грух,
Грох і грох
На галовы людзей
І на спіны.
Што за страшныя, лютыя кпіны.
Непакоілі
Грудзі зямлі
Зусім новым,

Нязведаным страхам,
Непакоілі
Воблачным шляхам.
А гарматы
Зенітныя,
Нібы з вады —
З глыбіні —
Кракадзілы,
Падымалі насы што ёсць сілы.
І плявалі агнём —
Не траплялі
У магутныя крыллі.
Угару
Свой праклён гаварылі,
І ляцелі праклёны
Арліхам
У зычную летнюю просінь —
Нібы хмаркі-дымкі з папяросаў.
А тым часам
Арліхі мільгалі,
Бы уранні зарніцы.
Сваім гульням
Не знали граніцы.
Іх смяшылі
З зямлі
Алавяныя грозныя гукі,
Іх смяшылі
Смяротныя мукі.
Эх, стральцы вы,
Стральцы!
Вы страляеце знізу
Дарэмна!
Хіба толькі на жарт
Ды нікчэмны...
Што ім значаць —
Асілкам —
З зямлі
Прытка-лёгкія пчолы?
Лепей кіньце —
Не выйдзе нічога!

. . . . . . . .

Але
Раптам,

О, шчасце,
О, лебедзік-шчасцейка,
Дзе ты?
Тым арліхам
Змяніла планета...
Нешта
Крыллем круць-верць...
Нешта
Цягне на пругкую глебу...
Ім апрыкрыла яснае неба?
Гэтак падае ўніз
Злы груган
На слабую афяру.
Так кідаецца
Воўк
На атару.
Ой,
Упалі
З высот!
Пацямнелі
Сталёвыя
Блескі...

Разляцеліся
Крыллі
У трэскі.
Аграмады абломкаў
Уткнуліся
Ў пухкае поле —
І з зямлі
Не паднімуцца болей.
Нежывымі ляжалі пілоты —
Адважныя людзі.
Пакалечылі
Твары і грудзі.
А наводчык-стралец
Паглядаў на здабычу
Паволі,
Нібы ведаў заране
Іх долю.



...І сотнямі тысяч
Ратаяў ляглі там,
Гніюць у зямлі без пары.
Каго баранілі,
Каго яны білі —
Не знаюць і самі яны...
Дубы маладыя,—
Краса і надзея,—
Падрэзаны вострай пілой,
Вясновыя кветкі
Зялёнага поля
Сарваны крывавай рукой.
І маці старая
Б'е грудзі аб камень.
І корчыцца з плачу стары.
І ластаўка так
Над разбітым гняздом
Канчаецца з плачу.

## ЮДА ЖЭНІЦЦА...

Юда жэніцца на полі,
Маладуха яго — смерць.
Злыдні носяцца ў раздоллі,
Ладзяць гульні — круць і верць.

Гэй, бярыся, зух, у бокі!
Жвава рухайся, народ,
Ў заварожаныя скокі
Сып, ідзі, шалёны зброд!

Пустамельны прапаведнік,
Купчык — важнаю гарой,
Бочак золата наследнік,
Клічце кліч у стройны строй!

Ў карагод у свой пякельны,
У разгойданы віхор
Зацягніце цягай хмельнай
Плойму цел у сотні гор.

Замест він у коўш атруту
Лі з ачумленых катлоў!
Слёз, крыві, хвароб, пакуты
Не шкадуе душалоў.

Хтосьці ўпрысядкі на цыпках
Дробным крокам прабярэ,
Хтосьці гіцлем дзікім цыкне,
Вышэй галаў задзярэ.

Кінь свой сорам, чалавеча!
Чэсць сваю не сцеражы!
Бо раз'юшанае веча
Тут не ведае мяжы.

Чалавечыя законы
Тут не хочуць панаваць.
Болей мукаў... Болей стогнаў...
Болей жыццяў перарваць...

Няма сэрца. Няма жалю.
Няма людскасці ў душы,
Бо ніжэюць смерці шалі,
Звер пануе — так пішы.

Хтосьці плача, хтось смяецца,
Шле праклёны на прастор.
І гуляе ў ліхалецце
Незакелзаны віхор.

Мора полымя і крыкаў,
Мора слёз, крыві, касцей.
Нейкі страх і гнеў вялікі.
Гэй, у скокі! Гэй, хутчэй!

Юда жэніцца у полі,
Маладуха яго — смерць,
Злыдні носяцца ў раздоллі,
Ладзяць гульні — круць і верць.

## ШАТАН СМЕРЦІ

Над зямлёй лунае чорны шатан смерці,
На кані крылатым перуном грыміць.
Неба запалала, неба разарвецца,—
А зямля ў трывозе, як дрыгва, дрыжыць.

Над зямлёй лунае жудасная смага,
Туманом вільготным ахапіла свет.
Злыдні разгарнулі цвета ночы сцягі;
Смерць касою піша мсцівы свой завет:

«Кроў, агонь і гібель на палі-абшары!
Стогн, кананне, трупы — асалода мне.
Мне, як сведкі, служаць страшныя пажары,
Трупы-галавешкі ў непрабудным сне.

Чалавек няшчасны, выпі коўш паўнюткі!
Гэй, хутчэй за працу, гідкі, дзікі кат!
Кроў, агонь і гібель, запануйце хутка!
Забівай адважна брата свайго, брат!»

* * *

То не хаты, а курганы.
То сляды вялікіх станаў.
То не дрэўцы на мяжы —
Крыжы... крыжы...

Адзінокія магілы,
Маладыя нашы сілы.
Стрэл глушыў апошні стогн —
І сон... і сон...

Сонца — сэрца па-над гаем.
Сіні вецер тут гуляе.
Уначы сава-пугач
Ў плач... у плач...

Нібы серп з чырвоным кантам,
Свеціць месяц на курган той.
Зорка зорцы на мігі:
«Зірні... зірні...»

І куды ні кінеш вокам,—
Ці то блізка, ці далёка,—
Свет курганамі багат.
Іх шмат... іх шмат...

## СУХАВЕІ

Скачуць-плачуць сухавеі.
Стогне поле. Рэчка млее,
Апаўночы ўсходзіць сонца —
То пажарышчы ў староцы.
Стрэлы, смерці адгалоскі —
Бежанцы брыдуць па вёсках.
Плуг сталёвы з'есць іржа,
А сялібу з'есць пажар.

. . . . . . . . . . .

Скачуць-плачуць сухавеі.
Па шнурах ваўкі завылі,
У самотнай сумнай далі
Шмат магіл параскідалі.
Ходзіць голад па дарогах,
Гоніць пугай гурт убогіх.
І канца вайне няма.
Цэлы свет — адна турма.

. . . . . . . . . . .

Скачуць-плачуць сухавеі.
Хто зямельку пажалее?
Эх вы, людзі... эх вы, людзі...
Што вы робіце? Што будзе?
Ці то ўвечары, ці ўранні
У вачах адно пытанне:
Тры гады ўжо праплылі...
І калі канец, калі?

* * *

Ты слязамі і крыжамі
Адзначаў пакутны шлях.
Гнаўся голад, гнаўся холад,
За табою гнаўся страх.

І старыя і малыя
Уцякалі хто куды,
А пажары па абшарах
Нарабілі шмат бяды.

Ад краіны да краіны
Разбрыліся ўцекачы.
Стогн нядолі ў пустым полі,
Стогн удзень і па начы.

І баракі для прымакаў
Будавалі ў гарадах.
І капалі дзе папала
Долы-ямы ў пустырах.

Маці лямант па-над ямай:
«Ой, і жыў ты, як не жыў...»
Эх, занадта, забагата
Тут раслі твае крыжы...

А ў мацнейшы, адбарнейшы
У акопах дзесь гніе.
Па ім кулі спевы-гулі
Там заводзяць на вайне.

## У ЗІМОВУЮ НОЧ

Дзе зямля тут? Неба дзе?
Вее з вышкі. Вее з долу.
Гурба — дуба. Гурба йдзе,
Затуляе шыр падолам.

П'яны мельнік — сівы дзед
Курадыміць з белай мшары,
Замятае тут жа след
Па аслепленых абшарах.

Хтосьці водзіць нейкі звод,
Нейкі лямант сярод ночы.
Хтосьці ладзіць карагод,
Кружыць кругі ў твар, у вочы.

Ты, малое, спі цяпер,
Нікуды жа не ідзі ты.
Белы снег, як белы звер,—
Ім жа будзеш ты забіты.

Не ідзі жа пад віхор,
Юлька-краска, з роднай хаткі:
Там угледзіш ты шацёр,
Там пачуеш голас маткі.

Там зазвоніць — нібы звон,
Там заззяе — нібы ззянне.
Не ідзі туды на згон,
Не ідзі туды на гранне.

Прабяжыш там, прабяжыш
Трое межаў, трое гоней.
Вось стаяла — вось ляжыш.
Над табою бор зазвоніць.

Бор зазвоніць над табой,
Ты пад звон той заначуеш.
Снег насыплецца гарой —
Не пабачыш, не пачуеш.

А у хатцы, бач, тапчан,
На тапчане тым бабулька,
Да дзяўчынкі кажа: «Глянь,
Кот свой тварык мые, Юлька!»

На пяколку шэры кот.
«Ён чакае падарожных».
І бабулька сцяла рот,
Штось не спіцца. Штось трывожна.

У куточку вунь партрэт
Генерала ды старога.
Свеціць вока, эпалет,
Нос — цыбуля, вусы — рогі.

Важны, строгі знак вайны,
Важны, строгі генерал той.
«Вось якія, вось яны,
Што забралі сына гвалтам!»

Генерала рваць даўно
Ўсё хацела, ды баіцца.
«Вось дзе гора, вось яно!
Ах ты, злодзей! Ах ты, гіцаль!»

А газніца то блісне.
Асвячае бляскам хату,
Кветкі, траўкі на акне
Дзіўнай фарбай так багаты.

Бы галінкі рэчных лоз,
Бы лілеі з дыяменту,
Лье краплінкі дзед-мароз,
Не шкадуе атрамэнту.

Вось газніцы аганёк
Змеркне дымам на хвіліну,—
Атуляе цень куток,
Атуляе ўсю хаціну.

На пяколку кот сядзіць,
Паглядае на закуткі.
«Ой, бабуля, ой, глядзі...
Енерал той, як жывюткі!..

Як жывюткі... далі пані! —
Кажа Юлька: — Ці вы чулі?»
Скача з жаху на тапчан
На ратунак да бабулі.

— Ляж ты, дзеткі, ува сне
Не пабачыш гэтай цэры!
— Маці цукру прынясе
Ад таго ад афіцэра...

— Ляж, унучка, тут пры мне
Будзе добра, цёпла спаткі.
— Мой татуля на вайне.
Прывязе гасцінец татка...

— Маці збегла з казаком,—
Кажа бабка,— дык маўчы ты.
Родны тата пад агнём
У акопах спіць забіты...

Юлька плача. Спаць пара.
Кот мурлыча на пяколку.
— Бабка, бабка, енерал
Зноў пужае страшным вокам!..

— Прыкусі лепш свой язык,—
Юльку бабка сунімае.
За сцяною нейкі зык.
— Хай была б ты лепш нямая!

І бабулька крыж кладзе:
...Мо хоць гэта ды паможа?..
«Гора едзе на бядзе...
Так трывожна і трывожна...

Дзе пакіну сірату?
Злая сіла пакарала»...
І глядзіць на пустату,
На благога генерала.

А газніца — блясь і блясь:
Цень кідае або ззянне.
Злосным вокам кожны раз
Генерал са сценкі гляне...

# IV

# З ГОДУ Ў ГОД

* * *

Нас пакута гартавала,
Гора сілы дадавала.
Нас паліла сонца ўдзень,
Халадзіў уночы цень,—
Мы надзеі не кідалі,
Мы ішлі, бо звалі далі.

Рагаталі буры-ветры,
Сустракалі процьмы-нетры,
Ваўкі вылі па лясах,
Нас пужалі ў пустырах.—
Мы ішлі, не знаді страху,
Каб не збіцца хоць са шляху.

Так ішлі мы без аглядкі,
Карчы рвалі нам апраткі,
Ногі раніў да крыві
Камень, кінуты людзьмі.—
Мы прыйшлі, прыйшлі ў старонку
З ночнай цьмы ў ззянне сонка.

## ВОЛЯ

Песня волі заве па гарах і далінах —
Навальніца-віхор па стагодніх барынах.
Па халупах старых, па забытых кутках
Згінуў страх, згінуў страх.

Скінуў вечны ланцуг сын бяды, сын няволі.
Ён пайшоў грамадой супроць ворага ў поле.
Пад агнёвы штандар,— хто ў пакуце-бядзе,—
Ён ідзе, ён ідзе.

Па харомах вяльмож і царкоўных званіцах
Анямеў п'яны спеў і патухлі агніцы.
Шпег дрыжыць, кат маўчыць — ім так прыкра
жыццё:
Страхаццё... страхаццё...

Паратунку няма у глыбокіх у нетрах.
Не прымае зямля, помстай пахне паветра.
І адплата ідзе пад агнём, пад віхром:
Бухнуў гром, бухнуў гром...

## У КУЗНІ

Звініць, звініць
Праз ночы, дні.
То молат-зух
Так дзынк і дзынк,
І дзьмуць мяхі.
Агні. Агні.
Не гром. Не стрэл,—
Кавадлы зык.

Як сонца — сталь.
Іскрыцца сталь.
О, дуж каваль!
О, дуб каваль!
Ён стукне — раз!
Ён стукне — два!
Эх, маладзец!
Эх, галава!
І бразь! І бразь!
І грох! І грох!
Араць —
Куе
Нарог.
Вуглі гараць —
Як гнеў, як злосць.

Гэй, шмат работ!
Гэй, працы шмат!
Аж абцугі
Трашчаць, бы косць.
Каваль пяе.
Каваль так рад.
А люд вакол —
Плячо ў плячо.
Ці вер — не вер
Сваім вачом.
Напор грудзей.
Узмах рукі,—
Таму сярпок,
Таму цвікі.
І грук! І стук! —
Адна краса!
Касьба —
Касцу
Каса.

І круць і верць
Туды-сюды —
Тачыла рве
Луску іржы.
Няма бяды.
Няма нуды.
Наш люд жыве,
Наш люд зажыў.

Каваль, тут днюй!
Каваль, начуй!
Сякеру дай!
Дай секачу!
Чакае люд
Каля дзвярэй.
Гартуй скарэй!
Старое прэч —
Плыве ў нябыт.
Сяўба —
Сей
Новы быт.

Гады, вякі
Ідуць на злом.
На змену ім —
Вось новы дзень.

Ля кузні сход —
Як буралом.
Вясёлы дзень,
Увесь — прамень.

Куюць-куюць тут
Для грамад.
Даюць-даюць тут
Шмат прылад.
Бярэ малы.
Бярэ стары.
Бягуць бягом
На пустыры.
Гатова — ідзі!
Пайшлі! Ідуць.
Будуй!
Ты не
Марудзь!

## ЗАХОДНЯЙ БЕЛАРУСІ

На руінах-папялішчах,
На крывавых на ігрышчах
Банкетуе пан.
Кат гуляе ў нашым краі
І жыццё перарабляе
У курган.

І няма ратаю рады.
Ад ганебнай дзікай здрады
Страціў волю ён.
Не спявае — ціхім стаў ён,
Толькі звоняць путы з сталі —
Звон і стогн.

Гэй, ачніся, люд-саколе!
Ты на панскім на раздоллі
Запалі агні!
Ты у пушчы збірай веча
І свой гонар чалавечы
Барані!

## ХТО ГЭТА ІДЗЕ?

Ой, хто гэта ідзе
У вопратках чырвоных,
З адвагаю ў грудзях,
З сякераю ў руках?
Кіпіць у жылах кроў.
Агні ў вачах бяздонных.
Адным прыносіць смех.
Другім прыносіць страх.

Ой, хто ляціць шыбчэй
Вятроў, віхроў, грымотаў,
Бы шугануў сыр-бор
На вольны на загон?
Пальецца кроў ракой,
Пальецца кроў у ахвоту:
Асілак спешна йдзе,
Ён звоніць гучна ў звон.

Дрыжы, магнат-сатрап!
То раб разбіў кайданы.
Пусціўся ён у свет
Да сонца і да зор.
Ён спаліць, як агнём,
І здзекі і абманы:
Засвеціцца зямля,
Ачысціцца прастор.

Нясе ён волю ўсім
Пакрыўджаным народам,
Нявольнікам зямлі
Нясе ён лепшы лёс.
Імчыцца на кані:
«Гэй, парабкі, на сходы!»
Ён славаю грыміць
Ад нізу да нябёс.
То — працы вечнай сын.

То — сын жуды-нядолі
Паганаму жыццю
Паставіў рубяжы.
Змагацца ён пайшоў
З агідай злой у поле,—
Дрыжы, груган, дрыжы!
Дрыжы, сатрап, дрыжы.



З палаючых квятаў-агнішчаў,
З крывавых, грымотных ігрышчаў
З узгор'яў-курганаў сталёвых,
З асілкаў-маякаў дубовых,
З сям'і навальніцаў-віхораў,
З пявучых, міргаючых зораў —
Радзіўся бунтар.

І словы яго цудадзеюць —
Ад іхніх грымотаў хмялеюць.
І водгук яго — водгук мора —
Калыша даліны і горы.
І сонечнай воляй натхнёны,
Магутныя піша законы
Вялікі бунтар.

Асеннім гнілішчам — старое,
Вясновым растком — маладое.
Аджыўшае — совы, кажаны,
Густыя гнілыя туманы;
Раджонае — сокалам-птахам
Лунае над горным над гмахам
Віхораў і бур.

Рукой мазалістай, жылістай
І молатам зычным, іскрыстым
Арліныя песні куюцца,
Гартуюцца, горда пяюцца,
Гудзяць сямізвонным металам,
Буяюць зварушаным шквалам,
Іх подых — агонь.

Бухтарацца моцныя грудзі.
Як мора, мяцежныя людзі,
Праменіцца вока бясконца,
Шыбае да самага сонца,
Дзе новая праўда мяцежыць,
Дзе новае неба бязбрэжыць
Над новай зямлёй.

## ПЯТАЯ ГАДАВІНА КАСТРЫЧНІКА

Паўдзесятка летаў,
Паўдзесятка зім
Вулканамі гарацць
На рубяжах двух светаў,
І плыве ў хаціны
Пераможны гімн,
Нябёсамі для нас
Знамёны з мака-цветаў.

Проціў нас паўсталі
Ворагаў палкі.—
Мы чысцілі іх след
Вяхоткаю сталёвай.
Хвілямі і днямі
Ідзем мы праз вякі,—
Мы ў будучыню йдзем
Насустрач долі новай.

## АРАТЫ

Панясу кавалю
Скарб-саху я сваю.
Ён ачысціць нарог
На вялікіх агнёх.
Молат гучна грымне —
Ржа-луска адпадзе.
Скарб-саха, не на жарт,
Будзе мець моцны гарт.

На шнурах-пустырах,
На здзічэлых палях
Буду глебу раўняць,
Буду поле араць.
Шыр запахне раллёй,
Жыватворчай зямлёй.

Там, дзе страхі былі,
Дзе гарматы раўлі,
Там, дзе смерці садом

Папяліўся агнём,
Дзе дыміла расой
Чалавечай крывёй,
Пад стагнаннем зямля,—
Пойдзе праца мая.

Што прайшло, то — нішто,
Я ўзмацнею ў раз сто.
Загарыцца ў грудзях,
Заіскрыцца ў вачах.
Устрахну галавой,
Узмахну я рукой,
Запяю з зор да зор
На бязмежны прастор.

## ВОЛЯ

Трупы ляжалі, як горы.
Стогны плылі на прасторы.

Воўкам агнёвым пажары
Вылі на нашых абшарах.

Над папялішчамі смела
Воля на крыллях ляцела;

Горнай арліхаю славы
Ляцела яна над дубравай;

Волатам юным у зброях
Дух падымала ў боях;

Коннікам ранняй зарою
Вабіла вока людское;

Бурай-віхорам над глебай
Снеў падымала да неба;

З хваль выплывала агніцай;
З неба свяціла зарніцай;

Бедных надзеяй карміла,
Люд у бядзе весяліла;

Клікала ў бой на змаганне,
Клікала з рання да рання.

Гімнам варожыла сэрцы:
«Смела! Не бойцеся смерці!»

## МАЛАДОЙ ГВАРДЫІ

Агнёвыя віхоры вам песні гучна пелі,
У музыцы гарматаў вы казачнараслі.
Вас гадавалі грозна віхровыя капелі
На збуранай зямлі.

Вы ў рытмах вольных спеваў купаліся, бы дзеці,
Глыталі вокам чырвань мяцежніцкіх сцягоў.
І вырваліся гнеўна з вулканаў ліхалеццяў,
Бы мора з берагоў.

Вы рынулі з падвалаў мазольнага бяздолля,
Вы ў полымя бароцьбаў ішлі адной сям'ёй,
З юнацкаю адвагай работалі ў падполлі,
І кожны з вас — герой!

Як вёскі ад бандытаў і плакалі і вылі,
Як стрэхі зашыпелі у жудасным агні,—
Вы мкнуліся грамадай у пушчы векавыя
Краіну бараніць.

Рука паганца-пана капала вам магілы;
У бітвах партызанскіх загінула вас шмат.
А смерць за волю бедных загартавала сілы,
Мацнелі вы ў стократ.

Гарматнае вяселле заціхла на абшарах,
Бандыцкія ігрышчы загінулі ў палёх.
Ваш дух юнацкі, бодры над краем запажарыў,
Вы затрубілі ў рог.

І закіпела праца на новым мірным фронце.
Куды ні глянь — усюды ваш слаўны карнавал.
Руйнуе ўсё старое у звольненай старонцы
Ваш бурна-гучны шквал.

Сяйбіты сонца вы. У вёсках перад вамі
Званічны гук магілы плыве, імкне ў нябыт;
Вы будучыню смела схвацілі абцугамі,
Стварылі новы быт.

Вы седзіцё начамі над строга-мудрым Марксам,
А вочы маладыя — гарачыя вуглі.
Палётам дум юнацкіх узносіліся к Марсу,
А працай — ў глыб зямлі.

## КРЫЛАТЫЯ МАШЫНЫ

Во зараз, во зараз, во зараз
Пабачыце казку-праўдзівасць:
У сонечным вечным пажары
Задзівіцца дзіва.

Во феніксаў дваццаць міфічных
Сталёвай сям'ёю прыгожай
Пад стукат, пад грукат стозычны
Даль-высь заваражаць.

Во крыллі трапечуць нервова,
Маторы абшарам запелі.
Во клічуць сто віхраў з заховаў
Прапелеры смела.

Машыны аж глушаць паляну,
У вырай рой феніксаў рвецца,
Чакайце, чакайце — зарана,
Стрымайце імпэт свой!

Пілоты глядзяць у бяздонне,
Рулі абхапілі харобра.
Крылатыя борздыя коні
Закілзаны добра.

Гэй, гэй! Шарахнуліся птухі...
Крануліся з месца сурова.
На полі імчыць завіруха
На колах гумовых.

Пырх-пырх — і паляна пустая.
Ляцяць. Чуць ухопіш іх вокам.
Над полем, над рэчкай, над гаем
Ой, ой, як высока...

Імчацца, імчацца, імчацца
Над пухкай, над снежнаю хмарай.
Сталёвыя гулкія раці
Глытаюць абшары.

Драбнее, драбнее, драбнее
У сіняй пустэлі дружына.
Баечныя цуды-пігмеі,
У небе — крапіны.

У абоймы стыхіі з размаху
Памкнуліся з прагнай ахвотай.
Не ведаюць сполаху-страху.
Гэй, слава пілотам!

То робяць круць-верць у паветры,
Кульгаюцца ў сінім прасторы.
Нырцы задаюць на шмат метраў;
Бліщчаць метэоры.

Во, во, упадуць, як Ікар той,
Насмерць разаб'юцца ў хвіліну.
Падняліся зноў. Гэта жарты —
Жартуюць машыны.

Зноў пырхаюць, глушаць бязбрэжжа,
Імчацца блакітнай дарогай.
Нябёсам кідаюць мяцежны
Нястрыманы рогат.

## БЕЛАРУСЬ

### I

Цябе вякі, як мумію, спавілі
Папоўскай цьмой і панскім бізуном.
Ляжала ты стагоддзямі ў магіле.
Не знала дня, святла тваё акно.

А над табой жрацы, бы ў ночы совы,
Спявалі кант і жудасна гулі.
Выцдё званіц глушыла шум дубровы,
Задушак шэпт палохаў шыр раллі.

Касцёл, царква жар-сонца затулялі,
Туманіў мозг вядзьмарскі забабон.
А здзек-груган з высотаў, знізу, з даляў
Ірваў твой спеў — «мужыцкі», «хамскі» стогн.

Страшным судом цябе званар палохаў,
А бізуном — агідны пан ліхі.
Ў нядзельны час бядак крахтаў і вохаў —
Грашмі ў царкве замазваў ён грахі.

Як п'явак жмут, смакталі кроў бажніцы,
А гандляры — як стада, плойма хмар.
Радзіны, смерць, хаўтуры ці жаніцьба —
Два махляры пры гэтым: поп, карчмар.

Застыла ты, як той вулкан, знадворку,
Малілася «за душачак дзядоў».
Была ты ўся курганам-лысагоркай,
Музеем цьмы пазгубленых гадоў.

А пад страхой пад шматвяковай світкай
Кіпела кроў бунтарская ў грудзёх,
Хоць гнулі ў крук, цягнулі жылы ў ніткі
Здзіракі тры: і пан, і цар, і бог.

Прыгоннік-раб загартаваўся ў полі;
Ўся Беларусь абросла мазалём.
А цёмны лес русаліўся аб долі,
Трывожыў сны падземны буралом.

II

Праз грукат-крык сусветнай дзікай бойні,
Праз груды цел, праз алавяны стогн,
Праз пустыры разрытых родных гоней,
Праз мора слёз, пра царскі трухлы трон,

Праз дым, пажар магнацкіх гнёзд прынадных,
Праз стогн, праз гнеў і праз бяссілля злосць
Паноў, мяшчан пры керанштчыне здраднай
Да нас прымчаў Кастрычнік — слаўны госць!

Бы Святагор, вядомы з казкі сівай,
Ён родны край перагварыў у дзіў;
Свабодны гімн запеў на рабскай ніве:
Ён прышлы час, бы казку, спарадзіў.

Як геній зор, Кастрычнік зірк у сенцы —
Пакіраваў свой бег усцяж назад,
Еўропа — стук панамі ў акенца:
Ты адчыні ім браму, хоць не рад.

У першы раз — Вільгельм тут еў сняданне,
У раз другі — Пілсудскі зводзіў звод.
Буржуй быў рад: «Пануй жа тут, мой пане»,—
І піў да дна атруты коўш народ.

Сярмяжны гнеў як бухнуў буйнай бурай —
Пачалі мсціць дзяцюк і стары дзед.
Магнат дрыжыць, трасецца яго скура:
Шмат вілаў, кос забразгалі ў багнэт.

Таіў наш бор спяванне партызанаў,
Таіў кляцьбу — прысягу пры агнях.
Бор знае моц савецкіх камандзіраў,
У зброі ўсе, з адвагаю ў грудзях.

Паўстанчы край і вечарам і ўранку
Глядзеў на смерць, на груды цел, на кроў,
Зрываў з паноў арлістую «пазнанку»
І спраўдзіў сказ — паданне гусляроў.

Кастрычнік зноў наводзіць лад у хаце:
Працоўных друг і рупны гаспадар.
Пануе ўсюль асвета, творчасць, праца,
Макцветны сцяг шатром абняў абшар.

Іржу вякоў скрабе наш вой чырвоны,
Зрывае з воч халопскую луску.
Штыхом, мячом запісаны законы,
З якіх карысць усюды бедаку.

Замест каляд, Кастрычнік піша эру:
Сусветны Май — наш пралетарскі фэст,
Замест «святой» часоў паганскіх веры —
Здабылі мы Камуны маніфест.

Імчыць-імчыць ад вёскі і да вёскі,
Ён у палях, далінах, пустырах;
Грымяць усюль адгукі-адгалоскі,
Шуміць-гудзіць па местах-гарадах.

Нябесны «цуд» ён рупна камсамоліць,
Трасе царквой, здымае «божы» звон.
А словы — гром, а словы — гучны молат.
Юнак-прарок бязбожніцтва — то ён.

Знаходзіць цуд працоўны ў навуцы,
У радыё — ўсё фокусы багоў.
Ратаі ўсе ў навукі хорам мкнуцца
І пастухі — сыны лясоў, лугоў.

Наш край цяпер чытае рупна кнігу,
Варожаць слух казанні лектароў:
Гарбар, шавец і гарапашнік з нівы,
Жанчыны — ўсе бяруцца за пяро.

Царкву, касцёл, мячэць і сінагогу,
Дзе фальш лунаў у хмарах блуду, цьмы,
Народ бярэ назад у пана-бога —
Пад школу, клуб «нябесныя дамы»!

III

А Беларусь бязбожніцаю стала,
Цвіце, расце партыйкай маладой,
Глядзіць удаль — ў Еўропу капітала,
Трасе сярпом і молатам з гразьбой.

На ёй блішчаць і літары і кропкі
Ў агні сцягоў савецкіх устаноў.
Рабочы там і парабак з маёнтка
Вартуюць край ад дзікіх грызуноў.

О, шчасця шмат над старай лысагоркай,—
Тут «хлоп» былы знайшоў сябе цяпер.
Варожыць цвет пяціканцовай зоркі,
Абліт красой узор СССР.

О, колькі ў тых у літарах значэння!
За іх сыноў шмат лепшых палягло.
Тут не адно людское пакаленне
Сваіх байцоў за волю аддало.

Няхай наш сцяг спрабуе здзерці з месца
Ганебны пан, сусветны капітал:
Тады мы ўсе — чырвоныя армейцы!
Тады мы ўсе — чырвоны страшны шквал!

А Беларусь магутнай будаўніцай
Куе свой лёс, будуе новы быт.
Усюль кіпяць бурлівыя крыніцы,
Ніводны кут у краі не забыт.

Куе ў адно і гарады і сёлы,
Ў адзін саюз, у творчы, моцны чын.
Працоўны люд спявае гімн вясёлы,
І мазалю тут ёсць і супачын.

Працоўны люд у пух пратворыць глебу
Імпэтам сіл спружынавых канёў;
Акрыліць край і заваюе неба
Шматкрыльны ўзлёт сталёвых жураўлёў.

## НА ВЫСОКАЙ ГАРЫ

На высокай гары
Зарумяніцца сцяг,
Загрыміць смелы кліч
Па лясах і палях.

І засвеціць агонь,
І збярэцца народ —
І стары і малы
На вялікі на сход.

Як затрубяць у рог,
Навакол пойдзе гуд.
І збяруцца усе
На вялікі на суд.

Свет стары, свет рабоў
Тут сканае, памрэ.
Будуць косці яго,
Як пясок на дварэ.

Будзе вартасці мець
Толькі воля адна
Ад высокіх ад гор
Аж да морскага дна.

Будзе вартасці мець
Толькі праца і пот,
Так закон надалей
З роду новага ў род.

## ЧЫРВОНААРМЕЙСКАЯ

Ідзем, ідзем мільённым крокам
У стройныя рады.
Ідзем наперад з вострым вокам —
Мы ведаем куды.
Раз-два! Раз-два!

Ідзем, ідзем праз месты, сёлы
Па тысячы, па сто.
Ідзем — хто быў галодны, голы —
Мы ведаем на што.
Раз-два! Раз-два!

Разбілі мы вякоў аковы —
Адвечную турму.
Не верыць ворагу на слова —
Мы ведаем чаму.
Раз-два! Раз-два!

Ідзем удаль, бо на ўсім свеце
Рабочы люд паўстаў.
Працоўны выйдзе з ліхалецця —
Бо наша правата.
Раз-два! Раз-два!

Гаворым мы на розных мовах,
А з думкаю аднэй.
Мы ведаем, дзе друг, дзе вораг,—
Чырвоны сцяг вышэй!
Раз-два! Раз-два!

Палкі варожыя йшлі следам,
Растоптаны ў пяску.
Мы знаем шмат гадоў пабеды
На сваім вяку.
Раз-два! Раз-два!

## ШЛЯХІ

У бары сава рагоча,
Ля ракі чарот шапоча,
Цені спяць у пушчы ўночы,—
Здань заве мяне:
«Прыхадзі таемным шляхам,
Прыхадзі паўночным страхам,
Прыхадзі пад хвойны гмах мой,
Прыхадзі ка мне!

Я — тваё жыццё і доля,
Я — тваё пад небам поле,
Я — твая, бы думка, воля,
Я — твой вечны лёс.
Без мяне ты жыць не можаш,
Без мяне ты заняможаш,
Без мяне душу стрывожыш,
Шмат пральеш ты слёз...»

Не ісці — загіну тут я,
Не ісці — адны пакуты,
Не ісці — навек закуты,

Не ісці...— пайду!
Выйшаў я на шлях далёкі,
Выйшаў я на шлях высокі,
Ды куды глядзела вока —
Што ж я там знайду?

Над зямлёй палалі зоры,
На зямлі гулі віхоры,
На спіне ляжалі горы,
А душа ў бядзе.
Брыў там, лез па розных красках,
Па балотах топкіх, гразкіх,
Чуў пра лёс у песнях-казках,
Маску ён надзеў.

Зазвінела звонам зброя,
Слаўным быць магу героем,
Кіраваць пабедным боем
З гордасцю ўваччу.
Выбірай на ўсе гатункі:
Веснавыя пацалункі,
Залатыя падарункі.
Не — я не хачу.

Не хачу я брата працы,
Я не ведаў, з кім змагацца,
Для каго на гуслях граці,
Хто тут свой, чужы?
Лесуны у пушчы звалі
На расістыя крышталі,
На русальчыныя балі
Без пуцін-сцяжын.

Доўга брыў таемным шляхам,
Доўга брыў паўночным страхам,
Доўга брыў пад хвойным дахам,
Брыў уніз з гары.
Раніў грудзі да крыві я,
Былі сцежкі там крывыя,
Цёмныя і векавыя,—
Так аж да зары.

Выйшаў я на сонцаззянне,
Выйшаў я з балота ўранне
Пад жаўронкавае гранне.

Вось і новы шлях.
Там, дзе бедныя паўсталі,
Засвяцілі блізі-далі,
І прапалі цені-здані,
І прапаў мой страх.

Вось каму спяваць павінен,
Вось каму я многа вінен —
Гэтым родным нізавінам,
Тут мой новы лёс.
Вось дзе трэба быць героем,
Зазвіні ты звонам, зброя,
Заспявай ты, спеў, зарою,
Годзе плачу, слёз!

Тут сярпы насталяваны,
Малаты загартаваны,
Бой ідзе нарыхтаваны,—
Бой на цэлы свет.
Вось тваё жыццё і доля,
Вось тваё пад сонцам поле,
Вось твая, бы думка, воля,—
Калі ты паэт!

* * *

Я — спадчына вякоў, сын даўніх пакаленняў,
Я — быстралётны цень тысячалетніх ценяў,
Я — хуткамігі блеск ранейшых мігаценняў;

Я — тку далей узор няскончаных тканінаў,
Я — непрыметна плынь стардаўных ручаінаў,
Я — кволая трава вячыстых лугавінаў.

Хачу я ўдаль зары да новых таямніцаў,
Хачу дастаць вады з няведамых крыніцаў,
Хачу дастаць агню з высокіх заранiцаў;

Хачу нарваць ланцуг тысячалетняй сталі,
Хачу прабіць сцяну да новых, светлых даляў,
Хачу, каб мерцвякі ў адвечным сне маўчалі.

## МОЙ СКАРБ

Мой скарб мацней жыцця і смерці,
Бяссмертны ён у смертным сэрцы.

Мой скарб блішчыць — мой скарб багаты,
Даступны ўсім — ён не закляты.

Мой скарб — ад зор, мой скарб — ад неба,
Мой скарб — ад гор, мой скарб — ад глебы.

У глыбі вод, у шэптах бору,
У шоўку траў, у птушках хоры.

У серабры вільготных росаў,
У харастве дзявочых косаў,

У марах-снах, у тайных муках,
У гусляроў на струнных гуках.

* * *

Стазычныя, высокія
Барыны загулі.
Да неба кінуў вокам я,
Зірнуў у глыб зямлі.

Тут песень шмат — не злічаны —
Пра новае жыццё.
Мінулыя аблічыны
Плывуць у забыццё.

Люблю цябе, край волатаў,
Край вечных сонц і зор.
Магутны ты, бо молад ты,
Імпэтны, як віхор!

* * *

Думкі апоўначы — кветкі расістыя —
Сэрца смяротнага спевы вячыстыя,

Птушкамі ціхімі ймчаліся ў вырай,
Ў неба халоднае біліся крыллямі.

Пчолкі маўклівыя — зораньки пільныя
Іх сустракалі там цішай магільнаю.

Месяц палохаў іх сном-таямніцаю,
Путаў іх, блутаў іх срэбнай расіцаю.

Хмаркі кудзельныя, лёгкія, зграбныя
Цьмой-павуцінаю клікалі-вабілі.

Далі трывожылі сінімі дахамі,
Хвойнымі процьмамі, шызымі страхамі.

Думкі апоўначы — ягадкі спелыя —
З неба вярнуліся асірацелыя.

Думкі, да месяца не ўзнімайцеся.
Лепш вы зямеліцы блізкай трымайцеся.

* * *

Я — кропля вялікага творчага мора,
Я — іскра квяцістага полымя зораў,
Я — водблеск нябёсных адвечных  прастораў.

А думы — вясны залатой агнявіцы,
А думы — зямлі жыватворчай крыніца,
А думы — лугоў аксамітных расіца.

Памру — не памрэ безупынная сіла,
Што думы пад неба да зорак насіла,
Што кіне вянок на нямую магілу.

# V

# КАЎКАЗ

## ВАНДРОЎКА

Чалом, чалом,
Узгоркі і даліны,
Малінавыя далі Беларусі!
Я хутка
Свой кажух вясковы скіну,
Яшчэ тры дні —
У леце апынуся.
Бывай, бывай,
Зіма з вішнёвым цветам,
Дзе рэчкі звоняць
Звонам лёду!
Імчуся ўдаль.
Лячу, як птушка ў лета,
Дзе сонца лье на мора
Колер мёду.
Бывай, бывай! —
І праз акно вагона
Я чую кліч,
Хваёвы кліч барыны.
Ружовы снег загафтаваў загоны —
Палаюць-ззяюць
Блескам азярынаў.
Лагодны фон
Альховых акварэляў
Пажарыць шыры
Кволым мігаценнем.
Хваіны дзве
На ўзгорку заімглелі,
Ківаюць мне здалёку, як два цені.

*

Імчуся ўдаль,
Насустрач — край кабзарны.
Буяе стэп
Мазанкамі ў бязбрэжжы,
Тут жыў Тарас
Пад небам светазарным,
І спевамі
Ён парабкаў мяцежыў.
Другая быль:
Ішло змаганне класаў:
Гэй, хто — каго?
Хто выжыве — хто згіне?
Тут кожны яр
Крывёй, агнём сціла ўся —
І змыў Дняпро
Няволю з Украіны.
Ты нам — сястра!
Спагадная суседка!
Мы павязаны
Поясам Дняпровым.
Зірні, глядзі —
Ты з смуглай малалеткі
Цвіцеш, расцеш
Красуняй чарнабровай.
Наш лёс адзін —
Мы чуем стогны з Віслы:
Дратуе пан
Наш луг мядова-росны.
Дзе зграя хмар
Над хатамі навісла,
Зардзеюць дні
І восеняў і вёснаў.

*

Імчуся ўдаль —
І сінь запаланіла.
Буяе стэп
Кавыльнай даляй.
Які віхор,
Якія дзівы-сілы
Зямлі абшар

Так гладка вытапталі?
Вісяць арлы
Над бураю грамадай
Пад шолахам
Дажджыстай мжыстай мгліцы,
А дзе-нідзе
Нязнаным белым стадам
Тут распаўзліся
Белыя станіцы.
Вятры гудуць —
Дагэтуль не забылі
Крывавых баляў
Дзікіх атаманаў.
Глыбокі Дон
Дзівуе срэбнай быллю
Прыбрэжны дол
Шуршавістых бур'янаў.
Над ім масты —
З жалеза гафтаваны —
Звіняць, вісяць
У лёгкім скоку.
Чаўноў і пераходаў
Караваны
Пеняць сінь вады
І вабяць вока.

*

Імчуся ўдаль.
Пад цёмна-сінім дахам
Не ноч, не дзень —
Агні, агні бясконца.
Агні мігцяць
Пад ночнаю папахай.
Данбас, Данбас
Мільгае праз аконца.
Канцэсіі даўней,
Шальмоўства і сваволля.
Кайлом цяпер
Тут гаспадарыць зручна.
І ноч блішчыць,
Як цёмнае вуголле.
І ноч блішчыць,
Як антрацыт бліскучы.

*

Мінула ноч.
Азоўскіх вод лавіны
Сабе прастор
Прарэзалі шматмільны,
Паскублі стэп
Сталёвым вострым клінам
І волава
Ў прасторы растапілі.
На зычны грунт
Накінулася мора —
Няхай любуецца
Яго блакітным зместам!
У сінь-атхлань
Лятуць сапфіры зораў,
Падол нябёс
У зыбунах-усплесках.
А злы норд-ост
Ў яго цяжар трыльённы
Кідае парусы
Спалоханых аблокаў.
І шум шуміць —
То шквальны шум шалёны,
І грук гручыць
І зблізку і здалёку.
Ты што глядзіш так,
Дочка рыбалова?
Прарочыць сэрца
Міламу загубу?
У грозны час
Пусціўся ён на ловы,
У страшны час
Аддаўся мору любы...

*

Імчуся ўдаль.
Дык вось яны — вяршыны...
Пагрозныя, каменістыя цуды,
Бы ланцугі
Няведамых машынаў
Спляліся тут
У казачныя жмуты.

Дык вось яны...
За сівымі гарамі
У бітву іішла
Эпоха на эпоху.
І дваццаць шэсць
Ляглі тут ў адно ранне,
І тысячы
Не ведалі спалоху.
Гара з гарой
Вяла свае гаворкі
На гарматнай
На жалезнай мове,
І шчоўкалі,
І сыпалі вінтоўкі
Алавяным
Градам па галовах.

*

Дык вось яны...—
Хрыбты за стэпам Дона
У шызым дыме
Раніцы лагоднай.
У вышыню,
У сіняе бяздонне
Глядзяць яны
Так пышна і так горда.
То дзікуны
З шчацінаю з жалеза,—
Вялізныя, шматвёрставыя дзівы,—
Стаптналі стэп:
На цёплы Поўдзень лезлі,
Увесь Каўказ
Сабой заграмадзілі.
На вадапой
Ішлі да мора стадам —
Іх вабіў крык вады
Ў прасторах.
І не маглі
Дабрацца ўсёй грамадай
Да гучнага,
Да сонечнага мора.
Эльбрус, Казбек
Іх насвілі, іх гналі.

А пастухі
У папахах белых
Кідалі ў далі
Яркі глянц эмалі.
І пастухі й жывёлы
Скамянелі.

*

Стары грузін
Мне баіў байку гэту —
Ён чуў яе
Ў зурновых спеваў-граек.
Мо выдумка
Каўказскага паэта?
Мо горны сон
Прыбрэжных шызых чаек?

*

Во сказ другі
Пра горныя хрыбёты,
Не сказ, а быль
Мільёналетніх мгненняў:
З грудзей зямлі,
З яе глыбокіх гротаў
У рой агнёў
Вулканы чырванелі.
Пагрозны шквал
Палаючых лавінаў
Спыніў свой сон,
Падняўся дуба ўгору;
Прабіў ён шчыт зямлі,
Як шалупіну,
Давай гуляць
На ўздыбленым прасторы.
З грудзей зямлі,
З-пад вечнае няволі,
На барацьбу памчаў
Агнёвы сокал;
Скакаў увысь,
Пляваўся і скуголіў,
Падняў мяцеж

На сотні міль навокал.
На сотні міль
Грымоты рагаталі,
Абшар зямлі
Затросся ў страшнай трасцы.
Ў крывавай мгле
Палалі блізі, далі.
Прастор стагнаў і выў,
Як звер у пастцы.
На сонца дым насунуў
Акуляры змрокаў,
А ноч у дзень
Агні ператварылі.
І выў віхор,
Сляпіў ён даляў зрокі
І фарбаваў у чырвань
Свае крыллі.
Каменне пер'ямі
Вулканы ўвысь насілі,
Металы плавіліся
Ў жыжу-масла.
Гулялі віхар з віхрам,
Сіла з сілай,
Успыхвалі фантанамі
І гаслі.
Бурболіла зямля
Ў дрыгве вулканаў,
І смажыла спіну,
Пяклася ў гарце,
І бурбалкі раслі —
Загартаваны
Грамады гор,
Што вось стаяць на варце.

*

А горы ўвысь
Дзівуюцца на далі,
Як волаты
У вопратках з граніту.
На іх плячах
Вякі прадуць паданні
Пад ранічным,
Вячэрнім аксамітам.

Дык вось Каўказ,
Дзе Лермантаў задумны
Знайшоў прытул
Сярод сваіх даймонаў.
З бярозавых далін
Выгнаннік сумны
Тут жыў, спяваў
На склоне горным.
Дык вось Каўказ,
Тут гаварылі класы
На гарматнай
На жалезнай мове,
Цвіце красой,
Буяе нашым часам,
І сівы сказ
Абвеян казкай новай.

## БУДУ ПІЦЬ ПАХУЧЫ СМУТАК ЗМРОКАЎ...

Хтосьці дзень зарэзаў, бы ягнёнка,—
Шмат крыві ў мора палілося,
На заход пачаў бамбук гамонку,
Задрыжэлі пальмы ў адгалоссі.

Запалалі горныя абрысы,
Запалалі — згаслі ў задуменні.
Вецер цёплы лічыць кіпарысы;
Хвалі граюць, мчацца, як алені.

Буду піць пахучы смутак змрокаў,
Покуль ноч на параход навісне.
А пасля пайду брысці далёка,
Дзе ліяны на гары спляліся.

Там авечак цэлыя атары,
Там агнішчы чабаноў абхазскіх,
Там смуткуе, весяліцца тара,
Там яна — абрываў стромкіх казка.

Там пяе пастушка маладая.
Песня-быль мацней жыцця і смерці.
Дзіўны голас ловяць блізі, далі.
Сум і радасць — дзеці яе сэрца.

Сум далёкіх, сум сівых стагоддзяў
Морскі вецер хай грызе, хай ліжа.
І буяе радасць у народзе,
Пяюць песні аб адным і тым жа:

Як у замках здзек чынілі з люду,
Як у саклях горцы гаравалі,
Як гулялі царскія прыблуды,
Як Саветы волю здабывалі.

Вабяць вочы, нібы успаміны,
Цэлы свет іграе ў іхным ззянні.
Вельмі лёгка ў Чорным моры згінуць,
А лягчэй — хто ў вочы яе гляне.

## САКАВІК

Вясновым глянцам замільгалі дні.
Іх сакавік паіў пітвом блакітным.
А сонца мёд ліло каўшом уніз —
Гарачым мёдам даль была абліта.

Вясновым кветам расквітнелі дні.
Іх сакавік аздобіў горнай краскай.
Вятры цяснін пагаслі, як агні.
А мора млела бірузовай казкай.

Вясновай песняй заспявалі дні.
Іх сакавік напоўніў гучным граннем.
Птушыны клік з высотаў падаў ніц —
Зямля звінела звонам з рання ў ранне.

На алеандрах захмялелі дні,
На маладзік памаладзелі ночы.
І красавалі нават пні.
Палала кроў. Палалі вочы.

* * *

Хвалі гралі стаямі,
Гнуліся хрыбты.
Пена млела, таялі
У мгненні залатым.

Хваля хвалю горбіла,
Звон звінеў шкляны,
Гойдаліся гойдаўкі,
Зыбуны-чаўны.

Хвалі-грайкі бавілі
Мора аксаміт,
Вабай-клікам вабілі,
Клікалі ў блакіт.

Кіўкамі ківаліся
У шызы курадым,
Звонам-зовам звалі ўсіх:
— Гэй, да нас сюды!

* * *

Ноч разліла свой атрамант
Па-над морам паміж скал.
Ходзіць-бродзіць сівы лямант,
Карак б'е за валам вал.

Вецер грае, водзіць спевы,
Звоніць тысячамі кос,
Сыпле пукі пер'яў з пены
На заслюнены адкос.

А на мысе на Піцундзе,
Што разлёгся, бы ягнё,
Вырастае ў блеску-цудзе
Вабным вокам аганёк.

Дайце човен, рыбаловы,
Каб лягчэй за матылька.
З думкай радаснай, агнёвай
Паплыву да аганька.

Вецер грае на прасторы,
На хрыбтах імглістых хваль.
Як і сёння, заўтра мора
На чало накіне даль.

* * *

Каго сюды пазвалі,
У гучных бліскавіцах,
У спеўным дыму і агні?

Вярхом на стромкай хвалі
Віхура скача, мчыцца,
Нібы коннік на кані.

Каго сюды пазвалі,
Апранутага ў гуках
Ды з сінявай барадой?

То вецер арэ хвалі,
Наводзіць шум і грукат
Невідочнаю сахой.

Каго сюды пазвалі
З аблочнай горнай далі
У сівым шаломе хмар?

То шторм разгойдаў хвалі,
Адвагу ён кідае
На спалоханы абшар.

## САНЕТЫ

У сонцы дзён, у зорнасці начэй
Я сеяў іскры сэрца поўнай жменяй,
Мільгалі думы хутка, як імгненні,
Стоцветныя, як водблескі вачэй.

А маладзік, бы срэбназлоты змей,
Кідаў у мора яркае насенне.
Маўчалі пальмы ў начным задуменні,
Я запалонен быў красой, чыёй? —

Яна была чароўна, бы камея,
Як успамін, як вешніх красак сон.
Панёс віхор, бы шызай чайкі стогн.

Магутны морскі шторм яе завеяў,
А водгук кліча, як падводны звон,
У зорнасці начэй, у сонцы дзён.

*

Тут неба — даль бязбрэжная, як мора,
А мора — даль блакітная нябёс.
Тут лезе нізь на сонечны адкос,
А высь цвіце у сонечным прасторы.

Тут краскі каляруюць, нібы зоры,
А зоры — нібы коўшыкі мімоз,
Тут грае лета на краплінах рос,
Тут зеленеюць вечна долы, горы.

А там — у нас мяцеліца гуляе
Паміж балот, між курганоў-стагоў,
У белых іскрах спуджаных снягоў.

Мароз скрыпіць у гучназвонным гаі,
А сонца спавіваюць хмары-зграі,
А месяц не залоціць глянц лугоў.

# ЧОРНАЕ МОРА

## I

Паў туман на горы, касагоры —
Сівазмрочны і бяльмісты.
Пацямнела мора і узмор'е —
Цвет абшараў непразрысты.

Разгарнулі ўсе вятрылы крыллі
У балахонах шуры-буры;
Бы ваўкі завылі ў пене-мыле,
Пайшлі стогны, пайшлі хмуры.

Загулі на моры вохі-ўздыхі,
Шумы-громы, рыкі-крыкі,
Задымілі воды срэбным пыхам,
Вал шалёны закугыкаў.

Зараз згінуць горы-касагоры,
Падмываецца падножжа.
Зараз будзе ім ад мора гора —
Камні сыплюцца як збожжа.

Зайкі-грайкі граюць зблізу, ўдалі
У яркіх плынях з агняспышак,
І граблямі грэбні замільгалі,
Нібы плоймы шызых мышак.

І пайшлі скакаць прасторы ў моры,
З дна паднялася капэля.
Шэпт. Мяцеж. Згаворы. Адгаворы —
Ап'янелі ў дзікім хмелі.

І шкляныя плюхнуліся птухі,
Зазванілі на шмат міляў,
І сышліся разам завірухі,
Стала сіла супроць сілы.

З грукам-стукам горы, касагоры
На дно мора вецер скіне.
Хвалі ўзваляць ім на карак хорам,
Хорам сіні для дэльфінаў.

Хваля хвалю абмывала, грала,
Адганяла, даганяла.
Дуба ў згубу заскакала ўдала,
Бухам бухнулася ў скалы.

Нібы ў бубен забубнілі, білі
Ў гонг скалісты, адгалосны.
Адбівалі тахты хваля ў хвалю,
Бурасвісты былі злосны.

І вятры глушылі бурным хорам
Бераг, хвалямі абліты.
І не ўпалі горы, касагоры —
Не паддаўся шчыт гранітны.

## II

Гэй, рыхтуйцеся, чайкі, гагары!
Вецер востры вам крыллі навострыць.
Вас закружыць у сівым пажары
Гучна-гнеўныя сілы норд-оста.

На чаўне хтосьці крыкне: «Ратуйце!»
Пойдзе лямант па зыбістай гаці.
Па шалёнай, па хвалістай муці
Два чаўны паімчаць ратаваці.

А валы, нібы маманты мора,
Плечы ўзнімуць на многа сажэняў;
Як асілак хватае замору,
Вецер пры́ткі сажме іх у жмені.

Стукне-грукне, працэдзіць праз пальцы
І разбрызне ў брызгаўкі сталі.
Сам заскача разгневаным вальсам
У пагрозным смяротным паўстанні.

Тры чаўны будуць з бурай змагацца,
І норд-ост іх не здужае — смелых.
Ім жа мора, бы родная маці —
Перамогуць і выйдуць на бераг.

III

Сягоння выў прыбой, бы стада злосных псоў,
Слюнявіў берагі, пляваўся сівай сліняй.
Жар-сонца ў вышыні стаяла калясом,
Мігцела па вадзе чырвонаю тканінай.

Бялявы парус млеў — распушчаны фартух.
То нутлае судно качалася па хвалі,
Скакала, нібы конь, і кідалася ў пух,
Спяшалася ў сінь — ці звалі, ці не звалі.

А мора — мірг і мірг, сявала ўспышкі ўдаль,
Запісвала свой шум разлівамі калёраў.
А дзе-нідзе дэльфін дзіравіў спіны хваль:
У сховы спрытна граў на гойдаўках у моры.

І цвёрда руль трымаў мой друг, Мамэт-Алі,
Ён на мяне глядзеў з таемнаю усмешкай.
Мы з бухтавай дугі плылі, плылі, плылі
Бурштынавым пуцём, нявытаптанай сцежкай.

* * *

Вецер, вецер, малады, гарачы,
Задзівіся з поўдня на гару! —
Хай твой грэбень галаву маю скудлачыць
На зару!

Мора, мора, казачнае ў ранне,
З сінім дзівам на пясчыстым дне!
Кінь прасторы бірузовага цвітання
Ў вочы мне!

Горы, горы, з клёкатам арлiным,
Хай зазвоніць хвояй ваш адкос!
Падаруйце майму сэрцу гучных гімнаў
Адгалос!

Сонца, сонца, кветка над абшарам
Між вандроўных срэбраных вятроў!
Хай твой пламень светазарны запажарыць
Маю кроў!

* * *

Ветракі навакол, ветракі
Строяць строй над абветраным ярам.
Крыляць крыллем — узмахі рукі,
Многа рук мне ківае з абшараў.

Кліча стэп угару — у блакіт.
Кліча ўдаль — на рагзон чарназёму.
Вырастае з далечынь сяйбіт
Пад птушыны, пад сонечны гоман.

А вятры засвісталі — вятры,
Эх вы, любыя дзеці аблокаў!
Аж здаецца — гудуць кабзары,
Ходзяць-бродзяць шматвёрставым крокам.

## ШАМШАВІЛІ

Мора сініцца сінім алоўкам.
Ідзе берагам чорнавалосая.
Як дзіцё, мне ківае галоўкай,
А вачыма глядзіць, як дарослая.

Мігаціць чарнаморскаю чайкай,
Пахне ружай і кволай магноліяй,
Спрытна грае усмешкаю-грайкай,
Нешта кажа забаўна-вясёлае.

І гавора, гавора, гавора:
Гуды пчол, шэпт травы, буры грокаты,
Лёгкі свіст, звон галін, шумы мора,
Часам чуеш арліныя клёкаты.

Высыпае з скалістых заховаў
Усе водгукі сонцам аблітыя.
Недарма ж яе родная мова
Мае болей за семдзесят літараў.

Нібы хвалі, за хвілямі хвілі
Паплылі пад гамонку бяседніцы:
І завецца — Маро Шамшавілі,
І жыве недалёка у крэўніцы.

Яна доч бедняка, камсамолка,
А вучыцца пайшла за настаўніцу.
Мора сініцца сінім алоўкам,
Вечным летам краіна тут славіцца.

Лета вечнае толькі празвалі:
Надышло гэта лета з Саветамі.
А раней, як князі балявалі,
Горш зімы былі дні вечна летнія.

Яе вочы мяне варажылі.
Я глядзеў ёй у ясныя зораньկі.
Потым выразаў я «Шамшавілі»
На кійку сваім вострым сцізорыкам.

## НОЧ РАСЛА, ЯК ГОРНЫ СОН

Спусціўся вечар смуглай кветкай,
Памчаўся вецер на кані.
І зор рубінавая сетка
Кідала мгненні з вышыні.

Спляліся разам блізі, далі
У цёмна-сіні парасон.
І шэпты горныя паўсталі,
І ноч расла, як горны сон.

Падняўся першы клік шакала,
Над морам слалася імгла.
І хваля хвалю паласкала,
І ноч, як ціхі звон, плыла.

І куст кізіла гнуў галіны,
Хіліў да самай да зямлі.
І за хвілінамі хвіліны,
Як слімакі, удаль паўзлі...

## У ВАЎНЯНАЙ НАЧЫ

Мора блакітнасць абвіта паўпочнай жалобай.
Туліцца вецер, як злодзей, між замчышчаў-скал.
Цемра плыве па абрывах, аб камень б'е лобам,
Вые, галосіць ў аддалі шалёны шакал.

Ціш заблудзілася ў крыках, заслеплены зрокі,
Капаюць хвілі, бы кроплі, бы рой камароў.
Ноч непрагляднасці поўна, як буйвала вока,
Шыры і высь затапіла цямрыстая кроў.

Шолахі, шумы і крыкі — дзе сонца патухла.
Там, дзе палала зарніца — і попел і пыл.
Носяцца тысячы гукаў, лунаюць, як птухі:
Ноч несупынна іграе — музыка сляпы.

Князь з сваёй бандай спыніўся на гвалт вадаспаду,
Самотным сябе адчувае пад дзікім кустом:
Выраслі ўміг забабоны заснуўшай Элады.
Драпае нешта за сэрца — не ведае што...

Эй, каб хутчэй да аула, хутчэй к прыбярэжжу! —
Лезе ў галаву думка — навостраны нож;
— Хлопцы, хутчэй да аула! Усіх перарэжам!
— Хлопцы! Давай папрацуем ў апошнюю ноч!

Вееры пальмаў шапочуць, дрыжаць, нібы крыллі,
Звоніць пустымі клыкамі мядзяны бамбук,
Вышыўкі спуджаных зорак аблокі пакрылі,—
Зоркі, бы ружы, сарваны мільёнамі рук.

Банда імчыць к прыбярэжжу ганнёю імсцівай,
Стукае князева сэрца пужліва «так... так...».
Банда спынілася раптам. Да князя пачціва:
— Свеціць ля самага мора савецкі маяк...

Князь песціць вус і жартуе:
— Хай свеціць маяк нам.
Смела наперад, няма нам дарогі назад!
Дайце аулы ўсе знішчым! Застукнем, загракнем,
Покуль дагоніць нас з тылу чырвоны атрад...

Сполах застыў між цяснінаў, трывожыць высоты,
З процьмы дэльфінам заёрзаў, дзіцёнкам крычыць.
Радасці дня пасхаваны мядузнай слізготай,
Згінулі ўсе паратункі ў ваўнянай начы.

Сівым разгневаным стадам буйтураў-грамадаў
Скача на бераг шматзвонны імпэтны прыбой,
Дробіць каменні ў пясчынкі, змывае, як здраду,
Брызгае полымем брызгаў між белых зубоў.

Лямант нястрыманы глушыць скалістыя жмуты,
Вабіць на трызну віхураў уздыблены вал,
Водгукі даляў спляліся ў грымучыя скруты,
Вые, галосіць ў аддалі шалёны шакал.

Сціснуты морам пявучым, прыбойнай мярэжкай,
Здзіўлены цудам узгор'яў, шматвёрсных бruскоў,
Цягнуцца скурай пантэры, вузкія, бы сцежкі,
Бедныя гнёзды-аулы былых батракоў.

Ціха паўзе, як вужака, да сакляў драпежнік,
Следам за ім яшчэ многа крывавых гуляк.
— Хлопцы, хутчэй да аула! Усіх перарэжам!
Свеціць ля самага мора савецкі маяк.

З вохаў начы вырастаюць капытныя грукі —
Коннік імчыцца стралою, на хвілю прыстаў,
Быццам знямелі ў трывозе сталёвыя рукі —
Выплыў з афінскіх паданняў забыты кентаўр.

Стрэл уначы нечаканы, бы свіст у паветры,
Гулкую ноч прадзіравіў, як ножніцы шоўк.
Водгук скаціўся трохкратны з вышыняў у нетры,
Бразнуў у шпіль кіпарыса, парваўся і змоўк.

Князь паваліўся адразу, ні крыку, ні стогну,
Быццам сарваўся з галіны кізілавы ліст.
Меткі стралок быў спакойны, скупы на патроны,
Трапіў у князева сэрца бывалы чэкіст.

## ПАЛАЎ ЗАХОД

Палаў заход на парусе далёкім,
Абліў віном абветраны граніт.
Пазалаціў зялёныя узгоркі,
Свяцілі пальмы, як агні.

І на начлег кудзельныя аблокі
На хрыбты гор, як буйвалы, брылі,
Бы кажаны, замігацелі змрокі,
Завандравалі па зямлі.

Патухлі два на горцы кіпарысы,
У мора ўпаў сінява-шызы цень.
І вечар плыў, як стада чаек з мыса,
І дзень з абрыву паляцеў.

## ІДЗЕМ У ГОРЫ...

У нашым краі на сасонцы
Цяпер пабачыш ты зару.
Ідзем глядзець на захад сонца!
Ідзем глядзець сівы Эльбрус!

Эльбрус сівізнай замільгае,
Блісне агнём яго чалма.
Дзе расцвілі калёры мая,
Як успамін, зірне зіма.

Зіма на дзедавых кудзерцах
Раскіне яркі свой крышталь.
Заходу вогненнае сэрца
Насуне водблескі на даль.

І далі водблескам запаляць
Разьбу вячыстую хрыбтоў.
І залатыя стануць палі
Замест кізілавых кустоў.

Кусты зашэпчуць развітанне:
«Сустрэч не будзе з гэтым днём».
І цень навісне, як пытанне,
Замжыць чарнёным серабром.

І серабром туман стушуе
Абрываў жудасны узор,
І забуяе, забушуе
Пад шклом нябес квятніца зор.

І зор тапазавае мгненне
Закрышталюе, як раса.
І здасца мне, што летуценне
На небе сам я напісаў.

Пісаў крывёй, чытаць сам буду,
Пакуль усход пачне ржавець.
Буркне свой сказ мядзяным гудам
Мой шчыры друг — ручны мядзведзь.

Мядзведзь разляжацца падушкай —
Лагодны, добры, як дзіця.
Ў яго вачах — у весялушках —
Адбрызгі зорак замігцяць.

І замігцяцца думкай вочы —
Во загаворыць зараз ён.
Крывою лапай заласкоча —
Ён знае прыязні закон.

Закон вялікай, шчырай дружбы
Яму вядом не менш, чым нам,
Хоць ён у гутарцы не дужы,
Ніколі граматы не знаў.

Я знаю — ён пад перламутрам
Аблочных буйвалаў засне;
Як лепшы дзядзька, сваю футру
Запрапануе шчыра мне.

І прытулюся я да шэрсці —
Да мякка-бурае спіны,
Пачую стукат яго сэрца
І заспакою яго сны.

І сны пабачу я наяве —
Як граюць хмаркі на пуці,
Як горны вецер песняславіць.
Пара, мой друг, пара ісці!

## СВАЕ НОЧЫ І ДНІ Я РАЗВЕЯЎ...

Шумяць грозныя шквалы сівыя,
Кожны з іх мяне глынуць гатоў.
Свае ночы і дні я развеяў
У віхуры пявучых гадоў.

Я рассыпаў вянкі гучных вёснаў,
Як дзіцё лепясткі з васілька,
Нібы ранне на луг сее росы,
Бы дукаты — гулякі рука.

Замест вогнішча грэўся я песняй —
Доўгі верш на працягу шмат лет.
У прасторных палях было цесна,
Хоць у сэрцы я меў цэлы свет.

Смутак вэлюмы ткаў нада мною,
Годы тыя ўжо рынулі ў цьму.
Штось крывавіла сэрца тугою,
Ліха знае — навошта, чаму...

І маркоціла думка ў паўночы,
І скрабла, нібы мыш у кутку.
Нейкі болеч туманіў мне вочы,
Бы шмат год я вісеў на суку.

Гэта стогн, гэта боль «нашаніўства»,
Яго рэха не змоўкла яшчэ.
Трэба вырваць з карэннем імглістым,
А то смагаю грудзі пячэ...

А сягоння ўжо смутак не ў модзе,
Ён схаваўся пад вэлюмы сноў.
Спеюць гімны аб шчасці ў народзе,
Матка горда глядзіць на сыноў.

Я закінуты ў далі вандроўца,
Я пайшоў з беларускіх палёў
Да каўказскага яркага сонца,
Да абхазскіх куткоў, берагоў.

Я пайшоў да арліных надгор'яў,
Дзе буяе, цвіце вінаград,
Каб з мядовых і гучных прастораў
З новай сілай вярнуцца назад.

«Нашаніўскія» болі залечу,
Пачну новыя творы пісаць,
Было доўга атручана сэрца,
Дык ці сэрца я выкіну псам?

Непрывычнае вуха палохаў
Грозны гуд непрывычных вятроў.
У душы я нашу дзве эпохі,
Іх гадуе гарачая кроў.

Між сабою не ладзяць, не дружаць,
Не спляцеш у адзін карагод.
Як агністыя нейкія ружы,
Паліць грудзі іх спенены ход.

Між сабою не могуць мірыцца,
Нібы пламень з халоднай вадой.
Адганіце былую зарніцу,
Дайце месца зарніцы другой.

Як пчала на салодкія кветкі,
Я кідаўся на мёд — за красой.
Я спяваў ля сялянскай паветкі,
Аздаблёнай жамчужнай расой.

Аб мінулых далёкіх пакутах,
Аб змаганні лясных партызан
Я мазольнаму шчыраму люду
Сваё шчырае слова казаў.

Я збіраў часам думкі ў «народа».
О, памылак было гэтак шмат!
Без разбору ўсё йшло нейкім збродам.
Без разбору — ці вораг, ці брат...

А бывала, люд марыў аб зорках,
І сны-казкі па хмарах плылі:
Прамяняў ён пра неба гаворкі
На сталёвыя песні зямлі.

Калі стогны былі, дык аб волі,
Былі думкі аб будучых днёх.
Нібы сокал, ён сэрцам саколіў,
Быў ён свеж, як абвеснены лог.

Як пралеска з-пад снежнае гурбы,
З-пад сівізны мінулых вякоў
Былы раб выйшаў вольны з загубы,
Паглядае на свет юнаком.

## БРОДЗІЦЬ ВЕЦЕР...

Бродзіць вецер шумлівы, станогі,
Белых зайцаў па моры пасе,
Заблудзіўся, шукае дарогі
У хвалістым, зыбучым аўсе.

Паказалася плямка здалёку —
Карабель адзінокі паўзе.
Ён крапінкай здаецца на вока,
Ён загубіцца ў кволай слязе.

Нібы дзіва, расце, вырастае
Сівым воблакам лёгкі дымок.
Шле у горы сваё прывітанне
Гутарлівы, вясёлы гудок,

То плыве сюды «Ленін» з Расіі —
У цяплынь прамяністай Апсны [1].
Над ім кружацца чайкі сівыя,
Так гасця аглядаюць яны.

Усміхнецца на хвілю краіна
Ў белым вэлюме родных снягоў.
«Ленін» якар сталёвы тут кінуў
Ля абхазскіх глухіх берагоў.

---

[1] Апсны — Абхазія.

## ПАЙДУ...

Пайду ў самоць пад хрып, пад хруст прыбрэжжа;
На кій вандроўны там бамбук я зрэжу.
У агнахмельнай радаснай бядзе
Маё каханне — чайкаю ў вадзе.

Пайду ў задум пад шэпт, пад песню пальмаў,
Дзе смех дзявочы асалодай паліць,
Дзе кіпарысы сталі ў стройны рад,
Дзе дзень у дзень злуецца вадаспад.

Ён малаткамі звоніць у граніты,
Ён дражніць горы стукам стокапытным,
Ён на абвал плюе разбітым шклом,
Ён чыніць бесчын срэбраным агнём.

Пайду я ў ноч, у шоўк пахучай мгліцы:
Дзе знікла з даляў спелая зарніца,
Дзе постаць мілай тоне паміж дрэў,
Дзе на вяршынах дзень стары згарэў.

Яна прыйшла насустрач маім ласкам.
Яна прыйшла, як летуценне з казкі.
У радасць рынем з ёю да зары,
Бы камень, адарваны ад гары.

З глухіх цяснін пацягне роснай стомай.
Яна мне кіне ў грудзі соладзь стогнаў,
Заслепіць белай музыкай зубоў
І скажа свой жаночы забабон:

«Прыбой сягоння гэткі непакорны...
Вунь два чаўны згубіліся на моры...
Як непрытульны дрэвы ў гэты час.
Цалуй мацней, цалуй апошні раз...»

Задзівіць поўнач месячным спакоем,
Заслепяць цені смугла-сінім строем,
Зайграюць зоркі залатым аўсом,
Спадуць на чорны сполах валасоў.

«З табой, з табой паеду ў Беларусь я!» —
І я ў вачах бяздоністых таплюся,
А броўкі колюць цёмнай астрынёй.
Яна дрыжыць галінкай маладой...

## РАНІЦА КІНУЛА КАЗКУ Ў ДНО МОРА

Пальмы пад шэпатным, клёкатным ветрам
Шумяць, нібы крыллі бакланаў,
Хмелем магноліі хмеліць паветра,
Зардзелі барашкі туманаў.

Раніца кінула казку ў дно мора —
Паданне ружовых бязбрэжжаў.
Зараз прыбой загудзіць, загавора,
У скоках закружыць, заснежыць.

Сыпне на бераг трывожныя шквалы,
Зазвоніць, засвісне ўдагонку,
Рынецца гнеўна на скалы, абвалы,
Захлешча абрыў зычна-стромкі.

Вецер зачэпацца шустры і востры,
Завохкае вохам-стагнаннем.
Хваля за хваляй — блакітныя сёстры —
Зайграюць шматколерным граннем.

Зыдуцца разам, заслюняцца слінай,
Разыдуцца, пусцяцца дуба.
Варам заварам, сівой шумавінай
І вышчараць белыя зубы.

Грэбні сівыя зашчэмяцца ў шчэмкі,
Забрызнуць сляпнёю салёнай;
Вецер зачэпіць струмені-зачэпкі,
Расплюхне па сініх загонах.

## БАКЛАНЫ

З-за горных сінявых абрысаў
Адзела зара кіпарысы
У гучна-ружовае ранне.
З цяснін, з цёмна-бурых захоаў
Пусціліся ў мора на ловы
Тры племені чорных бакланаў.

Ў аблокі завырылі ў вырай,
На мора закрылілі крыллі,
Звінелі заглушаным звонам.
Тры племені чорных бакланаў
На ловы пусціліся рана
З галодным абветраным стогнам.

На парусным фоне галеры
Вятрыцы лічылі ім пер'і
І гойдалі ў сініх калысках.
Бакланы крыламі пісалі
На морскім празрыстым крыштталі
Заморскія літары-рыскі.

Іх вострыя дзюбы клявалі
Барашкі заклёваных хваляў
У гучна-ружовае ранне.
Сачылі за тлустаю рыбай,
У змрочнай у зыбістай глыбі
Бакланы шукалі снядання.

# VI

# ЧЫРВОНА-ЧОРНАЯ ЖАЛОБА

## ЧЫРВОНА-ЧОРНАЯ ЖАЛОБА

### I

Плыў мароз па струнах драцяных
ад слупа і да слупа,
іржавым водгуллем стагнаў
ад каменна-бетонных валатовак-скрынь
вялікіх мест
да шурпатых саламяных стрэх
бабулек згорбленых —
вясковых хатак.
Ён на дарозе ўсюль сяваў па дрэвах
срэбны мох бялява-сівай шэрані.
І ноч паўзла, як вуж.
А па шкляных палях нябес
каціліся, звінелі
пругка-цвёрдыя брусніцы
буйных зор.
У світцы сцюжы шэрай
Беларусь Савецкая
штохвілю размаўляла
з роднаю сваёю сястрой —
з Масквою.
Гаварыць было так шмат аб чым:
з'езд Саветаў,
здароўе Ільіча.
Нервамі і жыламі аднымі
з СССР наш край навекі сплецены
у арганізм адзін,
ў адну магутную і творчую машыну.
Зігзагі радыё сум-жудасць перакінулі
з Масквы у Мінск...

На раніцу ўвесь горад знаў...
Бы глюгі чорныя агідных каршуноў,
трубкі тэлефонаў клявалі вушы,
і злавяшчунным клёкатам
хрыпелі словы два:
«Памёр Ленін».
Смуткам, роспаччу вачэй
прарубы вуліц ажалобіліся.
Урачыста-шопатна вакол.
А ён глядзіць з тысячаў партрэтаў
тысяччу вачэй з нямою думай
з абурштыненых вітрын,
са сцен, з акон, з пакояў,
з часопісаў, лістовак,
з кніг на розных мовах,
абрамлены жалобнай чорнай сцежкай.
Абрысы чэрапа так дзіўна-велічавы,
у ім туліцца дабро і бацькі і прарока,
сталёвы гарт бароцьбаў асілка-велікана
і думы генія, што стралой калёнай
імчацца, віхрацца, палаюць
з цяснінай прошласці туманнай
у будучыні сонечную далеч.

II

Жалобы дні плывуць ў бяздонне дзён,
бы ў каменную глотку сфінкса.
Па тварах мас працоўных
ратаі смутку-роспачы
аруць маршчыны.
То смерць асілка.
Канчына Праметэя.
— Памёр Ленін,
— Няма Леніна,
— Жыве ленінізм,—
жар-птухі радыё з Масквы
марозліва-гарачай,
вулканіста-бунтарскай,
Везувію падобнай,
па свеце ўсім, маўляў маланку,
вестку ймчаць.
Ночна-макавыя колеры,
рэвалюцыйны знак жалобы,

нябыцця ноч і пламень-кроў змагання
злучаюцца ў адно.
Палахліва-жудасны той цвет
чырвона-чорны.
Мазольны люд сусвету ўмомант пазнае:
— Памёр Ленін,
— Няма Леніна,
— Жыве ленінізм.
Дзень дваццаць першы пачатку года сёмага
кастрычнікавай буры
ў жалобе чорнай з крэпу
адзеты на ўсім свеце,
і шэрагам нямых вандроўцаў
тугі сур'ёзна-строгай
гэты дзень жалобны
вякоў кялімы
перарэжа зубленым сярпом,
праб'е грымотным молатам.

III

І кожны гарапашнік шчыры жаль
ад сэрца выяўляе па-свайму,
паводлуг звычаяў сваіх.
Усюль работніцка-сялянскія грамады
чуюць сваю страту.
Нервы ўсіх працягнуты, як стрэлы,
к сонцу Рэвалюцыі —
к свайму Леніну,
к грымотна-бурнаму
Чырвонаму Крамлю.
Адусюль:
ад Афрыкі пякуча-шэрай,
ад воч блакітных Ганга,
ад старых сцен Кітая,
ад тундраў малочна-мглістага Сібіра,
ад зямель Калумба
да паўстанчых змрочных пушчаў Беларусі
зліваюцца ў адзін вялікі шквал
дэманстрацыі і мітынгі рабочых,
бо кожны сэрцам разумее,
што Леніны ў гісторыі чалавецтва
ў тысячагоддзі толькі раз бываюць
і твораць эры на зямлі.

Кожны край па-свойму
веліч яго ставіць.
А беларуская кабета ў шэрай вёсцы
ад прастаты і шчырасці сваёй
галошанне дзядоўскае заводзіць,
пранізанае горам,
аплеценае вобразамі старасвецкіх дзён,
як узор на паясах вясковых:
— На каго ж ты нас пакінуў, ой, татуленька!
— Асірацелі без цябе мы, ой, зязюленька!

IV

Творчы дух людзей, натхненнем поўны,
цяпер красу і мудрасць Леніна шукае:
вучоныя, філосафы трактаты пішуць
таўстатомныя аб Леніне.
У кожным яго слове дзівы генія знаходзяць.
Паэты з вобразаў і рытмаў мілагучных
вянкі плятуць яму на Маўзалеі
з сотняў вершаў, нібы з незабудкаў.
Кампазітары з хаосу гукаў
гармонію знаходзяць для жалобных маршаў
на яго канчыну.
Маляры, скульптары шукаюць
сакрэты рысаў, фарбаў,
каб як-небудзь увекавечыць
для будучых сыноў зямлі
магутны воблік Леніна,—
усім цяпер вядомы.
Кіналенты планету нашу
поясам абкрылі —
адбіткам дзён жалобных.
Прамовы Леніна з грамафонных
тафляў яшчэ доўга будзе слухаць
вызвалены люд.
А яго найлепшы твор,
найлепшы манумент —
СССР.
Аб ім мастацтва —
адбітак толькі слабы,
толькі цень туманны.
Ён сам — з паэм паэма.
Не ў пергамінах,

Не ў фаліянтах,
Не ў маршах жалобных,
Не ў статуях,
Не ў фарбах,—
У жыцці.

V

Надыдзе час,
і ленінізм абхопіць
агнёва-сонечным штандарам
СССР сусвету.
Мары тысячагоддзяў
аб светлай долі чалавецтва
спраўдзяцца ў жыцці.
Усціхне бура боек, спрэчак:
не будзе ані класаў, ані нацый,
а будзе ўсюды
вольны творчы чалавек.
Тады,
праз стагоддзі,
з усіх краёў зямлі,
штогод
у дзень дваццаць першы студзеня,
памкнецца грамадою люд
ў Чырвоную Меку —
саркафаг той паглядзець,
дзе спачывае на Чырвонай плошчы
вялікі правадыр працоўных мас,
што калісьці волю вырывалі
з клыкоў звярыных
капітала.
Дзівіцца будуць тыя пакаленні
ленінскаму генію,
што думкамі і дзеямі
тысячагоддзі пранікаў.

# VII

# У ЯСНЫХ КРУШНЯХ

## У ЯСНЫХ КРУШНЯХ

### I

Ў Ясных Крушнях у даліне
Стаіць бедная хаціна,
Як гарбатая жабрачка
Ці пабітая батрачка.
Хата латана карою,
Вузкай дранкаю старою.
Замест шыбінаў — анучы,
Замест даху — лапак кучы;
Пазапханы шчэлі сенам,
У зямлю улезлі сцены.
Распадзецца во, здаецца,
Бо трасецца і трасецца;
Нейкім дзівам, нейкім цудам
Не рассыпалася ў груду.
Як парваныя аборкі,
Разляцеліся падпоркі —
І тырчаць ва ўсе староны
Часу даўняга праклёны.
Нібы словы сумнай песні,
Абгарнулі хатку цесна
Амярцвелыя істоты,
Знакі злыбеды, бядоты:
Камень круглы і пузаты,
Пень трухлявы, сукаваты,
Воддаль засланка крывая,
Побач цэгліна старая,
Дзве палоўкі дна ад бочкі,
Разнастайныя дашчочкі.
Гэта ўсё сям'ёй разбітай
Вакол хаткі пазабыта,

Абрасло сіўцом-травою,
Палыном і крапівою!

Ой, не год і не дзесятак,
Не адна, а многа матак
Ў Ясных Крушнях вечным ходам,
Безупынным карагодам,
Сваю долю праклінаді,
Пастушкоў як гадавалі
Для багатага маёнтку —
Для дастатку і «пожондку».

Ой, не раз у гэтай хаце
Пралівала слёзы маці,
Як злы цівун без літосці
Бізуном ламаў ёй косці,
Калі сына бараніла,
Калі ў двор цягалі сілай
На пакуту і на здзекі,
Каб зрабіць з яго калеку
На пацеху панскім дзеткам,
Пестунам і малалеткам.

Ой, нямала сцены гэты
Былі жудасцю адзеты,
Як прыгожую дачушку,
Весялушку і пяюшку —
Ўцеху парабка старога,
Мазалістага, сівога
Пацягнулі ў панскі хорам
На ганебнасць і на сорам.
Ой, не раз у гэтай хаце
Гучна сыпалі пракляцці
І слаўцы ядроным макам.
Ліха шмат было ды з гакам,
Як і паншчына сканала,
Як і «воля» тут настала
Пры цару, пры «вызваленцу»,
Меў даволі ліхалецця.

З «вольнай волечкі» ў найміты
Горам мужычок прыбіты
Зноў у двор пайшоў да пана
Працаваць да ночы з рана

На абшырным загуменні.
Пакаленне ў пакаленне
Гэтак шло-плыло ў бяскраі
Каля рэчкі, каля гаю.
Пан быў важным і багатым,—
Гнуў спіну сваю араты,
Крушні Ясныя араў ён
Пад царкоўныя маралы.

Нейкім дзівам, нейкім цудам,
Як праклящце злога Юды,
Як астаткі дзён пакутных,
Адзічэлых, каламутных,
Аж да нашых лепшых часаў,
Без прыправак, без прыкрасаў
Асталася тая хатка,—
Веку цёмнага дзіцятка.
Так стаіць бяззубай цноткай
Год мінулых доч-прыплодка.

II

Вось у гэтай хатачцы ў старэнькай
З хлапчуком жыве маленькім,
З сваім Янкам-сірацінай,
Гарапашная ўдавіна.
На вайне забілі мужа.
Цісне гора, цісне дужа.
— Што рабіці, мілы божа?
Так нядобра, так нягожа
Жыць на свеце жорсткім гэтым
Неабутай, неадзетай
І галоднай, і халоднай,
Без апоры, як ніводны...
Але гэта з паўбядоты,
Бо найгоршую турботу
Маю тую,— як мне, маці,
Свайго сына гадаваці?
Надышоў час галадухі:
Не накорміш нават мухі.
Што мне з хлопчыкам рабіці?
Трэба гадаваць, карміці,
А тут проста хоць давіся,
Хоць у рэчку йдзі тапіся...

Плача маці, плача горка
Ды глядзіць на тую горку,
Дзе палац стаіць, мільгае
І на хмаркі паглядае
Горды, белы, пекны, стромкі
Ды ў абхопе такі ёмкі.
Свецяць вокны, ганкі, дзверы,—
Іх так многа, іх без меры.
А вакол там шмат будынкаў,
Як наваленыя скрынкі,
Нібы гэблем габляваны,
Нібы фарбай фарбаваны.
А далей шапочуць дрэвы;
Рэчка ўецца ўправа, ўлева
І бурліць, пяе пяюшкай,
Змейкай цягнецца ці стужкай
Па разлогах, па далінах,
Па шырокіх лагавінах
І хаваецца ля бору,—
Ў лесе з хвойкамі гавора,
Дзіва-дзіўна пляце-вяжа,
Зычыць гулка, шэпча, кажа
Свае казкі, свае байкі,
Свае цуды, свае грайкі.
Гэта — рай-раёчак панскі,
Што завецца Крушняй Ясная.
Маці ўспомніла і рада,—
Паглядае на прысады;
— То ж няма, нябесны тата,
Там цяперка пана-ката.
Парабочкі цяпер самі
Там жывуць гаспадарамі,
Лоўка ладзяць гаспадарку
Ў тым пакінутым фальварку.
Там, дзе «хаму» было цесна,—
Цяпер гулка пяюць песні;
Дзе лілася кроў мужычча,—
Цяпер шчасце сонца зыча.
Трэба шчыранька старацца,—
Карміць будзе сытна праца.
Зямля корміць, тых шануе,
Хто мазоль на ёй шаруе.—
Разважае ўдавіна:
— Ў пастухі аддам я сына

Гарапашнікам у рукі.
Буду мець я менш дакукі;
Выйдзе там з яго араты
Мо не горшы, чым у таты.
Не пакрыўдзіць — хто меў крыўду,
Каму гора так абрыдла.
Скажа слова шчыра, ціха,—
Знае сам па чым фунт ліха.
І чаму ж я ўсё, сарока,
Так маўчала абібокам
І сынка трымала ў хаце?
Ой, дурэнькая я маці! —
Моцна лае сябе баба
І «ламакай» і «нязграбай»,
Аглядае хатку-пустку
І кусае хвост ад хусткі:
— Ну і глузд у баб трухлявы,
Розум наш, дальбог, няжвавы!

III

Хутка баба парашыла,
Пастушку, што трэба, сшыла,
Навучыла быць паслушным,
Быць стараным, развар́ушным.
Павяла сынка малога
У шчаслівую дарогу —
У фальварак да ратаяў.
Па гасцінцы лядок таяў.
Быў дзянёк вясёлы, светлы,
Грэла сонца, шчыра, ветла,
Пелі птушкі па галінах,
Неба сэрца весяліла.
На зямлі з-пад снежных рамаў
Дзе-нідзе ляжалі плямы
Чорнай глебы, смачнай, тлустай,
Бы цямнелі хлеба лусты.
Гэтак пахла ўсюль вясною —
Над нізінай, над гарою;
У вышыні — ў блакітнай далі
Гучна жаўранкі спявалі.
Завяла сыночка матка
У дом-палац бялюткі, гладкі.
Шчыра там сустрэлі Янку

Ў тую ясную заранку.
І сказалі быць смялейшым,
Весялейшым ды спрытнейшым.
У гасподзе, як і кожны,
Долю будзе мець і ён жа.
Хай ён пасвіць добра статка.
Будзе мець усё ў дастатку:
Кажуронак, шапку, боты,
Будзе жыць ён без бядоты,
Будзе хлеб і будзе сала,
Будзе радасцяў нямала.
Як заслужыць — паліўнога
Купім коніка малога.
Як засвісне — пойдуць рэхі,
Пойдзе водгул на пацехі,
Затрасецца гай хваёвы,
Будзе весела каровам;
Як прыткне да дзірак палец,
Як задзьмухне, як засмаліць,
Як пачне ён сыпаць трэлі,—
Будзе ладзіць бор вяселле.
Гаспадарыць будзеш, Янка,
Як нідзе, ніколі змалку.
Пройдзе дзень у полі хутка,
Нібы хвілька, як мінутка.
А ваўкоў баішся вельмі?
Горш ваўкоў — суседзі-шэльмы.
Гэта праўда, гэта пэўна.
Агнявога птуха-пеўня
Кулакі пусціць пад стрэху
Раз хацелі на пацеху.
На-цю-на! Гэй, дзе ты, Трэзар?
Ганаровы ты, гарэзны!
Станеш ты ў хлапца падпаскам.
Тут не вельмі будзе цяжка.
Відаць, добры хлопчык Янка.
На-цю-на! Каб це маланка!
Жартавалі доўга людзі.
Удаве сказалі: «Будзе
Янка тут някепска жыці,
Весяліцца, не тужыці.
Ён зімою пойдзе ў школу,
Як закніжыць, як зашколіць!
І навучыцца твой Янка

Не горш пана ці падпанка
І пісаць і рахаваці.
Не бядуй, не плач жа, маці!
— Я ад радасці, паверце.
Радасць плача ў маім сэрцы.
Застанецца Янка тутка,
Я пайду сабе ціхутка.
Мабыць, курыца знясліся,—
Прынясу яечка Ясю...
— Ты не бойся, тут кармежкі
Хопіць без твайго яечка!

## IV

Зажылося Янку добра.
Ён — вясёлы і харобры,—
Выганяе ў поле быдла,—
Яму праца не абрыдла,
І будзіць не трэба зрана.
Як яшчэ стаяць туманы,
Як яшчэ мігцяцца зоркі,—
Чуваць Янкава гаворка:
«Дайце мне скарэй снядание!
На-цю-на! На паляванне
Мы з табою зараз пойдзем.
Годзе нам драмаці, годзе!»
Цюцька гаўкне, жмурыць вочы,
Бо яшчэ драмаць ахвочы.
Янка спрытна з месца скокне:
«Гэй, каровы-абібокі!»
І бычка пагладзіць ласы.
«Эх ты, любы мой Падласы!
Падраслі мо занач рогі?» —
Шмат на гэта трэба змогі,—
Трэба рогі пальцам мерыць,
Бо не верыць вокамеру.
А бычок той гэтым часам
Пазірае набак шчасна,
Падымае хвост трубою,
Выгінаецца дугою,
Бярэ радасць — не стрымае,
Зараз пусціцца да гаю,—
Брык і брык — бычок у целе.
«Што з табою, звар'яцелы?» —

Зазлаваўся нібы Янка,
Лясь і лясь сваёй драцянкай.
Тут і Трэзар так пацешна
Як загаўкне, як забрэша
І спружынай як ускоча,
Аж, здаецца, Трэзар хоча
Брэхам цэлы свет стрывожыць.
Во і Янку заварожыць!
Даліпан, заваражыў ён:
Той бяжыць (во лопнуць жылы)
За бычком гэтым гуллівым,
За сабакам жартаўлівым.
Нейкі дзядзька каля ганку
Бачыць гэтую гулянку,
За бакі бярэцца з смеху
І крычыць: «Ты бойся грэху,
Янка так скаціну мучыць
Ды сабаку баламуціць!»
Свеціць сонца. За скацінай
Янка ходзіць па лагчыне.
А травіца яшчэ росна.
Адзінота. Янку млосна.
А нябесы гэтак чысты,
А гушчар такі імглісты.
Цень глядзіць са шчылін бору,
Павылазяць страхі з нораў.
Лезе ў думкі байка таты
Аб фальварку аб заклятым,
Дзе людзей цкавалі псамі,
Рвалі скуру паласамі,
З бедных вопраткі зрывалі
Ды калодкі надзявалі.
Галяком у муравейнік
Іх кідалі вунь — дзе ельнік.
Страшна Янку — ў лесе цені,
І галін сухіх трымценне,
І хваёвая гамонка.
На ратунак раптам слонка —
Як заззяе, як зайграе...
Вось і рэчка залатая.
Страх забыты, бы ніколі
Не было яго на полі.
Так мільгаюць матылькамі
Ў Ясных Крушнях дні за днямі.

## V

Не калінка гнецца ў гаі,
Не сарока байкі бае,—
Дабрадзейкі, бабкі, цёткі
Носяць-сеюць байкі-плёткі:
Удавіца бесу-чорту,
Злому, гідаснаму хорту
Прадала душу святую,
Залатую, маладую;
Аддала ў фальварак сына,—
Ён у лапы пекла рынуў.
Ой, бажніц няма ў фальварку;
Праца йдзе, як па загарку;
Няма сварак, няма спрэчак,
Няма востранькіх славечак.
Там не моляцца ніколі
Ці то ў хаце, ці на полі.
Там з папа смяюцца людзі,
Хай жа лепш такіх не будзе!
Там праз меру ўсе лагодны.
Так не бачыў з нас ніводны.
Гэта кепская прымета:
Злы, страшны антыхрыст гэта
Цягне ў пастку ачмурэлых,
Ашалелых, адурэлых.
Цар ангельскі едзе, скача,
Перарэжа ўсіх, няйначай;
Пан імчыцца з «велькім пэндам»
У фальварак па арэнду.
Будзе шыбеніц бясконца
Ў нашай змучанай старонцы.
— Забяры хлапца з фальварка,
Прывядзі дахаты шпарка.
А то потым будзе позна,—
Людзі ў нас талкуюць розна,—
І няшчасная матуля
Затужыла па Янулі,
Задрыжэла, як асіна:
— Не дай бог, хлапчук загіне! —
Стала ёй жыццё няміла,
Цёнгле сны благія сніла;
Сніўся вісельнік і чэрці,
Сніўся цар, вужака, смерць ёй.

— Ой, звязаўся на нядолю
Янучок мой з гэтым полем! —
Вось надумалася маці.
Свайго сына «ратаваці».
У гушчар пайшла ціхутка,
Там пачула рэха дудкі:
То сынок сядзіць і грае,
Не баіцца страхаў зграі.
«Во знайшла!» (а вочы — шылы),
За каўнер патармашыла.
«Пойдзем, бедны мой, дадому.
Не хваліся ты нікому,
Што служыў тут». Хлопец плача:
— Звар'яцела ты, няйначай!
Як я кіну сваё стада?
Гэта ж сорам, гэта ж здрада.
Ты, мабыць, жартуеш, матка,
Гэтак спрытна, гэтак гладка...
Дык навошта табе жарты?
— Ты не будзь, сынок, упартым!
Удавіна за чупрыну
Пацягнула Янку-сына.
Тут — ці хоцькі, ці не хоцькі —
Пастушок пайшоў у прочкі.
Вырываўся, плакаў, енчыў,
Па дарозе бедны кленчыў:
— О, пусці назад, матуля...
— Замаўчы, бо дам на дулі!

## VI

Тры дні хлопчык прывязаны
Быў у хаце да тапчана;
Адвязаўся на чацвёрты
І, абшарпаны, абдзёрты,
Ён пабег назад вясёлы,
Падкасаўшы свае полы,
У фальварак па сцяжынцы,
Па зялёнай па лагчынцы.

# VIII

# З СКАЗАЎ БУРЫ І ВІХОРАЎ

## З СКАЗАЎ БУРЫ І ВІХОРАЎ

### I

...Го-го-го...
Посвіст рэжа пушчу:
...Ф-ф-ф-ю-ю-у...
Ў апавітках ночнай сажы
З смаглаю журбою
Коціцца, паўзе па аксаміце лесу
Пошчак-рэха.
...Го-го-го...
Нехта звар'яцелы
Голаў б'е аб хвоі.
Скрабе плячом аб шурпаць жорсткіх пнёў
І свішча, свішча:
...Ф-ф-ф-ю-ю-у...

А пушча,
Вілаватымі асілкамі,
Як той агромны ачарот,
Дрыжыць,
Дрыжыць,
Дрыжыць.
І шолах лье такі,
Як быццам на чыгун гарачы,
Дабела раскалёны,
Пырскае халодны град крапінак:
...Ж-ж-ж-ж...
Так бор гудзіць.
Тут гладкі быў абшар зямлі,
Як велізарны плех.
А з далечы прастораў і часоў
Імкнулася сюды, бы шквал сталёвы,

Няведамае племя,
Калюча-кудрае, віхрастае
І дзіка-воўчае.
Нахлынула, нарынула на веча-сход
Старукае, станогае
Няведамае племя.
І раптам —
Анямела, ацвярдзела,
Мохам абсцілалася,
Смалою абурштынілася,
Засталося на векі вечныя стаяць
У пушчу-лес;
У лес з ваўкамі, ягадамі і грыбамі,
З казкамі дзядоў,
З труканнем бяроставай трубы
Дзівацкіх пастухоў.
А мо не лес —
Коміны падземных фабрык
Вылезлі, як дудкі, ўверх з глыбі
Пячэр агнёвых, з падзямелля
І свішчуць,
Свішчуць.

То пальцы два
Ў губу ўлажыў малойца новы,
З новай казкі —
Засвістаў.
Выскачыў з бярлогі сумны воўк,
Ад голаду сухі, бы корч,
І бразнуў фосфарам вачэй
У хмельны цемень лесу.
Іскравіў голадам, самотнасцю
Вакол.
Паджаўшы хвост
І апусціўшы нізка морду,
Воўк сунуў між пнёў —
Апрыкрала яму «цю-га» людское.

II

Як даўны сын гушчару,
Які трымаў у страху
Магнатаў і князёў
І бараніў сярмяжны люд,

Так і цяперашні паўстанцаў атаман —
Янка Віхрабурны —
Хлопец з вёскі,
З буйнаю сям'ёю дзяцюкоў
Палохаў тых,
Хто сюды прыйшоў з Пазнані і Варшавы
Панаваць.
Белыя былі арлы ў паноў на шапках,
Багнэты і нагайкі — у руках.
Матка боская з ксяндзамі — у хвасце.
Беларусь ад іх стагнала стогнам.
Беларусь апранута была
Ў пажарышчны бурнос паўстанняў.
А кіпці белапанскага агіднага арла
Ірвалі яе грудзі
І сэрца трэпетнае
Скублі на жылкі-ніткі.
...Што рабіць? —
Завойкаў люд па вёсках,—
...Што рабіць?
Дзе воі нашыя?
Дзе нашыя чырвоныя саколы
З зоркай на шаломах,
З бурай вольніцы ў грудзях,
З полымем штандараў
На штыках?
Дзе воі Леніна?
Дзе?
— Тут! —
Гукнуў Янка Віхрабурны,—
Мы самі — ўсе па вёсках!
Хлопцаў грамада адзін ў адзін!
Ідзем у цёмны лес!
Чырвоны певень загуляе па маёнтках!
Зрываць будзем масты!
Як звяроў, трывожыць будзем
Панскіх наймітаў труслівых!
Мы вытурым іх з Беларусі!
Наш курганны край задушыць іх жыўцом;
Апынуцца яны, як тыя мышы, ў студні.
Нам не арліхі дохлыя патрэбны,
А творчы і мазольны Серп і Молат!
Мы адваюем край!
Ён вольным быць павінен!

Вінтоўкі ўсе з захаваў павымайце!
Ідзем адваяваць жыццё!
На фабрыцы дагэтуль Янка працаваў
У горадзе, ён выведаў на сваіх плячах —
Адкуль на свеце ліха.
Бываў на сходках,
Кніжкі ён чытаў,
Вярнуўся ў вёску вольніцы байкар.
Вочы ў хлопцаў заблішчэлі.

### III

Ноч і глуш
Спляліся між сабою.
Вандруюць, як разведнікі,
Між прысадаў векавых
У дзікай пушчы.
Над цёмнай шчэццю
Стромкіх дрэў
Вісіць над каркам сівай хмары
Ярка-медны месяц.
Не месяц —
То ў крыві карона,
Сарваная віхорам з галавы
Нязнанага бажышча.
Не месяц —
Чырвона-вогненнае сэрца волата
Блытаецца ў сумнай пустцы неба.
Не месяц —
Агромністая бурая лілея
Ў бяздонні шкла нямых пустотаў
Заквітнела.
А над борам
Па блакіце люстраў
Нехта рассыпаў вялікі коўш
Чырвоных, ядраных малін,
Пульхных, нібы вусны малалетак —
Зоркі.
Нехта рассяваў
Па вадзяністым шоўку
Зерняткі з рубінаў —
Зоркі.
Нехта тысяччу вачэй
Глядзіць ўніз — у кудры бору —

І залатымі шпількамі
Коле пушчу.

Янка Віхрабурны
Толькі што прыйшоў у лес.
Прыдушаным авечым стадам
Ляжала воддаль вёска.
Часам даляталі стуль,
Бы спалоханыя птушкі,
Шумы-гукі:
Скрып варот,
Сабачы брэх,
Ні то гоман,
Ні то шэпт людскі.
Усё гэта лілося ў сэрца Янкі
Чароўнай музыкай,
Хмелем супакою;
Веяла яму ў вочы абразкамі
Гадоў даўно мінулых...

Абразок за абразком мігцеў,
Бы на заходзе сонца ззянне колераў.
Вось малы ён пастушок
З васільковым аганьком у зрэнках.
(Ў рэчку углядаючыся,
Ён заўсёды бачыў сам сябе,
Як быццам у люстэрку.)

Старэнькі лысы дзед
З слязлівымі вачыма
Яму тады пры стадзе
Казак шмат апавядаў:
Пра ведзьмакоў, русалак,
Ваўкалакаў і разбойнікаў,
А больш за ўсё яму былі ў спадобу
Казкі аб асілках,
Што нарадзіліся ад зор.
Раслі асілкі тыя ў вокамгненне,
Высокія — бы хвоі.
З жалезнай булавою ў сто пудоў
Пускаліся яны па свеце вандраваць,
Біліся з змяямі,
З чароўнай, цёмнай сілай,
З панскім войскам,

З панамі,
Што гаротны люд душылі на прыгоне.
У тых асілкаў:
За пазухаю — сонца,
Месяц ясны — на чале.
Дзед памятаў прыгон —
І жудасныя казкі-былі
Гаварыў маламу Янку
Аб тым, што дзеялася
У маёнтках панскіх.
І кулаком старым сухім,
Пажоўклым, бы карэннем з-пад зямлі,
Трос стары ў бок маёнтка
Пана Скрыцкага,
Які здалёку белым дахам
Неба падпіраў.
Тады ў вачах патухлых дзеда
Палаў агонь...

З дзівам пазіраў малы Янка
На маёнтак панскі.
І доўга задумённы смутак
Яго вачэй палацы акрапляў...
Там...
Ў аксаміце, золаце і шоўку
Гадавалася, расла
Панская дачка Марына —
Белая і пухлая дзяўчына,
Як бы сатканая з пуху
Снежна-белага, лябяжага...
А вочы... вочы...
Ласкавыя, мяккія.
Гляне —
Цёпла на душы малога Янкі робіцца,
Бы песня жаўранка шчакоча яму вушы,
Бы васілёчкі пясцяць яго губы,
І цэлы дзень тады
Шчасцем быў ён сыт.

А раз...
Апрыкраў ёй.
Сабакамі яна яго цкавала,
«Хамам», «быдлам» абазвала,
Як доўга на яе здалёку

Ён глядзеў.
Ён пахаваў глыбока ў душы,
Бы у труне,
Пачуцце кволае.
Памёр яго дзіцячы бог.
І злосць яго ўзяла.
Ў «мужыцкім» сэрцы
Нешта гордае і гнеўнае палала...
Як быццам раптам
Сярод ціхага і сонечнага дня
Пакрылі неба хмары,
Віхор пачаў круціць,
Маланка заіграла —
І горача і весела так стала.
Ён сам не знаў чаму,—
На Марыну болей не глядзеў.
Аднак жа
Постаць гожая дзяўчынкі панскай
Ў яго грудзях жыла,
Атрутаю хмяліла яго думкі.

З пастушка зрабіўся Янка
Парабкам, здаровым, стромкім.
Марына вырасла ў паненку.
І кожны раз, як ён яе здалёку прыкмячаў,
Успамінаў цкаванне.
І кожны раз расла і злосць
І гордасць.
І кожны раз, аднак, цягнула да яе...
— О, сэрца!
Сціхні ты, гадзюка, сціхні!
Не для цябе адроддзе панскае!
Каб загасіць агонь пякельнага кахання,
Янка ўцёк у горад,
У незнаёмы горад.

## IV

Горад...
Як калісьці ў дзяцінстве Янку вабіў лес,
Так яго пасля зачараваў вялікі горад:
Казка з каменя і сталі.
Горад
У зморшчынах глыбокіх, гулкіх вуліц,

У павуціне дротаў,
У рогаце машын,
У маланках-агнявіцах электрыцтва,
У хмельных скоках самаходаў і трамваяў.
Нервовы і вар'яцкі горад
Кіпеў жыццём.
Як мурашкі
На карчы ў лесе,
Кішмя кішэлі людзі.
Штодзень злаваўся горад,
Бы асілак грозны.
Гэта фабрыкі, заводы
Крычалі ў неба,
Высунуўшы ўверх страшныя коміны,
Што чадзілі абшары вышыні
Туманна-шызым дымам,
Плявалі ў перламутравы, аблочны
Трон нябеснага тырана.
Грозным, гнеўным выкрыкам
Звалі фабрыкі.
Дрыжы, банкір і фабрыкант!
Свае хаўтуры чуеш ў гуку фабрык!
Ў бетонных курганах
Навекі ты заснеш.
Дрыжы!
Музыка, шампанскае, блудніцы.
І блеск кафэ-шантанаў
Хай ліжуць твой распусны мозг,
Зацемраны агіднаю хваробай.
У сутарэнні сядзіць галодны твой нявольнік,—
У лахмоццях злосны,
З маланкай цёмнаю ў вачах,
З пракляццем у душы,
З матаршчынай на губах,
З сталёвым гартам у руках;
Ён сатрэ цябе з зямлі,
Ён створыць новае жыццё.

Янка на ліцейным доўга працаваў.
На сходы тайныя хадзіў ён часта.
Там грамаце студэнты навучылі.
Паразумнеў, чытаў шмат кніг.
Шырокі, вольны, сонечны абшар
Горда думкі засвяціў.

Вайна і Рэвалюцыя.
І Янка добра ведаў,
Што такое пан і фабрыкант
І што рабочы і мужык-бядак.
Гардзіцца ён пачаў,
Што належыць да той сям'і людской,
Дзе «костка чорная» пакрыта
Мазалямі творчай працы;
Да той сям'і вялікай, братняй
На ўсім свеце,
Што будучыну, шчасце для людзей
З жалезнай сілай рве з рук
Пагніўшых і аджыўшых век свой
Багатыроў,
Якія хутка пойдуць у процьму
Тхлані, забыцця.

V

У гэтых думках-успамінах
Янка не прыкмеціў,
Як паўстанцы-хлопцы падышлі
Са стрэльбамі,
З харчамі,
З кулямётам.
Ажыла пушча...
Там гнёзды сабе хлопцы парабілі
І выходзілі часам з пушчы
Жаўнераў панскіх, нібы качак,
Паляваць.
А Беларусь, як бы капусным рабаком,
Кішмя кішэла шляхтай і панамі.
Край завыў
Галодны, ранены.
Музыка панскі бізуном іграў
Па «халопскіх» спінах,
Забіраў дабро,
Гвалціў матак і дзяўчат,
Пажарышчы па вёсках узнімаў,
Расстрэльваў народ.

І помста полымем гарэла
У сэрцах партызан.
Усе адзін ў адзін

Далі прысягу камандзіру
Змагацца за народ бядняцкі,
Трывожыць пана,
Знішчыць да канца.
А сведкаю была матуля-пушча.

Хто тры разы савою закугыкаў?
Хто будзіць пушчу сполахам паўночным? —
Малойцы Янкі знак даюць...
Чырвоны полаг неба.
Гарыць маёнтак панскі, як лучына.
І ноч успыхнула,
Прачнулася.

Спалохана чытае люд
Чырвоную прысягу
На аркушы мядзяным неба:
Помста,
Помста,
Помста —
За вёскі і за люд сярмяжны.
Гарыць маёнтак панскі.
Пажарышча рагоча, як вар'ят...

## VI

Гарачы летні дзень.
У пушчы цень і халадок.
Пахне ягадай, грыбамі
І смалою.
Лепшага няма на свеце,
Як у лесе — у глушы
Сядзець грамадай маладой,
Гарачай і адважнай,
І сполах навадзіць на тых,
Хто крыўдзіць люд гаротны.
У кожную хвіліну ты гатоў
Змагацца за жыццё,
Пайсці на смерць за ўсіх гаротных.
Ты нібы на працягнутым
Над бяздоннем дроце
Скачаш.
Упадзеш — і скончана ўсё.
Ты чуеш, што жывеш...

Нібы змейкаю ў руках,
Смерцю і жыццём
Іграеш.—
Спакойна, з жартамі
Палуднавалі хлопцы.
Раптам нешта шаснула ў кустах...
Прыбег разведнік:
«Пазнанцы акружылі лес!»
Ускочылі паўстанцы.
Стрэльбы ў рукі.
Усміхнуўся Янка.
Ведаў, што жаўнеры ў лес не пойдуць —
Пабаяцца.
А скуль дазналіся яны,
Дзе мы сядзім? —
То вынюхаў мой брат Лявон...
О, подлы... здраднік...
З даўных пор Лявон
Аконамам у пана Скрыцкага.
Гадоў мо з дваццаць міскі ліжа панскія,
Як пёс.
Ён рассыцеў і панам сам зрабіўся.
Ён за паноў гатоў цяпер
На шыбельніцу ўзвесці
Не толькі ўсіх сялян —
І бацьку роднага.
Боль сумлення ў ім патух,
Як вугаль той у лужы.

— Здавайцеся ўсе...
Мо вас памілуюць.
Акружаны вы тут
Жаўнерствам польскім.
З лесу шпілька не пралезе.
Ты звар'яцеў, мой брат!
За што спаліў маёнтак?
Пан Скрыцкі — добры пан,
Вер брату роднаму —
Здавайся! —
Так соладка, так смачна гаварыў Лявон
З паўстанчай грамадой у лесе.
Пры гэтым выгляд у Лявона быў,
Як у святога.
Вочы — бы ў ягня:

Пакорлівыя, добрыя.
Сам гнуўся у бакі туды-сюды,
Як быццам без касцей ён быў.
І хітрасць, хцівасць вылезла наверх.
Лявон круціўся абаранкам,
Як пад карчом куслівая змяя.

А Янка — родны брат яго —
То бляднеў, то чырванеў,
Ён чуць стрымаў свой гнеў,
Уеўся пальцамі ў наган.

— Ты брат мне, кажаш, брат?
О, подлая гадзюка,
Хоць костка родная,—
Сабачым, панскім мясам
Абрасла...—
Маланкі дзве блакітныя
Бліснулі грозна з Янкавых вачэй.
— Хлопцы! Плі!
Кашлянулі рэвальверы.
Лявон завойкаў, паваліўся.

VII

Мядовым сокам канюшыны
Пахне сонца.
Яно звініць-гудзіць
Жаўранкамі і пчоламі.
Залатыя, драцяныя косы сонца
Ў рэчцы замільгалі,
Зайчыкі яго на гладкім дне смяюцца,
Ў апракінутых уніз нябесах,
У люстэрцы з перламутру
З акунькамі срэбнымі гуляюць.

Заціснуты абапал
Сцяною жыта,
Возерам аўса,
Жвірова-жоўты ўецца
Шлях.

Удаль,
Удаль,
Удаль...

З прастораў хмельных,
Ярка-гучных
Кідаецца ў пушчу доўгі шлях;
Уцякае ў хвойны цень з гарачыні.
Абапал шляху —
Ў сполаху застылыя вандроўцы.
Сям'я рабін да скрыўленага плота
Цісненца;
Абвернутыя ў скруткі кужалю
Дрыжаць бярозкі.
А воддаль — елачкі,
Бы шэраг пірамід,
Уверх глядзяць.
Ім ветрык папраўляе складкі
На світках з вожыкавых голкаў.
А дзе-нідзе
На межах,
Каля мшыстых крушняў,
Што абраслі «сабачымі грыбамі»,
Вартуюць шлях
Крыжы...
То голыя, нязнаныя істоты
Выпучылі грудзі ўперад,
Разгарнулі рукі ўшыры,
Выцягнулі шыі ўвышкі...
І безгаловыя нямеюць...
Нямеюць...
Бо не могуць гаварыць
Аб тых, што дрэмлюць у зямлі
На гэтым месцы.

Спіце, косці!
Тысячамі блукаліся па дарозе
Адвечна вінаватыя,
Адвечна загнаныя,
Адвечна прыбітыя,
Адвечна гаротныя
Сяляне —
«Бежанцы».
Вас царскія нагайкі
Павыганялі з родных гнёзд,
Пускалі вёскі полымем і дымам.
Павыкурылі ўсіх,
Бы стады счумленых авец.

Ад немцаў забіралі
З-пад Нёмана,
З берагоў Віллі.
Ў вачах туга аб тым,
Што засталося.
Падушкі і цабэркі на павозках,
Жывёліны ад сполаху рыкаюць.
Пануры конь, пакінуты гаспадаром,
Ў задуме голаду дрыжыць.
І, як авёс з дзіравага мяшка,
Па дарозе трупы сяяліся.
Не плакалі па іх —
Бо не было калі, каму...
Сухія былі вочы,
Гарачыя ад роспачы.
Маўчы, крыжоў сям'я,
А то застогне камень,
Заенчыць поле,
Віхор скалыша шлях,
Уздыбіцца пясок
Ў абшарах Беларусі,
Засыпле вочы сонцу,
Досуха загаціць рэчкі
Ад гневу-помсты.
Ад вогнішчаў-пажарышч
Нашых вёсак
Нямала пёкся шлях.
Нямала шлях у трасцы гойдаўся
Ад выбухаў гарматаў,
Ад рыку бомбы з самалётаў,
Ад кулямётнай ашалелай малацьбы,
Ад гіку-свісту вастрадзюбых стрэльбаў,
Ад абозаў рознафарбных войск,
Ад конніцы здзічэлай,
Што ўсё поле здратавала.
На беларускіх гонях
Залішне многа
Канцэртаў смерці
Адбывалася.
У вопратках руінаў-папялішчаў
Беларусь галошанне казала,
Прычытанне рвалася з грудзей,
Кідалася, нібы град камнёвы.
Знізу ўверх —

Ў нямую сталь нябёс!
Пракляццем білася,
Як той азяблы падарожнік
Б'ецца ў хату.

### VIII

Гэй, шлях, маўчы!
А шлях наш не маўчыць...
Ганебны, тлусты польскі пан
Зноў яго ўзбудзіў.
Прачнуўся з крыкам.
Як нерв паколаты, балючы,
Дрыжыць наш шлях-дарога.
Войканне і плач расце,
З вёсак надыходзіць
Роем аваднёў.
Воблака пяску кудзеліцца над полем.
Конніца.
Павозкі.
Жаўнерскі брыль блішчыць.
Лаянка пазнанская.
Дзікі карнавал з пякельні
У грозна-страшным выглядзе
Соваецца па дарозе:
Адзін ў адзін сабраны ўсе
Дзяды старыя з вёсак.
Вяроўкамі звязаны рукі.
Па лысінах спяклася
Цёмна-бурымі блінамі кроў.
Апухлі вочы на ссінелых тварах.
Акрываўлены кашулі на плячах
Ад шомпалаў жаўнерскіх і нагаек.

А побач з коннікам
Ідзе стары яўрэй
З вяроўкаю на шыі,
Другім канцом прывязан да сядла.
Сівую бараду,
З мясам вырваную,
Трымае польскі «рыцар» у руцэ —
Вайсковая трафея.
Па патыліцы
Старога б'е,
Каб той ішоў хутчэй.

На сялянскім возе
У вопратцы парванай
Сядзіць дзяўчына.
Прышнуравана моцна да сядзення.
Рукі пераціснуты вяроўкай.
К акрываўленым грудзям дзяўчыны
Жаўнер здзічэлы лезе.
Жарты строіць.
Ахрыплым голасам
Крычыць дзяўчына,
Плюючы ў твар жаўнеру.

О, гордая красуня,
Прыгожая і смелая Агата!
За што дзявочу чэсць тваю забралі?
За што такія здзекі над табой? —
Ты, Янкі Віхрабурнага сястра,
Разведніцай адважнаю
Была ў паўстанцаў.
Хтось падказаў жаўнерам...
Старога бацьку толькі што забілі.
Труп, мабыць, шчэ цёплы.
Брат — у лесе...
І вочы дзеўчыны,
Налітыя крывёй,
Маланкаю бліснулі ў бок жаўнера.
— Не злуй, пся косць! —
І штырх яе у бок.—
Не то йшчэ будзе!
А за грамадай, на калясцы,
Рассеўшыся вяльможай,
Пан Скрыцкі ехаў сам.
Ён раптам загадаў,
Каб «арыштанты» заспявалі
«Ешчэ Польска не згінэла».
Нанова пад спякотай сонца
Катаванне пачалося...
На панскую пацеху
Спынілі ход.
Упартыя былі сяляне:
Замест гімна —
Мацяршчына...

## IX

А побач жыта
Рухліваю густой сцяной.
І раптам...
Дзіва...
З жыта выскачыў
Атрад паўстанцаў...
Сполах...
Крыкі...
Страляніна...
Стогны...
Пан Скрыцкі першым паў ад кулі.
За ім — улан і конь,
Да сядла якога
Быў прывязаны стары яўрэй.
Пакінуўшы грамаду «арыштантаў»,
Жаўнеры уцяклі,
Забралі толькі сястру Янкі...
Ад злосці Янка скрыгатаў зубамі.
Цямнела у вачах,
А сэрца вугаллём
Пяклося у грудзях.
— Агатка! Родная сястрычка!
Шчыра службу ты служыла люду.
З панскіх рук
Жывой цяпер не выйдзеш...
Я адамшчу...
І вочы —
Два агні
На бледным твары запалалі.
І сківіцы, бы абцугі,
Сціскаліся,
Скрыпелі.
І цела ўсё —
Сталёвая спружына:
Во-во,
Стралою смерці
Пусціцца ўдагонку
За катам польскім...
— За смерць нашых бацькоў
Пан Скрыцкі заплаціў жыццём.
Марына — адменай будзе

За Агату.
З мясам вырву з сэрца я
Каханне.

## X

Не ваўчанё
Над прыстрэленай ваўчыхай
Вые, прычытае,—
Марына, панская дачка,
Над забітым бацькам плача,
Б'ецца галавой аб жвір.
Ламае рукі,
Ўся дрыжыць.
Змрокі узнімаюцца, растуць,
Бы цёмныя густыя кудлы воўны,
Па лагчынах дыміцца туман.
У хвалях сівых хмарак
Месяц — човен залаты
Плыве...
Марына ціха плача.
Не бачыць, што над ёю
Стаіць Янка —
Атаман паўстанцаў,
Той, каго яна калісь
Сабакамі цкавала...
Стаіць Янка.
Вачэй не можа адарваць,
Маўчыць.
Забыў ён бацьку роднага,
Забітага сягоння
Пад камандай пана Скрыцкага.
Забыў сястру Агату,
Якую во цяпер,
У гэтую хвіліну,
Жаўнеры мо жывую рэжуць
На кавалкі.
Забыў пра тое,
Што тут нядаўна
Пракляў сваё каханне
Да панскае дачкі.
Ён бачыць,
Як дзіўная дзяўчына,
Стромкая, бы топаль,

Белая, бы снег,
Плача, убіваецца.
— Марына...— прашаптаў,—
Марына...
Марына ўскочыла на ногі,
Тварам да яго.
Ў адну хвіліну
Вочы высахлі,
Сталёвыя, халодныя.
Пранізвалі яго
Пагардаю, нянавісцю,
Што з роду ў род
Жыве ў паноў
Да «чорнай, хамскай косткі»...
Прытомнасць да яго вярнулася.
— Дык вось якая ты...—
Прахрыпеў.
І рэвальвер бліснуў...
Раптам хтосьці ззаду
За руку яго стрымаў.
— Не страляй, мой брат,
Не трэба!
То была Агата.
Нейкім цудам вырвалася
З рук жаўнерскіх:
Уцякла.
— А ты, паненка,
Уходзі скарэй.
Ты вораг мне. Жыві,
Каб бачыць, як і мы тут
Зажывем на славу.
Тады ад зайздрасці
Сама ты здохнеш.
Ідзі, адроддзе воўчае, адгэтуль!

## XI

Прайшло йшчэ колькі дзён.
Адважная, магутная і гнеўная
Армія Чырвоная
Імпэтна, як віхор,
Гналася за сытым
Войскам панскім —
За стадам япрукоў,

Адкормленых амерыканскім салам,
Апранутых ў ангельскія шынелі.
На панскім карку
З страху
Лой дрыжэў.
За спінамі — сталёвы штых
Рабочых і сялян.
На Варшаву шлях трымалі.
Песні волі заспявалі ў нас.
Пачаў залізываць наш край нанесеныя раны.
На папялішчах новае жыццё
Квітнела...

# IX

# АДПЛАТА ПАНУ

## АДПЛАТА ПАНУ

**(З часоў паншчыны)**

I

Там, дзе стромкія бярозкі,
Сіднем селі хаткі вёскі.
Каля вёскі,— выган роўны,
А за выганам — загоны.
За загонамі — лясок.
За ляском за тым ускок
Лез у неба, лез да зорак
Адзінокі стромкі ўзгорак,
А на ўзгорку — роўны пляц,
Дзе свяціўся дом-палац.
Нібы злое бяльмо-вока,
Той палац бялеў здалёку.
Жыў на ўзгорку на крутым
Пан сляпы ў палацы тым.
Людзі скардзіліся надта
На благога пана-ката.
Не за цяжкую работу,
Не за вечную турботу,
А за іншы, горшы здзек
Слязьмі плакаў чалавек.
Не мазоль людзей палохаў.
Не ад працы бедны вохаў,
Не ад горкае нядолі
На шырокім панскім полі,
Не ад крыкаў цівуноў,
Не ад свісту бізуноў.
Бо на панскіх на загонах
Так-сяк звыкліся з прыгонам,
У хацінах курных цесных
Часам цешыліся песняй;

Песня ймкнулася ўгару
На высокую зару,
І адтуль чырвоным птахам
Біла крыллямі аб дахі:
Зыкі брызгалі яскрава
На абшары, на дубравы.
Дзеі горшыя былі,
К ім прывыкнуць не маглі:
Вочы панскія сляпыя,
Як ражонішчы, страшныя,
Бедных рэзалі-калолі
Аж да страшнага да болю:
Той сляпы, той панскі зрок
Пранікаў людскі куток
І даводзіў да дрыготаў.
Адпадала і ахвота
Жыць на свеце — бельмы пана
Аж да вечара ад рана
Ўсіх калолі, як сукі,
Як сталёвыя цвікі:
Пан сляпы, а заўжды знае,
Дзе дзяўчына маладая,
Дзе красуня-маладуха,—
Да яго даходзіць слуху.
Да сябе з вясковых хат
Згоніць пан усіх дзяўчат;
Корміць мясам, поіць мёдам,
Кружыць гучным карагодам.
Граюць скрыпкі і басэтлі
На ігрышчы панскім гэтым
Дзень за днём, за ночкай ноч,
Ажна іскры сыплюць з воч.
На благія жарты-кпінкі
Пан ім ладзіць вечарынкі.
Ён у шумным карагодзе
Страхаццё на іх наводзіць,
Бо іх мацае рукой:
Робіць спробы над красой.
А каго з іх спадабае —
Застаецца пасля балю...
Быў тут сведкай слёз і стогнаў
Бедны стараста прыгонны.
Ён зганяў сюды дзяўчат.
Воля пана — то не жарт.

## II

Раз пад вечар громка, строга
Кліча старасту старога
Пан сляпы к сабе ў камору,
Кажа: «Во якраз у пору
Ты прыйшоў! Наладзь гульню,
Знаеш, так, як я люблю!
Калі не, дык закатую,
Галаву здзяру пустую!
Пасяку цябе на мяса —
Маім выжлам на каўбасы.
Мой фурман на гэта зух,—
Выб'е твой мужыцкі дух!»
Мужычок стаіць, трасецца:
«Дзе схавацца? Дзе тут дзецца?
Заклююць, з'ядуць сяляне,
Мне жыццё пякельняй стане.
Вось паганства, вось брыда,
Проста гора ды бяда!»
Выйшаў стараста з пакояў.
Над зямлёю зорак роі
У сінявых у пасцелях
Люду штось казаць хацелі.
Во-во скажуць слова, сказ,
Шэпнуць люду ўніз хоць раз...
А над гаем над хваёвым,
Пад абшарам пад сталёвым
Ціш вісела ільдзяная,
Ціш смяротная, нямая;
Жудзь дрыжэла на палях,
На цяністых пустырах.
«Гэй, нябёсны божа, дзе ты,
Ў рызах вогненных адзеты?»
«Дзе ты?» — водгалас гавора
На шырокім на прасторы.
«Дзе ты?» — кажа цёмны бор.
«Дзе ты?» —крык плыве да зор.
«Што ж ты бедных не ратуеш?
Ці не бачыш? Ці не чуеш?
Мы ж папоў тваіх паілі,
Мы ж ксяндзоў тваіх кармілі,
Мы ж маліліся шмат год
Да хмялення, да хрыпот...

Мы падлогу білі лобам,
Святкавалі свята добра.
Ў нашых хатах у старых —
Малявідлы ўсіх святых.
Пад мядзянымі званамі
Чарнарызнікі над намі
Жартавалі ў тлустым целе,
Вартавалі нашу цемру.
Гулка бомкалі званы,
Ці не хлусілі яны?
Мо ўсё выдумкі і глумы?» —
Так старэнькі думаў думу.
А нябёсныя пустоты
Навадзілі на маркоты...
Дзед пусціўся нацянькі,
Дзе лунālі аганькі.
Нібы страхі-чарнарысы,
Нібы кнігі-летапісы,
Хаткі-труны, хаткі-цені
Смалякамі ўсе мігцелі.
Пад нагой квахтала гаць.
Дзед пачаў дзяўчат збіраць...
«Гэй, на згон-прыгон да пана!
Пабалюеце да рана!
Хто шкадуе сваю цноту,
Дык бізун паддасць ахвоты!
Падбярыце, дзеўкі, хор
І да пана сыпце ў двор!
У святочных у намітках,
У суконных новых світках,
У гарсэціках, каралях
Трэба быць на панскіх гралях.
Гэй, у двор на згон-прыгон!»
У адказ ён чуе стогн.
Ён ідзе ад хаты ў хату.
Крык і плач. Усе дзяўчаты
Ў хмызнякі-кусты наўцекі
Ад такой гульні-пацехі.
Шмат страхоцця, шмат жуды.
Дзе ратунак ад бяды?..

III

У палацах пан сярдзіты,
У атлас увесь абвіты,
Ловіць зыкі, слухам сочыць,
Жмур і жмур сляпыя вочы,
То не вочы — смерць вачэй,
То сляпы агідны змей.
А музыкі ў гулкай залі
Ладзяць скрыпкі і цымбалы.
Вось прыносяць пачастункі —
Рознай ежы, розных трункаў.
Сыплюць лёкаі слаўцы,
Сыплюць градам малайцы.
Скрыпы, рыпы, шэпты, піскі
Па кутках далёкіх, блізкіх.
Чэлядзь панская па модзе
Валаводы валаводзіць.
Што не йдзе сюды хутчэй
Гурт сягоняшніх гасцей?
Пан рукой сваёй варушыць,
Ўвесь ён — слух, увесь ён — вушы.
Адкідае, як лупіны,
Шэпты слугаў, іх вазніну,
Ловіць шолах са двара.
«Што не йдуць? пара... пара...»
Разважае ён паволі,
Прыслухаецца ён болей.
Слух, як шпілька, навастроны.
Ўсе магчымыя законы
Праступае яго слух,
Як нялюдскі нейкі дух.
Ў яркасць дня, у цемень ночы
Пану слух — другія вочы.
Не пабачыць — слухам возьме.
Не дасць пудлы пан вяльможны.
Ён сляпы, ды хоць бы што —
Дзіўна чуе, як ніхто.
Вось, здаецца, тыя «госці»...
Пан на дзверы вушы гострыць.
Так, ідуць. І толькі двое
Увайшлі ў яго пакоі.
Злосць сваю ён перамог:
«Гэта рух дзявочых ног!»

Крок саромлівы, пудлівы,
Неадважны, негуллівы.
Аксамітная дарожка
На сабе ледзь чуе ножкі.
«Маладзенькая, так, так...
Вось у гэтым — самы смак...»
Крок лапцей тут не да толку —
Коліць слух калючай голкай.
Пан злуецца: што за звода?
Хто ў лапцях тут робіць шкоду?
— Ты? мой староста? Ну, ну?
— Дзеўку я прывёў адну...
— Ці ж адну? Ой, дам гультаю!
— Спадабае пан, я знаю!
Уцяклі ўсе. Дай, пан, веры,—
І старэнькі — шмыг за дзверы.
А дзяўчына слёзы лье.
Пан бярэцца за яе...
— Дык чаго ж ты? падыдзі жа! —
Кажа пан.— Ты пакажыся!
Я агледжу без прынукі,
Замест воч — я маю рукі.
Ацаню красу тваю,
Палюблю ці праганю.—
Прыцягнуў і — мац рукою.
— Пан, злітуйся нада мною...
— Бач, і голас у дзяўчынкі,
То не голас — ручаінка!
Валасы твае, як пух,
Словам, староста мой — зух!
Шчочкі гладкі — маладая.
Тварык — жар, то кроў жывая,
Мабыць, чырванее цела.
Во халодная — збляднела...
Губкі пухлыя маўчаць,
Грудкі поўныя дрыжаць...
Пан ёй гладзіць рукі, плечы,
Штось балмоча недарэчы,
А яна глядзіць на бельмы
Злой, агіднай, дзікай шэльмы,
І нязнаны смертны страх
Б'ецца ў тропаткіх вачах:
Пад схаванай панскай грозьбай

Скамянелі яе просьбы.
— Бач, як гнецца стан дзяўчыны,
Ты трасешся, як асіна...
Аб зубок стучыць зубок,
Ты не бойся, лебядок!
З галавы да ног агледжу
Я рукамі як належа.
— Ой, панок, хай будзе досыць,—
На каленях шэпча-просіць.
— Ты чыё, дзіця маё?
— Дочка старасты твайго.
— То няпраўда! — кажа хтосьці.—
То няпраўда, ягамосце!
Далібог, не доч мая,—
Кажа стараста,— твая!
(За дзвярыма прытаіўся,
Як не трэ было — з'явіўся.)
Пан калісь і маю бабу
Да сябе ў пакоі вабіў.
Ты пакінуў тады ёй
Водслед похаці тваёй.
Гадаваў тваю дачку я
І цяпер яе шкадую,
Так чыніць бясконца здзекі
Непрыстойна чалавеку.
У грудзях тваіх цяпер
Вые, раецца дзікі звер.
Пан, дастаў ты асляпленне
І на вочы, й на сумленне,
Вось цяпер на пана-ката
Надышоў і час адплаты.
Я ў граху табе служыў,
Я пакутаваў — не жыў,
Як дугу, ты гнуў мой карак,
Праз мяне ты знойдзеш кару.—
І дзяўчыну дзед спакойна
За руку вядзе з пакояў.
Пан крычыць: «Сюды! Гайдук!»
Будзе старасту каюк.

## IV

Восень. Цемрадзь. Ноч сляпая,
Вельмі ціхая, глухая.
Спіць палац у жудкіх чарах,
На нябёсах хмар атара.
У ваўнянай паласе
Патанулі зоркі ўсе.
Цьма сляпым бяльмістым вокам
Абхапіла свет шырокі,
Загуляла з цішынёю,
Паплыла над шырынёю,
Ўсе запоўніла куткі,
Пустыры і хмызнякі.
Чуць шапталіся бярозкі.
Спала поле, спалі вёскі.
Сон з дрымой удвух луналі
Па-над змрочнай, немай даляй,
Сажу сеялі уніз
Сярод хатак, сярод хмыз.
Што за крыкі апаўночы?
Мо каго хто рэзаць хоча?
Чаму неба заквітнела?
Чаму глеба счырванела?
Што за ночны нейкі сход?
Куды ймкнецца так народ?
Панскі ўзгорак грае, ззяе:
Вечарынка агнявая.
Нібы сонцам асвятлёна,
Цветам пышным аздаблёна.
Панскі дом на той гары
Як бы ў водблеску зары.
Як удзень, уночы светла,—
Гэтак цёпла, гэтак ветла,
Варна, нібы сярод лета.
Што за дзіўная прымета?
Панскі дом блішчыць, як жар,—
Гэта бухае пажар...
Асталіся там на ўзгорку
Толькі печ і падмуроўка,
Да апошняй галавешкі
Спапялілася ўсё рэшта.
І загінуў пан благі
Ў тым пажарышчы-агні.

А назаўтрае па вёсках
Пайшла чутка-пагалоска,
Нібы староста з дачкою
Ўночы панскія пакоі
Падпалілі, уцяклі,
Бо нідзе іх не знайшлі.
Вельмі скора, вельмі хутка
Гэта спраўдзілася чутка,
Як агонь пайшоў гуляці
Над суседнім над палацам,
Як маёнткі паміж сёл
Пагарэлі ўсе вакол.
Доўга помнілі сяляне
Той палац сляпога пана,
Яго жудасныя балі.
І паны не забывалі
Цэлай панскай грамадой
Дзеда-старасту з дачкой.

# X

## ДЗЕД

### ДЗЕД

#### I

У вянок убіраецца восень,
У вянок з ацвярдзелых лістоў,
І пільнуе сякер адгалоссе,
І вандруе між дрэў, між кустоў.

То дажджом пачне плакаць на рэчцы,
Безупынным, драбнюткім, бы шрот;
То праменнем на небе ўсміхнецца,
Абалье яркім сонцам чарот.

Гляне сумна на цёмныя ўзгоркі,
Кіне вокам на поле, лугі,
Завядзе між сасонак гаворкі,
Затрасе на балоце стагі.

Па гасцінцы жабрачкай кульгае,
Штось шапоча на сон іржаню;
Пад акном ваўком шэрым мільгае,
З азяродам вядзе калатню.

Нібы кот, драпяне акяніцу,
У завэндзаны комін зірне;
Запяе, загалосіць начніцай,
Пук саломы з страхі скубяне.

Туманом апранае фальварак,
Нібы ў шэры, вільготны кажух,
Вараннё падбухторыць да сварак,
Вырай птушак спляце у ланцуг.

Зробіць зыбку з асвера над студняй,
Закалыша туды і сюды,
Завядзе свае спевы марудна,
Хоць давіся ад гэткай нуды.

Восень ценем палохае, труціць
Адзінокія мутныя дні;
Кожны раз жменьку хвіль яна скруціць;
Ноч раней затуляе лугі...

Ноч расце і расце, нібы казка,
Цёмным ценем між стромкіх барын.
Сябру дню уступае, як ласку,
На жыццё надта мала гадзін.

## II

І гудзіць малатарня на доднік,
Коні шчыра пільнуюць свой круг,
І драцянкай фарсіць малы шкоднік,—
Абарваны свавольнік-пастух.

Як загойкае грозна і злосна,
Як тыркне пугаўём пад аброць,
Дык аж коніку робіцца млосна,
А дагэтуль ішоў самахвоць.

То паправіць хамут гаспадарна,
Раптам лейцы без толку рване...
«Галапуп! — хтось крычыць,— што так
марна?
Не кіруе, а толькі псуе!»

У таку малатарні у губы
Снапы сам падае гаспадар.
Аж скрыгочуць сталёвыя зубы,
Паядаюць і жруць глебны дар.

Падавайце шыбчэй без спачынку —
Звядуць торпу збажыны цалком.
А зярняты мільгаюць пад скрынкай
Залацістым, жывым ручайком.

Дзеўка віламі ўверх падкідае
Саламяны скалмачаны пук:
Мо збажына схавалася тая,
Верыць нельга — крадзецца з-пад рук.

А за ёй гаспадарава жонка
Прабівае салому ямчэй.
І журчыць, як крынічка, гамонка,
Ідзе праца хутчэй і хутчэй.

III

Дзед граблямі гартае з зярнятаў
То саломку, то жмут каласоў;
А ён сам у саломе калматы,
Мужычок старадаўніх часоў.

Захадзілі ў яго раптам грудзі,
Як назло, граблі выпалі з рук,
«Што тут будзе далей? Што тут будзе?
Звар'яцеў мой сыночак Лаўрук.

Звар'яцеў, як вярнуўся ён з лесу,
Скуль на шляхту ішоў з грамадой.
Нешта ў галаву смешнае лезе,
Жэніць глупства з падумкай дурной.

Сквапным вокам глядзіць на камуню,
Хваліць новы парадак і лад.
Свой язык вечна муліць і муліць,
Ці пацягнеш сыночка назад?

Бярэ сполах, як глянеш на ўнучку,
Стала нудна ёй тутака жыць.
А бажніцу назвала анучкай,
З айцом-богам пайшла на нажы...

Скуль у парабка пыха такая?
Язычок у яго скуль такі?
Ён туман мне у вочы пускае,
Не йдзе роўна — а верне ў бакі.

Як Спалком падарыў стары хутар,
Дык жыві, багацей і сыцей,
А яму захацелася гуртам.
Вось знайшоўся такі грамацей!»

## IV

Стары думае горкую думу,
Смокча люльку, дыміць і дыміць.
Раптам крыку наробіць ён, шуму:
«А што дзеўка без дзела стаіць?

Не да смаку, мабыць, наша праца,
Не ў спадобу ржаны каласок?
Не зявай, маляваная цаца!
Далібог, дам граблямі пад бок!

Ты зрабілася паняй вяльможнай,
Як у горад вучыцца пайшла?
Без цябе абысціся тут можна,
Можаш смела ісці, скуль прыйшла!»

Вось унучка заплача, здаецца,
Круглы тварык гарыць, нібы жар,
І спрытней за работу бярэцца,
І спяшыць, бы забухаў пажар...

Рупнасць вырасла з новаю сілай,
Граблі, вілы свой зык завялі;
Да работы вялікая міласць
У грудзях забуяла сям'і.

Рос імпэт, аж завыла салома,
Закружыла, бы рой лясных пчол;
А да працы ніхто з іх не зломак,
Ажна сцены дрыжаць навакол.

Ловіш рытм кемных рук у паветры,
Проста дзіва, як граблі трымцяць;
Граюць вілы, спяваюць пад ветрам,
Хусткі баб мігацяць, мігацяць.

Цела гнецца рухава, упарта,
Разыгралася, рыпае косць;
Зніклі кпіны, адкінуты жарты,
Вока сыпле і строгасць і злосць.

Стог саломы расце на гумнішчы,
Жыта рэчкай плыве і плыве.
Малатарня тарпу скора знішчыць,
Да астатку яе глымзане.

Хадыром ходзіць стары будынак,
І дрыжыць пашурпачаны дах,—
Такі шум, такі тлум — быццам рынак,
Аж кругі мітусяцца ў вачах.

Проста люба глядзець, як работа
У руках гарапашных кіпіць.
Тут і цяга да працы, ахвота,—
Любяць працу, як есці, як піць...

V

А газніца стаіць на драбніне,
Воўчым вокам глядзіць на людзей;
І здаецца, буркне зара з кпінай:
«Хоць бы кончылі працу скарэй!»

У адказ раптам шась — стала ціха,
Нібы д'ябал упутаўся сам;
Чутна лаянка дзеда: «Вось ліха,
Стары пас, стары пас папалам!»

Гэты пас мужыку быў пазолай,
Вечна рвалася старая гніль;
На вяку сваім пас вакруг колаў
Шмаргануў не адну сотню міль.

А цяпер стары пас толькі шкодзіць,
На цярплівасць людзей вядзе гарт;
Рапаруй яго — ён валаводзіць,
Цёнгля рвецца наўмысне, на жарт.

Хоць гадзіцца ён толькі на дзягі,
На падшыўку к атопкам старым,—
Гаспадар да яго мае цягу,
Налажыў на яго свой «хэрым».

Стары пас толькі латай і латай,
На яго сваю скуру хоць здзень.
Няма грошай, бядуе араты,
Адлажы малацьбу на ўвесь дзень.

## VI

Шчыра пот выцірае сямейка
І дахаты ідзе на спачын.
На гумнішчы жалобіць жалейка,—
Пастуха абавязак і чын.

Ускарабкаўся ён на каняку,
Нібы смоўж да апенькі прыліп;
Зняць хамут і забылі,— знявага,—
Клешчы старыя водзяць свой рып.

Голаў конь уніз хіліць, варушыць
Да халоднай пахучай расы,
Хамут з'ехаў на самыя вушы,
І кудлаціць, і рве валасы...

Лейцы путаюць ногі у петлі,
Ў бруднай лужыне мокнуць — аж грэх;
Прысядае каняка басэтляй,
Як глядзіш на яго — бярэ смех.

Раптам сучка завыла пад бокам,
Нібы зараз каня з'есць жыўцом;
А каняка не міргае вокам,
Рупна корміцца цвёрдым сіўцом.

Водзіць хлопец тым часам тры ноты,
Талялюкае ён узапар.
Галасней паўтарае з ахвотай,
У пузыр аж надзьмухае твар.

Салавеюць блакітныя вочы,
Забывае сябе ды ўвесь свет.
У таку ў гэты час хтось мармоча,
Злосна венікам шморгае дзед.

## VII

Стары вечна работу знаходзіць,
Бо заўсёды яе проста цьма;
Вечна тупае, ходзіць і ходзіць,
І памерці нат часу няма.

Кучу жыта шаруе, шліфуе,
Пачынае мятлою мясці;
На язык часам зерне спрабуе,
Адкідае пылінкі, асці.

І на збожжа зірне без дакукі,
І кіўне галавой кожны раз:
«Мазалі хоць скалечылі рукі —
Умалотнае жыта у нас!

А чысцюткае — проста надзіва,
Гарфаваць і не трэба, дальбог!
Без званца і ядрона да мліва,—
Будзе белы ў нас хлеб, як пірог».

Але радасць асела на месцы,
Ашчавеў браджатлівы язык:
«Без мякіны хлеб прыйдзецца есці?!» —
А да гэтага дзед не прывык.

«Без мякіны... Ды гэта ж распуста!
То ж ашчады не будзе ніяк!
Без мякіны... Кяпство гэта, глупства,
Без мякіны хлеб страціць свой смак...»

Дзед правёў па баках спрытным вокам:
«Каб не ўгледзеў часамі, сынок...
Не струхлее дабро ад урокаў,
Як прыбавіцца лішні пудок...»

І давай шуфляваць зноў да кучы
І пазадкі й мякіну назад:
«Усё роўна хлеб будзе пахучы,
Смакаваць будзеш, рад ці не рад...

Шмат спарней будзе хлеб наш з мякінай,
Не праколе, як шыла, кішку.
Перацёртую разам з збажынай
Я глытаў яе шмат на вяку.

А мякіна у хлебе не шкодзіць,
Не зашкодзіць і франтам маім»,—
Аднак дзед агляну́ўся, як злодзей,
Пры ўчынку агідным сваім.

VIII

Сам з сабою дзед ціха гамоніць,
Нібы гутарку з духам вядзе;
Так сумленне і гонар бароніць,
Сваю казку жыцця так пляце.

Улюбёна глядзіць ён на жыта,
Зморшчыць лоб у гармонік стары;
Нібы сэкрат тут нейкі зарыты,
Тастамэнты мінулай пары.

І не скеміш, не сцяміш, не злічыш
Тоўсты жмутак працоўных гадоў.
«Бог святы, ці яшчэ павялічыш?
Ці не годзе ўжо? ці не дó?

Хіба мне, бадай, не давядзецца
На вясну ды з сявялкай гуляць:
У грудзях штосць хрыпіць, і, здаецца,
Хутка кіну людзям дакучаць...

Ці так будзе, як бае унучка,
Мне хацелася б ведаць і знаць.
А памерці цяпер так нязручна,
Хоць яшчэ мне пажыць гадкоў з пяць...»

Вось зірнуў ён убок на газніцу,
Мільганула і згасла яна.
А на небе красуе зарніца,
Адбіваецца ў шыбах акна.

А на небе малюнкі і фарбы
Замільгалі, каб зрок паланіць.
Як бы недзе далёка пажар быў,
Як бы недзе дымілі агні.

І чаго ты, чаго ні пабачыш
У багатых у фарбах у тых:
Хмарак воблікі пераіначыш
У сямейкі істотаў жывых.

Там на глебе агнёвых калёраў
Буйны мак крышталёвы цвіце;
Там, апрануты ў яркія зоры,
Волат лапці з праменняў пляце.

Кожны лапаць — вялікі, як хата,—
Пурпуровым світаннем мігціць.
А вакол гэтак пышна, багата
Срэбны, казачны замак стаіць.

Там у сажалках ярка-чырвоных
Качкі белыя ціха плывуць.
На бліскучых, прасторных загонах
Тры музыкі сівыя ідуць.

І глядзяць на усход, там дзе слонка
Мігаціць, як вуглёвы арэх.
На купінах варожаць сасонкі
І бялеюцца ў хмарах, як снег.

IX

Раптам хмары з нябесных аблогаў
Паплылі на край неба, на бор.
Бы загад выпаўняўся тут строгі —
Зрабіць вольны блакітны прастор.

Велічэзнай празрыстаю міскай
Неба ціха лягло на зямлю;
Нібы маці над кволай калыскай
Шапянула дзіцяці: «Люблю».

На платах тчэцца шоўк павуціны,
І кудзеліць над хаткай дымок;
Пад акном млее чырвань рабіны,—
Будзе слаўны, пагодны дзянёк...

Баб'е лета аздобіць шыр піваў,
Закрасуецца сонца ярчэй...
Утаропіць на рунь-зяляніву
Міліёны лагодных вачэй.

Пазалоціць дубы на гародзе,
Прыгалубіць кудравы гушчар;
На лістоў дыване ў карагодзе
Будзе шастаць на цэлы абшар.

Пакуль шэрань засрэбрыць сівізнай
Абамлелай зямлі кожны крок,
Пакуль лес апранецца ў бялізну,
Пакуль рэчку абхопіць лядок.

X

Вось зарыпалі хрыпла вароты,
Дзед зірнуў на гумно, на хлявы.
«Трэба сёнейка вымазаць боты —
Пацвярдзеюць ад мокрай травы!»

Як угледзеў хлапца, крыкнуў строга:
«Што галуздаеш, шэльма, псякосць?
Быдла ў хлебе стаіць, бойся бога,
Ты бакі абіваеш, як госць!»

І паплёўся старэнькі дахаты
Растрывожаны, злосны такі.
«Нияк пахне ад печы занадта,
Мабыць, Наста пячэ праснакі.

Да кармежкі мае вельмі рупны,
Не сняданне рыхтуюць, а пір;
Ўсё адразу пажруць неадступна,
Гаспадарку ўсю пусцяць у вір.

А з'ясі хоць вала і карову,
Дык за гэта ўсё гонар адзін!» —
І насупіў калматыя бровы
Старасвецкі дзядок-селянін.

«Ну няхай! Я ўжо выпусціў лейцы,
Хай сынок гаспадарыць! Мне — што?
Як унук на яловай жалейцы,
Пралюлюкае лёс нізашто!

Увесь пот, каб іх няньчылі голых,
На кішку прапускаюць яны!
Сабяруць галадранцаў вясёлых
І ядуць з верашчакай бліны!

А каб грошы гарусціў мой Янка,
Гэта ж — фэ! — грош мазоліць яго!
Гэткіх дзетак хай спаліць маланка!» —
І дзед плюнуў ад сэрца ўсяго.

## XI

Азірнуўся дзядок на дзядзінец,
Кінуў вокам на свіран стары:
«Прызапасілі новы гасцінец,
Загавееш душой без пары?

Дзе прапала сякера з-пад ліпы?
Хоць бы латаў цяпер частакол!» —
І ад дзедава гнеўнага крыку
Разляцеліся куры вакол.

«Дзе прапала сякера? Гэй, чэрці!» —
І пайшоў на дрывотнік шукаць.
«Кожны дзень ад іх можна памерці,
Каб іх зыбала чортава маць!»

І ён поркаўся ў трэсках, у кучах,
І рукамі галішча капаў,
І хрыпеў на смяцці, на анучах,
Нібы скарб тут багаты шукаў.

Вось знаходзіць сякеру нарэшце
І давай узірацца, глядзець,
Ці сядзіць тапарышча на месцы,
Ці не выскачыў клін, як шальмец.

Вастрыню пазурамі прабуе
Іківае сівой галавой,
На дзядзінец увесь ён гвалтуе:
«Гэта ж проста загуба, разбой!

Крымінал! дзе падзеліся людзі?
Гэй, сюды, акаянцы! сюды!
Гэта ж свет такі грэх не забудзе!
Нарабілі тут процьму бяды!»

Нібы двор аблягло пажарышчам,
Бягуць з хаты усе на садом.
«Гультаі! пашчарбалі лязвішча!
Хоць ты лезь на сякеру вярхом!»

Дзед пытлуе сям'ю і пілуе,
Бярэ ўсіх на цыгундар страшны:
«Хто вам, погань, праступ падаруе!
Злыдні! нечысці вы! груганы!»

А сямейка маўчыць — вінавата,
Толькі кплівасць і смех лезе з воч.
«Ды ці варта злавацца так, тата?
Потым будзеш хрыпець усю ноч».

Так адважыўся сын пікнуць слова
І паклікаў у хату сям'ю.
Хоць дзядоўскія крыкі не новы —
Надакучылі вельмі яму.

# XI

# ГОСЦЬ

## ГОСЦЬ

### I

Туман коціцца ў даліне,
Змоўкла птушка на галіне,
Гарыць шапка на сасонцы,
То за лес заходзіць сонца.
На паляне млеюць цені,
Там расінак мігаценне —
Тут жа блізка каля рэчкі
Бягуць сытыя авечкі.
За авечкамі ўдагонку
Хлопчык смаліць пугай тонкай,
Такі спрытны пастушок,
Раз, два, «ф'ю-ф'ю» у свісток.

А за ім пад касагорам
Ідзе-крочыць крокам скорым
Падарожнік адзінокі,
Такі статны і высокі.
На спіне яго хатулка,
То падскочыць, стукне гулка
Цвёрдым ботам аб каменне,
То зірне на загуменне,
То задумным вокам кіне
На старую на хаціну,
Дзе на шыбе залатой
Сонца дзень спаліла свой.
Колькі год таму ўжо будзе,
Як у свет пайшоў у людзі,
Як паехаў шукаць хлеба,
Як пакінуў хатку, глебу
І бацькоў старых у горы.

Доўга жыў дзяцюк за морам —
Так абрыдла ў тым Бастоне,
Там народ бядняцкі стогне.
Захацелася дахаты,
Дзе матуля, родны тата.
«Вось і бацькаўскі загон...»
Аж слязу пускае ён...

Тут прывольна так улетку
На пахучых на палетках.
Вабіць поле хлебароба,
Дзіўна хмеліць краска бобу
На гародзе. Верабейкі.
Спеў гармоніка, жалейкі.
«Эх, мая Ганулька, дзе ты?
Пры грашах я ды адзеты.
Мабыць, выйшла за другога,
Небагаты, прэч з дарогі!
Што мне грошыкі мае
Без дзяўчыны, без яе?

Адрываў з пітва ды ежы,
Працаваў там як належыць.
Грош ад грошыка ні ў прочкі —
Вось сямейка з адзіночкі.
Хату новую збудую,
Дзесяцінку і другую
Прыкуплю да гаспадаркі,
Будзе хлеб і будуць скваркі,
Тата з маткаю ў пашане
Пачнуць жыць у лепшым стане.
Ці спазнаюць хоць бацькі?
Не скажу ім хто такі...

Пэўна, вочы ў іх — не вочы,
Будуць радасці удвойчы.
Аж хваліцца пачне тата:
Жарты — сын такі багаты.
А матуля па суседках
Будзе баіць нават дзеткам,
Што Ягорка — сын удалы,
Назапасіў ён нямала.
І гаворкі-пагалоскі
Рэхам пойдуць з вёскі ў вёску.

Я пазваць гасцей рашыў,
Пачастую ад душы».

Вось і хатка... Сціхні, сэрца...
Адчыняе з рыпам дзверцы...
Іншы голас, асцярожны:
«Пераспаць у вас тут можна?»
«Мы людзей не выганяем.
Чым мы можам, тым прымаем! —
Чуе голас ён старэчы,
Голас маткі.— Толькі нечым
Частаваці. Пуставата,
Кажу шчыра, наша хата».
«Ты адна ці ёсць дзядок?»
«Выйшаў толькі што ў лясок».

Лезе ў сэрца голас маці,
Захацеў сын абымаці
Пры такой яе гамонцы
І сказаць: матуля... сонца...
Я так рады і шчаслівы,
Што вы цэлы, што вы жывы...
Але — не! Цяпер не варта,
Пачакаю лепш да заўтра.
Пагляджу вось, як жылі тут,
Гаспадарку як вялі тут.
Не спазналі ані-ні.
Сэрца ў радасным агні.

«Дзякую за шчыры словы!
Я і сыты і здаровы.
Аж да заўтра хопіць дыхту.
Штось не бачу маладых тут...
Ці ж няма дачкі на старасць
На падмогу і на радасць?
Альбо сына маладога,
Працавітага якога,
Хто да самай да магілы
Шанаваў бы вашы сілы?
Мне вас шкода, даліпан!»
Скінуў клунак на тапчан.

Хату госць абводзіць вокам.
Да стала прысеў ён збоку.

А бабулька горбіць плечы,
Бы з гары, злязае з печы.
І пры гэтым з крэхтам горкім
Пра сынка вядзе гаворку:
«Нецікавыя часіны
Не давалі жыць тут сыну,
Хлеба-солі было мала,
І дзіцятка галадала,
Вось і будзе ўжо шмат лет,
Як пайшоў Ягорка ў свет.

Ён цяпер амерыкантам,
Абадранцам альбо франтам.
Штосьці нас забыў саколік,
Мо не вернецца ніколі.
Ні лістоў і ні паклонаў.
(Прымасцілася на ўслоне.)
Вось уцехі мае многа
А дзяцей сваіх убогі,
Грэюць, няньчаць маткі грудзі,
А як выйдуць дзеці ў людзі,
Пакідаюць для пакут
І бацькоў і родны кут».

Вочы хусткай трэ старая.
Вось дзядок вярнуўся з гая.
На гасця ён лып вачыма.
«...Ці знаёмы? Немагчыма...
То здалося мне няйначай.
Мабыць, вока кепска бачыць:
Госцік мае падабенства
Да Ягоркі, што з маленства
Ў свет пайшоў...» І незвычайны
Госць стрымаўся... Ледзь змаўчаў ён...
Азірнуўся на бакі.
«...Будуць заўтра знаць бацькі...»

На акенцы сонца згасла,
Лічыць грошы госць тым часам:
Робіць гэта ён наўмысне —
То зазвоніць, то заблысне.
Дзед на цуд сюды прызваны,
Дзед глядзіць зачараваны.
Грошай звон — у сэрцы гране.

Грошай бліск — у сэрцы ззянне.
«Эх, на старыя на леты,
Кабы меў я грошы гэты!..»
У вачах злы аганёк.
Вострым локцем — жонку ў бок.

Думкі — ночныя зладзеі,—
Думкі — чэрці-ліхадзеі —
У глузды старога дзеда
Лезлі новым цёмным следам.
З гэтай справы ды ці мала
Людзей згінула, прапала.
Як зазвоняць звонам грошы,
Як захмеліць хмельны коўшык,
Як пачнуць сваё ігрышча,—
Пападзеш у іх багнішча.
Дзед не крыўдзіў нават мух,
А папаўся ў вірны рух.

«Грошы мне на гвалт патрэбны».
Смак іх хмельны, смак іх хлебны
Так завабіў, што дзед сівы
Аж спалохаўся ад дзіва.
«Што мне грошы, што багацце,
Доўга ўжо ці буду ў хаце.
Вось сыночак мой, Ягорка,
Недзе ў людзях жыве горка.
З яго здзекуюцца, чэрці.
Ён напэўна церпам церпіць.
Я гатоў пайсці на грэх...
Для сынка спрабую... Эх...

Мо дадому прыйдзе хутка,
Дык жыццё направіць тутка.
Адсапнецца ён ад мукі,
Адпачнуць ад працы рукі.
Як ніколі, як ні разу,
Пажыву я з сынам разам.
Я быка куплю, карову,
Трэба новыя нарогі.
Ды з пяток свіней, авечак.
Богу дам я пару свечак.
Маю ж сына аднаго —
Для яго ўсё, для яго...»

Госць, злажыўшы грошы ў жмені,
Сунуў кучамі ў кішэні.
Раз, другі зяўпуў на лаве
І прылёг. Камарык жвавы
Гуў, звінеў над самым вухам.
Падарожны што ёсць духу
Захрапеў пад старым «спасам».
Дзед, бабулечка тым часам
Не збіраліся йшчэ легчы,
Штось шукалі каля печы.
Зашапталі, прыляглі,
Болей шэптаў не вялі.

II

Туман коціцца ў даліне,
Птушка дрэмле на галіне.
Зоркі — кропкі на паперцы.
Месяц — хмаркавае сэрца.
Дрэмле рэчка — рэчка млява.
Месяц сінь яе крывавіць.
Лес маўчыць. У лесе цені
І галінак дрыгаценне.
Вядуць шэпты ветрык з мгліцай.
Птушка піскнула: штось сніцца
Аб нябеснай вышыні,
Аб зямельнай цішыні.

Вось і поўнач б'е ў акенцы,
Певуны пяюць у сенцах.
Месяц пляміць сцены, лавы.
І свярчок тут бавіць бавы.
Госць натупаўся так сёння,
Балабочыць ён спрасоння,
Душыць цяжкае паветра.
Таракан на сценцы светлай
Тырк цянюткім вусам-голкай.
Раптам госць расплюшчыў вока.
Зноў сапе, як паравік.
Не пачуе — хоць даві.

Блізка мыш скрабе па сценцы,
Кот цікуе на паленцы.
Зоркі з неба зірк праз шыбы.

Дзед на печы: «Эх, зажыў бы!»
Ціха, спрытна нож ён точыць —
І чатыры злыя вочы
Стуль глядзяць кашачым зрокам,
Прабіваюць скруткі змрокаў,
У вачах агонь зялёны,
Дзед і баба непрытомны.
Баба — злая. Дзед, як звер,
Нельга іх пазнаць цяпер.

Вось абое крокам скрытным,
Крокам ценяў, крокам спрытным,
Як бы ў прысядкі-забаве,
Падыходзяць да той лавы,
Дзе спіць госць чамусьці ў світцы
У куточку пад бажніцай.
Нож бліскучы у дзядулі,
Серп, як месяц, у бабулі.
Дзед гасця — нажом у грудзі,
І сказаў: «Няхай так будзе...»
А бабуля тырк сярпом:
Кроў — гарачым ручаём.

Дзецюка і стогн адзіны
Не чуваць быў у хаціне.
Ціха ён у сне бяспечным
Перайшоў у сон той вечны,
Дзе ніколі не прачнецца
І на кліч не адгукнецца.
Дзед і баба — душагубы —
Труп схавалі ў яме з бульбы,
Доўга з лавы кроў змывалі.
І маліцца абяцалі
Да апошніх дзён жыцця
За душу свайго гасця.

III

Туман нікне па даліне,
Пяе птушка на галіне.
Грае сонца на усходзе:
«Пясок свежы на гародзе...»
Над гародам тым жаўронкі
Пачалі свае гамонкі:
«Цірлі — злы і цірлі — злая:

Нешта знаем... Нешта знаем...»
«Ку-ку! Ку-ку! — над агрэстам:
— Знаю нешта... Знаю нешта...»
На пяколку дзед ляжыць,
Лічыць грошы і дрыжыць.
Бабка рупна, бабка жвава,
Сала скварыць, есці варыць.
Між сабою ані слова.
За дзвярыма: «Гэй, здарова!»
Хтосьці крыкнуў у камору.
«Пахвалёны!» — хтось гаворыць.
І дарослыя і дзеці —
Ўсе сюды. Няма дзе дзецца.
Паглядаюць асцярожна.
«Дзе ваш госць? — пытае кожны.—
Што, дзядок, на печы змоўк?
Дзе схаваўся ваш сынок?
Мо зрабіўся нейкай цацай
І не хоча з намі знацца?
Не ў спадобу за абедам
Пазюзюкаць тут з суседам?
Ці ён стаў такім багатым,
Што прыкажа выйсці з хаты?
Жарты жартамі, а дзе ён?
Вось якраз жа і нядзеля...»
— Ці то сын наш? — дзед аж крыкнуў.
Бабка лыпіць вочы дзіка.
На гародзе незнарок
Знайшлі свежанькі пясок...

IV

Туман згінуў у даліне.
Пяе птушка на галіне:
Глядзіць сонца дабрадзеем.
Лес шапоча: «Знаю, дзе ён!»
Сыплюць пэрлам роскі ночкі:
«Во слядочкі! Во слядочкі!»
Жвір-пясок лапата рэжа.
«Гэй, скарэй жа! Гэй, скарэй жа!»
Крык, і шум, і адгалоссе:
«Вось ён! Вось ён! Вось ён! Вось ён!»
У людзей і гнеў і злосць:
«Гэта сын ваш! Гэта госць!»

# XII

# ВІЛЕНСКІЯ ЎСПАМІНЫ

## ВІЛЕНСКІЯ ПОМНІКІ

Арнаменты вуліц.
Скрыжалі касцёлаў, царквоў,
Сінагогаў, і кірх, і мячэцяў:
Багоў інтэрнацыянал.
Кавярні, шантаны,
Графоў і купцоў камяніцы.
Гатэлі. Рамізнікі. Конка.
Вунь некалькі комінаў —
Шпілек фабрычных
З аблокамі дыму,
З прызывам гудкоў.
Вунь Антокаль, Закрэт.
Вунь Лукішкі.
Пяты год у тым каменным доме
Святкаваўся крывёю,
Пятлёю і кулямі.
Срэбраны пояс Віллі
Тут уецца, бліпічыць
Між далінаў, узгоркаў,
Садоў, і лясоў,
І магільнікаў.
Бедныя хаткі акраін,
Бы ластавак гнёзды,
Маленькімі купкамі
Горад увесь абкружылі.
Балада вякоў і прастораў.
Балада крыві і няволі.
Скляпы-падзямеллі
Ахоўваюць, нібы святыню,
Гнілыя астанкі літоўскіх князёў.
А на могілках — косці рабоў,
Што рукамі сваімі

На плахце вякоў будавалі
Святы дабрабыт для паноў.
Пергамінаў, шмат
Летапісаў пра Вільню —
Струхлелыя звіткі —
Ляжаць у музеях.
Іх мышы грызуць.
Адчуваюць іх водыр і смак.
Археолагі.
Многа лірызма...
Усё тут запісана?
Не.
Тут запісаны толькі легенды.
А былі лунаюць шаптушкамі
З вуснаў у вусны.

. . . . . . . . . . . . .

Хоць лірыкі мала,
Затое...
Паслухайце:
Помнікаў два —
Мураўёў...
Кацярына...
Пры іх дзень і ноч
Стаіць варта —
Ад птушак гарэзных,
Гарэзных людзей.
Гарадавыя пры іх
Нерухомы, як мармур,
І пышны пагрозлівы мармур
Вартуюць, як скарб.
Дзень і ноч тут вартуюць, бо...
Ёсць ад каго вартаваць.
Дзень і ноч блізка кружаць вакол
Разнастайныя зграі
Шпікоў,
І мармур, абсвістаны ветрам,
Абмыты дажджамі,
Вартуюць, як порах,
Бо... ёсць ад каго вартаваць.
Стаіць варта
Ад птушак гарэзных,
Гарэзных людзей,
Бо бываюць выпадкі:

Каменнямі вуха адбілі ушчэнт
Фабрыканту вяровачных гальштукаў.
Тут жа ля каменных ног
Тоўстай Кацькі —
Аматаршы цесных штаноў
Лейб-гвардзейцаў —
Знаходзілі шмат
Залатых абаранкаў...
А раз...
Была ноч...
I спала Вілля на пасцелі
З пяску між абоймаў прысад.
I Вільня драмала, як тыгра,
Гатова да скоку-нападу.
На вуліцах цёмна.
Ні месяца яркай ліхтарні.
Ні зорак — мятлічак агнёвых.
I дрэвы шапталі у парках
Аб старых часах.
Жартаўлівыя людзі
Бітон валяр'янкі
(Каты вельмі любяць)
Прынеслі да помніка Кацькі.
I мармур яе
Ад дробных хвасткоў гарнастая
Да самага нізу-падолу —
Да шлейфа царыцы
Давай валяр'янкай крапіць.
Пасля,
Праз гадзіну ці дзве,
Тут гулялі каты
З усёй Вільні
I ладзілі гучны канцэрт,
Не горш — даліпан —
Афіцэрскай ці панскай гулянкі.
З фліртамі, з пыхам і зграбнасцю
Вялікасвецкай;
Якраз мільянерская моладзь:
— Ня-а-а-а-а-а-аў...
— Ку-ня-а-а-а-аў...
Кацэн-ямер такі,
Ажна Вільня схапілася з ложкаў
Са страхам.
I вочы працёрла,

І вушы наставіла,
Слухала...
— Што гэта?
— Што гэта?
— Можа, пажар?..
— Можа, разбой?..
— Можа, графскі дэбош?..
— Тышкевіч, няйначай, балюе.
Адказ быў адзін:
— Ня-а-а-а — а-аў...
— Ку-ня-а-а-а-аў...
І начальнік губерні
Званіў паліцмайстру:
— Сейчас успакоіць! —
І сам паліцмайстар,
Як Неран той, рыжабароды,
Паехаў на баль да катоў.
Не адзін, а з атрадам
Узброеных гарадавых...
І была там ідылія...
Слаўнае гульбішча...
Кошак, як зайцаў, стралялі...
І многа каго —
Падазроных ў справе катоў,
Больш дзесятка людзей —
У Лукішкі забралі.
Быў допыт ў аптэках:
— Дзе?
— Хто і калі?
— І каму?
— Прыметы?
— Хто валяр'янкі купляў?
Як асінавы ліст,
Дрыжэлі аптэкары.
Агенты царскай ахранкі
Аж некалькі месяцаў
Хлеб зараблялі па горла:
Лавілі, лавілі, лавілі...
Лукішкі глыталі нямала
«Няісціннарускіх...»

. . . . . . . . .

А вось з Мураўёвым...
Прашу прабачэння, не з ім,

А з адным селянінам.
Прыехаў на рынак малюсенькі,
Дробненькі, жвавы адзін Янучок.
Не адзін — з роднай жонкаю Мартай —
Таўстухай высокай,
Якая магла б на руках,
Як дзіцёнка, качаць мужанёчка
Свайго. Авечку прадалі яны,
Япрука. Шанцавала. І вось
Ў аднаго «землячка»
У «Заезным двары» пакінулі
Людзі каня і пайшлі сабе
Горад агледзець. Скупыя былі
І любілі глядзець толькі тое,
За што ім не трэба плаціць.
Не пайшлі ў балаган —
Пяць капеек не жарты — ого!
І чаго там глядзець? —
Як няшчасны за грошы тым бокам
Спявае, якім людзі добрыя
Іншае робяць?
Ці, можа, глядзець, як там жулік
Нагою, як пісар той,
Піша? Падумаеш — фокус!
Хоць Янка рукою не зробіць
Таго... Дык затое у воласці
Пісар у іх. Дык такі ён
Аматар, што піша зімою
Па снезе павесткі...
І Янка наш з Мартай
Праспектам пайшлі.
Быў пагодны дзянёк. Вераб'і і вароны.
І Янка наш з Мартай
Глядзяць у вітрыны.
«Мо купіце што?» —
Так цікавіцца крамнік адзін.
Далікатныя людзі ў Вільні...
«Не трэба нам, дзякуй».
І Янка наш з Мартай
Пайшлі аж на сквер
Паглядзець Мураўёва.
Драбнюткі, сухенькі Янук
Выглядаў нібы муха пры ім.
А Марта вачэй адарваць не магла:

— Ён вялікі такі,
І напэўна у гэтага ўсё
Велічэзнае...
Эх!..
І не чулі муж з жонкай,
Як гарадавы ім сказаў:
«Разайдзісь!»
«А які ж ён вялікі!..»
Нагледзецца Марта не можа.
Зазлаваўся Янук на яе —
І як крыкне, як гіркне
(Хоць быў ён малы,
Трубны голас ён меў велікана):
— Не бачыла поскудзі гэтай!
Хадзем!
Ледзь паспеў ён закончыць
«Хадзем!» — як два фараоны
Яго за руку гэтак моцна
Трымалі, аж думаў ён:
Сам Мураўёў сваёй каменнай
Лапай прыціснуў яго.
Фараоны, як вогалас,
Слова «хадзем!» — паўтарылі:
— Хадзем у кутузку, гасцёк наш,
За «поскудзь», хадзем!
— Оскорбление важной особы...—
А Марта у лямант, у плач
На ўвесь голас:
— За гэтага з каменя?!
Цьфу на яго з гэтым камнем!
Тут двое яшчэ фараонаў
Да Марты. Пад ручку жанчыну.
— Хадзем жа і ты,
Маладуха, за «цьфу!».
— Оскорбление важной особы...—
Збіраўся народ, і смяяўся,
І жарты і кепікі строіў.
«Гу-га» і «гу-га».
Гарадскія смяюцца з вясковых:
— Дзеля гэтае малпы людзей
Павялі ў кутузку!..
Тут царскія агенты
Вызвалі йшчэ фараонаў.
І колькі дзесяткаў людзей

Павялі:
— Оскорбление важной особы!..
За «малпу» хадзем!
Вядуць у кутузку граmаду.
Наперадзе Янка той з Мартай
З вёскі. За імі ідуць
Гарадскія. А вакол
Фараоны...

. . . . . . . . . .

А потым быў суд.
Чарнасоценны друк затрубіў
Аб крамоле.
Ля помнікаў варту
Паставілі
Ўдвойчы,
Утройчы.

## ЖАЛЕЗНЫ ВОЎК

І валіцца сонца
Чырвоным шчытом,
Пажарыць дубы і барыны.
І цені ля пнёў,
Нібы козы, ляглі.
І туліцца вечар,
У долах чакае.
Змоўк рог паляўнічы.
Нямала сягоння пад князевы лук
Зганялі зуброў і казюль.
А князь быў стральцом самым першым,
А князь быў стральцом самым трапным.
Так гутарка йшла,
Так усе гаварылі ільсціва.
Бо лепш паляванне ў лясах,
Чым па гнёздах — па норах падданых.
Бо лепш хрыпы смерці звяроў,
Чымся войканне, гвалты дзяўчат.
Змоўк рог паляўнічы.
Даволі.
Будзе досыць забавы крывавай.

І людзі, як псы,
І псы, нібы людзі,
Спацелі. У пене. У пыле.
Служылі. Гатовы служыць.
Спакора ў вачах.
Ці шчыра, няшчыра — спакора...
Бы «нішто» акружыла «усё»,
Акружылі ўсе Гедыміна.
І нехта за повад стрымаў жарабца,
І нехта к страмёнам прысунуў руку,
І нехта сагнуўся, каб князю мякчэй
Было па спіне цяжкім чобатам стаць,
І нехта прытоіў злы бляск у вачах,
І нехта праклёны шаптаў...
Каня адвялі да пшаніцы,
Князь прылёг адпачыць
На высокай гары над Вялейкай,
Як і быў ён у зброі жалезнай.
І сонца кацілася ўніз ды уніз,
І цені раслі і даўжэлі,
І вечар туліўся, чакаў...

. . . . . . . . . . . . .

Стала ціха вакол.
Бераглі князеў сон, як збавенне, як скарб;
Сцераглі яго сон, нібы звера у клетцы.
Бо як спіць — не грашыць
Нават князь, нават цар.
Бо як спіць — няма гора нікому.
Зоркі зірк навакол, нібы вочы людзей,
Нібы вочы адданых ваяк,
Нібы вочы пужлівых дзяўчат,
Нібы вочы мяцежных людзей.
Зоркі блішчаць.
Хай не думае хто, калі спіць ясны князь,
Дык і варта узбройная дрэмле,
О, варта не спіць,
Хоць ніхто і не думае князя чапаць:
Як навекі засне, будзе шмат князянят,
Будзе горш, як цяпер...
Зоркі ў небе гараць.
І кальчугаю шызаю — ноч.
І шацёрам закураным — ноч.
А вятры на гары, а вятры навакол

Баюць байкі далёкіх стагоддзяў:
Далёкіх стагоддзяў, што зніклі,
Далёкіх стагоддзяў, што прыйдуць.
Выюць вятры.
Хто знае — мяцеж ці пакора
У сэрцы вятроў.

. . . . . . . . . . . . . .

У той час:
Па дробных хацінках ля сіняй Віллі
Не бярэ нешта сон ратаёў,
Што кормяць і князя і слугаў яго,
Што плачуць з чыншоў і падаткаў.
Адляцеў ад іх сон лёгкай птушкай,
Лебядзіным пяром ён панёсся
На сініх хрыбтах вейна-хвойных вятроў.
«Князь тут блізка цяпер —
Не да сну.
Князь тут блізка цяпер —
Што рабіць?»
Спалох. Неспакой.
«Дзе схавацца?»

. . . . . . . . . . . . . .

У той час:
У дубовым гушчары палае агонь.
Жрацы падліваюць жывіцы-смалы,
Вандалоткі кладуць хварасціну,
Пахучыя зёлкі у вогнішчы —
У чэсць Перуну, у пашану,
На славу князям і харомам,
На страх паспалітаму люду.
Усяродку, як сонца, агонь.
Ноч цемрыць цямней навакол.

. . . . . . . . . . . . . .

І князь бачыць сон.
Князь глядзіць, што за цуд:
Воўк жалезны стаіць,
Б'е хвастом па баках,
Нібы звонам звініць медзь па медзі.
І вуголлем блішчаць яго вочы-агні.
Блізка воўк той стаіць —
Вось рукою падаць —

Мо па крокаў на дзесяць ад князя.
Воўк завыў на заход,
Воўк завыў на ўсход
І на поўдзень, на поўнач таксама.
І выццё — не выццё:
Праз жалезны праз рог
Хтось крычаў,
Хтосьці зваў,
Пагражаў.
І водгулле-рэха з пагоркаў, далін
Стогалоссем зычэла, гучэла.
Воўк заляскаў зубамі.
У князя п'яўкамі зрэнкі ўпіліся,
Праніклівы грозныя вочы.
Да гэтакіх позіркаў князь не прывык,
І князева сэрца зайшло хадыром,
І князева сэрца — як люты груган,
І князева сэрца — пажар.
Нацэліў свой лук на ваўка Гедымін,
Бо князь быў стральцом самым першым,
Бо князь быў стральцом самым трапным.
І стрэлі ляцелі,
І стрэлы гулі,
Не стрэлы — крылатыя змеі,
Не стрэлы — пагібель,
Не стрэлы — а смерць.
Нацэліцца ў грудзі — трапляе,
Нацэліца ў карак — якраз,
Нацэліцца ў вока — туды.
І стрэлы, бы рой камароў,
Гулі і звінелі,
А воўк — хоць бы што.
Не баіцца тых стрэл воўк жалезны.
Не стрэлы — а мухі,
Не стрэлы — лучынкі,
Не стрэлы — пясок.
І спалохаўся князь,
Апусціў свой калчан.
«Што рабіць, о, Пярун?»
Воўк раз'юшаны лезе і лезе...
Бліжэй і бліжэй...
Зараз кінецца...
Вось...
Прытаіліся псы.

І зніклі кудысьці ўсе людзі.
І людзі, як псы,
І псы, нібы людзі.
Князь адзін.
Яго сіла адпала, як струп.
Яго сіла адпала, як дым.
Сам-насам.
І жалезную ляпу разявіў
Жалезны разгневаны воўк...
Князь за грудзі схапіўся
І...
Сон.

. . . . . . . . . . . . .

Расплюшчыў ён вочы. Ускочыў. Стаіць.
Цішыня.
Месяц ціха плыве
Залатым чаўнаком.
За хмарку сівую хаваецца ён.
І зноў...
А хмары — як туры,
А хмары — зубры,
А хмары — алені,
А хмары — як войска,
Як грозны атрад.
Месяц ціха плыве
Залатым чаўнаком.
Сон.
Дрэвы — людзі жывыя — шапочуць.
Дрэвы — рыцары-воі — дрыжаць.
Сон.
І ваякі і слугі стаяць навакол
І чакаюць загаду ад князя.
Сон.

. . . . . . . . . . . . .

Князь ад вогнішча вечнага склікаў жрацоў
І свой сон гаварыў ім.
Свой сон.
Гаварыў — і хаваў свой спалох ад людзей,
Гаварыў — па баках аглядаўся.
Сон.

. . . . . . . . . . . . .

Першы жрэц
Быў стары, у сівізне гадоў,
З мутным вокам, з гарбом,
З сінявасцю жыл па дрыжучых руках.
Ён тлумачыў:
— Вешчы твой сон, слаўны князе.
Гэта хартыя будучых дзеяў святых.
Дзе дрэмлюць цяпер шчыр-дубы і бары
Па нізінах, узгорках адвечных,
Там горад устане вялікі.
Да зор, да нябёс будуць гмахі расці,
Дыяменты і мармур заморскіх зямель
Заварожаць наш край на гады, на вякі;
І людзі з адалля і зблізку
Плысці будуць сюды на паклоны багам.
У абоймах Віллі між лясоў і палёў
Шмат вякоў будзе жыць гэты
Горад.

. . . . . . . . . . . . .

Жрэц другі
Быў сярэдніх і мужных гадоў.
Задумна, паважна і мудра
Ён голаў схіліў.
І вось як тлумачыў сон князя:
— Вешчы твой сон, наш саколе,
Ад мілосных багоў светлым знакам ідзе.
Сцеражыся жалеза.
Шануй, ясна сонца, жалеза.
У моцных руках шчыр-адданых ваяк
Жалеза табе паратунак,
Больш зброі! жалезнае зброі!
Толькі, князе, глядзі, каб па хатах па тых,
Што, як гнёзды, растуць каля рэчкі,
Не было ні мячоў, ні нажоў ані-ні,
Не было ні кавалка жалеза...
А то раб, а то хам
Бунтавацца пачне.
Я сказаў...
І больш гаварыць мне нязручна.

. . . . . . . . . . . .

Трэці жрэц
Юнаком быў з агнём у вачах,—

Хоць агонь той схаваць ён стараўся,—
Сон князя тлумачыў:
— Вешчы твой сон.
Ён — прароцтва нябёснае сілы,
У вякоў аддаленні, што ўзыдуць сюды,
Возьме верх над залотам жалеза,
І апыніцца чорны метал у руках
Тых людзей... тых рабоў... ля Віллі...
І тады...
— Годзе! — крыкнуў вой-князь.
І радасць і гнеў
Пад грознай брывой яго
Гаслі-гарэлі,
Гарэлі і гаслі.

. . . . . . . . . . . . .

Збудаваў Гедымін на высокай гары
Аж да хмар камяніцу-замчышча,
Пад замчышчам — скляпы.
Шмат жалеза пайшло для скляпоў,
Каб мацней трымаць тых, што
Ў хацінках убогіх...
А вакол вырас горад вялікі,
І завецца ён
Вільня.

# XIII

# ПАЛЕСКІЯ БАЙКІ

## ПАЛЕСКІЯ БАЙКІ

### 1. НА БАЛОЦЕ

І туды і сюды навакола глядзі:
Толькі тхлань, толькі гідкае нетра.
Па карчах, па ламах цэлы тыдзень брыдзі,—
Цябе душыць гнілое паветра.

Сцеражыся дрыгвы, бо адразу глыне,
Хтосьці ў процьму пацягне за ногі;
Прападзеш пад карчом у дрыготнай багне,
Дзе няма ні пуці, ні дарогі.

Сум пануе вакол, страхаццё і жуда,
Плача каня ў кустах на балоце;
Адусюль на цябе паглядае брыда,
Млее сэрца, дрыжыць у самоце.

### 2. ШТО БЫЛО ДА СТВАРЭННЯ ПАЛЕССЯ

Зіхацела даўней тут вада, нібы шкло,
Быццам неба было тут другое.
І палескай зямлі тут зусім не было,—
Быў абшар вадзяністы затое.

Толькі рыбкі ў вадзе мігаценіся тут
І блішчэлі хвастамі надзіва.
На жар-сонца глядзеў акунёў цэлы жмут,
Карагоды кружылі гулліва.

Сонца ўсходзіла з хваль на надводны абшар,
Бо пад коўдрай вады начавала.
Красавалі ўглыбі плоймы колераў, хмар.
Было сонечных косак нямала.

Неба ў люстра вады аж на самае дно
На бурштын апускалася чысты.
І дрыжэла яно, і бліпічэла яно
Перламутравай плахтай іскрыстай.

І блакіт расцвітаў да нябёс ад вады
Абрусом-палатном з павуціны;
На блакіце — блакіт. За гадамі гады
Так ішлі векавечнай пуцінай.

Ветрык хмаркі ганяў, ветрык зыбаў віры,
Цішыню лёгкім шэптам трывожыў;
Калыхаў ціш вякоў ад пары да пары,
Бы дзіцё сваё песціў і гожыў.

І была цішыня. Ні людзей, ні звяроў,
Ні драўлякаў, ні траў, ні зямліцы...
Вадзяніцаю цьма з-пад шкляных пустыроў
Выхадзіла на ўзверх падзівіцца.

Быў нямы белы свет, нібы камень-скала,
Быў нямы даль-абшар над вадою,
Цішыня, як мара, вандравала, плыла.
Шлі гады так капа за капою...

## 3. БОГ, ЧОРТ І ДУДА

Ў алатырных палях бог на небе сядзеў,
Галубіную кнігу чытаў ён.
З глыбі вод угару злы нячысцік глядзеў,
І змяіную кнігу трымаў ён.

Ў кнізе белай у той было мудрасцяў шмат
Аб дабры векавечным, аб долі.
Ў кнізе чорнай у той было жудасцяў шмат
Аб смяротных грахах, аб нядолі.

Паміж небам-зямлёй самаграйка-дуда
На грудзях дзеда сонца вісела.
Побач ціха плыла сівых хмар грамада,
Побач ззянне блакітнае млела.

Нібы птушкі ў гняздзе, спалі гукі дуды,
Іх ніхто не будзіў навакола,
Так плылі, так ішлі за гадамі гады,
Бы з вясёлак адвечнае кола.

З валакністых агнёў ткала даль паясы,
Аздабляла ў нябесныя краскі;
З яркіх зорак-вачэй ткала даль абрусы,
Дуда спала пад сонечнай ласкай.

## 4. ПЕРШЫ СОН ДУДЫ

І дуда сніла сон, заварожаны сон:
Матылькамі кружыліся зыкі.
Абляцеў белы свет дзіўны тон, вешчы тон
Пад рукамі сівога музыкі.

Спеў імкнуўся удаль лебядзіным пуцём,
Дудар граў і спяваў грайкі-песні.
Бачыў хаткі сялян, бачыў панскі харом,
Цэлы свет дудару быў зацесны.

Слёзы ў ясных вачах ззялі светлай расой,
Акраплялі ратайскія грудзі.
Людзі йшлі на агонь. Людзі рынулі ў бой,
Згадаваныя працаю людзі.

Нібы хваля плыла, ірвануўся сыр-бор,
Грамада йшла, гуляла, спявала.
І глядзела ўгару на нябесны прастор,
І жаданне ў вачах красавала.

Колькі моцы было ў гучных песнях людзей,
Радасць хлынула светлай навалай.
Гукі шчасця раслі з гарапашных грудзей,
Зычным выраем песня лунала.

## 5. ДРУГІ СОН ДУДЫ

І дуда сніла сон: абяздолены край
Між балот і лясоў дрэмле ціха.
Па лугах і палях жабраком ходзіць бай,
Па шнурах ходзіць злыбеда-ліха.

Край той спіць, як стары занядужаны дзед
За цямнюткай, за курнай пячуркай,
А над краем відаць светлы зорачны след,
Захаваны пад шэраю хмуркай.

Ой, каб быў там пясняр, сівабровы дудар
У забытай, загнанай старонцы,—
Ён падняў бы людзей, разварухаў б абшар
І наклікаў бы ў госці да сонца!

Скарб багаты ў зямлі векавечна ляжыць,
Сіла брызгае светлай крыніцай.
І прачнецца той край, будзе вечна ён жыць,
Закрасуе зарой-зараніцай.

## 6. ЯК БОГ СТВАРЫЎ ПАЛЕССЕ

Вось уздумаў пан бог край Палессе стварыць
І людзей, і жывёлін, і птухаў;
І вяроўку пачаў ён з праменьчыкаў віць,
І сівую патыліцу чухаў.

Па вяроўцы з нябёс апусціўся ў ваду,—
Бог — вялікі штукар на ўсе рукі;
Захапіў ён з сабой самаграйку-дуду,—
Маюць сілу вялікую гукі.

Ледзь падумаў загад — крышталёвы чаўнок,
Як цудоўны мянтуз, паказаўся.
І сявалка ў чаўне. Ў той сявалцы камок,
Як шаўковы клубок, развязаўся.

Развязаўся клубок: дыяментавы мак
Заіскравіў, напоўніў сявалку.
Бог бярэ на вагу, бог прабуе на смак,
Такіх зерняў не еў ён і змалку.

«Вось насенне — дабро, вось насенне — адбор!
Гэтым свет тут засеяці трэба!
Тут хай будзе зямля, а над ёй — цёмны бор,
І лужок, і ўрадлівая глеба».

Бог плыве на чаўне ды мяркуе туд-сюд.
Нібы рупны ратай гаспадарны:
Сыпне жменю дабра — і расце, проста цуд,
Пушча-лес, нібы сад велізарны.

Вада шчыліцца — ўміг выступае гаёк,
А за гаем — лугі, сенажаці.
Зеленеюць палі, і шуміць каласок,
Ажыла ўся зямеліца-маці.

Выступаюць ушыр, разлягаюцца ўдаль
Лугі, пожні, даліны і ўзгоркі.
Кветкі граюць, бліщчаць, зелень ладзіць свой баль,
Мігаціцца раса, нібы зоркі.

Прамяністым агнём сонца грэе зямлю,
Аздабляе луг свежы і сочны.
Цеплыня... Хоць дзіцё палажы на раллю,
Дык пачне тут расці ідавочна.

### 7. ГРАЮЧЫ НА ДУДЗЕ, БОГ СТВАРЫЎ ПТУШАК, ЗВЯРОЎ І ПЕРШАГА ПАЛЕШУКА

Ой, пачатку няма, ой, канца не відаць
Шчыр-красе агняцветаў і фарбаў.
Вось давай на дудзе бог іграць ды іграць —
І з'явіліся новыя скарбы:

Замільгаў матылёк, зашумела пчала,
Зух-стрыгунчык між травак туркоча.
І зязюля пяе, кволы гук завяла,
Громка болбатка ў лесе балбоча.

Грае бог на дудзе. Лось выходзіць на лог
З лагавішчаў дрымотнага бору;
Тур лагодна глядзіць на атару ў палёх,
Што пасецца на вольным прасторы.

Грае бог на дудзе, і плыве песня-гук,
Бог насенне паўсюды кідае.
На паляне стаіць, нібы дуб, паляшук,
Першы раз вольны свет аглядае.

Выкрасае агонь, дыміць люльку ўзасос
І магерку кідае на камень;
Зірк туды і сюды — уваходзіць у стос,
Бурчыць: «Хату збудую тут. Аман!»

Шмат клапот, шмат турбот, паляшук, будзеш мець,
Ты, глядзі, не спудлуй, а трымайся!
Прападзеш, як разок заваронішся ледзь,
Над сабой пастыром быць старайся.

Дзеі-думкі твае — гэта стада гаўяд
На даліне абшырнай жыццёвай,
Пуга-цямлівасць іх абароніць ад здрад,
Будзе рупнасць трымаць у захове.

## 8. ЧОРТ УКРАЎ У БОГА НАСЕННЕ

Бог плыве на чаўне, а тым часам злы чорт
Круць і верць вакол божае вабы.
Чорт з рагамі, з хвастом і худы, як той хорт.
Чорт — гідкі і слізкі, нібы жаба.

Бог — слабенькі дзядок — слепавата глядзіць
На жар-сонца — на вечны загарак.
«Эх» і «эх», «квох» і «квох», і дрыжыць
і дрыжыць,
А гады яму згорбілі карак.

Нібы ўюн, тут і сюд вакол бога шальмец,
На насенне ён слюнкі пускае;
Трэ аб човен бакі, дасць пад човен нырэц,
Дражніць бога, як малпа дурная.

Раптам лапу тып-мыц, цапнуў жменю дабра,
Проста з рук вырваў божых чарцюга.
Ён насенне глынуў і паплыў, як мара,
Рагатаў жарабцом, лайдацюга.

Бог маўчаў — яму што? Кончыў працу. Назад
Па вяроўцы ўскарабкаўся ў неба.
На аблоках ляжыць. Спачывае і рад,
Што нацацкаўся болей, чым трэба.

## 9. ПАЛЯШУК ГРАЕ НА ДУДЗЕ

Кінуў з неба дуду на зямлю бог уніз,
Паляшук ад яе слодыч мае.
Скача поле і лес, скача звер сярод хмыз,
Як ратай на дудзе тут зайграе.

І дабрэе злы воўк; ён глядзіць, бы ягнё,
І ківае ў лад-тахт галавою.
Нібы рой галубкоў, замаўчыць груганнё
І лунае над мяккай раллёю.

Не кусае вужак; ён звярнуўся клубком,
Заварожаны слухае гранне.
Хоць у рукі бяры, пеpaзайся вужом,—
На цябе, як дзіцё тое, гляне.

Паляшук на дудзе пасля працы цяжкой
Грае цэламу свету надзіва.
Адыходзіць, як цень, жальба з цяжкай журбой,
На душы — бы хто мажа алівай.

Плывуць гукі ў прастор, нібы птушкі нябёс,
Разлягаюцца пошчакам дробным.
Рады краскі, трава; ў яркіх кропельках рос
Апранаюцца пышна, аздобна.

І журчыць ручаёк, байку-казку пляце,
Дудару вельмі шчыра уторыць,—
Во ад чараў дуды ўся зямля запяе,
Зараз камень нямы загаворыць...

Ой, на свеце няма прыгажэй і пякней
Вольнай песні, і простай і шчырай;
Паляшук нават смерць забывае пры ёй,
Яго сэрца ўзнімаецца ў вырай.

Думка рэчкай плыве праз краі, праз вякі,
Думка ў небе гарыць зараніцай.
Сыпле кроплямі ўніз, як раса на лісткі.
Жыве сэрца жывою крыніцай.

## 10. ЯК ЧОРТ СТВАРЫЎ БАЛОТА

Чорта гне ў дугу, бельмы лезуць на лоб,
Забурчэла ўнутры аж занадта.
Бы атруту глынуў, бы глынуў горкі боб —
То зашкодзілі божы зярняты.

Ён крычыць на жывот, бо пачала расці
Раптам чэрава ў стог велічэзны,
Распірае бакі, ні сапці, ні храпці,—
Распучыўся ўгару ваўкарэзны.

І пачаў ён бляваць, мэкаць, нібы каза,—
То вылазіць крадзёнае бокам;
Там, дзе плюне,— расце гнілы корч, і лаза,
І ракіта, і лопух, і блёкат.

Чорт снуе, як павук, выпірае аж дух,
Плюе, харкае серкай, крывёю;
Ён паганіць ваду цэлай кучай рапух,
Рабакамі і дзікай травою.

Чорт снуе, як павук, рыгануў раз-другі,
Плюнуў панам і яснаю паняй.
Пойдзе гора гуляць на шнуры, на лугі
І жыццё мужыка апаганіць.

Чорт снуе, як павук. Ён усё — храк і храк:
Вылез поп з яго ляпы паганай.
Поп калматы такі. Гэй, пільнуйся, бядак,—
Поп закурыць у вочы туманам.

Чорту моташна — страх, аж хвастом лясь ды лясь,
Дзе рыгне — камары, аваднішчы;
З нутра купіны пруць,— скок і скок, плясь і плясь,
Чорт паскудзіць ваду, брудам нішчыць.

Ад натугі язык целяпаецца ўздоўж
І тырчыць, нібы шост сукаваты.
Увесь запеніўся чорт; ён слізкі, як той смоўж,
А плюецца, плюецца, рагаты.

Там, дзе плюне — багна і атрута-трава,
Тхлань трасецца, лапоча, дрыгоча;
Чадзіць голаў багун, сасе п'яўкай дрыгв^
То паморак, то трасца якоча.

Чорт нарэшце за корч зачапіўся, рыгнуў —
З жывата ўсё насенне рванула;
Забурчэла, аж бор удалі ўздрыгануў —
Аж сава прыкры спеў зацягнула.

Раптам выскачыў дзед — гэта злыдзень-шаптун.
Яго вочы — два гнойныя бельмы.
А пад шапкай расце, нібы лямец, каўтун,
Штось мармыча пад нос гэта шэльма.

Апаганіўся ўсюль чысты водны прастор,
Стаў ён чортавым гідкім балотам:
Там пайшлі панаваць страхаццё, смертны мор,
І начніца, і цмок пад чаротам.

Чарцяняты кішаць, нібы вар у катле,
Іх гадуе там чортава матка;
Паратунку няма ад іх проста нідзе,—
Прыстаюць да лапцёў, да апраткі.

## 11. ЧОРТ ВАРЫЦЬ СІВУХУ ПАЛЕШУКУ НА ЗАГУБУ

То не вецер гудзіць, не шуміць сухавей,
То не гойдаюць злыя віхуры;
То над борам не мчыць чарадзейны цар-змей,
То не ладзяцца плачы-хаўтуры.

Гэта ў медных катлах між зачумленых вод
Вадзянік варыць жыжу-атруту;
Там і хмель, і палын, і пякельны смурод —
Для людзей на лайдацтва, пакуту.

Між балотных карчоў многа бочак стаіць,
Іх пільнуюць-вартуюць вужакі;
Жыжа пенай бурліць, і кіпіць, і блішчыць.
Ой, шалёныя будуць прысмакі.

І прабуюць на моц, і прабуюць на крэп,
І пячэ агнём, плягай пякельнай;
Голаў круціць, бы ўюн, і малоціць, як цэп,
Голаў круціць ён бубнам вясельным.

Не дыміцца туман — курыць люльку сваю
Вінакур-вадзянік сярод ночы.
Нечысць вабіць людзей, нечысць ладзіць гульню,
Дым туманіць у самыя вочы.

Паляшук моцна п'ян, скача, песні пяе,
Лье ў глотку нячысцікаў трунак;
Ломіць-крышыць усё, жонку родную б'е,—
Дзеці клічуць людзей на ратунак.

Як за клямку з дзвярэй, цягне чорт за язык —
Паляшук нешта брыдка гавора;
Ён хрыпіць, як вяпрук, ён раве, як той бык,—
Па калена яму сіне мора.

Збудаваў браварок пан на дзікі прыгон,
Сплёў бізун для сялян на Палессі,
Змайстраваў поп царкву, зазваніў ён у звон
У глухім заварожаным лесе.

І прыехаў царок на крылатай бядзе,
І астрог ён прывёз — падарунак.
Ой, канец надышоў. Паляшук прападзе,
Хіба сам сабе знойдзе ратунак.

Вось як гідкі той чорт дзеду-богу памог,
Пастараўся зладзюга нямала.
А ў нябесах сваіх вельмі рад стары бог —
Выйшла досыць цікава, удала...

## 12. ЧОРТАВА ЛАЗА АБХАПІЛА ПАЛЕССЕ. ШТО З ГЭТАГА ВЫЙШЛА

Урадзіла лаза. Нясе ліха з сабой,
Перайшла ад балота на поле,—
Проста рады няма, стаіць пічыльнай сцяной,—
Паляшук праклінае лёс-долю.

І злуе паляшук: цэлы край прападзе
Пад чартоўскай пляцёнкай-заховай:
То ж Палессе, як дзед, барадой абрасце
Кучаравай, калючай, лазовай.

У гарачыя дні просіць сонейка ён:
— Ты спалі мне лазу — гэту здраду!
У халодныя дні просіць зімачку ён:
— Змаразі мне лазу, дай ты рады!

Давай сонцам пячы, давай парыць ваду,
Яшчэ болей расце, вырастае.
І мароз надышоў на лазу, на брыду,—
А лаза не баіцца, не дбае.

Зноў бярэцца яна на вясну, як вязель,
Заглушае лугі і паляны;
Лезе ў вочы і ў твар, як дакучлівы чмель,
Сваёй лапай чартоўскай паганай.

І злуе паляшук, і сякеру бярэ,
І кусты сам цярэбіць адважна.
Немаведама скуль насустрэчу чорт прэ,
Секачу ён шапкуе паважна.

Чорт частуе яго з капшука тытуном,—
Паляшук гэта зелле смакуе;
Чорт ратая заве гультаём, ласуном,
З яго люлькі жартуе, штукуе:

«Ты радзіўся, мабыць, з сваёй люлькай
ў губах,—
З губ не выпусціш люлькі ніколі;
Ты прывык да яе, цёнгле дыміш, аж страх,
Душыш дымам гаркім сваю долю.

Загарыцца твой кут,— няма як ратаваць,—
Насагрэйкай сваёй ты заняты.
Прыйдзе смерць на душу — няма як паміраць,—
Тытуну засталося багата.

За жыццё тытуну спаліш цэлы ты стог,
На той свет ты паедзеш капяжкай;
Гібель бочак віна выпівай, каб не ссох,
Каб лілася, як рэчка, гамонка».

І хвастом ляснуў чорт — з-пад лазы гоц і гоц —
Скача пляшка за пляшкай сівухі;
Паляшук п'е на гвалт, паляшук п'е на моц,
Абліваецца чортавай юхай.

«Кінь лазу церабіць,— кажа чорт,— лепш дуду
Прынясі ды зайграй мне вяселле».
І пайшоў паляшук па дуду на бяду,
І ад бабы дастаў на пахмелле.

## 13. ЯК ПАРАБІЛІСЯ ЧАРТОЎСКІЯ ДАРОГІ І ЯК ПАЛЯШУЧКА ЗРАБІЛАСЯ ВЕДЗЬМАЙ

Жонка б'е мужыка той чартоўскай лазой,
Паляшук нешта сп'яну бармоча.
Чорт вясёлы глядзіць, круць і круць галавой,
І віляе хвастом, і рагоча.

Тутка рады няма, сама баба пайшла
І цярэбіць лазу, дзярэ на лыка;
Ўе вяроўкі з лазы, супачыць прылягла,—
Дзень пагодны, лагодны, вялікі.

Прывалюхаўся чорт. «Хто тут лыка дзярэ?
Ды нашто табе, сваццconfigure, вяроўкі?
Нашто губіш лазу?» — Чорта сполах бярэ;
Распускае кабета шнуроўкі.

«Хочаш ведаць нашто? Зараз я пакажу.
Стань во тут, каля гэтага дуба;
Я на рукі твае во лычок палажу!»
Баба чорта рукою галубіць.

Чорт раскіс і размяк, анямелы стаіць;
Так стаяў бы гадамі, здаецца.
Баба лашчыць яго, росным вокам бліщчыць
І смяецца, смяецца, смяецца.

Скрампавала яго да таўшчэзных сукоў
Лычаком і вяроўкай пляцёнай;
А лазою давай лупцаваць па баках,—
Пайшлі вохі, і плачы. і стогны.

Чорт рвануўся раз-два, вырваў дуб векавы
І сунуў з тоўстым дрэвам далёка;
Барануе зямлю, прабівае равы,
Прэ наперад і бокам і скокам.

Баба мае свой спрыт і таксама не спіць,
Моцна села на дуб і кіруе:
— Гэй, налева! — крычыць.— Гэй, направа! —
крычыць,—
І лупцуе, лупцуе, лупцуе.

Толькі пошчак гудзіць; вые чорт, нібы воўк;
Ад лупцоўкі ён жвавы, рухавы.
Чорт нарэшце аслаб; зубы сцяў ён і змоўк.
Грыміць баба: «Налева!-направа!»

Чорт — бягом, узвярнуў шыр балотных раўнін,
Нарабіў ён брады, брадзяняты;
Дзікіх выскацяў шмат, без канца азярын,
Вызяроў і каўдобін багата.

Па сягонняшні дзень асталіся сляды,—
То чартоўскія сцежкі-пуціны;
Ні праехаць па іх, ні прайсці нікуды
Няма як. А хто пойдзе — загіне.

Чорт засеў у глушы, з дуба бабу сцягнуў
І зрабіў яе ведзьмаю лютай;
Ажаніўся ён з ёй і на вёскі сунуў
На нядолю людзям і пакуту.

### 14. АГІДНЫЯ ЎЧЫНКІ ВЕДЗЬМЫ

Сядзіць ведзьма ў кустах, а над ёю сава
Шэрым крыллем плюгавым лапоча;
Крэхча жабай, дрыжыць, як жывая дрыгва,—
Ведзьма злая замовы шапоча.

А жар-месяц глядзіць на калматы гушчар,
Нібы твар агняшчокі, чырвоны.
Ой, Палессе замрэ ў ланцугах начных чар,
У паганых кіпцях забабонаў.

Ваўкалакам страшным ведзьма душыць дзяцей,
Лезе чорным катом у сялібы,
Губіць спрэсу народ, муціць бедных людзей,
Кожны прэ на ражон і на хібу.

Плодзіць-родзіць чарцей, знахароў, ведзьмароў,
Паслугачак-шаптух усюль мае;
І падвеем ляціць на гумно з пустыроў
Паляшучка, вядзьмарка старая.

На людзей, на быдлё шле бяду за бядой
І бядой паганяе, бы пугай;
Замятае сляды чараўніцкай мятлой.
Затуляе гнілою дзяругай.

Пусціць дождж на жніво, сыпне град ільдзяны
З зачарованых горных харомаў;
Душаць кур, куранят каршуны-груганы,
Губяць збожжа страшныя заломы.

Сонца паліць-гарыць, нібы прысак, пясок,
Хоць пячы ў ім яйцо, як у печы.
Попасць, трасца бярэ, есць дзяцей прагны цмок,
Усіх поедам есць і калеча.

## 15. ЯК ПАЛЕШУКІ ЗМАГАЮЦЦА З ПАМОРКАМ

Людзі б'юць шаптуноў, у магілы кладуць,
Да зямлі прыбіваюць асінай,—
Ведзьмакі-мерцвякі не ідуць, не брыдуць
Па начах таямніцай-пуцінай.

Людзі ў пушчу ідуць; з усіх сіл грамадой
Вырубаюць высокую хвою;
Робяць крыж, валакуць да ракі талакой,
Ставяць крыж на гары за ракою.

Дзецюкі аб той крыж брусок ясеня труць,
Губку ўміг да бруска прыкладаюць;
Загарыцца яна, агонь людзі бяруць,
Ва ўсіх хатах з яго запаляюць.

І гарыць дзень і ноч гэты вечны агонь.
І пад крыжам не зводзяць агнішча.
Дзед-паморак дрыжыць, як спалоханы конь,—
Не пускае яго пажарышча.

Ходзіць-бродзіць адзін між карчышчаў балот
Сівы дзед аднавокі, калматы;
Ён у вёску ідзе, дзе вартуе народ,—
Дзед праплішчыцца думае ў хаты.

Пападзе на агонь, пападзе на ваду,—
Яго смаліць агонь, вада топіць.
Люд дрыжыць і глядзіць на паморка-брыду,
Вочы пільна ў яго утаропіць.

«Ой, пусціце мяне, я вам шчасце нясу,
Векавечнае шчасце такое...
Я вам радасць даю, на спякоту — расу,
Ой, пусціце ж у хаты затое!

Таго шчасця няма ў мужыка пры жыцці,—
А ў мяне — мае волю нявольнік.
У мяне можа сон-адпачынак знайсці
Гарапашны палескі бяздольнік».

«Гэта смерць, гэта смерць...—
кажуць людзі кругом.—
Адыдзі жа! акыш! мы не хочам!»
А паморак стаіць, як той цень над агнём,
Вокам зіркае, штосьці шапоча.

Расплятаюць тады бабы косы свае
І скідаюць апраткі дагола;
Грамада голых баб шумна песні пяе,
Аб'язджае сахой вакол сёлаў.

І равок-баразна мае моц, як ніхто,—
Смерць яго не пяройдзе ніколі.
Дзед-паморак злуе, ажна плакаць гатоў,
Ходзіць-бродзіць па чыстым па полі.

### 16. ПАЛЯШУК ПЛЯЖЫЦЬ ЛЕС І ВЫКАРЧОЎВАЕ БАЛОТА

Шуміць бор векавы. Лясун гойкае — страх.
Ён тут пан-уладар сярод пушчы.
Паляшук пляжыць лес. Стук і стук, трах і трах,
Толькі пошчакі граюць у гушчы.

Кружыць чорт секача. Не баіцца мужык,—
Дзераўлякі ён лысіць сякеркай;
Не заблудзіцца ён, бо да лесу прывык,
Як да світкі сваёй, да магеркі.

Валіць хвою і дуб, на будоўлю кладзе,
Чысціць лапікла, рупна карчуе;
Сее збожжа, арэ, бараною вядзе
І бяды за сабою не чуе.

Жыта жнуць і пяюць, урадзіла зямля,
Жнеям ладзіць дажынкі араты.
Рэчка грае, бурліць; мёдам пахне ралля,
Сонца грэе вясковыя хаты.

Хаты лезуць у лес ўсё глыбей і глыбей.
Лесуна і нячысціка грабяць.
Лясун стогне — лясы ўсё радзей і радзей,
А балота людзей вельмі вабіць.

Высыхае яно. Чорт сунуў аж да дна,
Бо людзей пачынае баяцца,
Чорта сполах бярэ. Страшыць сіла адна —
Гарапашная, рупная праца.

## 17. ПАЛЕШУКІ І ПАНЫ

А дудар-паляшук на сваёй на дудзе
Дзень і ноч сабе грае ды грае.
Аб мужыцкім жыцці, аб сялянскай бядзе
Плыве песня ад гая да гая.

Песня паліць агнём, вугаллём залатым
Паляшуцкія шчырыя сэрцы:
«Іх нямнога — паноў. Мы — як лес той густы,
Дык хадзем на іх з косамі! Смерць ім!

Будзем біць тых паноў! Пусцім яркі агонь —
Хай гуляе над панскім палацам!
Нашы слёзы у ім, векавечны наш стогн,
Бо на пана ідзе наша праца...

У паноў сыць-гульня, абіваюць бакі.
Трэба нішчыць і біць гэтых гадаў!»
І пайшлі грамадой беднякі-парабкі
У бары, у лясы радзіць рады.

А дудар-паляшук на сваёй на дудзе
Дзень і ноч сабе грае ды грае.
Аб мужыцкім жыцці, аб сялянскай бядзе
Плыве песня ад гая да гая.

Гулкі пошчак ідзе ад сяла да сяла
Ад дударскага вольнага грання.
Песня птушкай ляціць і ракой паплыла,
Будзіць люд яна з рання да рання.

У маёнтках той спеў як пачуюць паны —
Давай коні сядлаць ды за пікі.
Па палях і лугах круцяць-верцяць яны,
Каб злавіць бунтароў і музыку.

— Дзе той хам-паляшук? Дзе адважны дудар?
Мы паробім з усіх квашаніну!
Як адважыўся ён — непрыстойны бунтар —
З ганаровых паноў строіць кпіны?

І бягом на усход, і бягом на заход —
Полем-лугам і лесам вячыстым.
Ад мяцежнай дуды замяцежыў народ —
Лаві ветра ў полі у чыстым!

Голас гулкай дуды, рапей тонкі, як дрот.
Раптам вырас у буру-віхуру.
То грыміць на заход, то грыміць на усход:
— Па вяльможных наладзьце хаўтуры!

Гнеў кіпіць у паноў. Больш гнеў у сялян.
Свеціць белы маёнтак агнішчам.
І ад страху дрыжыць злы, збянтэжаны пан:
— Што рабіць? Нас мужык хутка знішчыць.

І цар войска прыслаў — хоць гаці ты з іх
гаць —
І пачаў будаваць шмат астрогаў.
А калматы «айцец» давай пеклам пужаць
І нябесным царом — гнеўным богам.

## 18. ПАЛЕШУКІ І ПОП

А дудар-паляшук на сваёй на дудзе
Дзень і ноч сабе грае ды грае.
Аб мужыцкім жыцці, аб сялянскай бядзе
Плыве песня ад гая да гая:

«Ты не бойся, батрак, гэтай шэльмы-папа,
Не давай ты яму падарункаў.
Лепш ты хату пільнуй. Поп на жонку напаў,
Распусціўся гультай гэты з трункаў».

Раз пайшоў паляшук аж на некалькі дзён
У багаты маёнтак на працу.
Ненарокам назад. Ажна ў хаце смех-звон.
— Добры вечар, калматая цаца!

Дык ты часта, лайдак, тут да бабы маёй
Валачэшся на гэткія балі? —
І давай лупцаваць, аж той попік: «Вой-вой!»
Па спіне яго граюць цымбалы.

Попік моліць яго і ад болю дрыжыць:
— Далібог, больш не буду, не буду...
Я дахаты пайду... Дай на свеце пажыць...
Мілы бог, выратуй сваім цудам...

Без кашулі стаіць, ды у плач, ды у плач,
І дрыжыць яго цела ад лою.
Не. Не пройдзе дарма. Паляшук бярэ квач
І папа таго мажа смалою.

І папа-шальмяца усадзіў ён пасля
У курынае пер'е, у скрыню.
І замкнуў на замок, і запрог ён каня,
І павёз гэту скрыню на рынак.

«Гэй, збірайцеся ўсе! Падыходзьце сюды!
Пятакоў не шкадуйце вы толькі!
Я кіятар прывёз вам — маладым —
Зараз малпа станцуе вам польку!»

Сваю скрыню адкрыў.— Гэй жа, малпа, вылазь!
Весялей! Патанцуй перад людам!
Што? Не хочаш, лайдак? — і драцянкаю лясь
Па спіне той папоўскай і кудлах.

І танцуе «айцец», і людзей бярэ смех:
— Ну і гожы малойца! Ну й гожы!
І шапоча «айцец»: «Падаруй мне мой грэх...
Ствары цуд свой, нябесны мой божа...»

### 19. ВОСЕНЬ, ЗІМА, ВЯСНА І ЛЕТА

З шчылін бору ў акно восень пільна глядзіць
Шэрым бельмам слязлівым, балючым.
Лес шуміць, і дрыжыць, і звініць, і гудзіць
Жоўтым лісцем шуршавым, дрыжучым.

І Палессе тады у туманістых мглах,
У вільготнай і слізкай апратцы.
Хтось брыдзе па дрыгве у парваных лапцях
Па зыбучай патрэсканай кладцы.

А па восені ўслед надыходзіць зіма,
Ў снежнай хустцы вандруе па лесе:
Сцеліць-беліць абшар, проста месца няма,
Дзе схавацца на топкім Палессі.

З пытля сыплецца снег — з высачэзных пустот,
Спрэсу гурбай сялібы заносіць;
Нібы ў млыне мука, лезе ў вочы, у рот,
Вея ў трасцы трасецца, галосіць.

Мчыць мяцеліца ўдаль, завіруха круць-верць,
Ваўкі выюць на сівых курганах.
Вужы-косы скубе сіва-белая смерць,
Пакідае сляды на палянах.

Чорт марозіць людзей, губіць-душыць іх шмат,
Ён пякельную злосць спаганяе.
Людзі гінуць усюль — каля сёл, каля хат,
Ім усюды — магіла нямая.

Але з поўдня вятрок прысылае вясну;
Сонца грае, снег тае і тае.
Прабуджаецца свет ад зімовага сну,
Расцвітае, як дзеўчына тая.

Зноў балота-дрыгва пад бурлівай вадой.
Плывуць крыгі, мільгаюць, бы качкі.
Пні, карчы і кусты па вадзе грамадой,
Аж скрыпяць, аж дымяць ад гарачкі.

Паляшук на чаўне не баіцца плысці —
Яму ўсюды дарожанька вольна.
Ці не хоча ён лёс, долю-шчасце знайсці
На прасторы празрыстым прывольным?

Думу думае ён, штось спявае ў душы,
Бы дуда у грудзях, а не сэрца.
Адчыняе сакрэт ён палескай глушы,
Нібы піша яго на паперцы.

Лета песні пяе у вянку з васількоў
І стаіць на шаўку, аксаміту;
А гарсэцік яе — з залатых каласкоў;
Саматканка-фартух — з сінь-блакіту.

Слепіць шыйку яе росных пацеркаў жмут
З буйных ягад, чырвоных, як золак:
Песціць стан малады абручок-баламут —
Паясок з сяміцветных вясёлак.

Там, дзе ступіць нагой — траўка-хохлік зірне,
Там на сонца ўгару гляне кветка;
Там, дзе кіне свой зрок, яркі свет мільгане
І праменяцца шчасцем палеткі.

## 20. ПЛОЙМЫ ЗДАНЯЎ ПАНУЮЦЬ НАД ПАЛЕССЕМ

То не сны-туманы, не імгла аблягла
Густым невадам пушчы, даліны,—
Гэта ўздоўжку ўшыр-даль зданяў цьма наплыла,
Як паводка ў Палессе-краіну.

Крычыць мшалы лясун «го-го-го!» у бары.
Ён лясны гаспадар ганаровы;
У кароне з галля, ў світцы з цёмнай кары
Ён сядзіць на пасадзе дубовым.

Цягне-топіць людзей у вадзе вадзянік,
І русалкі там ладзяць ігрышчы.
У хаціне жыве стары дзед дамавік,
Злы гуменнік сядзіць на гумнішчы.

За пячуркай старой каты-злыдні жывуць
І трывожаць людзей беспрастанку.
На гаўяду, людзей цёнгле клічуць-завуць
Трасавіц, злых мароў, ліхаманкаў.

Ой, «страхоццяў» зашмат мае наш паляшук.
Шмат пякельных агідных прывабаў.
Ў старых пустках гудзіць адзінокі кадук.
На гародах — жалезная баба.

Зух-паляруш імчыць звар'яцелым віхром,
Ён вясковых калечыць і бэсціць.
Саранчою вісяць над забытым сялом
Беды розныя, розная нечысць.

А на крушні сядзіць у тумане ў расе
Краса-дзеўчынка голая — доля;
Яе грудкі вужак цёнгле смокча-сасе,
Плача бедная ў чыстым у полі.

Па пуцінах пустых залягла варажба,
Павуцінай плятуцца замовы.
Рвецца вужам з грудзей то праклён, то бажба,
Пырх і пырх ад заховы ў захову.

І чакае народ ад нявідзімых чар
Збаўцу светлага, гожага воя;
Аб ім мараць і сняць, і глядзяць на папар,
Ці не свеціцца постаць героя.

Яго шлях—Млечны Шлях, яго шлях—сонцашлях,
Яго зброя — з праменняў вясновых;
Зараніца гарыць на пукатых грудзях.
Яго вочы — з вясёлак вясёлых.

На высокім чале свеціць сонца, як жар.
Месяц ясны ў руках ён трымае;
Ў юным сэрцы яго гарыць вечны пажар,
Макам-цветам яскравым буяе.

Прыйдзе збаўца такі. Ён затрубіць у рог.
Рой зданёў, як туман, здрыганецца.
Прападзе наўсягды. Будзе вольна ў палёх.
Светлым Розумам вой той завецца.

Забудуецца край. Загрыміць на ўвесь свет
Небывалаю славай-грымотай;
Паляшук зажыве, бы пад сонцам мак-цвет,
Заваюе навекі балота.

## 21. ІЛЬЯ ПАЛЮЕ ЧАРЦЕЙ. ЦМОК НІШЧЫЦЬ ПАЛЕШУКОЎ

Над палескай зямлёй полаг неба вісіць
Велізарнай тканінай шаўковай.
Рослы волат-ратай — Сонца ў неба стаіць
І блішчыць галавою агнёвай.

Гляне вокам уніз, патрасе галавой,—
Рассыпаюцца кудры-праменні;
Неба рупна арэ залатою сахой,
Сее іскры-дабро поўнай жменяй.

Стада хмар ён пасе, штук нязлічаных шмат,
З крышталёвых крыніц ён іх поіць:
То пагоніць у кут, то іх верне назад,
Над палескай раллёй ён іх доіць.

Малако льецца ўніз, бы з вядра плюх і плюх,
Корміць-сыціць абшар лугавінаў.
А тым часам імчыць па балоце злы дух,
Ён з вясковых людзей строіць кпіны.

А нячысцікі ўсе пад вадою кішаць,
Толькі бурбалкі пырсь сінім кругам,
Вось задумаў Ілья тут чарцей палявáць
Над балотам, над лесам, над лугам.

Разыграўся пярун, смаліць-паліць пярун,
Кіпіць неба, маланка гуляе.
Сярод дня сее мглу Ілья — грозны вяшчун,
Ён чарцей, нібы зайцаў, страляе.

Ілья громам грыміць: «Так, так, так! Го-го-го!»
«О, лупі яго, бі яго, гада!»
«Трах, трах, трах па зубах ды па карку яго!»
«Трэсні раз і другі ў гэту здраду!»

Паласуе дубы, запаляе стагі,—
Непрытульна на шэрым балоце.
Мокнуць дрэвы, кусты; плачуць поле, лугі.
Ўсё Палессе ў зыбучай вільготе.

І мінула жуда, і мінула туга
На балоце, над полем, над гаем.
На абшарах нябес грае фарбай дуга,—
То каняку Ілья запрагае.

Трэба ехаць дамоў на спакой-супачын,
Трэба даць мужыку касіць сена;
Трэба на зіму шыць кажух з белых аўчын;
А гаспода без дроў — ні палена.

І паехаў Ілья, а тым часам злы цмок
На ўсіх тубыльцаў сее дрыготы.
Шмат глытае людзей, іх пужае знарок
Яшчэ горай, чым нечысць з балота.

Няма рады — хоць плач, каму плакаць няма —
Асталіся пустыя сялібы.
І вісіць страхаццё над Палессем, як цьма,
Увесь край анямеў, нібы рыба.

### 22. АСІЛАК ЗАБІЎ ЦМОКА, А САМ СКАМЯНЕЎ У КУРГАН

На той жудасны час у палескай глушы
Жылі ў згодзе, ў любосці дзед з бабай.
Не было ў іх дзяцей, было добра ў цішы —
Не было ў іх для цмока прывабы.

Дзядок дровы сячэ, бабка воўну прадзе.
Так плыве дзень за днём ў адзіноце.
Не баяцца бяды, хоць жывуць у бядзе,
Не баяцца жуды на балоце.

Але здарыўся цуд: зорка ў небе мігціць,
Паглядае на хату крывую;
І расце, і цвіце, і на хатку глядзіць,—
Апусцілася ў хатачку тую.

Зіхацела яна залатым галубком,
Над бабуляй сівой залунала.
Зорка стала пры ёй дзіцянём-хлапчуком,
Было клопату ў бабы нямала.

Рос хлапчук міг у міг, рос па днях, па начах,
У пяць год быў асілкам высокім;
Ступіць крок — грук ідзе па лясах і палях,
Грэе-лашчыць усё ясным вокам.

Вырваў з корнем сасну і на цмока пайшоў
Ваяваць на абшырным балоце.
Брыў-хадзіў доўгі час, таго цмока знайшоў,
Пачалася там бітва — страхоцце.

Аж балота у стогн, аж дрыжэла яно,
Аж кіпела вада, бы ў катлішчы.
Кінуў цмока ў вір-глыб ён на самае дно,
Ад крыві парудзела багнішча.

Волат рад, волат горд сваёй сілай страшной,
А няма з кім падужацца болей,
Стукне ў неба ілбом, трах па сонцы сасной,
Нібы ўночы, сцямнелася ў полі.

Волат рад, волат горд крэпам плеч, сілай рук,
Кроў у жылах гарыць і буяе.
Кулаком аб зямлю грук і грук, стук і стук,
Зацвіла на душы думка злая.

Пачаў свет на свой лад гартаваць, папраўляць,
Перайначваць нанова парадкі;
Выпіў воду з азёр і давай абліваць
Той вадою сялянскія хаткі.

Курган соваў рукой — то адзін, то другі,—
Нібы порхаўкі з месца на месца;
Кінуў луг на лясы, кінуў лес на лугі,—
Няма з сілай сваёй куды лезці.

Моц па сэрцы стучыць, крэп гудзіць па касцях,
Мучыць волата дзікая смага:
Трэба штосьці рабіць на прасторных палях —
Усё роўна ці добра, ці блага!..

Неба ў злосць увайшло.— Чараўнічы туман
Спутаў волату рукі і ногі;
Дзікім мохам пакрыў, скамяніў у курган,
Што стаіць і цяпер ля дарогі.

## 23. СТАРЫ ДУДАР СХАВАЎ СМЕРЦЬ У РАЖКУ. ЛЮДЗІ ПЕРАСТАЛІ ПАМІРАЦЬ, І ЗРАБІЛАСЯ ЯШЧЭ ГОРАЙ

Смерць брыдзе і касой косіць старых, малых,
Нібы снег на вадзе, вёска тае.
Раз вандруе дудар па пуцінах лясных,
У гушчэчы ён смерць сустракае.

Стала цёмна ўваччу. Дастае ён ражок,
Каб панюхаць табакі шчапотку.
Ён ад страху дрыжыць, лезе трасца праз бок,
Ражаном стала ў горле хрыпотка.

Смерць вітае яго, адкідае касу
Здрацвянелай сваёй рукой-косткай.
«Покуль богу душу я тваю панясу,
Дай сюды тытуну на пачостку!»

— Нюхай! — кажа дудар,— ражок тыц ёй пад нос,
Востры дзюб смерць бліжэй падстаўляе.
«Ой, тытун твой слабы, як трава; дзе ён рос?
Моцы-крэпу ні трошкі не мае!»

«Калі так,— у ражок лезь і нюхай як след,
Будзеш чыхаць, праветрыцца голаў».
Смерць палезла ў ражок, зачыніў яе дзед,
І дахаты пайшоў ён вясёлы.

Сядзіць смерць у ражку: чых і чых, стук і стук,
Штосьці глуха і хрыпла лапоча.
Песні грае дудар, стары дзед-паляшук,
Робіць тое, што ўздумае, хоча.

Люд працуе, жыве; прайшоў год і другі,
На Палессі ніхто не ўмірае.
Зелянеюць лугі і бялеюць лугі,
І жывецца ратаям, бы ў раі.

На шнурах — ураджай, у снапах — умалот,
Развялося гаўяды без ліку.
Дзяцей шмат у бацькоў, расплядзіўся народ
Грамадою бясконца вялікай.

Так прайшло гадоў сто, а мо болей за сто.
А людзей так паўнютка на свеце.
Стала прыкра старым: дзед памерці гатоў,—
А як хоча, не можа памерці.

І людзей і быдля на зямлі: як гара,—
Во зямелька разваліцца зара.
А даўненька-даўно ім памерці пара,—
Гэта ж нейкая лютая кара...

Хай паморак, вайна выратуюць зямлю,
Хай ачысцяць мяцёлкай віхурнай.
Надакучыла жыць, адкідаюць гульню,—
Зажадалася песні хаўтурнай.

А буяе зямля, хоць ратай не арэ,
Плодзіць-родзіць дабро без аддухі.
Ратай лезе ў багну, а багна не бярэ,
Не бярэ на балоце зыбуха.

Ратай лезе ў пятлю, рэжа горла касой,
Сабе дол на гародзе капае;
Кроў пальецца ад ран жыватворчай вадой,—
Бедакоў і зямля не прымае.

Наракае народ, што дудар вінават,
Бо ён смерць у ражку запалоніў.
«Дай нам шчасце, дудар,— ці ты рад, ці не рад! —
Пусці смерць нам на родныя гоні!»

Адчыніў дзед ражок, бо няма што рабіць,—
Людзі самі жадаюць загубы.
І пайшла смерць гуляць, і пайшла смерць касіць
На галодныя — вострыя зубы.

## 24. СМЕРЦЬ ДУДАРА

То не рвецца струна, то не лебедзь пяе,
То не ломяцца крыллі сакола —
То канае дудар. Сум пануе ў сяле,
Прычытанне чуваць навакола.

Зайшло сонейка ў бор, загуляла жуда,
Кажанамі над вёскай мільгае.
На каго ж цябе, сіраціна-дуда,
Сівабровы дудар пакідае?

Анямее твой гук, засмуціцца загон,
Будуць жнеі тужыць на дажынках.
Рване сэрца, душу хворы стогн, ціхі стогн
Без дуды на гульнях-вечарынках.

Без зязюлі-дуды на гады край засне,
Будзе нема маўчаць, як магіла.
І чырвоны, бы кроў, месяц круглы зірне,
Абалье цішынёй крыж пахілы.

Загуляюць вятры ў ясных світках снягоў,
Бы каляднай парою ваўчышчы.
Сярод белых лясоў, абамлелых лугоў
Рыхтаваць будуць веі ігрышчы.

Будзе сонца пячы ўлетку жоўты пясок
На магіле сівога музыкі.
Будзе пушча будзіць: «Гэй, устань, каласок!
Чаму змоўклі дударскія зыкі?»

Плача бедны народ, у жалобе ўвесь край,
Льюцца горкія слёзы бясконца.
Валасы свае рве гарапашны ратай:
«Што пакінуў ты нас, абаронца?

Будуць цюкаць на нас, будуць люкаць на нас,
Будуць крыўдзіць паны, паняняты.
Наша сонца зайшло, наш агонь раптам згас.
Што рабіць без цябе, голуб-тата?

Аздабляў нам жыццё гучнай песняй сваёй,
Працаваць было лёгка і лоўка.
Не кідай нас, стары, пачакай жа, пастой!
Надалей будзь вясновым салоўкам!..»

## 25. ЯК ДУДАР ГРАЎ НА НЕБЕ ПЕРАД БОГАМ, ПОТЫМ АПУСЦІЎСЯ НА ЗЯМЛЮ І АСТАЎСЯ ВІСЕЦЬ ПАМІЖ НЕБАМ І ЗЯМЛЁЙ

Вось памёр дзед-дудар, ці хацеў — не хацеў.
Пахавалі ля шляху-дарогі.
Нібы птушка-арол, угару паляцеў
Аж на самае неба да бога.

Дзеду лёгка было на нябесных палёх
Без балот, без лясоў, без азёраў;
Было добра яму: яго слухаў сам бог,
Сонца, месяц, і хмаркі, і зоры.

Чараваліся ўсе, любаваліся ўсе,—
І святыя дзяды, і анёлы;
Ззялі вочы ў слязах, у надгорнай расе,—
Гэткай песні не чулі ніколі.

Увесь смутак балот паляшуцкай зямлі
Красаваўся пад божым пасадам;
Гукі моцна раслі, гукі ціха плылі,
Гукі сыпалі сонечным градам.

Стары дзед-паляшук на мужыцкай дудзе
Думкі-жальбы на небе іграе
Аб сялянскіх шнурах, аб жывой грамадзе,
Аб турботах забытага краю.

Гук ляціць да зямлі галасней і зычней,
Ён дрыжыць паміж зор і галосіць.
«Пусці, божа, назад на зямлю да людзей...» —
Паляшук ціха моліць і просіць.

«Пусці, божа, назад... Будзеш слухаць з зямлі
Мае шчырыя, простыя гукі.
Пусці, божа, назад... Я тут згіну з тугі,
Спапяліцца душа мая з мукі...»

Бог грымнуў у адказ: «Ты астанешся тут,
Бунтаваць не дазволім на небе!..»
Не паслухаў дудар, захацеў у свой кут,
Ён пусціўся наўцёкі на глебу.

Паляцеў на зямлю і астаўся вісець
Паміж небам і нізкай зямлёю;
І пачаў дзед малець, і пачаў дзед драбнець,
І зрабіўся ён птушкай малою.

На шнуры йдзе ратай і глядзіць угару,—
Хтосьці гучна спявае над гоняй.
То пяе над раллёй смелы гімн на зару
Птушка-жаўранак, кружыцца, звоніць...

# XIV

## З ПАЭМЫ «ЯРЫЛА»

### ВЯСЕЛЛЕ

Неба млела над раллёю,
Над матуляю-зямлёю.
Цёмна-светлым, дзіўным зрокам
Паміж светам, паміж змрокам
Сонца з месяцам гулялі
У яркай сіні, ў сіняй далі.
Пад кудзелямі туману
Каля крушні ля кургана,
Пад зялёным дубам-дрэвам
Дзяцюка сустрэлі спевам.
Ён стаяў тут адзінокі,
Задумённы, сінявокі.
І сказалі: ўстрапяніся,
На свет вольны азірніся.
Тут усё тваё навекі —
Для цябе — для чалавека.
Закрасуеш краскай вечнай.
Гэй, сустрэчны-папярэчны,
Абдаруй хлапчыну скарбам,
Аздабляй сакала фарбай,
Вешчай думкай, вешчым словам
Адчыняй жыцця заховы!

*

Паясок дала заранка,
Крэмень з крэсівам — маланка,
Прычасаў вятрок кудзерцы.
Сонца кроў хмяліла ў сэрцы,
Ясны месяц ззяў у вочы.
Было светла сярод ночы.
На даліне ля дарогі

Рэчкі мылі яму ногі.
Поле грудзі гартавала,
Пушча плечы сталявала.
Дала сілу маці-глеба,
Дала хлеба і да хлеба.
Лета радасць і вяселле
Дала хлопцу з мёдам хмельным.
Зіма сцежкі слала пухам,
А вясна зялёным птухам
Над хлапчынай заспявала.
Восень клікала на балі.
І вятры яго паднялі
На нябесныя крышталі,
Дзе мігцелі краскі-зоркі
На аблочных на пагорках.
Там яго сустрэла Песня
Добрым словам і пачэсным.
Песня — гожая дзяўчына —
Там сустрэла такім чынам:
З граннем гусляў, з хмельным мёдам,
З быллю, казкай, з карагодам.

*

І сказалі месяц-сонца:
— Калі хочаш у старонцы
Лічыць беднасць за багацце,
Жыць пад небам, як у хаце,—
Ажаніся з нашай Песняй,
Будзе свет табе не цесны.
У пасаг ты гуслі тыя —
Самаграйкі залатыя —
Сабе возьмеш назаўсёды.
Ты ў пагоду-непагоду
Будзеш пець, і будзеш граці,
І будзіць зямельку-маці.

*

І сказаў дзяцюк малоды:
— Я без племені, без роду,
Ці дастойна мне з дастойнай
Разам жыць, як роўны з роўнай?

*

І сказалі сонца-месяц
Пяць разоў, а мо і дзесяць,
Дзецюку адно і тое:
— Ажаніся, хлопец, з ёю!
Ажаніся з ёю тутка.
Мы вяселле зробім хутка.
Краса Песня — наша дочка —
Бач, табе міргае вочкам.
Песня — ясная, як неба,
Песня — простая, як глеба.
То не панская дачушка —
Наша дочка-весялушка.

*

І сказаў дзяцюк-малойца
Ім на гэта свае слоўца:
— Карак я ў паноў скалечыў,
Дык ці будзе мне дарэчы
Грацъ на гуслях, з Песняй жыці,
З ёй гуляць на полі ў жыце.
Я не буду ёй па сэрцу,
Месяц-сонейка, паверце!

*

Разліваліся ў гамонцы
Ў шчырай праўдзе месяц-сонца:
— Не бяда тваё калецтва,
Памачніцу будзеш мець ты
Аж да самай да магілы:
Ажаніся з Песняй мілай!

*

І дзяцюк зірнуў на краску,
На дзяўчыну з шчырай ласкай.
Палыхалі вочы, сэрца,
Палюбіў яе да смерці.
І дзяўчына, нібы зорка,
Хлопцу ў вочы без гаворкі
Паглядзела, пагадала:

Ён разумны, ён удалы,
Выйдзе любы мой у людзі —
Гусляром ён слаўным будзе.

*

Ззялі вочы, як зарніцы.
Маладзенькая ў святліцы
Расплятала косы-шоўкі,
Па звычаю слоўкі смутна
Гаварыла: — Вось загана —
Выхаджу я замуж рана.
Апранула саматканкі,
Вышываныя заранкай,
І гарсэцік з аксаміту,
Стужкай з зорачак абвіты.
Шыйку зграбна аздаблялі
З росных пацерак каралі.
Фартушок — кавалак снегу,
У палях-лясах бялеў ён,
Вышываны ў журавіны
Для красуні для дзяўчыны,
І вянок быў на галоўцы,
Нібы з красак спялі сонца.
А на твары з агняцветаў
Яркі вэлюм кволай сеткай.

*

Доўга прасніцы шумелі,
Доўга кросны шапацелі,
Доўга колеры і фарбы
Тут шукалі, нібы скарбы.
Выдумляліся узоры.
Іх шукалі спаміж зорак,
Спаміж неба пажарышчаў
Ды вясёлкавых ігрышчаў,
Спаміж розных травак дзікіх,
Спаміж ягад невялікіх.
Выдумляліся украсы.
Іх шукалі раз за разам
Сярод птушчыных захаваў,
На іх пер'ях каляровых
Ці на дробных жвавых пчолках,

9 Зак. 1067

На мятлічках, як вясёлкі.
Выдумляліся малюнкі —
Ручнікам на візарункі.
Пад жывою пад вадою
Іх шукалі грамадою
Паміж рыбак, паміж плотак,
Паміж шумных ачаротаў,
Іх шукалі ў сіняй далі,
Іх дзяўчаты нашы ткалі.

*

Маладая ўсіх, як трэба,
Частавала соллю-хлебам,
Нізка кланялася людзям.
Эх, вяселле тутка будзе!
І падружкі заспявалі
На вясельным гэтым балі:
— Два саколы заляталі,
На акенца селі-палі,
На акенца той святліцы,
Дзе нявеста, дзе зарніца
Веснавой красою зззяе,
Нібы кветка веснавая.
Запыталі ў краскі мілай:
— Ці матуля блаславіла?
— О, матуля блаславіла,
Як на шчасце спарадзіла.

*

Дзед-маршалак жмурыў бровы,
Прамаўляў мядовым словам:
— Сціхні, звонкая музыка,
Хай замоўкнуць гусляў зыкі,
Хай чакаюць скрыпка, дудка
І вясёлая пагудка.
Перастаньце есці, піці,
Перастаньце весяліцца
Не на цэлую гадзіну —
На кароткую хвіліну.
Вы паслухайце бяседу —
Пару слоў сівога дзеда.
То не я прашу вас, госці,—

Маладыя гэта просяць.
Блаславіце іх, шануйце,
Долю светлую віншуйце,
Каб на шчасным, добрым месцы
Маладым галубкам сесці!
— Бласлаўляем! Бласлаўляем! —
Нібы ветру шэпт над гаем.
Адбылося баляванне
Трое ночак, трое ранняў.
Многа мёду выпівалі,
Многа танцаў танцавалі.
І давалі падарункі:
Поўны куфар, поўны клумкі.
З лірай вешчай, гучнаструннай,
У аўчынах сіварунных,
На аблоках бела-млечных,
Каля брамы людзей стрэчных
Месяц-сонца сустракалі,
На гулянне заклікалі:
— Гэй, да нас, да нас у госці,
Дабрадзеі, ягамосці!

*

Едуць-едуць маладыя
У шацёры залатыя.
Ад нябёсаў да зямліцы
Доўгі, роўны шлях мігціцца.
Глянь уверх — абрус блакітны,
Глянь уніз — дол аксамітны.
Едуць-едуць маладыя
У шацёры залатыя.
— То хацінка, не шацёры,—
Маладой дзяцюк гаворыць.
— Не бядуй, у тваёй хаце
Будзе гуслева багацце.
Ты без грошай, без дукатаў
Будзеш шчасным і багатым.
І харошая малжонка
Вядзе гутарку-гамонку:
— Між аблочных між карунаў,
На гуслярскіх чулых струнах,
Аб тваёй жыццёвай сцежцы
Раскажу табе нарэшце.

У гуслярскіх гуках-гранях
Лёс далёкі твой схаваны.
Тваіх песень адгалоскі
Разыдуцца з вёскі ў вёску.
У сялянскай беднай хаце
Замігціць тваё багацце.
Твая песня ў цэлым краі
Скліча парабкаў-ратаяў.
Пры рабоце ў ліхалецце
Твая песня адгукнецца.
Макам дробным брыльянтовым
Парассеецца ў дубровах,
Пры звярыных панскіх здзеках
Дасі радасць чалавеку.
Ты прыгонніку у грудзі
Кінеш песню ў светлым цудзе,
Сыпнеш віхры дум бязбрэжных,
Дум агнёвых і мяцежных —
І нявольнікі ў палацы
Рынуць волю здабываці.
Глядзіць молайцу у вочы,
Долю-лёс яму прарочыць:
— Люд вандроўны ў бездарожжы
Песняй шчырай заварожыш.
Як на крыллях лебядзіных,
На адгуках песень дзіўных
Будзе ён ляцець жаўронкам
Па ўсіх кутках старонкі,
Ці ў радасці, ці ў муках —
Будзе люд купацца ў гуках.

*

І малодка далей кажа,—
Бы вянок той пляце-вяжа:
— І людское ўсё хаценне,
Сэрца шчырага імкненне,
Заяскравіцца крыніцай,
Нібы пацеркі на нітцы,
На гуслярскіх струнах-чарах.
З струн па полі, па абшарах
Сойдзе росным карагодам
Ад народу да народу.
Сыпнуць спевы з гусляў чулых —

На сто міль народ пачуе.
Пойдзе песня лесам, лугам,
Як віхор, закружыць кругі.
І пры вогнішчы начлежным,
Ля бярозы беласнежнай,
Каля рэчкі, каля гаю
Песню шчыра заспявае
Сінявокі хлапец з вёскі.
Зажурбуецца бярозка.
Будзе слухаць на даліне
Песні шчырыя дзяўчына.

*

І малодзенькая краска
Вяжа, бае сваю казку:
— Да гуслярскіх гучных спеваў,
Што зайграеш ты пад дрэвам,
Гаварыць пачнеш казанне,
Думу шчырую да грання.
Будзеш думкі прасць, як праха,
Будзеш думкі ткаць, як ткаха,
Дыванамі, паясамі
Ды зарніцы паласамі...
Легкакрылую частушку
Пусціш птушкаю-пяюшкай
Над кудзерцамі гушчарам,
Над грудзьмі палёў, папараў.

*

І твая частушка-песня
Ўсюль жаданы госць пачэсны,—
Ёй араты заварожан,
Ёю — жаўранкам над збожжам;
Б'е галінаю ў аконца,
У павуціне валаконца,
Лезе дзеўчыне на кросны
Васільком сінявым росным;
Нібы ветрык беспрымусны,
З шчыр-дзявочых звоніць вуснаў.

*

І твая частушка-дзіва
Зернем ядраным на ніве
Будзе сеяцца-кружыцца
Ад мяжыцы да мяжыцы,—
Ў баразну з насеннем ляжа.
О, шчаслівая зямля жа! —
Спевам-дзівам апляцёна,
Нібы кужалем бялёным,
Нібы ўсход ды зараніцай,
Мох вільготны ды брусніцай.

*

І твая частушка-кветка
Зацвіце узімку-ўлетку —
Ад кургана да кургана
Шумным вечам веліканаў
І запоўніць спевазвонам
Поле, лес, шнуры, загоны.
І захмеліць перунамі
І мяцежнымі агнямі
Дні і ночы год за годам
Сэрца беднага народу.

*

І красуня кажа слоўка,
За прымоўкаю прымоўка:
— Ці то дзяцел робіць грукат?
Ці зязюля кажа «ку-ку»?
Ці будуецца будова?
Ці шуміць барок хваёвы?
То па кузнях грук грымотаў,
То жалеза абмалоты.
Молат раз і два ў жалеза,
У жалезны воск ён лезе,
Лезе зубам гартаваным
І галоўкай сталяванай.
Гэй, стучы, каваль, па сталі,
Каб усе да працы сталі!
Кінь ты вугаль цвёрды, чорны,
Кінь на попел, кінь на горны!
І мяхі ды скураныя

Раздувай, каб рукі нылі,
Заяскравіцца тут промень,
Пойдзе злосна ў чорны комін.
І жалезны прэнт нарэшце
Мяккім зробіцца, як цеста;
Куй ланцуг такі, як трэба,
Ад нізін зямлі да неба.
Гарт сталёвы навядзеш ты,
Ланцугом тым закуеш ты
Гуслі молайца Ярылы,
Што пад небам сінякрылым
Песню носяць лёгкім птахам
Над вясковым шэрым дахам.
Словы песні гэтай смелай
З неба падаюць, як стрэлы,
І трапляюць простым людзям
Песні-стрэлы ў сэрца, ў грудзі.
Люд збіраецца ў мяцежы
І на пана праўду рэжа.
Адкідае забабоны,
Кліча сходкі люд прыгонны.
Ён пускаецца ў дарогу
Супроць пана, супроць бога.
Задушыце песню тую —
Цэлы свет яна збунтуе.
Але гуслі, гуслі ўсюды
Сеюць песні, твораць цуды,
Не баяцца пана-ката,
Ланцугоў, жалезных кратаў,
Граюць з ветрам на раздоллі.
Гэй, лавіце ветру ў полі!

*

І нябесная дзяўчына
Сказ звязала такім чынам:
Тваё племя — песні-кветкі,
Люд па вёсках — твае дзеткі.
Лес — твой бацька, поле — маці.
Цэлы свет — тваё багацце.
Замест жонкі, замест мілай
Аж да смерці, да магілы
Маеш гуслі — на забаву.
Грай на дзіва! Грай на славу!

*

Аддала Ярылу гуслі,
Цалавала моцна ў вусны
Песня—мілая красуня.
Было радасна і сумна.
Як дзіцятка, палажыла
На мяжу свайго Ярылу.
Узнялася зноў за хмары,
На нябесныя папары,
На зарніцы пажарышчы,
На усходняе ігрышча.
Як той лебедзь замільгала,
Заблішчэла зоркай малай.
Нібы ў поле з аксаміту —
У няясныя блакіты
На здзіўленне ўткнулі лоўка
Шпільку з залатой галоўкай.

*

У апратцы зелянівы
Над пшанічнай коўдрай-нівай,
Над далінаю, над гаем
Ясна раніца гуляе.
Над кудзернай галавою
Высачэзнай стройнай хвоі
Ярка-сіні шоўк мігціцца
Акаймлёны зараніцай.
На высокіх стромкіх соснах
Сонца тчэ на срэбных кроснах
У хвіліну — ў вокамгненне
Яснацветныя праменні.
Ходзіць раніца ў разлогі,
На расіцы мые ногі;
Дзьмухне ветрам па асіне,
Цягне шоўк празрыста-сіні.
На шаўковых нітках тонкіх
Сотні дробненькіх жаўронкаў
Як зазвоняць у званкі там;
Над лагчынай, над ракітай —
Качка дзікая у рэчцы
Шэрым крыллем страпянецца.
Бродзіць раніца ў абшарах,

Па далінах, па імшарах.
Будзіць траўкі, будзіць кветкі:
— Уставайце, малалеткі!
Вам гатова ўжо на ранне
З росак-кропелек сняданне!

*

На мяжыцы пад калінай
Спіць Ярыла. А галіна
Нібы пальцам зачапіла
Струны гусляў з усёй сілы.
Струны войкнулі жывыя,
Загулі, як пчолы тыя,
Задрыжэлі, затрасліся:
— Гэй, Ярыла-друг, прачніся!
Ён прачнуўся. Што за з'ява?
Ці то сон? Ці гэта ява?
Няма дзеўчынкі прыгожай —
Засталіся сляды ножак.
Рваў Ярыла кветкі-руты,
На сляды ён клаў у жмуты,
Каб адціскі пальцаў, пяткі,
Ножак беленькіх пячаткі
Звер і людзі не тапталі
Тут на роснай на крышталі.

## ДЗЯЛЬБА

Быў дзяцюк яшчэ падпаскам,
Як памёр дзядок Панаска.
Дзед памёр, і родны бацька
Гаспадарку з родным дзядзькам
Падзяліць не мог спакойна.
Пайшлі бітвы. Пайшлі войны
За гародзік, за кароўку,
За цабэрак, за вяроўку,
За бярвенне на гумнішчы,
За саху, за тапарышча.
Два браты дабро дзялілі,
Як чужыя, гаманілі.

Брату брат — заядлы вораг.
У вачах дыміўся порах.
Малацілі языкамі
Ды схапіліся рукамі.
І пайшлі платы ламаці,
Вокны біць у роднай хаце.
Было крыку, было грэху
Для суседзяў на пацеху.
Моцна біліся і лоўка,
Аж трашчалі ў іх галоўкі.
Кроў цякла, рыпелі косці,
Браты вылі з дзікай злосці.
Два браты дабро дзялілі.
Было шуму на тры мілі.
Вось схапіліся зубамі
Для суседзяў на забаву.
За авечку за рабую,
За цялушку за малую
Брата брат гатоў забіці,
Нібы шэльма, нібы гіцаль.
Вы не смейцеся тут, людзі,
Зараз ліха, гора будзе.
Мо абліць братоў вадою,
Бо няшчасце будзе ўдвое.
Дзве ўдавіны, шмат сіротак,
Нібы кучы дробных плотак,
На бяду тут застануцца.
Іхню долечку ратуйце!
Хай агнём ідзе багацце —
У нялюдскай гэтай хаце!
А суседзям ды на радасць
У братоў да бойкі жвавасць
Угару расце, як стог той,
За авёс той, за гарох той.
За цыбулю ды за пеўня —
Аднаму тут смерць напэўна...
Хай бы жыў дзядок Панаска,
Сваёй смерцю мала ласкі
Ён зрабіў сынам ды родным,
Ці хто годны, ці не годны.
І браты адпачывалі —
Ды нанова пачыналі
Бой за лыжку і за пугу,
Як шалёныя зварүгі.

А суседзі: ой, цікава,
Чым жа скончыцца тут справа?
Дайце мерацьвокамерам,
Можна думаць, можна верыць,
Будуць труны дзве патрэбны
Для братоў у портках зрэбных.
А два долы, а дзве ямы
Зараз выкапаюць самі.
Вось качаюцца ля плота
З азвярэлаю ахвотай.
І насамі глебу рыюць,
Грэе брата брат па шыі.
Раптам новае здарэнне
Звяло родных да змірэння:
Задымілася ў абшары —
То гумно пайшло пажарам.
За гумном — хляўчук, і хата,
І скаціна, і зярняты.
У агнёвым дзікім балі
Зноў браты сябрамі сталі.
— Эх, лучына, ты лучына,
Ты была агню прычынай!
Памагала пры дзяльбе ты! —
Плачуць бедныя кабеты.—
Як за новую за працу
Пры бядзе пры гэтай брацца?
На зіму схавацца недзе,
Злітаваліся суседзі:
Лазню курную, крывую,
Лазню чорную, старую
Аддалі на зімаванне,
Двум братам на жабраванне.
Вось браты пайшлі ў жаброўку
Пад людскія дзверы, вокны.
Былі торбы іх няпоўны,
Было ў лазні дзетак поўна...
І пад снежнай завірухай,
Пад зімовым белым пухам,
Пад марозным грозным ліхам
Браты марылі паціху:
— Эх, каб хата... Печ у хаце,
Ды не трэба нам багацця...
Ды нашто было сварыцца?
Ды нашто было дзяліцца?

Уначы пад гул віхорны
Снілі сны у лазні чорнай.
Сны, як ластаўкі, ляцелі
Над іх цвёрдай над пасцеллю:
...А пасля калядаў лютых,
Лёдам-сіверам закутых,
Два браты пайшлі ў сасоннік,
А сасоннік ім спрасоння:
...Палясоўшчыкі з пахмелля
Ды на воўчае вяселле
Як натрапілі, папалі,
Дык ваўкі іх разарвалі.
Насталюйце вы сякеры
І давайце хвойкі мерыць,
Хвойкі стромкія на сцены.
Вы пацейце, як пацелі.
...І сякеры сталявалі,
І сякеры гартавалі.
У мароз, мароз траскучы
Йшлі браты у бор дрымучы.
Эх, як пахне свежай хвояй
І жывіцаю-смалою.
Эх, блішчыць піла на сонцы,
А сякеры па сасонцы
Трах і трах, аж люба, міла.
Эх, каб больш нам, больш нам сілы.
І паваленыя пнішчы
Давай мерыць тапарышчам,
Тапарышчаў сем — гатова
Пень-калода для будовы.
Сніўся сон у лазні цеснай.
Сон — як сонца, сон — як песня.
У мароз, мароз траскучы
Тралявалі бэрвы ў кучы,
Абліваючыся потам.
На гумно вазілі потым.
Былі жарты, былі смешкі.
А з вясновым санцаблескам
Праца йшла у дзве сякеры,
І ляцелі трэскі-пер'е.
Як запахла глеба хлебам,
Працавалі скоблі, гэблі,
А піла званіла звонам
Пад птушыны гучны гоман.

Так дзён колькі праляцела —
Вось гатовы зараз сцены.
Вельмі рупна, вельмі пільна
Затыкалі мохам шчыльна.
Палажылі вянцоў дзесяць.
Бабы блізка гліну месяць.
Палажылі адну траму
І дзве бэлькі гэтаксама.
Над пахучым жоўтым зрубам
Кроквы ставіліся дуба,
Вырубаныя ў імшары
Крокваў ставілі тры пары.
А да крокваў зухавата
Прымацоўваліся латы.
Сніўся сон у лазні цеснай,
Сон — як сонца, сон — як песня.
А салома ўніз камлямі,
Раўналежнымі кулямі
Прыціскалася паплётам,
Нібы тоўстым моцным дротам,
Аж да вільчыка высока
Пад майстроўным роўным вокам.
А ў хваёвых гучных сценках
Прарубілі тры акенкі.
Для дзвярэй была тут дзірка —
І раўнялі ўдоўжку, шырку.
А на бэльках пад страхою
На два пальцы таўшчынёю
Клалі плахі на ўсю хату —
Столь хваёвы, моцны надта.
Зверху сыпалі кастрыцу,
Мох сухі, пясок-зямліцу.
Ля дзвярэй у той хаціне
Збілі печку добрай гліны.
Сніўся сон у лазні цеснай,
Сон — як сонца, сон — як песня.
Расла хутка, расла шпарка
Пры хаціне гаспадарка,
Для суседзяў на здзіўленне —
Прыбудовачка-трысценне.
Будавалі прыбудоўкі
Для каня і для кароўкі...
Сніўся сон у лазні цеснай,
Сон — як сонца, сон — як песня.

Два браты пайшлі ў жаброўку
Пад людскія дзверы, вокны.
Былі торбы іх няпоўны,
Было ў лазні дзетак поўна.
Панскі лес той вартавала
Палясоўшчыкаў нямала.

Два браты дабро дзялілі,
Было шуму на тры мілі.

## ВОСЕНЬ

Па-над гаем, па-над лесам
Тучы-хмары хтось павесіў.
Плачуць хмары, сыплюць слёзы
На рабіны, на бярозы.
А па шчэці зжатай нівы
Бура чэша сваю грыву
І качаецца па лужах,
Муціць рэчку, кругі кружыць,
Ґалаву хваіны-маці,
Як шалёную, калмаціць.
Медзяныя кудры клёнаў
Пазурамі рве і стогне.
І бярэцца ў дужкі з дубам,
І скрыпіць жалезным зубам.
Восень смутна ходзіць-бродзіць
Па вільготным агародзе.
Пераходзіць праз парканы,
Туліць вочы у туманы.
У хмызняк зірне з журбою,
Кашляне па ім крывёю.
А з нябёсных шэрых вокнаў
Дожджык ніткамі валокнаў
Сыпле, падае на стрэхі,
Па саломе б'е арэхі.
Наш Ярыла не бядуе.
Ён задумаў песню-думу.
Пыл ад гусляў выцірае,
Струны-цуды, струны-граі
Ён рукой вітае правай.

Лад і строй прабуе жвава,
Ён прабуе гусляў голас —
Залаценькі струнны волас.
Крутне колікам, паверне —
Ці той зык са струнаў верны.
Гуслі чулыя на волі
Загулі, як рої пчолак.
Пальцы-дзівы, пальцы-чары
Сеюць песні на абшары.
Гукі-смех і гукі-стогны
Лезуць з пальцаў непрытомна.
Пальцы ўюцца матылькамі,
Мігацеюць аганькамі,
То нямеюць нібы з болю,
То дрыжаць пяшчотна, квола.

Пальцы — шчырыя падружкі —
Вядуць з струнамі шаптушкі,
То цалуюць іх, то гладзяць,
То ўпрысядкі прысядуць.
Іх не пяць на струнах — соткі,
Пальцы — лёгкія лябёдкі.
Дождж шкляны чароўных гукаў
У люстэрка даляў стукнуў.
Панясліся, панясліся
Песні сокала да высі.
А тым часам у прасторы
Пачалі круціць віхоры.
Хмары снегу завярцелі.
Лес і поле пабялелі.
У вялікай грознай сіле
Многа гурбаў нанасіла.
Гуслі граюць. Конь і сані
Да Ярылы прыйшлі самі.
Сеў. Паехаў ён у госці
Да жар-сонца ягамосці.
Ў яркім пуху з белых мгліцаў,
У кружэльных у спадніцах
Елі, хвоі на спатканне
Чуюць гуслевае гранне.
Наш Ярыла ў белым снезе
Да жар-сонца ў госці едзе,
А зіма за ім імчыцца:
— Змерзнеш ты без рукавіцаў.

Замарожу ў полі чыстым,
Не паможа конь твой быстры.
Зіма ляскае клыкамі,
Скубе поле кіпцюрамі.
Вокам злосным, вокам белым
Блысне ў далі ашалелай,
Гукне раз, другі і трэці —
Не дае Ярылу грэцца.
А па лёдзе, як па сталі,
Наш Ярыла едзе далей.

## ЛАЗНЯ

Лазня зложана з бярвенняў.
Печка звалена з каменняў.
І палочак ёсць дубовы,
І цабэрак ёсць кляновы.
І кацёл — у ім вадзіца
Пенай пеніць, кіпяціцца.
Быў палок засланы сенам.
Побач венікі віселі,
Пахлі свежаю бярозкай
Пад бліскучай цёплай роскай.
Гаспадар паліў у печцы,
Каб Ярыла мог тут грэцца.
Першы дух спусціў у сенцы,
Дух другі — цераз акенца.
Трэці, чысты дух, стрымалі,
Шчэлі ўсе пазатыкалі.
Госць раздзеўся як належыць,
У цяплыні цела нежыць,
Правым бокам, левым бокам,
Як ля рэчкі ў санцапёку,
Ён пацее сёмым потам,
Венік хвошчыць так пяшчотна.
«Пары мала! Мала пары!»
Галава гарыць ад жару.
«Ой, яшчэ! Ды не шкадуй жа!
Не самлею, бо я дужы!»
Хвошчыць грудзі, стогне, крэхча
І мяркуе, як прылегчы.

Валасаты, як гуменнік,
А спіну засцёбаў венік.
Счырванеўся, як мядзяны.
Цела клубіцца ў тумане.
Ад прыемнасці завохаў:
«Яшчэ пары! Яшчэ трохі!»
Хвошчыць венікам, смяецца.
Малацьба адна — здаецца.
«Дай мне венік, венік новы!
Ты не бойся, я здаровы!»
Аж тры венікі засцёбаў.
Потым выбег ён харобра,
Голы, рады, жвавы, ў сенцы
Ды адтуль на загуменца.
Пакачаўся ў пухкім снезе
Ды у гурбу лёгка ўлез ён,
Нібы ў ложак пад пярыну.
«Вось яшчэ адну хвіліну...»
Ён адзеўся ды ў святліцу,
Каб мядком павесяліцца.

## РЭЧКА

І палямі і лясамі
Рэчка ўецца паясамі.
Багатырскай сівай броўкай,
Гучнасрэбнаю падкоўкай
Гнецца ўлева, гнецца ўправа,
Абагне гушчар кудравы
Ды абцягне ўзгорак стромкі
Ці то змейкай, ці пярсцёнкам.
А то роўным простым шляхам,
Пазасланым гучнай бляхай,
Рэчка мерыць шыр пашніцы,
Сонцу, месяцу, зарніцам
Служыць мостам чыстым, ясным.
Зоркі свецяць, зоркі гаснуць.
На чаўне, чаўне альховым
З песняй вешняй, песняй новай
Наш Ярыла к сонцу мчыцца,
Сыціць песнямі зямліцу.

Над вадой, вадой — ракіты.
У вадзе, вадзе-блакіты.
З плывунамі ўперамешку
Сонцатканыя мярэжкі,
Каляровыя жывёлкі,
Як праменні, як вясёлкі,
Кружаць кругі над вадою.
А пры чыстым вадапою
Каля грэблі, каля кладкі
Пастушок пільнуе статка.
І па рэчнай па крышталі
Наш Ярыла едзе далей.

## КУПАЛЛЕ

Гралі гуслікі ў дуброве,
Гаварылі чары-словы:
— Хто тут з красак харашэйша,
Хто з дзяўчатак наймілейша,
У каго у вочах росы,
У каго, як сонца, косы,
Хто з красунь ад песні млела,—
Хай бялюсенькае цела
Зграбна краскамі пакрые:
Хай на грудкі — цвет лілеі,
Хай на ножкі кладзе ружы,
Хай для ручак рута служыць.
Белы плечыкі-лябёдкі
Хай цалуюць папароткі.
Хай вяночак на галоўку —
Будзе зграбна, будзе лоўка.
У такім сваім убранні
Хай стаіць на сонцаззянні.
Будзе зграбна, будзе ўдала,
Будзе імя ёй Купала.
І зрабіла так дзяўчына,
І стаяла такім чынам.
Сонца краску цалавала,
Бела цела абвівала
Залатым праменнем дзіўным
У калёры пераліўным.

І дзяўчыны голас-песня
Зазвінеў у тую весну,
Зазвінеў вясёлым словам:
Гэй, выходзь з лясных захаваў,
Хто ў купальскім карагодзе
Тутка шчасцейка знаходзіў!
Вось у сонечным пажары
Падыходзілі к ёй пары.
І яна з свайго убрання
Дала парам на каханне,
І пры гэтым гаварыла,
Як яе вучыў Ярыла:
— Весяліла вас купалле,
Цёмна ночка атуляла.
Быў пасцелькай шоўк травіцы,
Амывала вас расіца.
Кроў у жылах пламянела:
Нібы яблычак той спелы,
Кветку шчасця вы зрывалі
На купальскім ночным балі.
Хай вам шчасце назаўсёды
Свае кружыць карагоды!

# ТВОРЫ РОЗНЫХ ГАДОЎ, ЯКІЯ НЕ ЎВАЙШЛІ Ў ПРЫЖЫЦЦЁВЫ ЗБОР ТВОРАЎ

## МОЙ СПЕЎ

Спеў мой, быццам бура, голас выдае:
То ён чуць-чуць свішча, то з жальбой пяе,
Або моцны рогат, ці слабенькі стогн,
Багамольны, быццам той вячэрні звон.
Ён глыбей за мора, ён вышэй за гор,
Ён цямней ад хмары, ён вышэй ад зор.
Зык яго маркотны уздымае жаль,
Рвецца ён самотны у бяскрай, удаль...
Спевам чарадзейным кіраваць не мне:
Спевам маім толькі доля павядзе.
Плывуць мае песні вершам па лугу,
І стрымаць у сэрцы іх я не магу.
Верш грučыць па сэрцы, б'е штораз мацней,
Яго бацька — воля, маці — цвет палей.

## * * *

Зоркі ззяюць, зоркі граюць,
Чарнацці зусім не дбаюць;
Ім у ёмкіх хвалях неба
Раскацелевацца трэба.
Імі — хвацкімі уночы —
Хай смакуецца хто хоча!..
Дадушы — то вуглі сеюць;
Дадушы — маліны спеюць!..
Там і ангелавы дзеткі,
Там — жамчужыстыя кветкі...

Дзяўчынешкі шустрай вочкі,
Залатыя матылёчкі.
Быццам божацкі авечкі,
Чырваненькія страчэчкі
На нябеснай там паперы,
Раскудзеленай без меры;
Калі складу ёсць да гэта,
Дык лацвей патрапіць мэту:
Чы то — казка незямная,
Певы пекла, думцы рая...

## ТРАГЕДЫЯ

(з Гейнэ)

I

Уцякаймо! Вось тады жонкай будзеш мне!
Цябе буду шанаваць на чужой старане.
Не захочаш,— я памру,— будзеш жыць адна,
Здасца чужэнькай табе родная страна!

II

Па лагчыне іней паў,
Знішчыў муравочкі,
Пагубіў, памарозіў
Ладныя кветочкі.

Дзеўка з цемені начной
З мальцам уцякала.
Татку, мамачцы яна
Слоўца не гукала.

На старонцы на чужой
Змэньчыліcь журбою
І загінулі яны,
Нібы ліст зімою.

III

Магілку іх ліпа ценню прытуляе,
Пасярод галінак птушка распявае.
Вось на магілачку селі ля дубровы
З пекнаю каханай хлапчучок вясковы.
Шэпча ледзьве вецер, шэпча неахвотна,
Птушачка шчабеча сладка і маркотна,
Нешта неспакойна парка маладая...
Ой, абодвы плачуць — ад чаго не зная.

## ГУСЛІ-САМАГРАЙКІ

**Ахвяруецца Янку Купалу**

Дзе чарот мармыча,
Дзе бурчыць зыбуха,
Дзе канюх пішчыць,
Ў рэчцы на балоце
Чутна заваруха,—
Гусель звон грыміць.
Гуслі-самаграйкі
Зычна певы, гукі
Самі выдаюць;
Там русалак шайкі
Скачуць, а іх рукі
Па струнах бягуць...
Месячык таемна
Гутаркі вядуць.
Як анёлы тыя,
Гуслі-самаграйкі
Граюць і пяюць:
«Вун стаіць хацёнка,
Быццам корч ў імшары,
Зыбіцца яна;
Там — каса, лапцёнкі,
Снашч, серп, санок пара,
Сошка, барана.
Там жыве Лявонка,
Надта працавіты
Мужычок-бядак,

Наста — яго жонка
Ў сіні хвалі бача,
Быццам залаты.
Хмыза надта кемна
Моліцца, гай плача,
Шалясцяць кусты.
Ў пасецы, як вочкі,
Кветкі, мухаморы
Пекныя глядзяць;
Ярныя шнурочкі,
І сівец, як мора,
Дзірванкі маўчаць...
Ветрыкі жывыя
Кажуць байкі, казкі,
Трэ худыя плечы,
Трэ іх крывві...
Мазалі таўстыя
З даўняй горкай працы
Не сашлі із рук;
Годзікі благія
Знае небарача
Пад цяжарам мук.
Цёнгле ён канае
Пад сваей бравэркай
І не можа спаць;
Кепска выглядае,
Нават і зацірку
Не даюць пажраць!..
Дзетачкі — Мікіта,
Зося і Юляк.
Габрусёк дзядуля
Корчыцца на печы,
Корчыцца сівы...
Зрэбная кашуля...

Адгарні ты, сонца,
Мглу ад нас благую!
Гора, нас не руш!
Я люблю бясконца
Бедную, святую
Матку Беларусь!..»

## А Я Ў ЦЕНЬ ПАЙДУ, У ХАЛАДОЧАК

А я ў цень пайду, ў халадочак,
Хай дзьмець у вочы сухавей;
На дзірване ніводненькі кусточак,
Гарачыня — а-ей!

Эх, па патыліцы так сонейка і смаліць,
Палуднаваць пара даўно,
А есці не магу — пякотна сэрца паліць,
Ізмучана яно...

Праз гай круціцца сцежачка вузкая,
Квет-сон ківае галавой,
Пры ім журчыць крынічачка жывая,
Да ей прыжмусь грудзёй!

Я жбан напоўню чысценькай вадзіцы,
Скарынку хлеба улажу;
Нап'юся сам і дам таму напіцца,
Хто пройдзе праз мяжу.

Аль баранавалок не пусціць поле,
Хай пот абмые брудны твар,
Хай гнецца крыж пад ценжарам нядолі,
Араць трэба папар!..

Ён скіне шапку, дзягу сваю скіне,
Мацнее нукне на канька,
Пакуль прахладны вечар ад даліны
Прагоне бедака...

Ўсю ноч ён будзе пыпкаць сваю люльку,
Шмат будзе думаць і гадаць;
«Ратуй, змілуйся, божая матулька,
Хаця б не галадаць!..

Уж хай кашулі дзеці енчаць ў таты,
Уж хай дах нечым прыкрываць!..
Ўсё дрэнь,— махае люлькаю араты —
Хаця б не галадаць».

* * *

Замарозкі. Уміраюць бярозы
Пад певам маркотным начным;
Коцяцца, коцяцца горкія слёзы,
Журба нада мною, як дым...

Што жэ ты, моладасць, казачак мала
Душы нашаптала маей?
Што жэ ты, восень, так шпарка настала,
Як хмара пад ветрам палей?

Не зацвіталі яшчэ мае кветы,
Не відзеў яшчэ я вясны...
А маладыя умчаліся леты,
Як птушкі, як лёгкія сны...

* * *

Ломіцца бурай на вольсе
галіна
Асенняю сумнай парой;
Браце, не плач! Хай мятліца
загіне,—
Карэнні жывуць пад зямлёй...

Ломіцца сэрца пад камнем
нядолі,
Умарыўся я ваяваць...
Свету жадаў, хацелася волі,
Но дрэнна з жыццём
жартаваць!

Скора я вочы закрыю навекі,
Не буду пра родзіну пець...
Хай жа краіна не ведае здзекі,
Пад сонцам хай вечна жывець!

## ЗОРКА

Як шустра міргаеш нам, зорка, у ночы,
Як вельмі чаруеш слязлівыя вочы,
Ой, дзякуй табе, што прыйшла!..
Ты бачыш на вёску, на лес і на поле,
Бядак пры табе забывае нядолю,
Што моцна на плечы лягла...

Каму чуць на сэрцы баліць і маркотна —
На зорку, на ангела зрэ ён ахвотна
І шчасця чакае сабе...
Ён знае, што сонейка выйдзе на неба,
Жыццё шмат палепшае, будзе, як трэба,
Вясёла, і ён запяе...

Барзджэй адгарцуйце вы, цёмныя хмары,
І не атуляйце палі і папары —
Хай зорка вальготна блішчыць,
Хай будзе ёй чыста на небе дарожка
І хай небарака расчуліцца трошка.
Ой, кожнаму хочацца жыць!..

## ХВОРЫ ХЛОПЧЫК

Мне помніцца хлопчык: быў мал, як грыбок,
Як палачкі, ножкі крывыя...
Малёханькі твар... А жывот, як мяшок...
Вялізныя вочы такія...
Валяўся, качаўся ён брудны ўсягда,
Аж гразь да рубашачкі ліпла...
Цярпела, цярпела малое дзіця
І кашляла доўга і хрыпла...
А маці галосіла: «Хлопчык не глуп,
Но мусі удача такая...—
Зацірку і то не жарэ (шалапут)...
Усё енчыцца, мацер святая!..»

## ГОЛАД

Я бачыў, як голад свірэпа вачамі
Зірнуў на таўпу мужыкоў,
Няшчасных калечыў, хапаў іх кагцямі,
Цякла іх мужыцкая кроў...
І курныя хаткі пусцелі, пусцелі
Ад ляпы вялізнай такой,
Іх косці ламаліся, моцна хрусцелі
Пад цяжкай крывавай нагой...
Ён ўсіх затармошыў: і маці, і бацьку,
Вялікіх і малых дзяцей...
Скацінушку тожа: каня і авечку,
Не толькі няшчасных людзей...
Сцягнулі на корму салому гнілую
З будынкаў убогіх сваіх...
А голад спявае сваю песню ўдалую,
Ўсё голад-разбойнік не сціх...

## ПРАЦА

Праца-кабета, што ў вёсцы жыве,
З цямнаты да цямнаты, што працуе;
П'яніца-муж яе мучыць і б'е,
Бядняжка гаруе, гаруе...
Праца-кабета не мае дзяцей —
Памерлі яны, галадая...
Праца-кабета без светленькіх дней,
Засохла яна маладая...
Вось-вось рассыпіцца... вось упадзе...
А-ей! — даканае забота...
Мучыцца, корчыцца — дзецца нідзе...
Твар прэе з дзесятага поту...
Бей колькі хош па гарбатых плячох,
Памрэ — нічагутка не скажа!..
Памрэ — у лахмоццях і драных лапцёх
У магілку, убогая, ляжа...
Крыж на магілцы не будзе стаяць,
Па ёй і ніхто не паплача;
Ой, божа, як муку барзджэй скараталь
Гарбатай кабеціне-працы?..

## ПЯСНЯР

Ах, божа мой, бура якая
Гарцуе па лесе, раве!
Дрыжыць, як бы ведзьма старая,
Як воўк на дарозе, злуе...

Вось бор, як вялізнае мора,
Калышацца... чуецца гук...
Хоць моцна прыціснула гора,—
Не енчы, не плачы, дзяцюк!..

Над ім — перуны, бліскавіцы,
Балота брызжыць пад нагой;
Нічутка бядак не баіцца,
Па сцежачцы коціць лясной...

Ён хлеба не мае ні крошку,
Ў машне аніводны пятак...
І цёнгле ад вёскі да вёскі
Ўсё бродзіць і ходзіць бядак...

Адзін — без сястрыцы, без брата,
Без бацькі, без маці жыве;
І лес яму цёплая хата,
І спіць ён на мяккай траве...

Хай камні радныя цалуе,
Хай песні аб праўдзе пяе,
Хай волю для нас заваюе,
Хай свеціць лучынай у мгле...

## НОЧЧУ

Не гарыць бярэзнік,
Не пажар віднее,—
У начным тумане
Месяц чырванее.

Па траве не льецца
Белая смятана,
Коцяцца кудзелі
Лёгкага тумана.

Ледзь лаза пакране
Ценелькай галінкай,
Ледзь чарот гамоне
Ў возернай даліне.

Зорачкі, купаясь
Пад вадой люстэрнай,
Відны, нібы казкі,
Ў думачцы бязмернай.

На дзядзінцы ціхім
Я стаю, дзіўлюся
І за цэлу вёску
Шчыранька малюся...

Не гарыць бярэзнік,
Не пажар віднее,—
У начной гадзіне
Месяц чырванее.

* * *

На небе зорка маладая
Уся разгарэлася ў агне.
Чуць слабы вецярок у гая
Пабегі цененькія гне.
Паўночны час... Начныя цені
Ля хатак ціхенькіх ляжаць,
Ў пары глухой, ў людскім сяленні
Німа ніводнага — ўсе спяць...
Адны начлежнікі ля рэчкі
Талпой рагочуць у агня,
Нясуцца бойкія славечкі,
Нясуцца гутаркі да дня...
Пяюць — як быццам волны скачуць,
І ўвесь дзірван кіп'ём кіпіць...
Пяюць — як быццам стогнуць... плачуць...
Аж страх бярэ, аж мгла дрыжыць...
Ў той песні — зверства глоткі п'янай,
Адвага... ліха мужыка...
Ў той песні — ёнкі жызні дрянной
І сумнасць люда-бедака.

## ПРАРОК

Вёска тоне ў мгле, мгла над вёскай вісіць...
Дзення дзень — невядома, маркотна...
Спяць, не спяць — аслабелі, няма як рабіць,
Ўсе стаяць і ляжаць неахвотна...
З-за святлейшых старон паявіўся прарок,
Абляцеў ўсе палі і папары.
Гаварыў ён людзям: «Засвяціцца васток,
Адгарцуюць ад сонейка хмары...
Эй, надзейцесь, ўставайце, не бойцеся цьмы,
Гэта глупства, што мрак, як магіла! —
Эй, аковы збрасайце, ступайце з турмы!
Бо за вамі вялікая сіла!
Размахніcь, аглядайся, запуганы люд! —
Выйдзе сонейка, хмара умчыцца...
Паахвоціцца праца, аплоціцца труд,
Вечнай праўдзе пачнем мы маліцца.
За ляса, за мара злая крыўда уйдзе,
Вёска будзе ў хлябах красавацца...
П'яных, горкіх людзей не увідзіш нідзе,
За сахой будуць песні спявацца...»
Быццам волны, людзей горне смелы той крык,
Быццам бацька, прарок іх галубіць,
Чалавек не прасценькі, не нашкы мужык,
Ох, бадай яго, божачка любы!..
Як пачне гаварыць: быццам ключ, вадапой,
Да сябе гарамык прызывае,
Яго гутарка маніць, заве за сабой
І за хворае сэрца хапае...

* * *

О, ногі твае я слязамі абмыю
І споведзь душы сваей шчыра адкрыю,
Карай не карай сваей мілай рукой,
Душы не душы сваей доўгай касой...

Хай камень твой раніць мне самыя грудзі,
Мне мука рукі тваей соладка будзе...
Памру не памру, скажу тайну сваю:
Любіш не любіш — я бясконца люблю...

## СЛЯПЫЯ

Не мара, не з'ява, не сон — грамадой
Па дзікай, па топкай дарозе глухой
Сляпыя ідуць небаракі;
Іх зрэнкі блукаюць, як совы удзень,
Як хмара пры ветры, пры вогнішчы цень,—
Усіх прабірае дрыжака.
Хай дзіва іх гоіць таёмным агнём,
Хай дзіва іх гоіць падзёмным руччом,
Малітвамі сіла святая;
Хай вочы ім верне начны агняцвет,
Хай вочы ім верне шаптун сівы дзед,
Замовамі ведзьма старая...
Згнілі іх бравэркі на доўгім пуці,
Скалечаны ногі — (ідзі ды ідзі!)
І ходзяць, чагосьці шукаюць...
Хто сонца не бачыў ад першага дня,
Хто потым аслеп — (вер, увідзіш пасля!)
І вераць, чагосьці чакаюць...
— О, дай ты нам шчасця, каліка святы!
— О, дай ты нам дзіўны прамень залаты!
— Даволі нам казак аб зорах!
— Вядзіце нас! — ззаду пярэднім крычаць,
Піргаюцца, ў нейкую процьму ляцяць,
І кожын другому, бы вораг.

Ідуць... Растапырылі рукі ўпярод.
Іх твары худыя пакрыў буйны пот,
І смага мацней прабірае...
— О, дзень, які дзень! — не, агонь
іх пячэць...
— О, ноч, яка ноч! — не, то хваля ўстаець...
І мора іх дужа глытае...
Блукаюць сляпыя...— Хутчэй і хутчэй
Хадземо, бо ёсць шмат і зрымых вачэй! —
Іх вабіць туманная вера.
І слёзы падзякі на зрэнках блішчаць,
І рукі і ногі ад змору дрыжаць,—
Падобны яны да хімеры...
Як вырваны з грудзяў бяздольніка стогн,
Як хмара папуджаных чорных варон,
Як бурай збуджоныя хвалі...
За клікам фальшывым нявідзімых мар

Ідуць, астаўляючы многа ахвяр,
Ідуць... а наперадзе далі...

Хай дзіва іх гоіць таёмным агнём,
Хай дзіва іх гоіць падзёмным руччом,
Малітвамі сіла святая;
Хай вочы ім верне шаптун сівы дзед,
Хай вочы ім верне начны агняцвет,
Замовамі ведзьма старая...

## СЭРЦА ПРАРОЧА

Месяц бледны глядзіць на нямую лагчыну,
Над затокаю вольха ківае галінай,
Пушча спіць ў зачарованым сне...
Ой, чаму гэтак слёзы мне вочы туманяць?
Ой, чаму гэтак боль грудзі кволыя раніць?
Ой, чаму гэтак жудасна мне?
Сэрца нешта благое прароча,
І з грудзей яно вырвацца хоча...

*

Можа, недзе далёка, ў нязведаным краі,
Дарагая дзяўчынка мая памірае?
Можа, сам буду скора канаць?
Ой, рыхтуе мне нешта таёмная доля...
Ой, маўчыць, як бы ведае, чыстае поле...
Ой, лес цёмны не хоча казаць...
Сэрца нешта благое прароча,
І з грудзей яно вырвацца хоча...

*

Ў самым сэрцы маім чараўніца-трывога,
Ў самым сэрцы маім царства чорнага бога
Рассявае атручаны мак...
І здаецца, ўсё спіць пад цяжарам магілы,
І здаецца, жыццё нецікава, няміла,
Смокча кроў мне з грудзей ваўкалак.
Сэрца нешта благое прароча,
І з грудзей яно вырвацца хоча...

## ПЕСНЯ

О, сонейка так яснае...
Так весела пяецца...
Чаму табе, дзяўчыначка,
Так благанька жывецца?

Ты будзь, як тая яблынька,
Што вунь цвіце на волі...
Ты будзь, як тая рэчанька,
Што вунь блішчыць на полі.

Глядзі, як ветрычак
Закалыхаў бярозкі.
Чаму, мая дзяўчыначка,
Ліеш гарачы слёзкі?

Яна, як бы русалачка
Пужлівая, маўчала,
Галубанька гаротная
Мацней засумавала...

Паваленае дзераўца,
Ой, не зазелянее,—
Пакрыўджанае сэрцайка,
Ой, не павесялее...

## МАСКАРАД

Сярод ночы глухой на паляне лясной
Маскарад разыграўся звярыны.
Хвост і клык кожны звер схаваў добра цяпер
І у масцы людской строіць кпіны.
Месяц з дзівай глядзіць, штосьці дуб шапаціць,—
Штукі гэткай не бачыў спрадвеку:
Кожны звер на свой лад водзіць голас і рад,
Што іграе ён роль чалавека.
Аб каханні пяе легкавумнай казе
Шэры воўк, гэты дзядзька зубаты...
Ён дзяцюк хоць куды, можна жыць без бяды,
Як у хаце у роднага таты...

У мундзіры мядзведзь, аж гарыць на ім медзь,—
Генерал і хадзьбой і манерай,
За ім ў шапцы Барбос, плюшчыць вочы да слёз,
Грызе костку з набожнаю верай...
Асёл вухам трасе, да асліхі раве:
— Увесь свет-то маё уладарства!
Як бы муж і жана, як бы «ён» і «яна»,
Далібог, не пазнаць — во штукарства!
Абязьяны пішчаць і салодка глядзяць,
У спадні́чках кароткіх дурэюць;
Як бы стройненькі рад удаленькіх дзяўчат,
А хвасточкаў схаваці не ўмеюць...
Вось ліса ў каўняры старасвецкай пары
Робіць шчырыя, добрыя вочы.
За ёй заяц бяжыць. «Задушу вас!» — крычыць,
А тым часам ўцякаць кудысь хоча...
Вось індычка ідзе, доўгі шлейф чуць нясе,
Ой, важнецкая, мілая дама!
А за ёю індык ёй гаворыць: «Гык! гык!»
Прысядае ўніз па праграме.
У цыліндры трубой, крывы нос качаргой —
Ходзіць старац сівы, барадаты.
Пуза бочкай тарчыць, «мэ-мэ-мэээ!» — ён мычыць,
Паглядзі... Гэта ж бык наш рагаты!
Жарабец надзеў фрак,— як вусамі юнак,
Ён кіруе хвастом памаленьку.
Увесь спаднічны гурток, як пчала на мядок,
І ляціць, і крычыць: «Даражэнькі!»
Вось багіня стаіць, шоўк, брыльянт зіхаціць,
А на мармурнай шыі каралі;
Грудзі, як гарбузы, каб былі маразы,
Мо насы б гэтак не затыкалі...
Паніч блізка пры ёй, шэпча: «Мілая! ой!»
Проста слінкі ласунчык пускае...
То свіння і парсюк. Яна кажа: «Хрук! Хрук!»
Ён са смагай яе абымае.
Як мы, людзі,— звяры ладзяць у начнай пары
Вечарынкі, гульні, маскарады...
Магу шмат шчэ казаць, але лепей маўчаць,
Бо, паночкі, не будзеце рады!..

## ВОЛАТ

Смерць... Бура... Трывога...
Не йдзі, ой, не йдзі ты, асілак, юнача!
Ляжыць прад табою страшная дарога;
Пагінеш, пагінеш... няйнача!
Чырвоныя коні пад небам нясуцца,
Пярун і грымоты вакол раздаюцца,
І страх і атрута ўвесь свет абляглі...
І нішчыцца ўсё на зямлі...
І кроў... І руіны...
Ой, горкая будзе, дзяцюк, твая доля!
Смерць зрэжа касою, бы кветку-расліну,
Груган знясе косці па полю...
Пайду я! жадаю п'янець! загарэцца!
«Ўсім светам магу кіраваць я, здаецца,
І пушчанай богам імпэтнай стралой
Памчуся ўгару над зямлёй!..
Мне полымя! Сілу!
Люблю я лунаць, бы арол, па абшары...
Віхор нясе гібель, капае магілу...
І цемрай ахоплены хмары...
І пруцца, і рвуцца, і пеняцца хвалі,
І плачуць, і скачуць.— О, волю ім далі! —
А мора шалёнае — брацейка мне!..
А бура ў грудзях у мяне!
Я — цар уладарны!
Я — смерці таварыш! Я славай кірую!
Я з сілай смяротнай ваюю...
Я волю з жалезных зубоў вырываю!
Свой гнеў праз мяне бог на свет пасылае!
Я — помста за мора няшчасця і слёз!
Мне — шаг ад зямлі да нябёс!..»

. . . . . . . . . . . . . . . .

Памчаўся далёка...
Прапаў!.. І не вернецца смелы ніколі...
Яго не убачыць ўжо матчына вока...
І грудзі парвуцца ад болі...—
Яму за адвагу пахвалы не трэба,
Яму шлях агністы — зарніца у небе,
Ён — шчасце, дыханне адважных людзей...
Ён — песня старых і дзяцей...

## БАЛАДА

Буйны вецер гудзіць; на здабычу ляціць
Грамада варання адзічэлая.
На мягкой на раллі тарчыць з рыхлай зямлі
Без далоні рука пасінелая...
То ваяка тут лёг, закапаў друг як мог...
І не ладзілась песня хаўтурная,
Бо спяшыў ён дагнаць паляцеўшую раць,—
Была бітва крывавая, бурная...
І малы курганок без крыжа, адзінок,
Воўк данюхаў, разрыў яго з голаду.
Ад нясмаку завыў, кінуў труп, не пакрыў,
І рука зледзянела ад холаду...
Нібы божая злосць, тарчыць голая косць,
Безупынна дажджом абмываецца.
Апаўночы глухой чуваць стогн пад зямлёй,
То нябожчык сапець, падымаецца...
Як спрасоння глядзіць, дзе дружына стаіць,
І чаму тут так ціха — не ведаець...
Ён на поле, на луг паглядае ўвакруг —
Ці ж то полк аддыхае, абедае?..
І ляціць па палях, па сырых курганах,
Да зямлі часам вухам прыложыцца.
Ўжо гарматы равуць... мухі смерці лятуць...
І нябожчык шчэ болей трывожыцца...
І ляціць і глядзіць... Блізка вёска гарыць,
Плача дзед, з болем рукі ламаючы.
Цякуць слёзы з вачэй, рвуцца стогны з грудзей,
Аб далёкіх сваіх ўспамінаючы...
Вецер раніцы дзьмець. Пачынае шарэць.
Да магілы сваей труп вяртаецца.
Нібы божая злосць, тарчыць голая косць,
Безупынна дажджом абмываецца...

## БРАТ З СЯСТРОЮ

Над канаўкай ляжыць кладка,
А ля кладкі стаіць хатка,
А ў хатцы — брат з сястрою,
Тата з маткаю старою.
Раз на раніцу — нарана,

Стаяў конік закілзаны.
Запражоны. Да падпругі
Прывязана была пуга.
Скрып! — вароты заскрыпелі —
Брат з сястрою паляцелі,
Паляцелі, як дзве птушкі,
Як два маленькія дружкі.
Брат — на поле ваяваці,
Сястра — брата абмываці.
Бацькам цяжка. Плачуць вочы
Як удзень, так і уночы...
Мінуў месяц. Яшчэ болей —
Бацькам месца няма з болі...

Штось варожаць варажбіты...—
Тата ходзіць, як забіты,
Няма вестак з чужа краю —
Матка ходзіць, як дурная.
Мо суседзі праўду знаюць,
Ды не кажуць, хоць пытаюць.
— Кажы, долечка, ты, доля,
Як там дзеткі ў чужым полі?
Ці гадуюцца-жывенькі?
Ці йшчэ цэлы, здаравенькі?
Мо іх мучыць благі голад?
Мо карае сівер-холад? —
Так пытаюць долю злую
І глядзяць у даль сівую.
Не абманывае вока —
Галубок ляціць здалёка;
Крылля носяць — проста дзіва;
Пяе песню жаласліва:
— Ой, ля крушні ёсць дарожка,
Ля дарожкі ёсць бярозка,
Ля бярозкі ёсць магілы,
У магілах — дзеткі мілы...
Спацькі — спяць на полі бітвы
Без крыжоў і без малітваў...
Выюць там па іх віхоры,
Снег расце у гурбы-горы,
Гурбы-горы кроў фарбуе,
Тую кроў ваўкі смакуюць...

* * *

У цёмных кутках падзямельні пануе і ціш і павага,
Часамі кажан шэрым скрыдлам нямую спакойнасць
трывожыць:
З зацвіўшых няведамых шчылін ён вылезці мае адвагу,
І як бы яго летапісец паўночнай работай варожыць.

На новы лад мэты-жаданні патомкам жыццёператворыць,
Збудуецца хорам на трупах, жалейка — ад трунаў
трухлявых:
Аб нашых стагнаннях і муках праз процьмы вякоў
загаворыць,
Шмат казак, шмат песняў спяюць нам, шмат скажуць нам
думак цікавых.

Ці людзі скіруюць да сонца з свайго астарэлага шляху?
Палепшаюць?— Старац сталетні і ведаць аб гэтым не хоча:
Не любіць пытацца. Пра час свой спакойны ён піша без
страху.
Над ім кажан скрыдлам цямнявым лапоча.

* * *

Між чаротаў нямых плыве човен адзін,
У крыві месяц круглы сіяе.
Плача птушка, дрыжыць сярод цёмных галін,
Туман мглісты над рэчкай лунае.

Пад альховым шатром чутка спіць нямы цень,
Ўся лагчына застыгла у чарах...
Як вядзьмак, выглядае бярозавы пень,
І мне хочацца думаць аб марах...

*

Ты у вопратках белых у чоўне сядзіш,
Сэрца б'ецца і ные пужліва,
Нібы кветка пад золкай расою, дрыжыш,
І глядзяць твае вочы тужліва.

*

«Я яшчэ не пазнала жыццё на зямлі,
Я зусім яшчэ не красавала,
А ўжо на душы маей хмары ляглі,
Як расліна балот, я завяла...
Ой не знаю, чаму льюцца слёзы з вачэй,
Шчэмяць грудзі ад жудаснай болі...
Дні мае праляцелі, як з'явы начэй,
Ой, прайшлі — іх не вернеш ніколі...»

## У БЕЛІ

Не казка, не сон, не малюнак,
Не чараў сівых падарунак,—
У срэбнай у шэрані, ў белі
Будыніны ўсе абамлелі.
Бы мармур у вэльмах празрыстых,
У кволых, міглівых і чыстых,
Купаецца места ў тумане.

Куды толькі вока ні гляне,—
Ўсюль бела-бялютка. Бы цуды
З'явіліся раптам усюды:
Здаецца, не гмахі, а здані,
Во — знікнуць,— іх раптам не стане.

Не вежа на плацы між дротаў,
А воблік вялізнай істоты
На гурбы ў цішы паглядае —
Во — нікне, во — гіне, во — тае...
На ёй гуслі — дроты нямыя,—
Бахматыя струны шкляныя,—
Нячутна іграюць хаўтуры
Паміж заварожаных мураў.

А воддаль высокія дрэвы
Стаяць, як царэўны, як дзевы,
У шоўкавых вопратках з пуху,
Як лёгкія, ціхія духі.
Во — зараз з зямлі адарвуцца,

На скрыдлах увыш панясуцца.
Між хвальбаў галін пераліўных
І кволых, і лёгкіх, і дзіўных
Вароны,— як чорныя стужкі,—
Гавораць жалобы-задушкі:
«Кар-кар». Гутарлівыя цёткі
Разводзяць цікавыя плёткі
Аб тым ды аб сім мовай смелай.
Выразны на колеры белым
Іх чорныя плямы цяжкія.
Чытэльныя знакі такія
Малююць на светлым на полі
Чарнюткім, як сажа, вуголлем
Размашыстым, кемлівым штрыхам
У стылі «мадэрн».

Вабным пыхам
На вуліцах млеюць прысады.
То беллю на белі загады
Зіма начартала: «Мой хорам
Шануйце! Маім загаворам
Падайцеся, людзі! ўсім сэрцам
Красе, цішыне маёй верце!
Для ўжытку вам, малеры, хварбы,
Арнаментаў, колераў скарбы
На цэлае жыцце даволі.

А вы, песняры, сыны волі,
Шукайце ж у колерах гукі!
Ў трушчобах маіх без прынукі
Іх знойдзеце шмат. Па дубровах,
У дзікіх, зацішных заховах,
На срэбных гасцінцах, палянах,
У кволых ільдзяных туманах
Сны-казкі чакаюць, як госцяў,
Багатых душой ягамосцяў.
Чакаюць вякамі цярпліва,
Задумна, самотна, тужліва.
Ідзеце, пяўцы, грамадою
З жалейкаю, з лірай, з дудою!
Вазьмеце і гуслі старыя,
Баяна сыны маладыя!
З далечын забытага краю
Вас Белая Русь запрашае!»

* * *

Пяе струна натхнёная,
Варожыць па начы;
Ад шчасця млею, стогну я.
О, сэрца, не маўчы!

Папера — поле белае
Для літараў-зярнят.
Шчыр-думкі сею смела я,
Я — сейбіт, я — багат.

Радкі — барозны роўныя
Вяду сахой-пяром.
Ратайскай сілай поўны я,
Магутнаю, як гром.

## А Ў БАРЫ...

А ў бары, а ў бары стаіць гуд.
Шэпты граюць па струнах-галінах.
Апранаюцца ў месячны цуд
Іглы-пні на пуховых купінах.

Кожны цень, кожны цень наўскос
Каля пня дрэмле-спіць кволай плямай,
Убіраецца ў пацеркі рос.
Мох вакол — аксамітавай рамай.

Чуеш спеў, чуеш спеў з глыбіні,
Што плыве з лесуновых прысадаў;
Чырванеюцца макі-агні;
Не ідзі ты да іх — гэта здрада.

— Да мяне, да мяне ў мой шацёр! —
Пад карчамі праменіць альтанка...
Апчаслівішся музыкай зор
Усю ноч — аж да самай заранкі.

Будзеш сніць, будзеш сніць дзіўны сон,
Зацалуеш русалчыны губкі;
Закрасуецца кветкай твой стогн
На грудзях у дзяўчыны-галубкі.

— Ой, не йдзі, ой, не йдзі да яе,
Бо зацягне злы дух у балота;
Заварожаны кур запяе
Над чароўным, над чулым чаротам.

Ціхі сказ, ціхі сказ-загавор
Затуманіць цябе шэптам-хмелем;
Закалышацца ў поўначы бор
Над тваім над таёмным вяселлем.

Дзень за днём, дзень за днём рыне ў шлях,
Ночка пойдзе імглістай хадзьбою;
Зажалобіцца жудасны страх,
Будзе крыжам вісець над табою.

Тваю кроў, тваю кроў вып'е здань,
Выжме з жылаў яе да крапінкі.
Смелым вокам на бор гэты глянь
І не йдзі да русалкі-дзяўчынкі!

## НА СМЕРЦЬ А. БУРБІСА

Яшчэ адна, яшчэ адна ахвяра
Пайшла туды — ў харомы цішыні...
Пад гудам бур, пад чырванню пажараў
Правёў баец гады свае і дні.

Зашмат іх шло, зашмат іх шло ў магілы
Ў расквіце лет, зарання, без пары.
Яшчэ адна, як пломень, згасла сіла
Пад абрусом спяваючай зары.

Пайшоў баец у княства светлых ценяў,
Пад златаблеск адвечных курганоў.
Яго душа пад ззяннем кос-праменняў
Спачын знайшла пад вэльмам тайных сноў.

А не знайшлі жывыя ў нас спачыну,
Якім жыццё судзіла той жа шлях.
У памяць тых, хто без пары загінуў,
За Беларусь падымем вольны сцяг!

## ЗМРОКІ

Змрокі тканінай шурпатай спавілі нямыя абшары.
Змрокі дажджом з густых ценяў набрызгалі ціхія чары.
Змрокі да пнёў прытуліліс, як старчыхі,
ў чулым гушчары.
Сполахі-страхі лунаюць над бліззю, над шырай,
над даляй:
Птахамі жудаснай смерці да магліцаў шэрых прыпалі.
Крыж каля крыжа чарнее, бы шэрагі шыбельніц-паляў.

Здані вылазяць са шчылін з палудзенных шчытных
захаваў,
Цёмнай сям'ёю блукаюць і шастаюць дрэвам хваёвым.
Сосны вядуць свае шэпты працяглаю песняй-замовай.

Чорныя сейбіты ночы пануюць да самага рання,—
Покуль над рэчкай журблівай не блісне сівізна ў тумане,
Покуль пажарышча неба на роснае поле не гляне.

Змрокі тады прападаюць, як быццам валокны з вільготы,
Змрокі тады трацяць сілы, бы раніцай сны і дрымоты,
Змрокаў тады праглытае пявучы абшар срэбна-злоты.

* * *

За мною курганы вячыстыя,
Наперадзе — далі квяцістыя,
На ростані я — дзед вандроўны.

Адкуль і куды, з якой мэтаю,
Пад тайнай якою планетаю
Мяне вядзе ўдаль шлях няроўны?

Іду я маленькай крапінкаю,
Плыву я драбнюткай краплінкаю
Пад бурай-віхурай жыццёвай.

Чаму і нашто, кім скіраваны,
Пад зоркай якою захаваны,
Хто шэпча над шляхам замовы?

. . . . . . . . . . . . . .

...А досыць адзін прамень слонка,
Бурлівага сэрца гамонка —
І гінуць, як цені, пытанні.

Усё тады ясна на свеце,
Жыццё разумеюць і дзеці,
Слабеюць душы наракашні.

Жывеш, нібы краска на ніве,
Як дуб на паляне — шчаслівы.
Як бура — адважны і смелы.

Жыццём ты напоўнен, як хмелем,
Іскравым і шчырым вяселлем,—
Загадкі жыцця зразумелы.

* * *

Жар-сонца пячэ. Гарачы дзень вясны.
Стаіць стромкі бор высокім шчытным тынам.
Жывіца-смала па зморшчынах сасны
Цячэ ручайком — растопленым бурштынам.

Прайшоў тут сякач, пакінуў знак на пні,
Параніў на жарт красуню-баравіну; —
І сок, як алей, плыве аж да зямлі,
На верас імчыць з-пад белі сарцавіны.

І хмеліць смала, і п'яніць сочны пень,
І радасць бярэ, што пахне так жывіца.
І хочацца ўдаль пайсці ў вільготны цень,
Душой адпачыць пад булькапнем крыніцы.

## БЕЗДАРОЖЖА

Між поля, між балот, сярод лугоў-далінаў,
Як велізарны вуж, ляжыць асенні шлях;
Разлёгся жабраком уздоўж гняздоў-хацінаў,
Пад сеткаю вільгот яго трывожыць страх.

А плечы яго скрозь паранілі калюгі,
Каменні, гразь па ім — апраткаю жуды.
А на яго грудзях фурманкі, як звяругі,
Прабілі пругкі слой, углыбілі сляды.

Пад ціскам кол і ног, пад цёпканнем марудным
Балюча крэхча шлях і пырскае гразёй;
І заглушае боль віхром гушчар бязлюдны,
І неба лье па ім дажджліваю крывёй.

Так дзень за днём брыдзе ў асенняй непагодзе
І затуляе шлях імглістым туманом.
Вятрышча круціць лес у вечным карагодзе,
Вакол наводзіць сум галошаннем-выццём.

Няхай ужо скарэй над жудасным абшарам
Праносіцца, як здань, зімы сняжысты гуд.
Няхай ужо скарэй пад ільдзяным пажарам
Палоніць шыр зямлі бялява-пухкі цуд.

Ой, хочацца ў глушы паслухаць веі казку,
Пабачыць блеск снягоў пад спевам завірух...
Мільгніце, матылькі-сняжынкі,— неба краскі,
Ляці скарэй, зіма, як белазорны птух!

*

Між поля, між балот, сярод лугоў-далінаў
Імчыць вясновы шлях, як даўгалежны пас.
Бы волат малады, ён дрэмле між хацінаў,
Ляжыць ён — у вадзе затоплены абраз.
Ён з-пад вады блішчыць бруском з ільдоў каравых,
Па ім сляды лапцёў, знак срэбных палазоў,
Са шляху хваля вод вясновых, сініх, жвавых
Сцірае сказ зімы, пісьмёны маразоў.

А сонца б'е агнём у волава паводкі,
Бы дарагі метал, растаплівае лёд.
Мільгаюць па вадзе над вешнім полем лодкі,
Цяпер, як акіян, жвіровы летні брод.

А птушкі ў вышыні наладжваюць свята,
Рыхтуюць над зямлёй вясновы зычны баль.
А даль аж слепіць зрок,— даль яснатой багата,
А неба над зямлёй празрыста, як крышталь.

Няхай ужо скарэй зазеляняюць ўзгоркі,
Хай выб'е ўверх мяжа пралеску хоць адну.
Ідзіце, на зару, дзяўчаткі, кветкі, зоркі!
Ідзіце на гумно і гукайце вясну!

## ЛЕТАПІСЕЦ

У ціхай, глыбокай, святой падзямельні,
Дзе сыра зямліца, вільготны каменні,
Дзе ледзь пранікаюць жывыя праменні,—
Пустэльнік сядзіць адзінокі.

Пажоўклы пергамент навален усюды.
Дзед піша і піша. Аж граматаў груды
Напісаны густа. Здаецца, што цуды
Дзед творыць у шчылі глыбокай.

Замест атрамэнту ён піша крывёю.
Разумнае вока блішчыць пад брывёю,
Ківае ён лысай сваёй галавою,
Працуюць касцістыя рукі.

Адвечную праўду ён любіць жывую;
Ён судзіць без страху пра благасць людскую,
За шчырасць адважна і смела ваюе,
Яго будуць ведаць унукі.

## ЗОЛАТАМ СОНЦА...

Золатам сонца ўзгорак абліты,
Хвойныя кудры у неба глядзяць,
Снежнаю стужкай узгорак абвіты,
Снежныя плямы між пнямі блішчаць.

Гэта не ўзгорак — асілак, здаецца,
Волата голаў ад вешняй зямлі
Небу, і сонцу, і хмаркам смяецца:
Уверх глядзяць горда сасонак камлі.

Таюць і млеюць снягі паміж пнямі,
Сонца праменні ім жыць не даюць.
Вешняю марай, вясновымі снамі
Кветкі пралескі на ўзгорку цвітуць.

## З ПЕСНЯЎ СОНЦА

Апраніся ў святочную світку,
Кінь у тхлань паднявольніцу — спадчыну,
Адкінь думкі цьмы — недабіткі
З кроснаў матчыных!

Панскі біч не гудзе над плячыма,
У палацах загібла сваволія.
Сустракай жа вясёла вачыма
Камсамолію!

Камсамол мкнецца ў вёскі і сёлы,
Нібы вырай на вашыя гонейкі,
Ў цемру кідае смела, вясёла
Ясна сонейка.

Ён з мазольнай рукою к вам рвецца,
Ён — тварэц новых дзён, шчасця новага,—
Адрывае пагніўшыя вецці
У дуброве ён.

Маладняк нараджае багата,
Увесь пранізаны творчаю працаю;
Чыніць новыя светлыя святы
У новай хаце ён.

Камсамолься, сяліба ратая,
Заіскрыся чырвонай частушкаю,
Хай жняя твая песню спявае
Вольнай птушкаю.

Выкінь вон гультаёў — багамолаў,
Што туманілі думкі званіцамі.
Парабі ўсе капліцы на школы,
Каб вучыцца ў іх.

Малы ўнук, сівы дзед і жанчына
Хай праз кніжку са светам знаёмяцца.
Асвятліцца ў час адпачынку
Уся ваколіца.

*

Брыльянтовым дажджом,
Жар-маланкай, агнём
Заіскравіць электрыка, радыё.
Самалёт над сялом
Лёгкапрыткім крылом
Зачаруе грамаду прынадаю.

*

І прашчураў мары
На нівах-абшарах
Спраўдзяць ўнукі ў жыцці.
Пад сцяг камсамолу,
Моладзь па сёлах,
Ідзі!

# КЛІЧ ВОЛІ

Касец, касец, ідзі на луг!
Вастры касу, кляпі касу.
Абшар вакруг, трава вакруг,—
Выходзь уранне на расу!
Гэй, скінь бяду з сваіх плячэй,
Страсі слязу з сваіх вачэй.
Сярод балот і тумаioў
Не косіш болей для паноў.
Гэй, скінь ярмо, адвечны здзек,
Бо ты ўжо вольны чалавек!
Ратай, ратай, ідзі на шнур!
Валы ў саху ты запрагай.
Стаіць спусцелы панскі мур.
Не страшыць ён — смялей ступай!
Для самаго сябе арэш.
Пасееш сам і сам сажнеш.
Не пойдзе хлеб твой гультаям,
Не пойдзе хлеб тваім панам,
Бо досыць ты чужых карміў,
Бо досыць ты чужых паіў.
Выходзь з сярпом сваім, жняя!
Там каласы шумяць, гудзяць.
Гэй, паласа твая, твая —
Пара спяваць і жыта жаць!
Не закрычыць ганебны кат.
Не вышле вон з радзімых хат.
І гаспадар, і сірата.
Ўсе мужыкі, ўся бедната
Ужо не пойдуць ў панскі двор,
Каб працаваць ад зор да зор.
Выходзь, пясняр, выходзь, дудар,
У родны гай, у вольны гай!
Ты [redacted] курганоў на ўвесь абшар
Усім людзям спявай, спявай!
Сядзець, чакаць няма калі.
Спявай на звольненай раллі;
Будзі, пясняр, усіх людзей,
Няхай ідуць хутчэй, хутчэй
На светлы шлях, на шчасны шлях,
Пад вольны сцяг, чырвоны сцяг!

## ПЕРАД ПОМНІКАМ КАРЛУ МАРКСУ

Стаіш, як волат, ты на моралюдным пляцы.
Сівы,— а молад ты, настаўнік і прарок.
Ты кінуў нам завет і Розуму і Працы,
Ішоў за ім услед бядак за крокам крок.

На гучны рог пайшоў араты задуменны.
Ён воклічы знайшоў у змучаных грудзёх.
Абшар раллі, лугоў працыскалі пісьмёны
Завостраных плугоў, загартаваных ног.

Асілкі дзе зямлі — рабочы і араты —
Віхурамі плылі па гмахах багачоў,
Насілі волю ўсім у жорлішчах гарматаў,
Насілі долю ўсім на вастрынях мячоў.

Пабеда расцвіла агнёвымі арламі,
Раць ворагаў лягла. Растоптан злы упыр.
Стаіш, як велікан, вялікі Маркс, над намі.
Мінуў маны туман. Ты праў, наш правадыр!

## ЧЫРВОНЫ КАЛЯНДАР

*

Наш год,
Наш вечны сонцакруг
Нанова свеж і молад.
Закуты Праметэй — раскуты волат.

Наш год
З роду ў род
Уціснут быў у рамы багамазаў.
Блудны мніх красу яго замазаў
Пальцам брудным.

Наш год,
Як тычкі тыя,
Запоўнілі «святыя».
У дзікую бажніцу ўсіх народаў
Ваал ператварыў
І дні і годы.



Устрахануўся год — збунтованы асілак,—
Ён скінуў з сваіх плеч агідны пыл вякоў.
Бунтарскі дух рабоў зварушыў яго сілы.
Пайшоў ён пад штандар паўстанцам-батраком.

Год-сфінкс надзеў шалом пажарышчных зарніцаў,
Узброіўся да ног стастрэльным перуном,—
Пасыпаліся ў тхлань фальшывыя бажніцы,
І трызны цёмных дзён спаліліся агнём.

Наш адраджоны год замест званоў, малітваў
Спявае вольны гімн на ўвесь зямны абшар;
Ён трубіць на ўвесь свет да багатырскіх бітваў,
Ён піша на сябе Чырвоны каляндар.

Паргаміны зіхцяць у казках гераічных —
То летапіс баёў багам, царам на страх.
Заве з турэмных крат пагудкаю стазычнай
Зняволеных людзей у сонца-светлы гмах.

У новае жыццё ідуць-плывуць народы,
Як зрушаны вулкан, як хвалі бурных вод.
Не страшны на шляху каменні, перашкоды:
У будучыню йдуць, імкнуцца ў Новы Год.

## ДЗЕВЯТАЕ СТУДЗЕНЯ

Пагрозна сталіца замоўкла.
Упарта заводы знямелі.
Бунтарскае, смелае вока
Яскравіла снежныя белі.

Дзевяты дзень студзеня ўранне
Завіхрыў на вуліцах людам.
О, страшнае будзе каранне —
Апрычнікі царскія ўсюды.

Рабочыя йшлі да палацаў —
Старыя, малыя і дзеці.
Мо цар абароніць іх працу
У жудасны час ліхалецця.

Ішлі да цара, як на споведзь,
Ратунку шукаць ад абманаў.
Тыран ім казаў свой адповедзь
На здрадніцкай мове тыранаў,—

То кулі былі замест словаў.
Насіліся раненых стогны,
Быў піцерскі снег размалёван
У колер крывавы, чырвоны.

На тысячы трупы лічылі
На памяць страшную патомству.
Народ упісаў злы учынак
Ў агнёвы летапіс помсты.

## МІЖНАРОДНЫ ДЗЕНЬ КАБЕТЫ

**(8 Сакавіка)**

Ты — светлы дзень сусветных працаўніц,
Аздоблены пажарам бліскавіц,
Абрызганы спяваннем барыкадным.
Вясновы восьмы дзень сакавіка
Праз процьму лет наперад пранікаў
Вяшчунскай постаццю прынаднай.

Пайшла ў нябыт шматвекавая цьма,
Кабета вырвалася з-пад ярма,
У грозны час наперад быстра мчыцца;
У барацьбе нясе яна штандар,
Ідзе на смерць — за волю вольны дар,
У будаўніцтве мірным — будаўніца.

# РЭВАЛЮЦЫЯ ЛЮТАГА

(12 сакавіка)

Канец дынастыі Раманавай.
Не можам жыць далей абманамі
Пад дзікасмаглымі тыранамі.

На фронце гінулі мільёнамі,
Па гарадах стагналі стогнамі,
Па вёсках — птухі-жар чырвоныя —

То — дзеці жудасных гранат.
Даволі біці брата брат!

Снарадамі шнуры заворaны.
За што якое біцца з ворагам?
А хто ды з кім? О, гора, гора нам!

То ж раб-працоўны б'е працоўнага,
Нявольнік рэжа свайго роўнага,
У ланцугах усе закованы.

Для багачоў на сытны пір
Ідзе бядак у смерці вір.

Зачырванеўся Піцер сцягамі,
Па вуліцах цягнулась цягамі
З бунтарскай слаўнаю адвагаю

Стотысячная дэманстрацыя.
«Гэй, прэч вайну! нам хлеба! працу нам!
Не будзем з братам немцам драцца мы!

Багатай своры на карысць
Не будзем беднага мы грызць!

Гэй, прэч-далоў самадзяржавіе!»
Хоць змучаныя, але жвавыя.
На вуліцах стральба крывавая.

Салдат, рабочы люд з жандарамі
Спляліся. Волава зажарылі.
Пайшлі пажары за пажарамі.

То выбухнуў апошні бой.
І кончыў з славай наш герой.

Заварухнуліся гаротныя,
Паднялі спевы ўсе дрымотныя,
Ўсе гарады, куткі балотныя.

Гэй, ладзьце свята, ўсе сустрэчныя!
Спявайце песні, папярэчныя! —
Загінуў цар на векі вечныя.
І праваліўся трухлы трон.
Той дзень — адзін з святочных дзён.

## ДЗЕНЬ ПАРЫЖСКАЙ КАМУНЫ

(18 сакавіка)

Жыве ў паданнях сівых лет
Адгук Парыжскае Камуны,
Яе каваў бунтар-паэт
На стогалосных спеўных струнах.

Чырваназорны волі сказ
Крывёй рабочага упісан
На памяць вечную для нас
У кнігу строгіх летапісцаў.

Забарыкадзіўся Парыж
Між стромкакаменных абшараў.
Дрыжаў багач, разбойны крыж
Ад слаўных дзеяў камунараў.

А каты дзікія прыйшлі,—
Дзяцей, жанок, старых скрамсалі.
Рабочых тысячы ляглі...
О, ганьба вечная Версалю!

Ты задушыў тады Акцябр
Рукой разбойніцкай крывавай.
За вольніцу спрадвечны раб
Аддаў жыццё сваё на славу.

На ўзвыш Бастыліі наш Крэмль
Шалом чырвоны ўміг насуне,
Абшары волі заарэ
Для праўнукаў старой Камуны.

## ЛЕНСКІ РАССТРЭЛ

**(4/17 красавіка 1912 г.)**

Яшчэ адну крывавую расправу
Нарыхтавалі золата багі.
Стагнала стогнам дзікая дубрава,
Пужалі Лену водгукі з тайгі.

Замест яды, рабочым кулі далі:
Было забіта ў лесе да трохсот.
На сытны пір ваўкі прымчалі з даляў,
А крумкачы кагцістыя — з высот.

Дрыжалі з страху ціхія алені,
Ў палацах пышных п'янстваваў тыран.
Шумелі сумна хвалі срэбнай Лены,
Насілі скаргу ў вольны акіян.

Гэй, разгуляйся, бура, на прасторы,
Дрыжы, ўвесь свет, ад гучных навальніц! —
Паўстаў рабочы грозны, нібы мора,
Пажар сцягоў, як водблескі зарніц.

## ПЕРШАЕ МАЯ

І Май каштуе шмат ахвяр народам,
І ён крывёй працоўнага ахрышчан,
І ён зазорыць людзям з роду ў род,
І ён акрылен сцягамі з агнішчаў.

І Май абліт фантанам бурных клічаў,
І ён у будучыню мкнецца грозным лётам,
Трывожыць стары свет сваім абліччам,
Блішчыць вясной чырвоным самалётам.

У гімн адзін сусвет людзей бяздольных
У гэты дзень да барацьбы імкнецца,
У гэты дзень так хочацца раздолля
Нявольнікам суровых ліхалеццяў.

У ліку дзён дзень вешні Першамая
Красуецца, бы сонца паміж хмараў.
Ён багачоў паўстаннямі пужае,
Бяздольнікаў склікае пад штандары.

## МІЖНАРОДНЫ ДЗЕНЬ МОЛАДЗІ

Дайце дарогу Змене Чырвонай.
Гэй, адступіся, свет, свет забабонаў,
Шэптаў-замоў!
Сонечнай бурай, вогненнай сілай
Богу старому рые магілу
Наш Камсамол.

Мчыцца па свету духам бязбожжа,
Шлях свой знаходзіць на бездарожжы,
Мкнецца удаль.
Любіць паўстанне, дужыцца рад ён,
Вольніцы воін, сын барыкадаў,
Бунтаў каваль.

Гэй, падымайце увышку паходні
Ў дзень урачысты, дзень міжнародны,
Моладзі дзень!
Свет паднявольны зруш да змагання,
Ціхія далі ў бурнае ранне
Ў чырвань адзень.

## ДЗЕНЬ УРАДЖАЮ

Між свят агнёў,
Бароцьбаў і віхораў
Дзень ураджаю — спеў між страляніны,
Найлепшая пабеда на прасторах.
Як пад курганам спіць наш вораг,
Араты — першы волат у краіне.

І рыцар міру,
Рыцар тлустай глебы
Спявае песні пры снапах у полі.
Нядаўна кінуў толькі дружку-стрэльбу:
На папялішчах будаваці трэба
Новую сялібу на раздоллі.

Спявайце песні
Ў свята творчай працы!
То — свята розуму,
То — свята адпачынку.
Хай кожны ў родным полі, ў роднай хаце
Падлічыць новае сваё багацце
Пасля мінулых царскіх злоучынкаў.

Мінулі дні
Нявольніцкай прынукі.
Абхопім неба самалётным гудам.
Праз радыё,
Электрыку,
Навуку
Здабудзем шчасце для сябе, для ўнукаў
Пад савецкім вогнезорным цудам.

## КАСТРЫЧНІК

**7 лістапада (25 кастрычніка) 1917 г.**

У лістападны дзень асенні,
У дзень, спавіты туманамі,
Сяйбіт вясновага насення
Чырвоны сцяг падняў над намі.

Паўстаннем — вольніцай натхнёны,
Ён выгнаў вон агідных катаў;
Штыком-агнём пісаў законы,
Сярпом і молатам пячатаў.

Старому свету яму вырыў,
У міг адзін стварыў стагоддзі,
Памчаўся ўверх — у зорны вырай,
Яскравіў гімнамі ў народзе.

Вяшчун-прарок пабедных клічаў
Кіруе Арміяй Чырвонай.
Зазіхаціць сваім абліччам —
Трухлее крыж, нямеюць звоны.

Стучыць у брамніцы сусвету,
Грыміць праз радыё ў прасторах,
Хто неабуты-неадзеты,—
Віхром Кастрычніка віхорыць.

Вітанні шле у далі-шыры
Праз агнявыя «аляллюі».
Дрыжаць сусветныя банкіры —
Апошні баль яны балююць.

## НА ЗАМКОВАЙ ГАРЫ

Між зелені ціхіх алей я сядзеў адзінокі
Ля сумных руін Гедымінавага замка
І глядзеў на чароўны горад.
Ён увесь выглядаў, нібы казка,
Напісана богам самім
На глебах застыўшай зямлі.
Кожна літара — гмах шматкалёрны.
Кожна слова — рад замкаў высокіх
З узорамі, з башнямі, ў рамках
Садоў, і лясоў, і вады.
Цудоўная казка вякоў
Мела выгляд вялікага сфінкса,

Што загадку людзям загадаў адгадаць:
— Дзе захован ў цябе, чалавек,
Геній шчасця і творчы агонь?

. . . . . . . . . . . .

І людзі тварылі красу
Пакаленне адно за другім!
Будавалі ўсё болей і болей —
І вырас вялізарны горад.

. . . . . . . . . . . .

А сфінкс пазірае ўдаль
І разгадкі чакае —
Адвечна ён будзе чакаць,
Бо дух творчы ўсюды.
Мяжы ён не мае нідзе,
Як нябесная далеч.

* * *

А людзі, як тыя мурашкі,
З гары выглядаюць.
Я дзіву даюся — адкуль
Узялася бязмерная моц
Збудаваць гэткіх волатаў-замкаў
Малюсенькім гномам-людзям?
І вось тарганулась гара,
Нібы цені мінуўшых вякоў
Выйшлі сілу сваю паказаць.
Я быў пэўны, што стары Перкун
Хоча выліць свой гнеў на мяне.
Ажна не — то ж на самай гары
На поўдзень страляюць з гарматы.
У той час і гадзіннік на башні катэдры
Б'е гулка дванаццаць разоў.

## НА БЕРАЗЕ ВІЛЛІ

Я помню той вечар вясновы.
Сядзеў я адзін пад абрывам
На беразе ціхай Віллі.
І ў даль вадзяную глядзеў.
Там, у глыбі, прыбярэжныя замкі
У рознакалёрных агнішчах
Вярхамі уніз адбівалісь,
Бы казачны горад хрустальны...
І зыбалась люстра у хвалі.
І зыбалісь гмахі падводны —
Русалачны замкі.
Шум вуліц, бы гул дзікіх пчол,
Удараўся аб рэчныя вербы,
І вокліч вяртаўся назад.
Ён пад заварожным небам
Лунаў, нібы плойма цянёў.
Здавалась — з надводнага царства
Ўз'явіліся пукі вясёлак.
І колеры часта мянялісь,
І вабілі, звалі у рэчку...
Не рознілась глыб вадзяная
Ад глыбі нябес пад абрывам...
Ці ж сон гэта? Божанька, дзе я?
Аж човен плыве з-пад маста.
Вёсламі кіруе дзядок.
— Сядай,— кажа,— ў човен і едзем!
— Куды?
— У падводныя замкі.
Вунь, бачыш, агонь там пылае.
Гэта — Зніч старадаўні.
Багі пакідалі зямлю —
Уцяклі ад людзей.
Жрацом будзь у нас, калі хочаш,
Вот тут пад вадою.
Дзед ў вочы глядзіць і чаруе.
Здалёку шум горада чуцен,
Як гул дзікіх пчол у даліне...

## О. Ю...с

Як жрыца таемных дубоў,
Як рута, прыгожая ты;
Як сумная казка Віллі,
Чаруеш, доч ціхай Літвы.

І косы твае, нібы лён,
І вочы, як неба само.
І рымлянкі профіль і стан,
Душа — песня старых багоў.

Аб лесе мне кажа твой спеў,—
Аб вёсцы, дзе ціхі ратай.
А вопраткі — колер лугоў,
Як бог, ты зышла на зямлю.

## МАРЫНЕ С...ко

У галубкі у Марыны
Губкі — спелыя маліны.
Краскі — яе шчочкі.
З шоўку валасочкі.
Бровы, як шнуркі.
Вочы — матылькі.
У галубкі у Марыны
Стан — таполева галіна,
Ценькі галасочак —
Срэбраны званочак.
Зычэн яе смех.
Шыйка — белы снег.
Ой, галубка, ой, Марына —
Роду князя Гедыміна.
Прыгажэй прынцэсы —
Здольна паэтэса.
Кожны яе твор —
Блеск нябёсных зор.
І галубцы і Марыне
Я малюся, як багіне.
Гімны ёй спяваю
І адно жадаю —
Раз пацалаваць,
Потым паміраць.

## РУНЫ ЖРАЦОЎ

Бы руны паўночных жрацоў,
На скрыжалях багіні зямлі
Узорамі вуліцы ўюцца.
Пад імі скляпы, падзямеллі
Вялікіх літоўскіх князёў.
Там мошчы святых спачываюць
У броні ваякаў і скарбы,
Пергаменты, кнігі старыя,
Пад цёмным скляпеннем легенды
Застыглі. Як пыл залаты,
На заходзе варожаць
Балады вякоў.
І шчасліў душою паэт.
Увесь горад — малюнак, абраз.
Ён марыць на ўзгорках, далінах,
На дзікіх абрывах Віллі,
Абвіты садамі, лясамі.
Насыціцца вока не можа,
Бо кожны куток — цэлы свет.
Неспадзеўкі, таемнасці ўсюды.
Вітаюць пад Вільняю цені
Забытых, мінулых часоў...
Ты ходзіш па вуліцах-рунах,
Жывыя глядзіш галерэі
Літвінак, сэмітак і поляк
І краскі далін Белай Русі,
Бы тыя пралескі вясною.
О, сэрца маё у палоне
У кветкі-дзяўчынкі!
Вось руны душы.

## У ЧАРАХ

Купалы, башні
Задумана ў неба глядзяць,
Стромкая, пекная Готыка
З пышнай красой Візантыей
Гукаюць на стары тэмат,—
Хто з іх прыгажэй і мілей?

Адна усхваляе Усход.
Другая стаіць за Заход.
— Нам ўвысь да пасаду нябёс
Трэ думкай сваей шыбаць,
Во дзе ёсць моц хараства! —
Так Готыка кажа.
— Ушырку ўсе грудзі зямлі
У абоймах нам трэба трымаць,
Во дзе ёсць мэта жыцця! —
Візантыя так кажа.
І гэтак над Вільняй вядуць свае спрэчкі
Аб красе дзве багіні.
І глядзяць у Віллю, як у люстру,
Заварожаны самі сабой
І касцёл і царква.

## КАСЦЁЛ св. ГАННЫ

Сярод перламутру ў небе
Лье месяц сярэбныя хвалі.
У люстры Вілейкі бурлівай
Свой облік увесь адбівае.

Спіць Вільня. Адзін паглядаю
На цудны касцёл святой Ганны —
Красуецца контур прыгожы
У гладзі блакітнага неба.

Узор, барэльеф і арнамент —
Малюнак да казкі-царэўны.
Гатычныя конусы, башні
У высі шыбаюць да зорак.

Бы сон хараства, гмах з'явіўся,
Як геній казаў: «Няхай будзе!»
Людзей, адароных душою,
Ён кліча на шчыру малітву.

Ужо век, як тут быў карсіканец.
Дзівіўся на гэты храм божы.
Казаў: «Кабы мог, перанёс бы
У Парыж, як найлепшу здабычу!»

* * *

А мяне кліча месяц за горад,
Між лясоў там ратаі жывуць.
На узгорку ціхуткі магільнік
І свежа — каплічка стаіць.
Ты думаеш — курная хатка.
Адразу спазнаеш старанне
Набожнай мазольнай рукі.
Стары крыж... Абразок божай маткі...
А побач — бярозка крывая...
Пад ёю блішчаць мухаморы...
Расіцай акроплены мох.
І душой я бліжэй да каплічкі
Убогіх, гаротных людзей...

# КАМЕНТАРЫІ

У адзіным незавершаным прыжыццёвым Зборы твораў пісьменнік змясціў свае вершы і паэмы ў першым томе.

У аснову першага тома дадзенага выдання пакладзены першы том Збору твораў (1937 г.), падрыхтаваны аўтарам.

Крыніцамі для вызначэння аўтарскага тэксту і датавання твораў, змешчаных у томе, з'яўляюцца зборнікі: «Пад родным небам».— Мн.: Беларускае кааперацыйнае таварыства «Адраджэнне», 1922; «Буралом». Выбраныя вершы.— Мн.: Дзярж. выд. Беларусі, 1924; «Паэмы».— Мн.: Дзярж. выд. Беларусі, 1927; часопісы «Маладыя парывы», Вільня, 1912, № 9; «День искусств», 1914; «Полымя», 1922, № 1; 1923, № 5—6; № 7—8; 1924, №№ 1, 3; 1925, № 5; 1926, №№ 5, 6, 7, 8; 1927, №№ 1, 3; «Маладняк» 1923, № 1; 1926, № 5; газеты: «Наша ніва», 1913, 24 кастр.; 1914, 27 сак., 26 чэрв., 10 ліп., 9 кастр., 16 кастр.; 1915, 31 студз., 16 кастр.; «Беларуская рада», 1917, 16 снеж.; «Беларускі шлях», 1918, 28 крас.; 1921, 4 мая; «Беларусь», 1919, 13 ліст.; «Вольная Беларусь», 1918, 21 студз., 22 верас., 20 ліст.; «Савецкая Беларусь».

Паколькі большасць твораў тома друкуецца па першаму тому Збору твораў 1937 года, крыніца асноўнага тэксту ў каментарыях не ўказваецца. Іншыя крыніцы агавораны.

Зборнік «Пад родным небам» выйшаў пад псеўданімам Ясакар, а «Буралом» — Бядуля-Ясакар. У каментарыях да вершаў гэтых зборнікаў подпіс да кожнага твора не даецца.

Большасць твораў, якія ўвайшлі ў першы том Збору твораў 1937 года, значна перапрацавана. Яны набывалі новае ідэйнае гучанне. Аднак пасля праўкі вершы і паэмы нярэдка страчвалі непасрэднасць пачуцця, духоўную сувязь з часам і атрымалі адзнакі больш позняга светаадчування паэта. Таму нельга датаваць гэтыя творы часам іх напісання або часам першага з'яўлення ў друку. Рэдкалегія дадзенага выдання палічыла неабходным даць дзве даты: дату першапачатковага друкаванага варыянта і дату завяршэння работы над тэкстам.

Далейшага даследавання і дадатковага вывучэння патрабуе і датаванне вершаў, якія ўпершыню ўбачылі свет у Зборы твораў 1937 г. і датуюцца дакастрычніцкім часам, паколькі невядома, ставіліся гэтыя даты аўтарам на падставе рукапісных крыніц ці па памяці, што магло прывесці да пэўных недакладнасцей.

## I. СІЛУЭТЫ

*«На горне душы першы верш я каваў»* (с. 21)

Упершыню — Наша ніва, 1914, 27 сак., пад загалоўкам «На горне душы я жывы верш каваў», з подпісам Ясакар. У Зб. т., т. 1, 1937, з паметкай: Пасадзец, 1909 г.

Варыянты газ. «Наша ніва»;

1 На горне душы я жывы верш каваў,
5 На струнах душы я жывы верш заграў,
6 Насіліся рэхі далёка.

*На балоце* (с. 21)

Упершыню — Зб. тв., т. 1, 1937, з паметкай: Пасадзец, 1909 г.

*«Гараць сняжынкі кволыя»* (с. 22)

Упершыню — Зб. тв., т. 1, 1937, з паметкай: Пасадзец, 1910 г.

*«Хоць ты разарвіся»* (с. 22)

Упершыню — Зб. тв., т. 1, 1937, з паметкай: Пасадзец, 1910 г.

*«Ці хто забывае цябе, небарака?»* (с. 23)

Упершыню — Зб. тв., т. 1, 1937, з паметкай: Пасадзец, 1910 г.

*Радасць* (с. 24)

Упершыню — Зб. тв., т. 1, 1937, з паметкай: Пасадзец, 1910 г.

*«На раніцу з неба пакралі ўсе зоркі»* (с. 25)

Упершыню — Зб. тв., т. 1, 1937, з паметкай: Пасадзец, 1910 г.

*У зімовы дзень* (с. 26)

Упершыню — Зб. тв., т. 1, 1937, з паметкай: Пасадзец, 1910 г.

*«Начлежнікі пяюць. Над вогнішчам туман»* (с. 26)

Упершыню — Зб. тв., т. 1, 1937, з паметкай: Пасадзец, 1910 г.

*Успаміны* (с. 27)

Упершыню — Зб. тв., т. 1, 1937, з датай: 1911 г.

*«Тры маладыя бярозкі — бярозавы снег»* (с. 30)

Упершыню — Зб. тв., т. 1, 1937, з паметкай: Пасадзец, 1911 г.

*Пастушка* (с. 31)

Упершыню — Молодые порывы, Вильно, 1912, № 9. У Зб. тв., т. 1, 1937, з паметкай: Пасадзец, 1911 г.

*Вечар* (с. 33)

Упершыню — Зб. тв., т. 1, 1937, з паметкай: Пасадзец, 1911 г.

*«Плача птушка ў пустыры»* (с. 35)

Упершыню — Зб. тв., т. 1, 1937, з паметкай: Пасадзец, 1911 г.

*Мары паэта* (с. 36)

Упершыню — Зб. тв., т. 1, 1937, з паметкай: Пасадзец, 1912 г.

*«Вячэрнія гаснуць зарніцы»* (с. 36)

Упершыню — Зб. тв., т. 1, 1937, з паметкай: Пасадзец, 1912 г.

*«Ці ведаеш зямлю арлоў-людзей магутных?»* (с. 37)

Упершыню — Зб. тв., т. 1, 1937, з паметкай: Вільня, 1912 г.

*Прыйдзіце* (с. 37)

Упершыню — Наша ніва, 1914, 26 чэрв., з подпісам Ясакар. У Зб. тв., т. 1, 1937, з паметкай: Вільня, 1913 г.

Датуецца 1913, 1937 гг.

Варыянты газ. «Наша ніва»:

1–8 Прыйдзіце вы, добрыя... Вечна кахаючы,
Шчасце вы свету даруйце!
І гора-нуду і пракляцця ахвяраю
Вышэй руйнуйце!..
Прыйдзіце вы, светлыя... Днём сямісонечным
Наша жыццё атуляйце.
І цені магільныя з ночнай паганшчынай
Ветрам пускайце.
10–11 Праўда хай служыць вам мэтай!
І гніль фарысеяў і хітрасць распуснікаў...
14–15 Ворагам гібель грыміце!
І з нашай дарогі зыйдуць злыя шкоднікі...

*Песня* (с. 38)

(«Як бы плача хто ў лагчыне!»)

Упершыню — зб. «Пад родным небам», раздзел «З году ў год», з датай: 1914 г.

*Пан* (с. 39)

Упершыню — Зб. тв., т. 1, 1937, з паметкай: Вільня, 1914 г.

*Ты...* (с. 39)

Упершыню — Зб. тв., т. 1, 1937, з паметкай: Вільня, 1914 г.

*Не ўгодзіш* (с. 40)

Упершыню — Зб. тв., т. 1, 1937, з паметкай: Вільня, 1915 г.

*«Заліў быдлячы лой валоўі твае грудзі»* (с. 40)

Упершыню — зб. «Пад родным небам», раздзел «Грымоты й цішы», пад загалоўкам «На біблейны лад», з падзагалоўкам «Ісая», з датай 1915 г. У Зб. тв., т. 1, 1937, з паметкай: Вільня, 1915 г.

Датуецца 1915, 1937 гг.

Варыянты зб. «Пад родным небам»:

2 Ты без душы жывеш, без сэрца, без вачэй.
4–6 Дык згінь, шальмец, як цень спалоханых начэй!
Аблічына твая ад злых учынкаў брыдка.
А рукі, плечы, карк — бы куча гнілых дроў.
8 На золаце-шаўках блішчыць і пеніць кроў.
10–12 Як дзікі звер лясны, калечыш нам жыццё.
На забаўку такіх пякельні аддаць трэба,
З гары крыві і слёз спіхнуць у забыццё.

*Можа быць...* (с. 41)

Упершыню — Наша ніва, 1915, 31 студз., без загалоўка, з подпісам Ясакар. У зб. «Пад родным небам», раздзел «З году ў год», з датай: 1915 г.

Датуецца 1915, 1937 гг.

Варыянты зб. «Пад родным небам»:

1–2 Можа быць — родны тата
Пятлю мне надзеніць
Мне ката заменіць
4–8 Можа быць, мая хата
Мне стане магілай.
Можа быць — хутка страчу
Апошнія сілы.
11 Можа быць — толькі дрэва

Пасля 16:

Можа быць — зоркі з неба
Зірнуць апоўначы.
А з людзей — дык ніводны
Прыйсці не захоча...

*Гусляр* (с. 41)

Упершыню — Зб. тв., т. 1, 1937, з датай 1915 г.

*«Курыць люльку вадзянік»* (с. 43)

Упершыню — Зб. тв., т. 1, 1937, з паметкай: Пасадзец, 1918 г.

*Воўк* (с. 44)

Упершыню — Зб. тв., т. 1, 1937, з паметкай: Мн., 1921 г.

*Дрывасек* (с. 47)

Упершыню — Зб. тв., т. 1, 1937, з паметкай: Мн., 1921 г.

*«Звініць струна сталёвая»* (с. 47)

Упершыню — Зб. тв., т. 1, 1937, з паметкай: Мн., 1921 г.

*Старарэчышча* (с. 48)

Упершыню — зб. «Пад родным небам», раздзел «З году ў год», з датай: 1922 г.

Датуецца 1922, 1937 гг.

Варыянты зб. «Пад родным небам»:

1–4 Калісь тут плыла жывая рака,
Гулялі чаўны на плыні вады,—
Цяпер тут чарот, трава-асака,
Цяпер тут пясок маўчыць ад нуды.
7–12 І смутны стаіць забыты лужок,
Дубочак на ім сухі, як шкілет.
Без рэчкі, вады няма тут жыцця,
Няма тут душы, маркотна да слёз.
Вісіць над усім труна забыцця,—
Аджыўшае ўсё спаткне такі лёс.

## II. НАСТРОІ

*«Зарніцы над рэчкай гарэлі сягоння»* (с. 49)

Упершыню — Зб. тв., т. 1, 1937, з паметкай: Пасадзец, 1909 г.

*«Вунь бярэзнік на пагорку»* (с. 49)

Упершыню — Зб. тв., т. 1, 1937, з паметкай: Вязынь, 1909 г.

*«Рэчка зыбіць сваю зыбку»* (с. 50)

Упершыню — Зб. тв., т. 1, 1937, з паметкай: Ілья, 1909 г.

*Дзень добры!* (с. 50)

Упершыню— Зб. тв., т. 1, 1937, з датай: 1910 г.

*Восень* (с. 51)

Упершыню — Вольная Беларусь, 1918, 20 ліст. У Зб. тв., т. 1, 1937, з паметкай: Пасадзец, 1911 г.

*Зімовая раніца* (с. 52)

Упершыню — Зб. тв., т. 1, 1937, з паметкай: Пасадзец, 1910 г.

*«Вецер доіць малако са стрэх»* (с. 53)

Упершыню — Зб. тв., т. 1, 1937, з паметкай: Пасадзец, 1910 г.

*Зімовая казка* (с. 54)

(«Вісіць снежная ноч, вісіць лютая ноч...»)

Упершыню — Зб. тв., т. 1, 1937, з паметкай: Пасадзец, 1910 г.

*«Лезе ў вочы ззянне месяца»* (с. 55)

Упершыню — Зб. тв., т. 1, 1937, з датай: 1911 г.

*«Грала, грэлася заранка»* (с. 55)

Упершыню — Зб. тв., т. 1, 1937, з паметкай: Пасадзец, 1911 г.

*Спякота* (с. 56)

Упершыню — Зб. тв., т. 1, 1937, з паметкай: Пасадзец, 1911 г.

*«Вісіць серп залаты над спалоханым борам»* (с. 56)

Упершыню — Зб. тв., т. 1, 1937, з паметкай: Пасадзец, 1911 г.

*«Абліта ззяннем зорак росная паляна»* (с. 57)

Упершыню — Зб. тв., т. 1, 1937, з паметкай: Пасадзец, 1911 г.

*«Яшчэ бялелі касагоры»* (с. 57)

Упершыню — Зб. тв., т. 1, 1937, з паметкай: Пасадзец, 1911 г.

*«Лугам-лугам зеляненькім»* (с. 57)

Упершыню — Зб. тв., т. 1, 1937, з датай: 1912 г.

*Дазволь* (с. 58)

Упершыню — Наша ніва, 1913, 24 кастр., пад загалоўкам «Ці грэх...», з подпісам Ясакар. У Зб. тв., т. 1, 1937, з паметкай: Вільня, 1911 г.

*«Я пайшоў у сыр-бор»* (с. 58)

Упершыню — Зб. тв., т. 1, 1937, з паметкай: Пасадзец, 1912 г.

*«Свеціць месяц, б'ецца сэрца»* (с. 59)

Упершыню — Зб. тв., т. 1, 1937, з паметкай: Вільня, 1913 г.

*Ля срэбнай затокі* (с. 60)

Упершыню — Наша ніва, 1914, 10 ліп., пад загалоўкам «Ля светлай затокі», з подпісам Ясакар. У Зб. тв., т. 1., з паметкай: Вільня, 1913 г.

Датуецца 1913, 1937 гг.

Варыянты газ. «Наша ніва»:

1–13 Ля светлай затокі, ля рэчкі на лузе
Дубок маладзенькі стаяў;
На ім салавейка па розныя лады
Вясёлыя песні пяяў.

* * *

I слухалі травы, расліны малыя
Харалы яго веснавыя.
I хмарка за хмаркай за лесам ляцела...
I зорка за зоркай бліщчэла...
Ківаўся чарот залаты
I рыбкі глядзелі з вады.

* * *

Да пня прытуліўшыся, хлопчык маленькі
У дудку прастую свістаў.
Яго цалавалі мятлічкі лясныя,

* * *

15–23 Сон-кветка ў лесе тады красавала,
Лісточкі свае раскрывала...
Было так прыгожа на вольным абшары
Кусты выглядалі, як мары.
Туман чуць прылёг да зямлі

* * *

Было і сплыло... Ўсё вакруг зруйнавана,
Бы вокам благім ведзьмара...
Як дзень учарашні, вясна праляцела
I светлая знікла пара.
30 I рыбкі залеглі глыбей...

---

31 Пажоўклы лес нудзіцца, лісця спадаюць
33–38 I неба тулягаю шэрай пакрыта —
Няма на ім месяца, зор...

Хтось плача і енча па пустаму полю —
То круціцца вецер на волі...
Дождж падае буйны у самае вочы,
Здаецца, жыццё знішчыць хоча...
Няма проста мейсца нідзе...

*«Палумесяц арэ залатыя баразны»* (с. 61)

Упершыню — Зб. тв., т. 1, 1937, з паметкай: Вільня, 1913 г.

*Доч месяца* (с. 62)

Упершыню — Беларускі шлях, 1918, 28 крас. У Зб. тв., т. 1, 1937, з паметкай: Вільня, 1914 г.

*Зазімак і адліга* (с. 63)

Упершыню — Савецкая Беларусь, 1922, 5 лістап. У Зб. тв., т.1, 1937, з датай: 1914 г.

*«Б'ецца восень халодная ў рэчную шыбу»* (с. 64)

Упершыню — Зб. тв., т. 1, 1937, з паметкай: Пасадзец, 1915 г.

*З песень зімы* (с. 64)

Упершыню — Зб. тв., т. 1, 1937, з паметкай: Пасадзец, 1916 г.

*Ганулька* (с. 65)

Упершыню — Зб. тв., т. 1, 1937, з паметкай: Мн., 1917 г.

*Вясной* (с. 67)

Упершыню — Беларускі шлях, 1921, 4 мая. У Зб. тв. т. 1, 1937, з паметкай: Пасадзец, 1918 г.

*«Кажа вецер-віхор: хвойкі, елі зламлю»* (с. 68)

Упершыню — Зб. тв., т. 1, 1937, з паметкай: Мн., 1918 г.

*Снег* (с. 68)

Упершыню — Савецкая Беларусь, 1921, 27 лістап. У Зб. тв., т. 1, 1937, з паметкай: Пасадзец, 1921 г.

Датуецца 1921, 1937 гг.

Варыянты зб. «Пад родным небам»:

Перад 1:

Мо гэта белыя лебедзі
Сыплюць са скрыдлаў пушыначкі,
Кропляць, як дождзык густы?
Мо гэта срэбныя невадзі
Кідаюць з рыбак пыліначкі,—
Лускі на дрэвы, кусты?

Мо гэта сейбіт стрывожаны
Сее зярняткі маленькія
З хмарак-сявалак з высот?
Мо гэта скарб заварожаны,
Кволыя перлы маленькія
Падаюць з неба, як шрот?

Мо гэта белыя зорачкі?
Мо гэта з воблакаў пчолачкі?

Мо гэта райскі бабок?
Мо гэта кветкі крыштальныя?
Шлюбныя вэльмы русальныя
Хтосьці скубе на пылок?

* * *

5–9 Ткуць абрусы на зямлі
Ведзьмы-ткачыхі старыя;
Ведзьмы вялікай грамадою
Дрэвы і хаткі спялі
Ў цуды — курганы сівыя
16–18 Ў вочы мільгае, бялеецца,
Хорамы там — не стагі,
Волаты ўбраліся ў світы.
23–27 Божа пярына-пасцель
На адзінокіх пуцінах.
Ой, разгулялась мяцеліца,
Ў шматы рве гладкую бель
На барадатых купінах.
32–36 Беліца мглісты абшар,
Стыгне як бог мармуровы;
З ветрам між дрэвамі дружыцца.
Бухае белы пажар
Млее асілак хваёвы.
Носіцца, носіцца, носіцца
У дзікай шалёнай гульні,
Круціць на розныя лады.
Моліць гасцінец і просіцца:
«Жартачкі цэлыя дні
Будзь падарожнікам здрадай!»

Пасля 45:

«Вабіш іх беллю снягоў,
Вабіш іх гладдзю бліскучай,
Каля лясных берагоў
Елкаю дражніш скрыпучай».

«Дзінь-дзінь — званочак звініць,
Лясь-лясь — драцянка ляскоча.
Дрыж-дрыж — каняка дрыжыць,
Стоп-стоп — у яму йсці хоча».

Кліча хтось з глыбі хваёў,
Кліча, заве па імені,

Кліча ў гушчар фурманоў,—
Проста не знойдзеш збавення.

Гінуць у белых палёх
На мягкапушных пярынах,
Гінуць у белых агнёх,
У ярка-сівых дамавінах

Вея шапоціць ім сны,
Белыя, снежныя казкі.
Стыгнуць, гібеюць яны
Пад заварожанай ласкай.

*Сняжынкі* (с. 69)

Упершыню — зб. «Пад родным небам», раздзел «З году ў год», пад загалоўкам «Сняжыначкі», з датай: 1921 г. У Зб. тв., т. 1, 1937, з паметкай: Мн., 1921 г.

Датуецца 1921, 1937 гг.

Варыянты зб. «Пад родным небам»:

2–7 Як матылькі ляцелі;
Як красачкі-пралесачкі,
Над хаткамі блішчэлі.
Бялеліся, мігцеліся
Ў багатыя калёры,
11 Даліначкі, сняжыначкі
14–20 Шапталі свае песні
«Як смутна тут, пакутна тут,
Тут страшна, тутка цесна...
У хмараньках — пры матаньках,
У срыбным у замчышчы
Спявалі мы, скакалі мы
І ладзілі ігрышчы».
21–24 — адсутнічаюць.
26–28 На бога наракалі:
«Нас кволенькіх-вясёленькіх
На полі растапталі...»

*«Зіхаціць, зіхаціць срэбны тур»* (с. 70)

Упершыню — Зб. тв., т. 1, 1937, з паметкай: Мн., 1921 г.

*«Ад плачу птушкі невядомай»* (с. 71)

Упершыню — зб. «Пад родным небам», раздзел «Грымоты й цішы», з датай: 1922 г.

Датуецца 1922, 1937 гг.

Варыянты зб. «Пад родным небам»:

7–8 Ўгары сляпіліся руні хмарак, нібы спозненыя сны
9–10 Гудзеў асвір над старай студняй роем з'юшаных пчалін,
13–14 Жабрачкай дрэва абапёрлась аб стары, каравы плот;
19–20 Стаіць цяплынь і пахне мёдам новы ранні божы дзень.

Пасля 20:

З глыбі душы ўстаюць спаміны стадамі беленькіх ягнят.
Здаецца, дзень такі я бачыў шмат гадоў таму назад;
Здаецца, гэта толькі люстра хвіль мінуўшых,
быўшых дзён;
Здаецца, гэта не на яве — сню я нейкі даўні сон.
Сто год назад таму ці болей бачыў я такі абраз...
А птушка плача, лес імшаны веснавы шапоча сказ.

*«Апранута ў лісцях мядзяных»* (с. 72)

Упершыню — Зб. тв., т. 1, 1937, з паметкай: Мн., 1921 г.

*«Між бору, між балот, сярод лугоў, далінаў»* (с. 73)

Упершыню — Зб. тв., т. 1, 1937, з паметкай: Мн., 1922 г.

*Зімнік* (с. 74)

Упершыню — зб. «Пад родным небам», раздзел «З году ў год», без падзагалоўка, з датай: 1922 г.

Датуецца 1922, 1937 гг.

Варыянты зб. «Пад родным небам»:

3 Бялеюцца ўсюды

Паміж 32—33

І хвоі ў магерках
Пуховых дрыжаць.
Ваўняныя світкі
На карках ляжаць.

40–47 Аб леце сны сніць.
А ціш... Аж страхоцце
Балюе ў цішы.
Ні птушак у лесе,
Нідзе ні душы.
І сняць таямніцы
У прухкай труне:
Да лета схаваліс

Паміж 60—61:

Сшывае іголкай
У торбу адну,
Наводзіць дрымоту

І кліча да сну.
Глядзі, не засні тут —
Заснеш наўсягды,
Без гэтага досыць
На свеце бяды.

Карысці ад смерці
Тваёй нікаму,
А мо толькі ветру
Балот аднаму.

Пачне ён галёкаць,
Як воўк той брысці,—
Пацеха і радасць
У дзікім выцці.
62–65 Іскравіцца бель,
Надходзіць з імшары
Віхура-круцель.
У белай спадніцы
67–71 Храпіць і галосіць
Шалёнай ганнёй.
Віхура кудзелю
На соснах прадзе,
Сівою мяцёлкай

76–80 Пячэ пірагі,—
Вялікія булкі,
Як горы — стагі.

Пасля 96:

Ты — шэрая кропка
На шлюбе віхроў,
Ты — нутлая плямка
Сярод пустыроў.

На зімніку белым
Ў агні завірух
Брыдзеш адзінокі,
І стыгне твой дух...

*Паводка* (с. 77)

Упершыню — Зб. тв., т. 1, 1937, з паметкай: Мн., 1923 г.

*На прадвесні* (с. 78)

Упершыню — зб. «Пад родным небам», раздзел «З году ў год», з датай: 1922 г. У Зб. тв., т. 1, 1937, з паметкай: Мн., 1922 г.

Датуецца 1922, 1937 гг.

Варыянт зб. «Пад родным небам»:

5–8 Крахтаў лядок — па ім ішоў Ярыла ціха,
На зімніку старымляглі яго сляды.
Над ім лунаў прамень агнёваю арліхай,
За ім ішлі-брылі прыслужнікі-Дзяды.

Паміж 8—9:

Іх постаці раслі як дрэвы дзікай гушчы,
Трымалі на руках адвечную вясну.
Чуваць быў лёгкі шум: шло набажэнства ў пушчы
І патаемны звон будзіў зямлю ад сну.

9–14 На кожным дрэве-пні мігцелася бажніца,
Хаваў яе ад воч рухлівы аганёк.
Пад кожным дрэвам-пнём свяцілася крыніца,
Ляжаў на ім бруском бурштынавы лядок.
Карчы пляліся вакол, цямнелі, як мурыны,
Як дзікая гання няведамых звяроў.

19 На лёдзе між кустоў ірдзеліс журавіны,

22–24 Не дапушчаў дзяўчат багністы страх балот.
Як той закляты скарб, былі яны схаваны
Ад воч і рук людскіх на ўвесь зімы пралёт.

26 Багно было пад ім відочна ў цішыне.

28–32 Русалка ў глыбі вод хавалася на дне.
Мяцеліцы яе за штосьці пакаралі,—
Пад лёдам да вясны ёй загадалі спаць.
Іскравіліс на ёй з суніц-брусніц каралі,
Вужаку на грудзі прымусілі трымаць.

Паміж 32—33:

Як мордачкі ягнят, тырчэлі яе грудкі
Жадалі шчыкатаць да смерці дзяцюкоў.
Між шоўку валасоў бліщчэлі незабудкі,
Твар абвілі, бы хмель, пляцёнкамі кустоў.

33–36 Разрэзаным грыбком былі адкрыты губкі,
А колеры на іх, як макаўкі, цвілі.
Як брызгі малака, бялелі яе зубкі,
Між іх вутлём чарнеў малы камок зямлі.

41–44 Русалка сон прарве, праб'е лядок рукою
І пойдзе рассяваць пралескі па зямлі.
І запяе вясна ў праменнях над ракою,
Наладзіць шчодры баль на пухавой раллі.

45–48 — адсутнічаюць.

*Летнік* (с. 79)

Упершыню — зб. «Пад родным небам», раздзел «З году ў год», без падзагалоўка, з датай: 1922 г.

Датуецца 1922, 1937 гг.

Варыянты зб. «Пад родным небам»:

5 Прамяністы ветрык
8 У кашульцы, ў расе.

Паміж 20—21:

Вакол сыраежкі
Сунічкі блішчаць:
Сунічкі ёй — дзеткі,
Грыбочкі ім — маць.
За пнямі-карчамі
Маліннік густы
Ў аправе калючай
З травы-асаты.

Паміж 36—37:

Каб конь, як той вожык,
Калючкі бы меў,—
Ён многа на свеце
Тады б нашумеў.
У мутнай рудаўцы
Ляжыць мшалы пень,
Мятлічка пужае,
Як жудасны цень.
Камарыкі жвава
Круць-верць, нібы шрот,
Гудзяць, як пчалішкі,
І будзяць чарот.
Усюды іх поўна,
Бясконца іх ёсць.
І колюцца блазны,
Як вострая восць.
Кусаюцца гады,
Дзе дзецца няма,
Няма проста рады,—
Напалі, як цьма.
Ад іх бараніся,
А то загрызуць,
Да косткі апошняй
Са смакам з'ядуць.
45 Во грэбля да броду
51 Няма тут чаўночка

Паміж 56—57:

І дно пад табою
Ляжыць, як абрус.
Галлё там пляцецца,

Як волата вус.
Бы ўюн, апалонік
Круць-верць туд і сюд,
Ён бурбаўкі лічыць
Хварбуе іх — цуд.
Шмат скарбаў ты бачыш
Багатых у міг,
Аднак адным махам
Не скажаш аб іх.

Брыдзі па вадзіцы,
Як той вадзянік,
Ты ў вопратках мокрых,
Як дзед-чараўнік.

Зато, як прабраўся
На бераг другі,—
Ты бачыш паляны.
Ты бачыш лугі.

57 Там кветкі, як зоркі
60 Скрыдлатых пяюх!..
63 Вунь, хмарка чаўночкам
70 Як схімнік сыр-бор;

Паміж 72—73:

А ў лесе так жутка,
Вільготна ў цяні;
Ў гушчары цямнютка
Ў пагодныя дні.

Лясун там пануе,
Крычыць «го-го-го!»
Ваўчышчаў пасе ён,
Там страшна,— ого!..
72 Ён душыць прастор.

Паміж 76—77:

Здаецца задушыць
Там віламі дуб,
Корч высмакча сок твой
Дзесяткамі губ.

Іголкамі ёлка
Цябе заклюе
І шышкамі вочы
Асляпіць твае.

Там ведзьмы страшныя,
Хоць гаць з іх гаці.
Ад іх не прабрацца
Туды, не прайсці.

Не бойцеся толькі,
Ідзіце скарэй,—
Пужаюць наўмысне
Так малых дзяцей.

Няма там злых ведзьмаў.
А пень той — як пень,
Сячы толькі трэба
І ўночы і ўдзень;

А воўк не зачэпіць,
Дальбог, між людзей
Бывае часамі
І звера страшней.

З мядзведзем ты можаш
У згодзе там жыць,
Ліповыя соты
Ён будзе насіць.

Мядзведзь у суседстве —
Найлепшы сусед,
Ён дзетак галубіць
І песціць, як дзед.

А з пнямі таксама
Ў цябе будзе лад,
Іх шэпту, іх казкам
Заўсёды ты рад.

Арэшнік, асіны
Ў ляснай глыбіне
Табе таямніцы
Раскажуць свае.

Пасля 80:

Па летніку цягне
Бясконца брысці:
Шмат цудаў у хвілю
Тут можна знайсці.

*«Ні хмаркі адной. Гарачы дзень вясны»* (с. 82)

Упершыню — Зб. тв., т. 1, 1937, з датай: 1922 г.

*«Гэй, на золак рана ўстаньце»* (с. 82)

Упершыню — зб. «Пад родным небам», раздзел «Грымоты й цішы», з датай: 1922 г.

Датуецца 1922, 1937 гг.

Варыянты зб. «Пад родным небам»:

Ў полі бродзіць нейкі бог.
4 След расісты яго ног.

Паміж 4—5:

Аглядае рэчкі, кветкі,
Гладзіць-песціць кожны пень,
Сее росы на палеткі
І лабуніць вешні дзень.
5–7 Як зданнё да загумення,
Казка з лесу к нам плыве,
Чуем казку ў кожным мгненні,
11–12 У стагнанні хвоі мшалай,
У яўным водгулле далін.

## III. ВАЙНА (1914—1917)

*Мяцежнік* (с. 83)

Упершыню — зб. «Буралом», з паметкай: Вільня, 1914 г.

Датуецца 1914, 1937 гг.

Варыянты зб. «Буралом»:

7 Ляжыць прад табою
10 Адважнік
12–13 Пад небам імкнуцца чырвоныя коні,
Пярун, навальніца
18 Віхорыцца ўсё. На зямлі...
27–28 Жадаю хмялець
37–38 Я змераю вольным саколам абшары,
42–43 Буяюць
Гуляюць
45–46 І плачуць, і скачуць —
52 Я — волат-паўстанец!
57 Я — з цемрай варожай ваюю!
61–64 Я — помста за мора няшчасця і слёз!
65–66 Мне — шаг ад зямлі да нябёс!

*Ад крыві чырвонай* (с. 85)

Упершыню — Наша ніва, 1914, 9 кастр., з подпісам **Ясакар**, з паметкай: Вільня, 5 кастр. 1914 г.

Датуецца 1914, 1937 гг.

Варыянты газ. «Наша ніва»:

1–3 Ад крыві чырвонай Нёман фарбаваўся,
Ладзіліся гаці з трупаў на вадзе;
Стогн разні адважнай гулка раздаваўся.
5 Людзі ніклі каласамі ў полі,—
7–9 Жартавалі з смерці — лезлі яшчэ болей;
Топчылі жывыя нежывых грамад.
Затуманіў неба цёмна-дымны порах,
11–12 Ціхія сялібы нішчыў дзікі вораг
І дабро людское панясло віхром.
14–18 Над зямлёй высока перся самалёт;
Сярод іх, над полем груганы ляцелі,—
На гульню-вячэру ладзілі паход.
Ой, для іх пажыва вельмі ўжо багата!
Ой, вісіць бязмерна гібель над зямлёй!
20 Ажна ап'янелі, патанулі ў ей!..

Пасля 20:

— Гэй ты, бацька-Нёман, бачыў ты спрадвека
Гэткія рабункі на сваіх вадах?..
Ці няма граніцы злосці чалавека?
Ці ўвесь свет павінен гінуць у слязах?

А крывавы Нёман з берагоў падняўся,
Як бы пасыцеў ён ад сваіх ахвяр,
Па пяску, каменнях буйна разагнаўся,
У абоймах сціснуў ён палёў абшар...

Неман сказ свой гукнуў: «Хай гудзяць віхоры!
Хай грымяць гарматы! Хай нясецца стогн!
Хай шкілеты-косці вырастуць у горы!
Я пішу крывёю вечны свой закон!—

Да сваіх я добры! іх кармлю-гадую!
Да чужых я страшан, нібы пекла ліх...
З гэткаю любоўю як сваіх шкадую,
З гэткай самай злосцю нішчу я чужых!

*Не мы...* (с. 86)

Упершыню — Зб. тв., т. 1, 1937, з паметкай: Вільня, 1914 г.

Сыпіць, смаліць крокам скорым
Падарожнік адзінокі,—
Статны, радасны, высокі,
То падкіне ўверх хатулку,
То падскочыць, стукне гулка
Цвёрдым бокам аб каменне,
То зірне на загуменне,
Засмяецца, заспявае,
Ўсё на хатку паглядае,
Што за выганам стаіць
Дахам мшалым убок глядзіць.
«Эх, жыццё, эх, лёс батрацкі!
Ужо даўненька ў край чужацкі
Я паехаў шукаць хлеба,
Тут пакінуў родну глебу
І бацькоў старых у горы,
Зарабляў я шмат за морам.
Штосьць дахаты пацягнула.
Ажно сонейка зірнула
Весялей у родным краі...
Кожна дрэва — брат у гаі»,
Ад уцехі рвецца стогн,
Аж слязу пускае ён.
«Край мой бедны! родна поле!
Не забыў я вас ніколі,
На далёкай на чужыне
Жыў я, нібы ў дамавіне,—
Так хацелася дахаты,
Там, дзе матка, стары тата;
Там, дзе рэчка пяе песні,
Дзе душы у целе цесна
Ад вясёласці бязмежнай;
Там, дзе вецер ўзімку снежну
Кажа казкі па палях,
Вее, свішча па лясах»...
«Там, дзе сонца грае ўлетку;
Дзе зялёныя палеткі
Вабяць вока хлебароба,
Дзіўна хмеліць цвяток бобу
На гародзе. А пастушкі
Пяюць песні — весялушкі.
А Ганулька мая міла
Ўжо, мабыць, мяне забыла...
Выйшла замуж за другога,—

Небарака, прэч з дарогі!
Што мне грошыкі мае
Без любові без яе?..»

«Але ёсць адна пацеха —
Старыкоў сваіх без грэху
Трымаць буду я ў пашане,
У заможным добрым стане.
Хату новую збудую.
Эт! Дарэмна я бядую,
Як куплю зямлі з валоку,
Дык тады пускайся ў скокі.
Нажыву і гаспадыню —
Працавітую дзяўчыну...
Ці спазнаюць бацька, маць?
Буду ўмысне я маўчаць».

«Потым радасці двайныя
Будуць мець мае старыя.
Усім хваліцца пачне тата.
Жарты — сын такі багаты.
А матуля па суседках
Будзе баяць нават дзеткам,
Што сынок такі ўдалы,
Мае грошы ён не мала.
І гаворкі-пагалоскі
Жыва пойдуць з вёскі ў вёску.
Склічу ўсіх у кут у свой,
Вот жа ж будзе пір гарой!»

Вось туды бяжыць не ў меру,
Адчыняе хутка дзверы.
Кажа: «Пахвалёны, маці!
Мо тут можна начаваці?»
— «Мы людзей не выганяем.
Чым мы можам, тым прымаем!»
Адказуе яму з печы
Стара бабка. «Толькі нечым
Накарміці — небагаты
Наш куточак, наша хата.
Вось нядаўна у лясок
Па сукі пайшоў дзядок».
Як пачуў ён голас маці,
Захацелась абымаці,

Цалаваць яе бясконца
І казаць: «О, матка! сонца!
Як я рад, што цябе бачу!
Я ад шчасця чуць не плачу»
Але, не! — я пачакаю
Аж да заўтра і спазнаю,
Як бацькі адны жылі тут,
Гаспадарку як вялі тут.
Не спазналі сына ў ём,—
Яго сэрца — хадыром.

«Дзякуй, маць, за добра слова,—
Я і сыты, і здаровы.
А чаму, кажы мне, матка,
Так пустая ваша хатка?
Ці ж да тога давялося,
Што пад старасць няма лёсу,
Няма сына маладога,
Працавітага якога,
Хто б да вашай да магілы
Шкадаваў бацькоўскай сілы?
Мне вас шкода, даліпан!»
Скінуў клунак на тапчан.

Ўсе куты абвёў ён вокам,
Да стала прысеў ён збоку.
Вось бабуленька старая
З печы ціхенька злязае,
Апаведаць пачынае,
Што і сына яна мае,
Толькі кепскія часіны
Не давалі жыць тут сыну,
Хлеба-солі было мала,
І дзіцятка галадала,
Вось і будзе ўжо шмат лет,
Як пайшоў сынок у свет.

Захацеў ён шукаць долі
На чужым, далёкім полі.
Мо й не вернецца ніколі,
Не пабачым яго боле.
Ён, мабыць, аб нас не дбае,
Весткі нат не прысылае,
Вось пацехі мае многа

Ад дзяцей сваіх убогі.
Грэюць, няньчаць маткі грудзі,
А як выйдуць дзеткі ў людзі,
Пакідаюць для пакут
Старыкоў і родны кут.

Хусткай вочы трэць бабуля.
Вось прыходзіць і дзядуля,
Стары лыпае вачыма
Ці знаёмы? немагчыма!
То яму здалось, няйначай,
Мабыць, вока кепска бача:
Дзяцюк мае падабенства
Да його сына, што з маленства
Ў свет пайшоў... І чуць стрымаўся
Госць. Маўчаў... Ён не прызнаўся.
Цяпер ціха будуць спаць,
Бацькі заўтра будуць знаць.

Хай жа знаюць, што багаты,—
Маю золата, дукаты.
Дзеда золата варожыць,
Адарваці воч не можа,
Ажна слінкі ён пускае,
Цяжка, цяжка уздыхае.
«Ой, на старыя на леты,
Каб меў я грошы гэты!»
У вачах злы аганёк.
Бабу ён таўчэ у бок.

Думкі гідкія, як змеі,
Думкі чорныя, страшныя
Ахмялілі глузд старога
І звялі яго з дарогі.
Дабрадзеяў з справы гэтай
Многа згінула са свету.
Грошы раптам як закруцяць,
Як зазвоняць, збаламуцяць,
Як пачнуць сваё ігрышча —
Пападзеш у іх багнішча.
Дзед нат мухі не чапаў,
Ды у сетку вось папаў.

«Грошы мне нагвалт патрэбны»,
Думаў дзед. І смак іх хлебны

Так завабіў, што дзед сівы
Аж спалохаўся ад дзіва.
«Што мне грошы? — Я без сілы,
Хутка трэба йсці ў магілу.
Але маладога сына
Маю недзе на чужыне.
Там працуе ён да поту
У бядноце, у турботах.
Для яго, каб лёс знайсці,
Я гатоў на грэх пайсці...»

«Мо дамоў ён прыйдзе хутка,
Дык паправіць жыцце тутка,
Адсапнецца ён ад мукі,
Адпачнуць ад працы рукі.
Хай ён ведае, хай знае,
Што аб ім не забывае
Стары тата. Не загіне
Тады хлопец, і дзяўчыну
Сабе выбера любую.
Эт! на шчасце папрабую...
Маю ж сына аднаго —
Папрацую для яго»...

Госць, злажыўшы грошы ў жмені,
Сунуў кучамі ў кішэні.
Раз, другі зяўнуў на лаве
І прылёг. Камарык жвавы
Загудзеў над самым вухам.
Падарожны, што ёсць духу,
Захрапеў пад старым «Спасам».
Старыкі мае тым часам
Між сабою штось шапталі
Ды на печы штось шукалі.
Потым сціхлі, прылеглі,
Болей шэптаў не вялі.

## II

Туман коціцца ў даліне.
Спіць пяюшка на галіне.
А за гаем месяц усходзіць,
Серабром на небе водзіць.
Рэчка спіць пад касагорам,

Сваё люстра ставіць зорам —
Хай любуюцца пякнотай,
Хай любуюцца ў ахвоту
Ціхім гаем, ціхай вёскай,
Малой траўкай, светлай роскай.
Аб нябёснай вышыні
Хай пяюць у цішыні.

Поўнач. Месячыку з неба
Зазірнуць усюды трэба.
Коскай ў шыбу хаткі меціць,
У каморцы слаба свеціць.
А на лаве пад «бажніцай»
Падарожніку штось сніцца.
Ён мармоча, балабоча
І падняцца з месца хоча.
Нешта цяжка ён ўздыхае,
Вочы раптам адчыняе,
Зноў іх сплюсне, моцна спіць,
Дамавік на ім сядзіць.

Смокча кроў і душыць грудзі,
Госць крычыць: «Ратуйце, людзі!»
Б'е спрасонку ваўкалака
І крывавы бачыць макі.
А на печы дзед нож точыць,
І чатыры злыя вочы
На тапчан стуль паглядаюць,
Як бы шротам прабіваюць
Дзецюка агнём зялёным,
Па-вядзьмарску запалёным...
Баба — ведзьма. Дзед, як звер.
Цяжка іх спазнаць цяпер.

Вось абое крокам спрытным,
Крокам ціхім, крокам скрытным,
Як бы скачучы ў забаве,
Падыходзяць да той лавы,
Дзе дзяцюк у новай світцы
Лёг спаць пад «бажніцай».
Дзед бліскучы нож трымае,
А бабуля сярпом грае.
Раз і два нажом у сэрца —
Дзед гасця прыбіў да смерці,

А бабуля, торк сярпом —
Палілася кроў руччом.
А гасця і стогн адзіны
Не раздаўся у хаціне.
Так дзяцюк у сне бяспечным
Перайшоў у сон той вечны,
Дзе ніколі не прачнецца
І на кліч не адзавецца.
Старыкі яго схавалі,
Машну золата забралі,
Доўга мылі кроў густую,
Стол чырвоны, лаву тую.
Як збляднеў паўночны цень,
Яны спаць ляглі пад дзень.

## III

Туман нікне на даліне.
Пяе птушка на галіне,
Сонейка на небе грае,
Шлях свой яркі адзначае
Цёплай коскай, шчаснай коскай.
На лагчыне сохнуць роскі.
Вось араты йдзе у поле.
А дзяўчынанька на волі
Пяе песні веснавыя.
Пяе песні залатыя.
У хаціне дзед сядзіць,
Лічыць грошы і маўчыць,

А бабуля есці варыць,
На патэльні сала скварыць.
Між сабою ані слова.
За дзвярыма: «Гэй, здарова!»
Хтосьці крыкнуў ды ў камору.
«Пахвалёны!» — хтось гавора.
Бабы, мужыкі і дзеці
Пруцца ў хату. Недзе дзецца.
Паглядаюць асцярожна.
«Дзе ваш госць? — пытае кожны.—
Што жа ты маўчыш, дзядок?
Дзе схаваўся твой сынок?»

«Хочам ведаць мы навіны,
Што за нашаю лагчынай

Дзеецца па белым свеце?
Ці мо сын твой у прымеце
Мае з намі не мець дзела?
Цяпер дзеці ашалелі.
Хто вяртаецца з чужыны —
З роднай маткі строіць кпіны.
Ці то сын наш? — дзед шапочыць.
Ў бабы зуб аб зуб малоціць.
Людзі на гарод пайшлі
І забітага знайшлі...

## XII. ВІЛЕНСКІЯ ЎСПАМІНЫ

*Віленскія помнікі* (с. 212)

Упершыню — Зб. тв., т. 1, 1937, з паметкай: Мінск, 1917 г.

*Жалезны воўк* (с. 218)

Упершыню — Вольная Беларусь, 1917, № 4, з паметкай: 1915 г.

## XIII. ПАЛЕСКІЯ БАЙКІ

*Палескія байкі* (с. 225)

Друкуецца па Зб. тв., т. 1, 1937.

Упершыню — зб. «Пад родным небам», Мн., 1922, у раздзеле «Зачараваны край», з паметкай: Мінск, 1922 г.

У Зб. тв., т. 1, 1937, «Палескія байкі» друкаваліся з наступнай заўвагай Зм. Бядулі:

«Матэрыялам для «Палескіх баек» служыў мне багаты фальклор Палесся, сабраны рознымі этнографамі.

Раней Палессе было месцам каўтуноў, папоў, шаптуноў і незвычайнай памешчыцкай эксплуатацыі працоўнага сялянства. Да рэвалюцыі яно жыло бадай што першабытным жыццём. Непраходныя лясы і балоты, няведанне законаў прыроды спрыяла таму, што палешукі пад панскім бізуном і пад націскам рэлігіі стварылі сабе своеасаблівы фантастычны свет, своеасаблівую філасофію змагання дабра і зла, арыгінальна разважалі аб жыцці і смерці, тварылі касмагенічныя ды іншыя байкі ў стылі міфаў старадаўняй Грэцыі.

Да бога і чорта паляшук у сваіх байках адносіўся аднолькава кпліва, з лёгкім смяшком, да папоў і паноў — з вялікай класавай нянавісцю.

Баечнік-паляшук вельмі паэтычны, усёй істотай любіць музыку і таму фантазіруе аб яе неймавернай сіле над прыродай.

Паляшук усё жыццё змагаўся з навакольнай прыродай, пляжыў лес, будаваў сабе курныя хаты, характэрна, што сялянская

праца, паводле палескіх баек, вельмі палохала «нячыстую сілу», і яна, чартаўшчына, старалася перашкодзіць яму гарэлкай. З боку гісторыі культуры варта адзначыць, што бадай да рэвалюцыі ў Палессі захаваўся звычай першабытнага здабывання агню, як рытуал пры змаганні з паморкам.

Нямала палескіх баек насычана сацыяльнымі матывамі. Яшчэ старыя баечнікі часта тлумачылі прычыну кепскага жыцця сялянскай беднаты панскім гнётам. У часы грамадзянскай вайны Палессе дало шмат партызан-рэвалюцыянераў.

Трэба адзначыць, што і даўней самі баечнікі, у большасці старыя людзі, мала верылі ў свае байкі аб «нячыстай» і «чыстай» сіле. Яны проста любілі пафантазіраваць і пацешыць людзей на пачлезе або ў хаце ў часы адпачынку.

Старое цёмнае Палессе, дзякуючы партыі і Савецкай уладзе, пайшло ў нябыт. Цяпер яна стала краем калгасаў і саўгасаў і квітнеючай багата-ўраджальнай зямлёй на асушаных балотах, дзе торф дае электраэнергію навакольным фабрыкам і заводам.

Дзеці і ўнукі непісьменных паэтаў-баечнікаў становяцца высокаадукаванымі людзьмі, якія твораць пышную савецкую культуру ў галінах гаспадаркі, навукі і мастацтва.

*Аўтар».*

Варыянты зб. «Пад родным небам» і «Паэмы»:

1. На палескім балоце

2 Усюды тхлань, усюды гідкае нетра.
5–6 Сцеражыся дрыгвы, бо як ведзьма глыне,
Чорт у процьму пацягне за ногі,

2. Што было да стварэння Палесся

2 Быццам неба ялелась другое.
5–6 Толькі рыбкі ў вадзе звычна плюхаліс тут,
І мігацелі хвастамі на дзіва.
8 Карагод пачынаў палахліва.
20 Гэта шлі векавечнай пуцінай.
25 Стыглела маць-цішыня. Ні людзей, ні звяроў,
29 Быў нямы божы свет, нібы камень-скала,

3. Бог, чорт і дуда

5 Ў белай кнізе святой было мудрасцяў шмат
7 Ў чорнай кнізе страшной было жудасцяў шмат
11 Побач ціха плыла светлых хмар грамада,

4. Першы сон дуды

5–6 Спеў імкнуў на абшар лебядзіным пуцём,

Дудар граў і спяваў гімпы-песні.
12–13 Згадаваныя песнямі людзі.
Нібы хвалі плылі, бы рвануўся сыр-бор,
16–18 І натхненне ў вачах красавала.
Колькі моцы было ў родных песнях людзей
Радасць брызгала светлай навалай

5. Другі сон дуды

4 Па шнурах мчыцца злыбеда-ліха
13 Скарб багаты ў зямлі захаваны ляжыць,

Пасля 16:

Самаграйка дуда летуцела ўва сне,
На Русь Белую думкай шыбала.
І дуда сніла сон аб сваёй старане,
Дудара-беларуса чакала.

6. Як бог стварыў Палессе

17 «Вось насенне — дабро, любата, пекната!
19–20 Тут хай будзе лясок, там — трава-асата,
А далей чарназёмная глеба».
22 Нібы добры ратай гаспадарны;

7. Іграючы на дудзе, бог стварыў птушак, звяроў і першага палешука

10 З лагавішчаў дрымучага бору;
14 Бог насенне вакол раскідае
16 Першы раз божы свет аглядае
27–28 Пуга-цямлівасць іх хай бароніць ад здрад,
Няхай рупнасць трымае ў захове.

Пасля 28:

Станеш пасвіць як след — будзеш сыты і сам,
Пачне доля па нітцы скакаці;
Загультуеш — карысць будзе злыбедам-псам,—
Загрызуць цябе ў полі і ў хаце.

8. Чорт украў у бога насенне, а бог нібыта не прыкмеціў

5–8 адсутнічаюць.

9. Паляшук іграе на дудзе

4 Як ратай на дудзе заіграе.
8 І нясецца над мяккай раллёю.
12 На цябе, як анёл той, ён гляне.
19 Рады краскі, трава; ў світках — кропелькі рос —

25–26 Ой, на свеце няма ні мацней, ні пякней
Зычнай песні і простай, і шчырай;
28–32 Яго сэрца пускаецца ў вырай.
Думка рэчкай плыве ў заварожаны круг,—
У гару да зары-зарніцы,
І вяртаецца стуль, як расіца на луг,
Нібы кропля да роднай крыніцы.

### 10. Як чорт стварыў балота

2 Ў жываце забурчала занадта;
12 І ракіта і дзіч непарокам.
17–29 — адсутнічаюць.
33 Там, дзе плюне — багно і рудаўка-трава,
40 Аж сава дзікі спеў зацягнула.
41–44 — адсутнічаюць.
45–46 Апаганіўся ўвесь чысты водны прастор,
Стаў ён чортавым вечным балотам:

Пасля 52

Як замуцяць народ, як пачнуць штось шаптаць,
Хто паверыць ім — пэўна загіне;
Напсуюць шмат людзей, хоць гаці іх на гаць,—
Нечысць строіць пякельныя кпіны.

### 11. Чорт варыць сівуху на загубу палешуку

9 Многа бочак стаіць між балотных карчоў,
11 Жыжа пенай бурліць, блішчыць соткай вачоў.
13 І гартуецца моц, і сталюецца крэп,
16 Глузд туманіць бамбэнкам вясельным.
23 Ломіць-крышыць усе, бацьку роднага б'е,—
28 Па калена яму тады мора.

Пасля 28:

Працу кіне зусім, голад вострыць свой зуб.
Гніе хата і дохне скаціна,—
Прападзе паляшук. Гэта чорт-душагуб.
Яго зверне з праўдзівай пуціны.
29–40 — адсутнічаюць.

### 12. Чортава лаза абхапіла Палессе. Што з гэтага выйшла

5 Тут агледзіўся бог: цэлы край прападзе
9–12 — адсутнічаюць.
15 І мароз бог паслаў на лазу, на брыду,—
22 І кусты ён цярэбіць адважна.

36 Тытуну йшчэ асталась багата».
36 На той свет ты паедзеш вандзонкай;

### 13. Як парабіліся чартоўскія дарогі і як паляшучка зрабілася ведзьмай

3 Чорт вясёлы глядзіць, круць і верць галавой
6 Церабіці лазу, драць на лыкі;
24 Задрыжэлі чартоўскія стогны.
28 Паратунку шукае ад здзекаў.
34–37 Грукат-стукат чуваць паміж дрэваў.
Чорт аслаб у канцы; зубы сцяў ён і змоўк.
Грыміць баба: «Направа — налева!»
Бегаў чорт, узвярнуў шыр балотных раўнін,

### 14. Агідныя ўчынкі ведзьмы

2 Шэрым скрыдлам плюгавым лапоча;
4 Ведзьма ціха замовы шапоча.
8 У сталёвых кіпцях забабонаў.
15 То падвеем ляціць з-пад дзікіх пустыроў
21 Пусціць дождж на зямлю, сыпне град ільдзяны
23 Душаць кур і гусей каршуны, груганы,
27 Пошасць, трасца бярэ, есць дзяцей страшны цмок,

### 15. Як палешукі змагаюцца з паморкам

7 Рубяць крыж, валакуць да ракі талакой,
13 І гарыць дзень і ноч, і балуе агонь,
18–19 Страшны дзед аднавокі, калматы;
Прэ да вёсак, да сёл, дзе вартуе народ,—
27 Я вам радасць даю, нібы божу расу,
29–32 «Таго шчасця няма ў ратаёў пры жыцці,—
Яго мае кароль і нявольнік.
Яго можа багаты і бедны знайсці,
Слаўны пан і палескі бяздольнік».

### 16. Паляшук пляжыць лес і выкарчывае балота

9–10 Валіць хвою і дуб, для будоўлі кладзе,
Чысціць лапікла, шчыра карчуе;
24 Гарапашная шчырая праца
17, 18 раздзелы («Палешукі і паны» і «Палешукі і поп») —
— адсутнічаюць.

19, 20, 21, 22 раздзелы Зб. тв., т. 1, 1937 адпавядаюць 17, 18, 19, 20 раздзелам зб. «Пад родным небам».

### 19. Восень, зіма, вясна і лета

10 Ў снежным вэльме вандруе па лесе;

Пасля 12:

12 Дзе схавацца тады на Палессі
Ўсюды нечысць кішыць і таўчэцца круцель,
Спрэсу гурбай сялібы заносіць.
Нібы ў млыне страшным, трэцца-меліцца бель,
Вея ў трасцы трасецца, галосіць.
Гэта чорт выдае замуж дочку сваю
За брыду-ведзьмака-ваўкалака;
На балоце йдзе баль, ладзіць нечысць гульню,
З мерцвякоў гасцям смажыць прысмакі.

13–16 — адсутнічаюць.

19 Вуды-косы скубе адзічэлая смерць,

25–26 Толькі літасціў бог,— прысылае вясну,
Сонца грае, снег тае і нікне.

28 Нечысць корчыцца, з страху не пікне.

39 Адчыняе сакрэт, скарб палескай глушы,

47 Песціць грудкі яе абручок-баламут —

### 20. Плоймы зданяў пануюць над Палессем

9–10 Хопіць-топіць людзей у вадзе вадзянік,
Хор русалак там ладзіць ігрышча.

12 Злы гуменнік жыве на гумнішчы.

15 Шлюць-завуць на людзей дзіка-смаглую рацъ

29 Па пуцінах-шляхах залягла варажба

34 Збаўцу светлага, гожага воя;

37 Яго шлях — Млечны Шлях, яго шлях — сонца маць,

39–40 На пукатых грудзях зарніцы блішчаць,
Яго вочы — з вясёлак агнёвых.

43–44 Ў смелым сэрцы яго шуміць вечны пажар,
Зычнаколернай хваляй буяе.

### 21. Ілья палюе чарцей, цмок нішчыць палешукоў

21–24 Разыграўся грымот, смаліць-паліць пярун.
Кіпіць неба, маланка балюе.
Сярод дня сее мглу Ілля — строгі вяшчун,
Ён чарцей, нібы качак, палюе.

30 Надта жутка на шэрым балоце.

32–33 Ўсё Палессе ў бель-поце, ў вільготе.
І пануе жуда, стогне, крэхча туга

47 Над Палессем злы цмок вісіць цёмны, як цьма,

## 22. Асілак забіў цмока, а сам скамянеў у курган

12–14 Апусцілася ў хатаньку тую.
Пакацілась клубком, залатым галубком,
Над бабуляй яна залунала.
17–18 Рос хлапчук вельмі хутка — па днях, па начах,
Вырас моцным асілкам высокім;
25 Аж стагнала зямля, аж дрыжала багно,
31 Ў неба стук галавой, трах па сонцы сасной,
41 Ўзгоркі соваў рукой — то адзін, то другі,—
49 Зазлаваўся гасподзь.— Чараўніцкі туман

Пасля 22 раздзела:

Раздзел пад назвай «Тое, што было даўней, асталося і цяпер, толькі ў новых вопратках».

Што было, тое й ёсць, тое й будзе яшчэ,—
Заўжды кажа прымоўка людская
Бог на груцы вякі, нібы збожжа, таўчэ,
Нібы лушчаны боб раскідае.

Барацьба ўсюль ідзе, няма ладу ані,
Жыццё вопраткі часта мяняе.
Нібы хмаркі нябёс плывуць хвалі і дні,
Пугай смерці іх дух паганяе.

Быў Ярыла калісь богам неба, зямлі,
Кіраваў цэлым светам вякамі.
Нарадзіўся Хрыстос — і мяняцца пайшлі
На Палессі паны за панамі:

То купалле — то Ян, то пярун — то Ілля,
Ражаство бога — заместа калядкі.
Замест зор — святы крыж. А святкуе зямля
Тыя самыя даўныя святкі.

Аб іх песні пяюць жабракі-дудары,
Аб іх баечнік сказы складае;
А пісьменны аб іх ад пары да пары
Мужыку нават кніжкі чытае.

Не паможа ў бядзе, ці кажы — не кажы,
Без бяды абысціся не можна.
Усё мае мяжу, нельга жыць без мяжы,
Гэта знае і ведае кожны.

На тым свет і стаіць, бо чаго ж бы і жыць,
Калі б людзі не мелі жадання? —
Трэба вечна хацець, трэба вечна тужыць,
Пакуль не забярэ смерць — канание.

23, 24, 25 раздзелы Зб. тв., т. 1, 1937 адпавядаюць 22, 23, 24 раздзелам зб. «Пад родным небам».

23. Стары дудар схаваў смерць у ражку

Людзі перасталі паміраць, і зрабілася яшчэ горай.
2 Нібы ведзьма пякельная тая.
34–35 Бог людзей усе множыць на свеце.
Надаела старым: дзед памерці гатоў,—
40 Гэта ж божая лютая кара...
52 Бедакоў маць-зямля не прымае.

24. Смерць дудара і хаўтуры па ім

2 То не ломяцца скрыдлы сакола —
5–6 Зайшло сонейка ў бор, апусцілась жуда,
Як кажан, чорным скрыдлам мільгае.
31 Наша сонца зайшло, яркі вогнічак згас,
«Аздабляў нам жыццё гучнай песняй святой,

24. Як дудар граў на небе перад богам, потым апусціўся на зямлю і астаўся вісець над бацькаўшчынай паміж небам і зямлёй

Паміж 16—17:

Іх імкненне расло, як імкненне дзвюх сіл,
Што жывуць у вячыстым змаганні.
І праменні жыцця і трухлявасць магіл
Узышлі на алтар шлюбавання.
29–30 Бог грымнуў у адказ: «Ты астанешся тут,
Бо патрэбна дуда і на небе!»
34 Паміж небам і роднай зямлёю;

Пасля 36:

Йдзе ратай на свой шнур і глядзіць угару,—
Песня сэрца трывожыць, няйначай.
То пяе над раллёй псальму-гімн на зару
Птушка-жаўранак кружыцца, плача...
Ў сінь-блакіце нябёс млее пурпур зарніц,
Шэрай кропкаю туліцца птушка.

На зялёнай мяжы паміж рос-агнявіц
Ладзяць срыбныя краскі-задушкі.

34–40 — адсутнічаюць.

## XIV. З ПАЭМЫ «ЯРЫЛА» (с. 254)

Упершыню — Полымя, 1925, № 5, з паметкай: Акопы. Чэрвень 1924 г. У час. «Полымя» пад назвай «Песня» надрукаваны ўрывак з раздзела «Вяселле» і раздзелы «Восень», «Рэчка» і «Купалле». Раздзелы «Дзяльба» і «Лазня» ў час. «Полымя» адсутнічаюць, а раздзелы «Рэчка» і «Купалле» ўзаемна перастаўлены.

Датуецца 1924—1937.

Варыянты час. «Полымя»:

*«Вяселле»* («Песня»): (с. 254)

Замест 1—210:

У Ярылы вочы-сонцы —
Сэрца шчырага аконцы,
Васільковыя магніты,
Два пажарышчы з блакітаў.
І Ярыла не бядуе —
Ён задумаў песню-думу.
Ён прабуе гусляў голас,
Залаценькі струнны волас.
Колік круціць, колік верне,
Ці той зык на струнах верны.
Гуслі чулыя на волі
Загулі, як роі пчолаў.
Пальцы-дзівы, пальцы-чары
Сеюць песні на абшары.
Гукі-смехі, гукі-стогны
Млеюць, спеюць непрытомна.
Пальцы ўюцца матылькамі,
Дрыжаць белымі змяйкамі.
І, здаецца, іх тут соткі —
Стада беленькіх лябёдкаў.
211 А Ярылава малжонка
214 Пад віхром гуслярскіх струнаў

Замест 218—230:

Твой шчаслівец лёс.
Твая песня ў цэлым краі
Ўзварухне усіх ратаяў.
Пры рабоце ў ліхалеццe
Тваё грание адгукнецца.

Сярод дзікіх панскіх здзекаў
Над гаротным чалавекам
232 Кінеш песню ў дзіўным пудзе,
234—246 — адсутнічаюць.
248—249 Як вянок той пляце-вяжа,
Ўсенароднае хаценне,
254—256 З струн на вольныя абшары
Пойдзе росным карагодам
Зноў к народу ад народу.
257—274 — адсутнічаюць.

Замест 277—279:

У каляровыя дываны.
Ці то званы, ці нязваны.
Будзе слухаць, любавацца,
Нібы песняй роднай маці.
Запяеш ты дзіўным складам,
Загаворыш зычным ладам,
Сыпнеш пукам красак зграбных.
Ці шаўковых, ці ядвабных.
Нібы ніткай залатою,
Нібы стужкай агнявою,
Замацуеш словы спевам,
Замацуеш думкай смелай,
Думкай волі бурна-хмельнай,
Думкай радасці вясельнай.
285—286 — перастаўлены.
286—287 Ўецца жаўранкам над збожжам;
Б'ецца галінкаю ў аконца,
290 Як туман пахучы, росны,
291—292 — адсутнічаюць.
294 Зернем ядраным над нівай
299 Песняй вешчай апляцёна,
301—302 — адсутнічаюць.

Паміж 304—305:

Нібы веча велікана,

Паміж 308—309:

Рэчку, луг, гумно, сялібу,
Каб спяваць усе маглі бы.
310 І стацветнымі агнямі
312 Сэрца цэлага народу.
315—316 Ці не дзяцел робіць стуку,
Не зыгзыца вешчыць «ку-ку»,

Замест 317—322:

Не гудзіць гушчар-дуброва,

Не шуміць лясок хваёвы,—
То па кузнях ідзе грукат,
Па кавадлах гучны стукат.
Молат бразне па жалезе,
У жалеза спрытна лезе,

Паміж 324—325:

Прыганяты панскі кліча,
Кавалёў прыгонных лічыць:
325–326 Гэй, грымні, каваль, па сталі,
Да работы ўсе каб сталі!

Замест 327—344:

Вы ланцуг даўжэзны куйце,
Засталюйце, загартуйце,
Каб не рваўся, каб не трэснуў,—
Ланцугом звяжэце песню!
Словы песні ашалелай
Раскідаюць клічы-стрэлы
346–348 Вастрынёю ў сэрца, ў грудзі.
Люд мяцежыцца ў мяцежы
Хам на пана праўду рэжа.
349–352 — адсутнічаюць.
355–357 Але гуслі граюць смела,
Сыплюць песні, сыплюць стрэлы,
Не баяцца панскіх катаў,
361 І таемная дзяўчына
369–370 Маеш гуслі. Грай на ніве.
Люду роднаму на дзіва.
373–377 І дружка свайго «Ярылу»
На зямельку палажыла
На кані сваім крылатым
У убранні у багатым
Паднялася аж да хмары
379–380 — адсутнічаюць.
381 Снежным лебедзем мільгала,
383–385 Нібы ў пухкі шоўк нябёсны.
Гаспадыня незайздросна
Вастрынёй утнула лоўка
387 У бурносе з зелянівы
389 Над далінай па-над гаем
391–395 А над ёй, над галавою,
Што кудзерыцца між хвояў,
Цёмна-сіні шоўк мігціцца,
Як мурожная травіца.
А ў шаўку у тым нябёсным

397–398 Рукавіцы залатыя,
Паяскі-праменні тыя.

Замест 402—408:

Цягне ніткі з зычнай сіні.
Як пацягне ды зазвоне
Шэра птушка на загоне.
Разальецца срыбра-злотам
Над загойданым чаротам.
410 Раскідае сонца-жары,
412–413 Уставайце, мае дзеткі!
Вам гатовае на ранне
419–420 — адсутнічаюць.
421 Гуслі гучна затрасліся:
423 Ён прачнуўся. Што за справа:

Замест 425—432:

Пад калінавым кусточкам
Невялікія слядочкі
Ножак дзеўчынкі-малодкі
Засталіся ў папаротках
Рваў «Ярыла» мяту-руту,
На слядочкі клаў у жмуты,
Буйны вецер не развеяў,
Каб пясочкам не засеяў,
Каб іх людзі не стапталі,
Каб дажджы не размывалі.

*Восень* (с. 270)

1–4 — адсутнічаюць.
5–6 Па шчаціне зжатай нівы
Восень чэша сваю грыву.
9–10 Пясок трусіць па рудаўках,
Пеніць сліну па канаўках
13–14 Плюне лісцем па каменнях,
Раптам змоўкне ў задуменні
15–16 — перастаўлены.
17–19 Пераскочыць праз парканы,
Кіне вокам у туманы.
Ў зарасняк зірне з журбою,
21 А з нябёсных дробных вокнаў
24 Нібы кідае арэхі.
25–28 — адсутнічаюць.

*«Рэчка»* (с. 273)

1 Між палямі, між лясамі
5–8 Уецца, гнецца ўлева-ўправа.

То зірне ў гушчар кудравы,
То абцягне ўзгорак стромкі
Шлюбным кругленькім пярсцёнкам,
10 Пазасланы белай бляхай,
13–14 Рэчка служыць люстрам ясным,
Калі свецяць, калі гаснуць.
15–30 — адсутнічаюць.

*«Купалле»* (с. 274)

1 Гралі гуслейкі ў дуброве,
6–7 У каго, як мёды, косы,
Хто ад гусляў спеўных млела,—
15–16 Хай на шыйку — васілёчак,
На галованьку — вяночак.
18–19 Хай стаіць пад сонцаззяннем.
Гэта дзеванька удала.

Паміж 22—23:

На вялікім папялішчы,
Дзе пагасла ўжо агнішча.
25 Запаценькаю тканінай
27–30 Голас дзеўчыны-красуні
Ў тахт гуслярскім гучным струнам
Зажаўроніў хмельным словам:
Гэй, выходзьце ўсе з заховаў,
35–39 З агняцветнага вяночка
Рвала парачкам лісточкі
І казала, гаварыла,
Як вучыў гусляр «Ярыла»:
Шлюбавала вас купалле,
41 Вам пасцелькай шоўк травіцы,

## ВЕРШЫ РОЗНЫХ ГАДОЎ, ЯКІЯ НЕ ЎВАЙШЛІ Ў ПРЫЖЫЦЦЁВЫ ЗБОР ТВОРАЎ

*Мой спеў* (с. 276)

Друкуецца па газ. «Наша ніва», 1911, № 3, 20 студзеня, дзе змешчаны ўпершыню.

Аўтограф пад загалоўкам «Мелодзія», з подпісам Змітрок Бядуля, і паметкай: Пасадзец, 4/VII 1910 г.— у рукапісным аддзеле Цэнтральнай бібліятэкі Акадэміі навук Літоўскай ССР (шыфр F21—43).

Ніжэй адзначаныя вершы друкуюцца па аўтографах, якія захоўваюцца ў рукапісным аддзеле Цэнтральнай бібліятэкі Акадэміі

навук Літоўскай ССР (шыфр F 21—43). Упершыню апублікаваны В. А. Каваленкам у зб. «Беларуская літаратура», кн. II.,— Мн.; 1959.

Вершы *«Золатам сонца»* (с. 303), *«На Замковай гары»* (с. 314), *«А людзі, як тыя мурашкі* (с. 315), *«На беразе Віллі* (с. 316), *«О. Ю...с»* (с. 317), *«Марыне С...ко»* (с. 317), *«Руны жрацоў»* (с. 318), *«У чарах»* (с. 318), *«Касцёл св. Ганны»* (с. 319), *«А мяне кліча месяц за горад»* (с. 320) *змешчаны ў асобным сшытку. Не датаваны аўтарам.*

*«Зоркі ззяюць, зоркі граюць»* (с. 276)

Пад аўтографам подпіс З. Бядуля і паметка: м. Ілья, 29 ліпеня 1910 г.

*Трагедыя* (с. 277)

Пад аўтографам подпіс С. Плаўнік і паметка: Пасадцы, 15.8. 1910 г.

*Гуслі-самаграйкі* (с. 278)

Пад аўтографам подпіс Змітрок Бядуля і паметка: Пасадзец, 27.XII.1910 г.

*«А я ў цень пайду, у халадочак»* (с. 280)

Пад аўтографам подпіс Змітрок Бядуля і паметка: Пасадцы, 27.V.1911 г.

*«Замарозкі, уміраюць бярозы...»* (с. 281)

Пад аўтографам подпіс Змітрок Бядуля і паметка: 24.X.1911 г.

*«Ломіцца бурай на вольсе галіна...»* (с. 281)

Пад аўтографам подпіс Змітрок Бядуля і паметка: Пасадцы, 24.X.1911 г.

У сувязі з тым, што вершы З. Бядулі «Зорка», «Хворы хлопчык», «Голад», «Праца», «Пясняр», «Прарок», «Ноччу» захоўваюцца ў папцы сярод вершаў 1910—1911 гг., можна меркаваць, што і яны адносяцца да гэтага ж часу.

*Зорка* (с. 282)

*Хворы хлопчык* (с. 282)

*Голад* (с. 283)

*Праца* (с. 283)

Пад аўтографам подпіс Змітрок Бядуля.

*Пясняр* (с. 284)

*Ноччу* (с. 284)

Пад аўтографам подпіс С. Плаўнік.

*«На небе зорка маладая»* (с. 285)

Пад аўтографам подпіс Змітрок Бядуля.

*Прарок* (с. 286)

Пад аўтографам подпіс Змітрок Бядуля.

*«О, ногі твае я слязамі абмыю»* (с. 286)

*Сляпыя* (с. 287)

Друкуецца па газ. «Наша ніва», 1913, № 47, 21 лістапада, дзе змешчаны ўпершыню з подпісам Ясакар.

Датуецца годам апублікавання.

*Сэрца прарочa* (с. 288)

Друкуецца па газ. «Наша ніва», 1914, № 20, 22 мая, дзе змешчаны ўпершыню з подпісам Ясакар.

Датуецца годам апублікавання.

*Песня («О сонейка так яснае...»)* (с. 289).

Друкуецца па газ. «Наша ніва», 1914, № 21—22, дзе змешчана ўпершыню з подпісам Ясакар, з паметкай: 1914 г.

*Маскарад* (с. 289)

Друкуецца па газ. «Наша ніва», 1914, № 28, 17 ліпеня, дзе змешчаны ўпершыню з подпісам Ясакар, з паметкай: Вільня, 15.IX.

*Волат* (с. 291)

Друкуецца па газ. «Наша ніва», 1914, № 38, 25 верасня, дзе змешчаны ўпершыню з подпісам Ясакар, з паметкай Вільня, 15.IX. 1914 г.

*Балада* (с. 292)

Друкуецца па газ. «Наша ніва», 1914, № 45, 13 лістапада, дзе змешчаны ўпершыню з подпісам Ясакар, з паметкай 2.XI. 1914 г.

*Брат з сястрою* (с. 292)

Друкуецца па газ. «Наша ніва», 1914, № 51—52, 25 снежня, дзе змешчаны ўпершыню. Датуецца годам апублікавання.

*«У цёмных кутках падзямельні»* (с. 294)

Друкуецца па зб. «Пад родным небам», дзе змешчаны ўпершыню з паметкай: 1915 г.

*«Між чаротаў нямых плыве човен адзін»* (с. 294)

Друкуецца па аўтографу, які захоўваецца ў рукапісным аддзеле Цэнтральнай бібліятэкі Акадэміі навук Літоўскай ССР (шыфр F 21—41). Пад аўтографам подпіс: Ясакар. Адносіцца да дарэвалюцыйнага перыяду творчасці З. Бядулі.

Ніжэй адзначаныя вершы друкуюцца па зборніку «Пад родным небам» (Мн., 1922).

*У белі* (с. 295)

Датуецца 1921 г.

*«Пяе струна натхнёная»* (с. 297)

Датуецца 1921 г.

*А ў бары...* (с. 297)

Датуецца 1921 г.

*На смерць А. Бурбіса* (с. 298)

Датуецца 1922 г.

*Змрокі* (с. 299)

Датуецца 1922 г.

*«За мною курганы вячыстыя»* (с. 299)

Датуецца 1922 г.

*«Жар-сонца пячэ»* (с. 300)

Датуецца 1922 г.

*Бездарожжа* (с. 301)

Датуецца 1922 г.

*Летапісец* (с. 302)

Датуецца годам апублікавання.

Ніжэй адзначаныя вершы друкуюцца па зборніку «Буралом» (Мн., 1924).

*З песняў сонца* (с. 303)

*Кліч волі* (с. 305)

*Перад помнікам Карлу Марксу* (с. 306)

*Чырвоны каляндар* (с. 306)

*Дзевятае студзеня* (с. 307)

*Міжнародны дзень кабеты* (с. 308)

*Рэвалюцыя лютага* (с. 309)

*Дзень Парыжскай Камуны* (с. 310)

*Ленскі расстрэл* (с. 311)

*Першае мая* (с. 311)

*Міжнародны дзень моладзі* (с. 312)

*Дзень ураджаю* (с. 313)

*Кастрычнік* (с. 313)

## ЗМЕСТ


Ад рэдакцыі . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 5

*Віктар Каваленка.* Шчасце — служыць народу . . . . 6


### I. СІЛУЭТЫ


| | Тэкст | Камент. |
|---|---|---|
| «На горне душы першы верш я каваў...» . . . . . . | 21 | 322 |
| На балоце («Вея слепіць абшар на шырокім балоце...») | 21 | 322 |
| «Гараць сняжынкі кволыя...» . . . . . . . . . . . | 22 | 322 |
| «Хоць ты разарвіся...» . . . . . . . . . . . . . . | 22 | 322 |
| «Ці хто забывае цябе, небарака?..» . . . . . . . . | 23 | 322 |
| Радасць («Ад заранкі ружавеюць вокны...») . . . . . | 24 | 322 |
| «На раніцу з неба пакралі ўсе зоркі...» . . . . . . | 25 | 322 |
| У зімовы дзень («На гародзіку сасонка...») . . . . . | 26 | 322 |
| «Начлежнікі пяюць. Над вогнішчам туман...» . . . . . | 26 | 322 |
| Успаміны («Ноч у кажуху туманным...») . . . . . . | 27 | 322 |
| «Тры маладыя бярозкі — бярозавы снег...» . . . . . . | 30 | 322 |
| Пастушка («Адзін на балоце. Сягоння нядзеля...») . . . | 31 | 323 |
| Вечар («Нібы мяккія валокны...») . . . . . . . . . | 33 | 323 |
| «Плача птушка ў пустыры...» . . . . . . . . . . . | 35 | 323 |
| Мары паэта («З хаціны курнай выйду. Над зямліцай...») | 36 | 323 |
| «Вячэрнія гаснуць зарніцы...» . . . . . . . . . . . | 36 | 323 |
| «Ці ведаеш зямлю арлоў-людзей магутных?..» . . . . | 37 | 323 |
| Прыйдзіце («Прыйдзіце вы, добрыя... Вокам праніклівым...») . . . . . . . . . . . . . . . . | 37 | 323 |
| Песня («Як бы плача хто ў лагчыне!..») . . . . . . | 38 | 323 |
| Пан («Чым за адным сталом засесці з панам есці...») . . | 39 | 323 |
| Ты... («Перад ліхам і нядоляй...») . . . . . . . . | 39 | 323 |
| Не ўгодзіш («Красе пакланюся...») . . . . . . . . . | 40 | 324 |
| «Заліў быдлячы лой валоў і твае грудзі...» . . . . . . | 40 | 324 |
| Можа быць... («Можа быць, што пятлю мне...») . . . . | 41 | 324 |
| Гусляр («А Змітра старога...») . . . . . . . . . . | 41 | 324 |
| «Курыць люльку вадзянік...» . . . . . . . . . . . | 43 | 324 |
| Воўк («Сіва-сіпяя поўнач паўстала...») . . . . . . . | 44 | 325 |
| Дрывасек («Я сякеру вазьму...») . . . . . . . . . . | 47 | 325 |
| «Звініць струна сталёвая...» . . . . . . . . . . . | 47 | 325 |
| Старарэчышча («Нядаўна плыла старая рака...») . . . | 48 | 325 |

## II. НАСТРОІ


| | Тэкст | Камент. |
|---|---|---|
| «Зарніцы над рэчкай гарэлі сягоння...» | 49 | 325 |
| «Вунь бярэзнік на пагорку...» | 49 | 325 |
| «Рэчка зыбіць сваю зыбку...» | 50 | 325 |
| Дзень добры! («Над сажалкай сіняй зара начавала...») | 50 | 325 |
| Восень («Пад асенняй віхурай над хатаю...») | 51 | 325 |
| Зімовая раніца («На галаву дзеда-хвойніка...») | 52 | 325 |
| «Вецер доіць малако са стрэх...» | 53 | 326 |
| Зімовая казка («Вісіць снежная ноч, вісіць лютая ноч...») | 54 | 326 |
| «Лезе ў вочы ззянне месяца...» | 55 | 326 |
| «Грала, грэлася заранка...» | 55 | 326 |
| Спякота («Наша поле — дзірван. І пячэ, і пячэ...») | 56 | 326 |
| «Вісіць серп залаты над спалоханым борам...» | 56 | 326 |
| «Абліта ззяннем зорак росная паляна...» | 57 | 326 |
| «Яшчэ бялелі касагоры...» | 57 | 326 |
| «Лугам-лугам зяляненькім...» | 57 | 326 |
| Дазволь... («Дазволь цябе любіць, як кветачку на полі...») | 58 | 326 |
| «Я пайшоў у сыр-бор...» | 58 | 326 |
| «Свеціць месяц. Б'ецца сэрца...» | 59 | 326 |
| Ля срэбнай затокі («Ля срэбнай затокі, ля рэчкі на лузе...») | 60 | 326 |
| «Палумесяц арэ залатыя барозны...» | 61 | 327 |
| Доч месяца («Па сцежцы праменняў у ззянні агнёвым...») | 62 | 328 |
| | 62 | 328 |
| Зазімак і адліга («Кінуўся з лесу зазімак...») | 63 | 328 |
| «Б'ецца восень халодная ў рэчную шыбу...» | 64 | 328 |
| З песень зімы («Мароз супуў голаў у вецце...») | 64 | 328 |
| Ганулька («То не жаўранак над гаем...») | 65 | 328 |
| Вясной («То не снег — то чаромха цвіце») | 67 | 328 |
| «Кажа вецер-віхор: хвойкі, елі зламлю...» | 68 | 328 |
| Снег («Снег...») | 68 | 328 |
| Сняжынкі («Сняжыначкі-пушыначкі...») | 69 | 330 |
| «Зіхаціць, зіхаціць срэбны тур...» | 70 | 330 |
| «Ад плачу птушкі невядомай...» | 71 | 330 |
| «Апранута ў лісцях мядзяных...» | 72 | 331 |
| «Між бору, між балот, сярод лугоў, далінаў...» | 73 | 331 |
| Зімнік («Па зімніку проста...») | 74 | 331 |
| Паводка («Над нябеснымі загонамі...») | 77 | 332 |
| Напрадвесні («Аздобіў сакавік у златаблеск даліны...) | 78 | 332 |
| Летнік («Па летніку грэбля...») | 79 | 333 |
| «Ні хмаркі адной. Гарачы дзень вясны...» | 82 | 337 |
| «Гэй, на золак рана ўстаньце...» | 82 | 337 |

## III. ВАЙНА 1914—1917


| | Тэкст | Камент. |
|---|---|---|
| Мяцежнік («Смерць...») | 83 | 337 |
| Ад крыві чырвонай («Ад крыві чырвонай фарбаваўся Нёман...») | 85 | 338 |
| Не мы... («Не мы выпівакі...») | 86 | 338 |
| Вайна («Ад людскіх ад трупаў нівы пасыцеюць...») | 86 | 339 |
| «І будзе на палях трывожная работа...» | 87 | 339 |
| Браты («Два браты пайшлі ўначы...») | 87 | 339 |
| Арліхі («І луналі ў бяскраі...») | 89 | 339 |
| «...І сотнямі тысяч...» | 92 | 340 |
| Юда жэніцца... («Юда жэніцца на полі...») | 92 | 340 |
| Шатан смерці («Над зямлёй лунае чорны шатан смерці...») | 94 | 341 |
| «То не хаты, а курганы...» | 94 | 341 |
| Сухавеі («Скачуць-плачуць сухавеі...») | 95 | 341 |
| «Ты слязамі і крыжамі...» | 96 | 341 |
| У зімовую ноч («Дзе зямля тут? Неба дзе?..») | 96 | 341 |


## IV. З ГОДУ Ў ГОД


| | | |
|---|---|---|
| «Нас пакута гартавала...» | 100 | 344 |
| Воля («Песня волі заве па гарах і далінах...») | 100 | 344 |
| У кузні («Звініць, звініць...») | 101 | 345 |
| Заходняй Беларусі («На руінах-папялішчах...») | 103 | 347 |
| Хто гэта ідзе? («Ой, хто гэта ідзе...») | 104 | 347 |
| «З палаючых квятаў-агнішчаў...» | 105 | 347 |
| Пятая гадавіна Кастрычніка («Паўдзесятка летаў...») | 106 | 347 |
| Араты («Панясу кавалю...») | 106 | 347 |
| Воля («Трупы ляжалі, як горы...») | 107 | 348 |
| Маладой гвардыі («Агнёвыя віхоры вам песні гучна пелі...») | 108 | 349 |
| Крылатыя машыны («Во зараз, во зараз, во зараз...») | 109 | 349 |
| Беларусь («Цябе вякі, як мумію, спавілі...») | 111 | 350 |
| На высокай гары... («На высокай гары...») | 114 | 352 |
| Чырвонаармейская («Ідзем, ідзем мільённым крокам...») | 115 | 352 |
| Шляхі («У бары сава рагоча...») | 116 | 352 |
| «Я — спадчына вякоў, сын даўніх пакаленняў...» | 118 | 353 |
| Мой скарб («Мой скарб мацней жыцця і смерці...») | 119 | 353 |
| «Стазычныя, высокія...» | 119 | 353 |
| «Думкі апоўпачы — кветкі расістыя...» | 120 | 353 |
| «Я — кропля вялікага творчага мора...» | 120 | 353 |

| | Тэкст | Камент. |
|---|---|---|
| **V. КАЎКАЗ** | | |
| Вандроўка («Чалом, чалом...») | 121 | 354 |
| Буду піць пахучы смутак змрокаў... («Хтосьці дзень зарэзаў, бы ягнёнка...») | 128 | 354 |
| Сакавік («Вясновым глянцам замільгалі дані...») | 129 | 354 |
| «Хвалі гралі стаямі...» | 130 | 355 |
| «Ноч разліла свой атрамант...» | 130 | 355 |
| «Каго сюды пазвалі...» | 131 | 355 |
| Санеты («У сонцы дзён, у зорнасці начэй...») | 132 | 355 |
| Чорнае мора («Паў туман на горы, касагоры...») | 133 | 355 |
| «Вецер, вецер, малады, гарачы...» | 135 | 356 |
| «Ветракі навакол, ветракі...» | 136 | 356 |
| Шамшавілі («Мора сініцца сінім алоўкам...») | 136 | 356 |
| Ноч расла, як горны сон («Спусціўся вечар смуглай кветкай...») | 137 | 356 |
| У ваўнянай начы («Мора блакітнасць абвіта паўночнай жалобай...») | 138 | 357 |
| Палаў заход («Палаў заход на парусе далёкім...») | 140 | 358 |
| Ідзем у горы... («У нашым краі на сасонцы...») | 140 | 358 |
| Свае ночы і дні я развеяў... («Шумяць грозныя шквалы сівыя...») | 142 | 358 |
| Бродзіць вецер... («Бродзіць вецер шумлівы, станогі...») | 144 | 359 |
| Пайду... («Пайду ў самоць пад хрып, пад хруст прыбрэжжа...») | 145 | 359 |
| Раніца кінула казку ў дно мора («Пальмы пад шэпатным, клёкатным ветрам...») | 146 | 360 |
| Бакланы («З-за горных сінявых абрысаў...») | 146 | 360 |
| **VI. ЧЫРВОНА-ЧОРНАЯ ЖАЛОБА** | | |
| Чырвона-чорная жалоба («Плыў мароз па струнах драцяных...») | 148 | 360 |
| **VII. У ЯСНЫХ КРУШНЯХ** | | |
| У Ясных Крушнях («Ў Ясных Крушнях у даліне...») | 153 | 361 |
| **VIII. З СКАЗАЎ БУРЫ І ВІХОРАЎ** | | |
| З сказаў буры і віхораў («...Го-го-го... Посвіст рэжа пушчу...») | 163 | 366 |
| **IX. АДПЛАТА ПАНУ** | | |
| Адплата пану («Там, дзе стромкія бярозкі...») | 183 | 371 |
| **X. ДЗЕД** | | |
| Дзед («У вянок убіраецца восень...») | 192 | 374 |

Тэкст Камент.

XI. ГОСЦЬ

Госць («Туман коціцца ў даліне...») . . . . . . . . . . 204 376

XII. ВІЛЕНСКІЯ ЎСПАМІНЫ

Віленскія помнікі («Арнаменты вуліц...») . . . . . . . 212 384
Жалезны воўк («І валіцца сонца...») . . . . . . . . . 218 384

XIII. ПАЛЕСКІЯ БАЙКІ

Палескія байкі . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 225 384
1. На балоце («І туды і сюды навакола глядзі...») 225
2. Што было да стварэння Палесся («Зіхацела даўней тут вада, нібы шкло...») . . . . . . 225
3. Бог, чорт і дуда («Ў алатырных палях бог на небе сядзеў...») . . . . . . . . . . . . . . 226
4. Першы сон дуды («І дуда сніла сон, заварожаны сон...») . . . . . . . . . . . . . 227
5. Другі сон дуды («І дуда сніла сон: абяздолены край...») . . . . . . . . . . . . . . . . . 227
6. Як бог стварыў Палессе («Вось уздумаў пан бог край Палессе стварыць...») . . . . . . . 228
7. Граючы на дудзе, бог стварыў птушак, звяроў і першага палешука («Ой, пачатку няма, ой, канца не відаць...») . . . . . . . . . . . . 229
8. Чорт украў у бога насенне («Бог плыве на чаўне, а тым часам злы чорт...») . . . . . . . . 230
9. Паляшук грае на дудзе («Кінуў з неба дуду на зямлю бог уніз...») . . . . . . . . . . . . 231
10. Як чорт стварыў балота («Чорта гне у дугу, бельмы лезуць на лоб...») . . . . . . . . . 232
11. Чорт варыць сівуху палешуку на загубу («То не вецер гудзіць, не шуміць сухавей...») . . . 233
12. Чортава лаза абхапіла Палессе. Што з гэтага выйшла («Урадзіла лаза. Нясе ліха з сабой...») 234
13. Як парабіліся чартоўскія дарогі і як паляшучка зрабілася ведзьмай («Жонка б'е мужыка той чартоўскай лазой...») . . . . . . . . . 236
14. Агідныя ўчынкі ведзьмы («Сядзіць ведзьма ў кустах, а над ёю сава...») . . . . . . . . . 237
15. Як палешукі змагаюцца з паморкам («Людзі б'юць шаптуноў, у магілы кладуць...») . . . 238
16. Паляшук пляжыць лес і выкарчоўвае балота («Шуміць бор векавы. Лясун гойкае — страх...») 239

| | Такст | Камент. |
|---|---|---|
| Ленскі расстрэл («Яшчэ адну крывавую расправу...») . | 311 | 399 |
| Першае мая («І Май каштуе шмат ахвяр народам...») . | 311 | 399 |
| Міжнародны дзень моладзі («Дайце дарогу Змене Чырвонай...») . . . . . . . . . . . . . . . . . . | 312 | 399 |
| Дзень ураджаю («Між свят агнёў, бароцьбаў і віхраў...») . . . . . . . . . . . . . . . . . . | 313 | 399 |
| Кастрычнік («У лістападны дзень асенні...») . . . . . | 313 | 399 |
| На Замковай гары («Між зелені ціхіх алей я сядзеў адзінокі...») . . . . . . . . . . . . . . . . . | 314 | 397 |
| «А людзі, як тыя мурашкі...» . . . . . . . . . . . . | 315 | 397 |
| На беразе Віллі («Я помню той вечар вясновы...») . . | 316 | 397 |
| О. Ю...с («Як жрыца таемных дубоў...») . . . . . . . | 317 | 397 |
| Марыне С...ко («У галубкі ў Марыны...») . . . . . . | 317 | 397 |
| Руны жрацоў. («Бы руны паўночных жрацоў...») . . . | 318 | 397 |
| У чарах («Купалы, башні задумана ў неба глядзяць...») | 318 | 397 |
| Касцёл св. Ганны («Сярод перламутру ў небе...») . . . | 319 | 397 |
| «А мяне кліча месяц за горад...» . . . . . . . . . . | 320 | 397 |
| Каментарыі . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . | 321 | |

| | Тэкст | Камент. |
|---|---|---|
| Хворы хлопчык («Мне помніцца хлопчык: быў мал, як грыбок...») | 282 | 398 |
| Голад («Я бачыў, як голад свірэпа вачамі...») | 283 | 398 |
| Праца («Праца-кабета, што ў вёсцы жыве...») | 283 | 398 |
| «Пясняр («Ах, божа мой, бура якая...») | 284 | 398 |
| Ноччу («Не гарыць бярэзнік...») | 284 | 398 |
| «На небе зорка маладая...» | 285 | 398 |
| Прарок («Вёска тоне у мгле, мгла над вёскай вісіць...») | 286 | 398 |
| «О, ногі твае я слязамі абмыю...» | 286 | 398 |
| Сляпыя («Не мара, не з'ява, не сон — грамадой...») | 287 | 398 |
| Сэрца прароча («Месяц бледны глядзіць на нямую лагчыну...») | 288 | 398 |
| Песня («О, сонейка так яснае...») | 289 | 398 |
| Маскарад («Сярод ночы глухой на паляне лясной...») | 289 | 398 |
| Волат («Смерць... Бура... Трывога...») | 291 | 398 |
| Балада («Буйны вецер гудзіць: на здабычу ляціць...») | 292 | 399 |
| Брат з сястрою («Над канаўкай ляжыць кладка...») | 292 | 399 |
| «У цёмных кутках падзямельні...» | 294 | 399 |
| «Між чаротаў нямых плыве човен адзін...» | 294 | 399 |
| У белі («Не казка, не сон, не малюнак...») | 295 | 399 |
| «Пяе струна натхнёная...» | 297 | 399 |
| А ў бары («А ў бары, а ў бары стаіць гуд...») | 297 | 399 |
| На смерць А. Бурбіса («Яшчэ адна, яшчэ адна ахвяра...») | 298 | 399 |
| Змрокі («Змрокі тканінай шурпатай спавілі нямыя абшары...») | 299 | 399 |
| «За мною курганы вячыстыя...» | 299 | 399 |
| «Жар-сонца пячэ. Гарачы дзень вясны...» | 300 | 399 |
| Бездарожжа («Між поля, між балот, сярод лугоў-далінаў...») | 301 | 399 |
| Летапісец («У ціхай, глыбокай, святой падзямельні...») | 302 | 399 |
| Золатам сонца... («Золатам сонца ўзгорак абліты...») | 303 | 397 |
| З песняў сонца («Апраніся ў святочную світку...») | 303 | 399 |
| Кліч волі («Касец, касец, ідзі на луг!..») | 305 | 399 |
| Перад помнікам Карлу Марксу («Стаіш, як волат, ты на моралюдным пляцы...») | 306 | 399 |
| Чырвоны каляндар («Наш год, наш вечны сонцакруг...») | 306 | 399 |
| Дзевятае студзеня («Пагрозна сталіца замоўкла...») | 307 | 399 |
| Міжнародны дзень кабеты («Ты — светлы дзень сусветных працаўніц...») | 308 | 399 |
| Рэвалюцыя лютага («Канец дынастыі Раманавай...») | 309 | 399 |
| Дзень Парыжскай Камуны («Жыве ў паданнях сівых лет...») | 310 | 399 |

**Бядуля З.**

Б 99 Збор твораў: У 5-ці т. Т. І. Вершы, паэмы/[Аўт. прадм. В. Каваленка].— Мн.: Маст. літ., 1985 — 407 с., 1 л. партр.

У пер.: 2 р.

У першы том уваходзяць вершы і паэмы Змітрака Бядулі, якія напісаны ім на працягу ўсёй яго літаратурнай дзейнасці. Творы размешчаны ў той жа паслядоўнасці, што і ў першым томе прыжыццёвага Збору твораў (1937). Захаваны назвы асобных цыклаў вершаў («Сілуэты», «Настроі», «Вайна», «З году ў год», «Каўказ» і інш.). Том дапоўнены вершаванымі творамі, якія не ўвайшлі ў Збор твораў 1937 года.

Б $\frac{4702120200-143}{М302(05)-85}$ 108—85 ББК84Бел7 Бел2

**Змитрок Бядуля**

*(Самуил Ефимович Плавник)*

---

*СОБРАНИЕ СОЧИНЕНИЙ В ПЯТИ ТОМАХ*

**Том I**

*Стихи*

*Поэмы*

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»

На белорусском языке

Рэдактар С. Р. Прыгодзіч. Мастак У. А. Бойка. Мастацкі Рэдактр Л. Я. Прагін. Тэхнічны рэдактар Л. М. Шлапо. Карэктар Я. Ф. Харко.

ІБ № 1926

Здадзена ў набор 10.01.85. Падп. да друку 12.08.85. АТ 12289. Фармат 84×108¹/₃₂. Папера друк. № 1. Гарнітура звычайная новая. Высокі друк. Ум. друк. арк. 21,42+0,11 укл. Ум. фарб.-адб. 21,74. Ул.-выд. арк. 20,33. Тыраж 5000 экз. Зак. 1067. Цана 2 р.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.